Вячаслаў
АДАМЧЫК

# І СКАЖА ТОЙ, ХТО НАРОДЗІЦЦА

раман

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# I

Усё было як спрадвеку: на новую квадру змянілася пара года, на неспазнаны круг жыцця свайго ступіў чалавек. Але хто пражыў яго — той адышоў, і раскажа той, хто народзіцца.

А пачыналася так.

Дзённа і ночна грымела і несціхана гуло, спярша з аднаго боку Верасава — на гасцінцы, потым з другога — на белаватай ад перацёртага жвіру і засыпанай чуйнашапаткім бярозавым лісцем вузкай шашы.

Падымаючы пыл і страшны жалезны грукат і ўпарта памахваючы настаўленымі дуламі гармат, аблепленыя пяхотай ішлі танкі, потым ужо, збіваючыся з чацвёрак, паплыла кавалерыя і, абганяючы яе, пятлялі чорнымі жукамі шпаркія легкавушкі з пукатымі рачачымі вачмі блішчастых фараў, чмыхалі сінім дымам з тонкіх камінкоў марудныя, да глухаты ў вушах ракатлівыя трактары з цяжкімі прычэпленымі гарматамі (іншым разам засаб дзве). А пасля пацягнуліся бясконца доўгія абозы з павуцінамі антэн на крытых брызентам фурах, з кухнямі, ад якіх пахла лаўровым лістом і гаркаватым дымам бярозавых дроў. Расцяжна, з пераборамі заліваўся баян, і вецер ірваў песню з-пад брызенту грузавіка, адкуль выглядвалі сіругліцыя дзяўчаты ў варсістых шэрых шынялях, у сівых, ганарыста і крышку набакір пасаджаных каракулевых кубанках.

За вайсковым табарам ішлі, адвесіўшы губу і пакалыхваючы доўгай шыяй, буравастыя двухгорбыя вярблюды, і чалавек з шырокім нетутэйшым тварам і вузкімі шчылінкамі запухлых вачэй сядзеў на адным з іх, абыякава пазіраючы на ўспуджаных гэтым нязвыклым дзівам верасаўскіх дзяцей, што стаялі пры шашы каля нізкай кузні з закурэлым аконцам.

Першыя дні, сабраўшыся вясёлаю купкаю, прыбягалі сюды да шашы верасаўскія хлопцы з дзяўчатамі ды ўслед за неасцярожнымі мужчынамі, што маглі падаткнуцца бог ведае куды, ляцелі, несучы ўкручаных у суконныя хусткі

грудных дзяцей, устрывожаныя маладзіцы. Змучаныя задухаю, не сышоўшыся з маладымі, памаленьку абапіраючыся на кійкі, прыкульгвалі старыя нямоглыя бабы, каб пасмяяцца, паказваючы ружаватыя бяззубыя дзёсны, з вушатага маленькага коніка — ніколі не бачанага ішака, запрэжанага ў двухколку, або паглядзець, як едзе — рыхтык на жалезнай печы чорт — калёсны трактар, угрызаючыся жалезнымі ікламі ў мяккую пясчаную дарогу, што вілася збоку шашы.

Адно толькі бывалыя мужчыны, што зведалі вайну і свет, трымаючыся ні то гонару, ні то сталай пыхі і важнасці і мокнучы на росным дажджы, з далёкай вуліцы цікавалі на гэты бясконцы вайсковы абоз і пераказвалі астатнія навіны, што крута і нечакана змянілі жыццё.

Гаварылі пра рабочую гвардыю, што, раззброіўшы склад стшэльцаў [1], кіруе цяпер у Дварчанах і там з агульнага катла сталуецца за кошт пабраных у асаднікаў свіней і што чацвёрты ўжо дзень не прыходзяць дадому Рэпкаў Жэнік з Алесіным прымаком — Імполем. Каб не вярэдзіць душу, страшную, неверагодную навасць, як Жэнік Рэпка засек маладога асадніка Грабянку, знарок не чапалі: было неяк лішне і непамысна гаварыць аб наглай і нечуванай бядзе.

Грэшнаю і пякучаю, як страла маланкі, неспадзяванасцю яна даўно працяла сэрца, і пра гэта думалі больш сам-насам.

Гутарку перакідвалі больш на жарты:

— Кажуць, Чувакі прынeслі я асады мяккія крэслы.

— Ну?

— Гну, дуга будзе. Я надоечы ў хату заходзіў. Каля стала два стаяць. Абшытыя, у кветкі. Сядзеш, дак падлятаеш, як на той карузэлі.

— Прыкладаеш.

— Чаго я маю прыкладаць.

— І праўда, мужчыны. Пэўна ж падлятаў, як Чувака не было ўдома.

— Гы-гы! З ёю-то можна...

— Вы ўсё пра смех, а я во пра грэх.

— Ну, кажы, шыла ж у мяшку не ўтоіш.

— А што казаць, калі яно і так відно: вунь Жэнік Рэпка зняў абраз і на покуці партрэт Сталіна павесіў.

---

[1] Стшэльцы — ваенізаваная рэакцыйная арганізацыя *(польск.)*.

— І моліцца?

— А чаго ён мае маліцца, калі бальшавікі богу не вераць.

— Ты смейся, ды меру знай.

— Гэ, і не верыць... Ідзі спытай.

— Ты гэта ў жарт ці, як кажуць, усур'ёз?

Учора з шашы ў Верасава завярнуў чорны з дашчаным кузавам і дэрмацінавай шафёркай вёрткі грузавічок, і верасаўцам пачалі раздаваць газеты — двухпалосныя лісткі.

І найпершыя грамацеі ў вёсцы, сталыя мужчыны, што яшчэ пры цару хадзілі ў народную трохкласную школу, успомніўшы кірыліцу, што прыгадвала далёкае і даўно забытае дзяцінства, перачытвалі рудыя, як нявыбеленае палатно, лісткі, запінаючыся ўжо на новых словах, нязнаных геаграфічных назвах ды падзеях.

— Ты не пра Рэпку гавары,— насупіўся, сабраўшы над пераноссем вострыя зморшчыны, трапяткі Ікон Жыток і суха плюнуў за плот, дзе за бурачковым, яшчэ не абсыпаным вішнікам раскашавалі пышнымі кветкамі ружовыя з белымі, як аб'інелымі язычкамі-пялёсткамі познія вяргіні.— Ты во скажы, што будзе на свеце далей?

Яго, як Уласа Корсака ды старога Літавара, трывожыла іншае: дзе падзеўся старэйшы сын, што служыў у Плоцку, і ці вернецца дадому, бо паўзуць чуткі, што польская кавалерыя, прарваўшыся з нямецкага акружэння, перайшла ў Румынію. А сын быў у наваградскай брыгадзе кавалерыі.

— Хэ-э! — перакрывіў рот і задзёр свой курносы аблуплены нос Язапат Змысла.— Хіба не чытаў, што Расія вунь заключыла дагавор з Эстоніяй?

— Думаеш, адно ты грамацей велькі.

— Які ні ёсць, добрага не скажу, а дурное прыдумаю.

— Ты ўсё даваў знак, што сюды нямцэ прыдуць, а цяпер бачыш — бальшавіке грымяць, аж шаша ўгінаецца.

— Які знак даваў, на маё і выйдзе,— варухнуў сівавата-чорнымі навіслымі прычолкамі броў стары Змысла.— Але кажуць, што яны богу не вераць.

— Як не вераць? — адарваў ад сашчэпленых рук, што ляжалі на высокай сукаватай ялаўчыне, няголеную бараду стары Літавар.— Ты абы-чаго не кажы, Язапат. Як гэта без бога, хіба яны нехрысці?

— І дзяцей не хрысцяць, і не вянчаюцца,— дробненька хіхікнуў і адвярнуўся Марцін Ваўчок.

— Як гэта так? — цюкнуў у плот абслізганым да ружаватасці сваім кійком стары Літавар.

— Ты не журыся, а выйдзі на шашу ды папытай.

— І схаджу. Хто пытае, той не блудзіць. Чаго там,— Літавар абышоў плот і, блытаючыся ў збэрсанай пажухлай траве і падмахваючы сабе ялаўчынай, пашыбаваў да шашы, дзе пад звіслым веццем жаўтлява-зялёных, сцішэлых ад імжыстага дажджу бярэзін скрыгатаў і ляскаў вайсковы абоз.

Дзеці, што круціліся няўзнак пры мужчынах, падслухваючы сталую гутарку, рушылі за старым Літаварам, каб убачыць, што будзе рабіцца там, на шашы.

Заняло дых і верасаўскім мужчынам, калі яны, высунуўшыся з-за плота, глядзелі, як насустрач коннаму афіцэру ў фуражцы з чырвоным аколышам, дзеўбучы ружаватым кійком дарогу, упарта і крышку набычана ішоў стары Літавар. За ім, мільгаючы ружаватымі ступнямі босых ног, сыпалі верасаўскія дзеці. Не даходзячы да коннага афіцэра, што ехаў якраз вывівастаю сцежачкаю з берага шашы, на адхоне спыніўся і здалёк зняў зашмальцаваную кепку Літавар.

— Дзень добры, пане-таварыш! — прывітаўся ён і наўскос па крутым адхоне заслізгаўся да перасцярожанага афіцэра.

Той за повад прытрымаў чорнага высокага каня і коратка адказаў, хаваючы сваю збянтэжанасць:

— Здравствуйте.

— Ты скажы мне, пане-таварыш,— махнуў сваёю знятаю кепкаю Літавар,— няўжо праўда, што бальшавіке богу не вераць?

— Дедушка, ни мы к богу не имеем отношения, ни бог к нам.

— Дачакаліся...— упіраючыся пятамі, каб не ўпасці, стары Літавар спусціўся з крутога адхону. Унурыўшы голаў і дзеўбучы сукаватым кійком тупкую сцежку, ішоў назад да мужчын.

Паперадзе яго, слізгаючыся босымі нагамі па мокрай траве, беглі цікаўныя дзеці.

Тулячыся пад росным дожджыкам, што імжыў з нізкага калматага неба, і, адвярнуўшыся ні то ад яго, ні то

ад знябожанага Літавара, што варочаўся з шашы, хітра і здзекліва пасмехваліся верасаўскія мужчыны.

А ўрэдны, помслівы Ладак Чабоцька адапхнуўся ад круглых частаколін высокага плота і махнуў сваім наздратым носам:

— Схадзіў па розум? Гы-гы!

Крыва расцягнуўшы рот, душыўся ад дурнавата-дзікага рогату нехта яшчэ з мужчын.

— Ну й схадзіў,— Літавар, не падымаючы галавы, папхнуў невысокую скрыпучую брамку.— А табе, як дурной дзеўцы, усё смех.

— Ты мо й не ведаеш, што бальшавіке лішнюю зямлю забяруць, пароўну на ўсіх раздзеляць.

— Чужое забраць лёгка, нажыць сваё цяжэй,— адсек Літавар, кіруючы ў бок зарослага сухотнікам раўка, да свае хаты, але, уражаны яшчэ адной нечаканай навасцю, неўспадзеў збіўся з хады і на міг прыстакнуў: — А ты што, на маю зямлю ўжо губу разявіў?

— Чаго ён? — спадцішка і няўзнак падцвельваўся над старым Літаварам Язапат Змысла.— Камуна кіраваць усім будзе.

— А свісток з дзюркай не хочаш? — Літавар бліснуў сівенькімі паўпаданымі вочкамі.— Глядзі, каб чужое праз рот калом не вылезла.

Улас Корсак, хаваючыся ад імжыстага дажджу, стаяў пад страхою свайго гумна, слухаў гутарку здалёк, не падыходзячы да мужчын, што ўсё больш злосна ды няшчадна праймалі з'едлівымі хахінькамі старога Літавара. У душы толькі кружылася, як вада, залiваючы нечаканую ямку, і набіралася злосць.

— Мы тут, як кажуць, прышый кабыле хвост, калі ў яе свой ёсць, але вунь дварчанская гвардыя стварае камітэт, што зямлю дзяліцьме,— няспешна, быдта заняты толькі гэтым, дастаў з кішэні цёмна-жоўты, арэшкавага колеру, партабак, выразаны з чачоткавай бярэзіны, і хітра прыплюшчваў вока сухарлявы Ладак Чабоцька.

І тут ужо, вар'яцеючы ад крыўды і злосці, не стрываў Улас Корсак, прытка і нават лёгка, па-маладому прыпусціўшыся туды, да купы мужчын:

— Бачыш, твая ўжо вялікасць, ты панавацьмеш!

Чабоцька турзануўся і ўцяў галаў у плечы, тулячыся ні то ад густое імжы, што сыпалася за карак, ні то ад гэтага неспадзяванага крыку.

— Я і кажу, ты ўжо запануеш! — і пад свой крык Корсак затрос дрыготкаю рукою.

У мужчын перасмыкнуліся і застылі ў крывой скамянелай міне твары: з хахінькаў ды жартаў усё абарочвалася на сур'ёз ды сварбу.

Але гутарку перабіў, нібы абязвечыўшы ўсіх япчэ адной нечаканай страшнай навінай, Язапат Змысла. Зняўшы з аблыселай галавы аблезлы, з зашмальцаванымі плямамі каўпак, ён махнуў ім:

— Чуеш, Улас, не крычы, дай во скажу.

— Што скажаш? — прыпыніўся надзьмуты, чырвоны ад злосці Корсак.

— Праўда, за што купіў, за тое і прадаю: бальшавіке Аўсяніка арыштавалі.

— Як арыштавалі? — цёр запарушанае вока Ікон Жыток.— Ён жа ж у цюрмах сядзеў, ажні мох на шчоках парос. Яго ж свята цяпер.

— Каму кірмаш, а каму жыцця нямаш. Сядзець-то сядзеў, але і сваіх удаваў,— выскаліўся Ладак Чабоцька, косячы рудаватым вокам на Корсака.

Корсак злавіў гэты зірк, дагадаўся, што ён значыць — дадому няма Змітрыка: глядзі, можа, вырваўся з адной зашмаргі ды ўляцеў у другую.

Сэрца абліў гарачы кіпень і забіў дых. Чуючы млявасць у нагах, падышоў да плота, злавіў рукою слізкую зеленавата-мокрую частаколіну — крыўда перацяла, перахапіла горла: не мог ды не ведаў, што ўжо адказаць.

— Хто сее, хто барануе, бог усіх параўнуе. Можа, і так,— Язапат Змысла выцер аб аблеглую, збэрсаную, як кудзеля, траву наліплы да ног пясок і пайшоў па гэтай іржава-бурачковай траве ўздоўж плота. Мужчыны, нібыта асалавеўшы ды ацяжэўшы ад збытку навін ды ўжо каб не мокнуць на дажджы, што пачаў папраўляцца ды добра сцёбаць па плячах, паволі і лянівa разыходзіліся па хатах.

Толькі ўслед за Корсакам схаваўся пад нізкі застрэшак гумна Марцін Ваўчок. Адступаючыся ад густога цэду дажджу, што запырскаў у ружавата-жвірысты і даўно вымыты равок, загаварыў ужо пра Міцю:

— Можа, падбіўся хлопец, як вуньдзека Турчэнік.

— Які Турчэнік? — Корсак прымружыў вочы, нібы знарок паслухаў, як сонна шапоча па страсе гумна шчодры дождж.

— Ды Сымонаў сын, з Лезнявіч. Усю дарогу бег. Не-

дзе, кажа, з-пад самае нямецкае граніцы, з Равіч. Цяпер ляжыць з апухлымі нагамі.

— А чаму мой не прыбег, га?..

— Можа, дзе захварэў,— высунуў з-пад страхі і неяк па-курынаму скрывіў набок галаў Марцін Ваўчок.

— Ды нешта ж прылучылася. Не так сабе,— закладзенымі за спіну рукамі Корсак адапхнуўся ад сцяны і, сагнуўшыся пад дажджом, быдта несучы на сабе што цяжкае, закоўзаўся на тлуста-слізкай сцежцы, заварочваючы да Алесі ў двор.

— Я ж і кажу, можа, захварэў? — выцягнуўшы галаў, крыкнуў з-пад страхі Марцін Ваўчок.— Пэўна ж.— І страпянуўся ад нечаканага холаду: з саломін зрываліся і падалі за каўнер на шыю цяжка-набрынялыя кроплі вады.

Але пануры, задуманы Корсак, пляскаючы юхтавымі ботамі па мокрай сцежцы, яго ўжо не чуў — карцела ведаць яшчэ адно: ці праўда, што не прыйшоў, не вярнуўся дадому Алесін недавярак — Імполь.

Корсак буркнуў на ўедлівую сучачку, ганяючы яе з ганка, і адчыніў у хату дзверы. Дома, праўда, была толькі яна, Алеся: сядзела на ложку, пакалыхваючы нагою за дужку вяроўкі плеценую калыску, дзе мармытала, падспеўвала само сабе дзіця. На каленях бялела нейкае шытво. На сцішаны Корсакаў голас і мігі махнула рукою, на якой бліснуў напарстак:

— Гавары, тата, не бойся, не спіць гэты мармытун, во смяецца, а толькі як накупала.

Корсак паглядзеў на балею з замочанымі пялёнкамі, што стаяла на двух заслончыках, абышоў яе і прысеў каля стала на лаве.

— А што гаварыць? Прыйшоў паслухаць твае навасці. Праўда ці не, кажуць, і твой сталуецца пры тым дварчанскім катле.

Учуўшы пра Імполя, Алеся ўгнула галаў. Корсак адно змеціў, як задрыжала ў яе барада і перакрывіўся твар.

— Надоечы прыходзіў. Не распытвала я пра той кацёл. Перасварыліся мы,— прызналася ўжо з плачам.— Людзі кажуць, а я і не ведаю нічога.

— На ліхату ён табе, гэты дармаед? І на парог не пускай.

— Усё перадумала я...

— Нашто знацца з брыдою?

— Лёгка казаць, тата... А як жа ж ён во без бацькі? — Алеся гайданула рыпучую калыску.

— Знайшла бацьку,— Корсак паныла адвярнуўся і доўга глядзеў у акно, за якім бурачковым агнём дагараў апырсканы дажджом вішаннік.

— Мой недавярак хоць тут, а Змітрык во дзе? Божа мілы, вайна ж на свеце.

— Пытаеш, ці я ведаю дзе,— Корсак зверавата азірнуўся на Алесю: стрэмка, што была прыціхла, зноў балюча заныла ў сэрцы.

— Вэнь жа ж людзі ідуць з цюрмаў,— Алеся, нібы схаваўшыся ад гэтага зірку, нагнулася да шытва, перакусіла нітку.

— Ідуць-то ідуць, ды во Аўсяніка забралі...

— Што ты кажаш, тата?!

— Тое і кажу, што, можа, і наш дзе голаў падсунуў.

— Няхай бароніць бог.

— Абароніць, калі будзеш сцерагчыся ды шанавацца сам.

— Хто знае, што яшчэ будзе на гэтым свеце, чуеце, як шаша грукоча.

— Яна кажа, ці чую! Каторую ноч не сплю, чакаю ўсё, што Змітрык грукне.

Алеся ўздыхнула, і вочы яе замакрэлі і зачырванеліся ад слёз:

— Чаму ж нас ніякуткая бяда не міне?!

— Вот зарумзала тут,— цяжкаю, сцятаю ў кулак рукою Корсак тупа стукнуў па калене.— Хіба слязьмі паможаш! — і падняўся з лавы.

— Так пачакайце, тата,— Алеся кужэльным шытвом выцерла твар,— вы ж, можа, і не палуднавалі? Крупніку з пасоляй я наварыла.

Корсак дайшоў да парога, але спыніўся:

— Які там полудзень, нават і не снедаў,— і, зняўшы шапку, зачапіў яе за цвік на сцяне і абгладзіў абедзвюма рукамі чорны вянок валасоў на патыліцы.

Паклаўшы на ложак шытво і адлучыўшыся ад калыскі, Алеся падбегла да печы і, адкідваючы полку, што завешвала прыпек, нечакана спытала ў бацькі:

— Так, можа, мне схадзіць у Дварчаны?

— Чаго гэта? — падняў чорныя касматыя бровы Корсак.

— Прыгнаць свайго дурня дадому.

— Дапетрыла. Мо ён...— Корсак хацеў сказаць: «З Хрысцяй спазнаўся», але схамянуўся, знайшоў ужо не такое крыўднае: — І не хоча варочацца.

Як на крэсіве, востра і пякуча, у Алесінай памяці так-сама ўспыхнула нешта гарачае, адняло, падкасіла ногі, і яна, каб ужо не ўпасці, на ўсякі выпадак злавіла рукою мурок коміна.

## II

Натрудзіўшы ды падбіўшы ногі, дадому Міця Корсак не дайшоў. За вёрст дваццаць ад Верасава на глухаватым сцішным хутары, прыхаваным ад свету сцяною хмурых елак ды адзінокіх дубоў з гушчаром грабавых і арэшнікавых пералескаў, ён мусіў быў папрасіцца нанач.

У дадатак да ўсяго была і не малая рызыка, каб ісці проці цёмнай ночы ў такі трывожны час ды яшчэ не ведаючы дарогі, і Міця завярнуў з раскісла-тлустага гасцінца да гарбатай хаты з прыбудованым хлявом і шыроцкім, што стаяла ўпоперак і зводдаль, прысадзістым гумном. Нібы для блізіру, будынкі асцерагала жардзяная на вілаватых слупах загарадзь.

Цягнучы разарваны ланцуг і задыхаючыся ад асіплага брэху, на ўтравелую, у глыбокімі каляінамі папярочку выбег рыжаваты, з касматай мызаю сабака, і у цёмнай пройвы сяней за парог на белаваты камень высунуўся босы гаспадар.

Дабегшы да свежаакораных, што пахлі гаркаватым алешнікам, жэрдак, палахлівы і насцярожаны сабака прыпыніўся.

Марудна ступіў з каменя і насуплены гаспадар, скрыва косячы адным вокам, паўзіраўся на чужога хлопца і не хочучы даў «добры вечар». На Міцеву просьбу пераначаваць злосна і хрыпата ад пракураных лёгкіх закашляў:

— Хіба з цюрмы ўцёк?

— Не ўцёк, а выйшаў...

— Скуль будзеш?

— Тутэйшы — з Верасава.

Выкаціўшы бялкі, гаспадар зноў спадылба зірнуў на Міцю:

— Пазаўчора гэтакі самы абарванец есці прасіў.

— Я толькі пераначую.— Міця ўзяўся за развілісты слупок, не могучы ўжо адарвацца ад яго.

— Ты думаеш, не накармлю? — гаспадар азірнуўся на сабаку, што стаяў якраз на сцежцы да парога, і прыкрыкнуў: — Пайшоў вон, дай хлопцу прайсці!

З-за хаты, дзе звонка, а потым густа, уядаючыся ў дрэва, шахкала піла і аддаваўся ляскат сякеры, выйшлі, гэтаксама, як і бацька, насупіўшыся, звесіўшы доўгія насы, трое хлопцаў; адзін з іх, трохі старэйшы, быў у вайсковай рагатыўцы.

— З-пад Дварчан во, пераначаваць просіцца,— не дастаючы з кішэні руку, махнуў локцем гаспадар.

— Не з фронту часам? — перапытаў той, што быў у рагатыўцы, пэўна, нядаўні польскі салдат.

— З цюрмы ён.

— Няхай сцеражэ ды крые бог.

З хаты, нямогла мацаючы хворымі нагамі тупкую сцежку, прыківалася сівая, але наўздзіў маладжава-прыгожая з твару гаспадыня. Падгладжваючы пад канапляную хустку сіва-цёмныя валасы, яна ўжо заступілася за Міцю:

— Ну, што ты, Мікалай... Хай пераначуе хлопец, лавы мо не пралежыць.

— Госцю ўгадзі ды сябе глядзі. Цяпер свет ліхі. Але хіба адмовіш проці ночы,— памякчэў трохі пануры гаспадар.

Дадому ўжо на шараку прыбег чарнявы, падобны да гаспадыні, гадоў чатырнаццаці падшпарак, прынёсшы навіну, што ў лесе, каля нейкага Пералога, злавілі трох паліцыянтаў.

— Вой, што робіцца,— ставячы на стол вялікую гліняную міску з сопкаю разваранаю картопляю, жахнулася гладкая, дагледжаная маладзіца, мусіць, нявестка ў гэтай хаце.

— Цягнуў воўк, пацягнулі й воўка,— ловячы ў місцы слаіста-дрыготкую грудку кіслага малака, зазначыў гаспадар.

Упоцемку, калі Віця бесперастанку забухаў, як у бочку, цяжкім кашлем, не даючы ні прылашчыцца да жонкі салдату, што надоечы прыйшоў дадому, ні заснуць сабе, стары гаспадар, што таксама не мог задрамаць, раптам пачаў спачуваў:

— Недабрыцца, хлопец, табе саўсім. Не дагадаліся мы хоць тарпатчынаю цябе нацерці.

— Дома ўжо буду лячыцца,— сказаў Міця, чуючы, як яго кідае ў холад.

Наранкі яму стала яшчэ горш. Падзякаваўшы гаспадарам за начлег, выйшаў з хаты і ўчуў, млеючы ўжо ад слабасці, што не толькі дадому, да блізенькага лесу наўрад ці дойдзе. І вярнуўся з надворка. Выціраючы на мярцвяна-збялелым твары пот, прызнаўся:

— Раскіс я саўсім.

— Дзіва што,— сказала паўнявая, гладка прычасаная маладзіца [redacted] вялікаю куклаю на патыліцы і падобная, як цяпер убачыў Міця, да Алесі,— цалюткую ноч гэтак кашляў.

— Можа, падвязлі [redacted] мяне?

— Я ж і казаў: госць не госць, а клопату досць,— цяжка заварушыўся на лаве гаспадар.

Высока, па-салдацку падстрыжаны гаспадароў сын рудым злым вокам падазрона зіркнуў на лісява-спагадлівую жонку, наперад ведаючы і баючыся, што яна зараз заступіцца за Міцю. Але яна толькі моўчкі ўздыхнула, не дагадваючыся, пэўна, ужо, якую тут даць раду.

— Хоць у Ведравічы дабаўце,— Міця стаяў у парозе, не рашаючыся ўжо заходзіць у хату.— Там радня, як-небудзь накажа ці завязе дадому.

— Блізкі свет тыя Ведравічы. Ды конь вунь нешта кульгае, ці не на цвік наступіў,— адварочваўся і махляваў гаспадар, недзе пільна і нібы па нейкай патрэбе пазіраючы сабе пад ногі.

— Хлопец чуць жыў, тата, грэх выпраўляць аднаго,— не стрывала нарэшце маладзіца.

Ёй памагла і старая з тварам, расчырванелым ад агню, пашто не ачах яшчэ ў печы. Адагнуўшыся ад прыпека, папрасіла:

— Праўда, Мікалай, падвязі хоць з паўдарогі... Здыхата каня не возьме.

— Вот бабы,— упіраючыся рукамі ў калені, цяжка і не хочучы падняўся з лавы гаспадар, але ўжо трохі адпусціўся і памякчэў: — Зараз во, чакай — акрыюся... А то мо праўда скалееш у дарозе. Нашто такі цяжкі грэх мне,— і гукнуў ужо селядоршаму з хлопцаў, высокаму, роўнаму з Міцем: — Ідзі выкаці калёсы і падмаж трохі.

Ён, гэты насуплены, не вельмі гаваркі чалавек, і давёз Міцю Корсака ў Ведравічы — тую не блізкую ад Дварчан вёску, адкуль яго ўжо, укручанага ў бурку, з тэмператураю, ад якой ён правальваўся ні то ў сон, ні то ў забыццё, скоранька імчаў, падганяючы занэнджанага сівенькага коніка, аднарукі сваяк.

Раскатурхаўся Міця на выбоістым бруку, які пачынаўся перад дварчанскім мостам, і скалануўся ад страху, падумаўшы, што падалося, калі ўбачыў, як, папраўляючы чырвоную апаску, насустрач фурманцы ідзе Алесін Імполь. Пры боку ў яго пабліскавала, паволі і мерна пагойдваючыся, як маятнік у вялікім гадзінніку, доўгая кавалерыйская шабля.

— Стой! — Імполь падняў гэтую левую з чырвонай апаскай руку і раптам асекся, пазнаўшы нарэшце бязрукага Ірэнінага мужыка, якому нават прыходзіўся кумам.

Міцю Корсака, што ляжаў на шапаткой, засланай бардовай радзюжкай канюшыне, ён яшчэ не распазнаў — не бачыў добра твару.

— А-а, гэта ты? — Імполь ад нечаканасці зачырванеўся, але з цвёрдасцю ў голасе спытаў: — Куды ж выправіўся? Вайсковы час, а ты?..

— Ды во, не бачыш? — ведравіцкі сваяк махнуў пуставатым рукавом, падымаючы куксу: у другой руцэ ён трымаў нацятыя лейцы.

— Што? — як певень, падняў голаў насцярожаны Імполь, кідаючы адным вокам на воз: мусіць, зноў баяўся неспадзяванасці.

— Швагра твайго вязу.

— Змітрыка, ці што?

— Ага, яго...

— Дзе ж стрэліся? — у Імполя нешта каўтнулася і захрасла ў горле, ён адкашляўся.

— Да нас завітаў, з цюрмы ідучы. Ды хворы во...

— Мо здарожыўся,— Імполь нарэшце падышоў да воза, убачыўшы Міцеў твар, асалавелыя чырвоныя вочы, пацвердзіў: — Ага, вялы, як селядзец.

— А ты чаго тут з гэтаю цацкаю? — ведравіцкі сваяк паказаў на Імполеву шаблю.

— У рабочай гвардыі я.

— Гэта што, цяперашнія паліцыянты?

— Якія табе паліцыянты? — прыплюшчыўшы адно вока, пазяхнуў Імполь.

— Як табе сказаць...— павярнуўся на возе Міця.— Гэта нападобе рабочай варты, каб парадак трымаць.

— Тады няхай памог бы доктара выстарацца,— падняў куксу, целяпнуўшы пустым рукавом, ведравіцкі сваяк.

— Пра якога доктара ты гаворыш?

— Ды які ні ёсць. Ты ж уласць тут.

— Не саладзі абы-чаго.

— Можа, вайсковага напытаў бы?..

— Ці ж магу пакінуць варту, толькі заступіў,— Імполь ні то ад сораму, ні то ад злосці ўгнуў голаў і адышоўся ад воза.

— Пачакай, раскажы, што ў Верасаве чуваць.— Міця злавіў рукамі драбінку і прыпадняўся на возе, чуючы, як перад вачыма закружыўся свет.

Імполь нехаця павярнуўся, падкусіў губу, ледзьве працадзіў, што дзён чатыры ўжо не быў у Верасаве. Дагадваючыся, што няма ладу ў Алесінай хаце, Міця ачах, але ізноў хапіўся за драбінку, з набалелай радасцю ўспамінаючы і думаючы пра Чэсю.

Учора, блукаючы па Баранавічах, ён забег у той чырвоны цагляны дом недалёка ад вакзала і ад мажное кабеты ў вузенькім калідорчыку пачуў таемна-палахлівую навасць: «Паехалі яны ў той дзень, як немцы радыёстанцыю разбамбілі. Ага, у першы дзень».

І Міця жыў трывожна-неадчэпным і адначасова радасным прадчуваннем, што Чэся з маці ўцякла з горада напэўна сюды, у зацішныя Дварчаны.

Цяпер, перасільваючы слабасць і гэтае цёмнае кружэнне ў вачах, сухімі перасмяглымі губамі варухнуў:

— Ты пра Грабянкаў нічога не чуў?

— Ці ў галаве яны мне — асаднікі... Маладога, што ў стшэльцах быў, у асадзе ўходавалі.

— Паліцыянтаў і асаднікаў вунь і ў нас пераймалі. Адзін, халера, не даваўся жыўцом у рукі,— падняў кароткую, да локця, руку ведравіцкі сваяк.

— А Хрысця дзе? — ужо не тоячыся, спытаў Міця.

— Покуль у Грабянкаў... Але ці ўседзіць, там поўная хата радні. Ці не з Баранавіч нават?..

Даўкі камяк радасці перахапіў Міцева горла: Чэся тут. Хаваючы гэтае чаканае, даўняе шчасце, пачаў распытваць ужо пра Дварчаны:

— Дак вы тут, значыць, гвардыю стварылі?

— Ага. Аўсянік тут быў, як з цюрмы выйшаў.

— Чаму быў, а цяпер дзе?

— Зноў узялі.

— Хто? — у адзін голас з Міцем спытаў ведравіцкі сваяк.

— Саветы. Кажуць, у цюрме людзей выдаваў. Такім, як ты, не вельмі ўжо й давер.— Імполь неяк сабе цераз плячо зірнуў на Міцю і адышоўся, востра цвякаючы падкоўкамі вайсковых чаравікаў па няшчыльна ўсланым каменні бруку, потым ужо ўладна махнуў рукою: — Праязджай!

Шлёгнуўшы ляйчынаю каня і пераехаўшы мост, ведравіцкі сваяк загаварыў дрыготкім ад грукату калёс голасам:

— Ты чуў? Кажа, такім, як ты, няма ўжо даверу. Ды каму ж тады?

— Улада яшчэ не асталявалася, вось яны і стараюцца... Гэта самаўпраўства.

— Я ж і кажу,— зноў крыкнуў, каб перабіць грукат калёс, ведравіцкі сваяк,— покуль да бога, так чорт душу выме.

— Перажылі, перагоралі горшае.— Міця падсунуўся на шапаткой канюшыне, і ў твар дыхнуў тугі свежы вецер.

— Ды ўжо ж. Ты-р-р! Каб на цябе нарат! — Ведравіцкі сваяк прыпыніў каня: папярочнай вуліцай з грукатам цягнуўся, слізгаючыся і падскокваючы коламі на бруку, вайсковы абоз. Апярэджваючы фурманкі, трубіў даўгалыўчы зеленаваты аўтобусік з чырвоным крыжам у белым крузе між двух закратаваных аконцаў.— Во, санітарны...— махнуў пустым рукавом фурман.— Варт было б доктара запытацца.

— А мы зараз пад'едзем,— Міця ўжо ледзьве разараваў сінявата-сухія, зліплыя губы: у яго зноў падымаўся жар.

— Куды гэта? — павярнуў сваю злінялую кепку ведравіцкі сваяк.

— Хачу спытаць, ці вярнуўся з турмы знаёмы чалавек, ды заскочыць яшчэ ў адзін дом.

У Міці не сыходзіла з памяці яна, Чэся.

— Няма чаго тут скакаць, едзьма дадому, ты ледзьве жыў.

Ляйчына зноў шлёгнула па кані. Воз затрасло на бруку. Міця, узіраючыся на шчыты хатак, на платы, на жоў-

тыя клёны над хатамі, на шчодрую і багатую чырвань рабін, раптам учуў, як у яго перад вачыма паплылі і закружыліся зялёныя плямы і зліліся ў адзін ружаваты круг — ад вялікага жару яго кідала ў бяспамяцтва і забыццё.

— Лянь во, якія ў салдат шапкі, чуеш, з пупамі,— здзівіўся, пад'ехаўшы да вайсковага абозу, ведравіцкі сваяк.

Але Міця не мог адцлюшчыць вачэй — перад ім плыў, круціўся ружовы круг.

## III

За акном вецер гнуў высокую бярэзіну, сашморгваючы з доўгага веццяя жаўтлява-зялёнае, стракатае лісце, і віхрам круціў, падымаў угору.

Лежачы на ложку, Міця бачыў, як яно плыло ў іхні гародчык на цёмна-зялёны, прыхоплены першым замаразкам бэз, дзе шчабятліваю чарадою хаваліся вераб'і, калі да іх, падварушчваючы кончыкам хваста, краўся кот.

За ўзбунтованай, ашалелай ад трапяткога лісця бярэзінай плыло невысокае, па-восеньску ласкава-смутнае сонца. На яго перагонамі набягалі белыя з папяловымі пухіркамі хмары.

У хаце нечакана цямнела — пырскаў дожджык, асядаючы на шыбе мігатлівай лускою, як ад бітага шкла.

Потым зноў каля ложка выясніваўся, дастаючы далёка з-да печы, косы слупок сонца, у якім лянiва вірыў сухі залацісты пыл.

Хата зноў асвятлялася ціхім і мяккім спакоем. І Міця, каторы ўжо раз, бачыў той ясны пасля волкага туману дзень, калі ён спяшаўся ў Баранавічы насустрач нізкаму паўзучаму грукату танкаў, ад якіх мякка дрыжала і расскалыханаю багнаю ўгіналася зямля, а над стужкамі злосна пажаванага следу вісеў, не разыходзіўся чаднавата-сіні дым бензіну.

Міця ішоў найбольш подбегам збоку шашы шапаткою, засыпанаю лісцем сцежкаю пад навіссю зраджайных, кажуць, на марозную і доўгую зіму, рабін.

Салдаты, што сядзелі на танках, лавілі рукамі гэтую спелую чырвань ядроных ягад.

Адзін з іх, пэўна, дзеля жарту, схапіўшы за раскалыханую галіну, павіс на рабіне і, дачакаўшыся, покуль па-

дыдзе другі танк, пад рогат закурэлых салдат апусціўся на яго.

У нечакана ціхі, прытоены ад трывогі горад Міця прыбег пад самы ўжо вечар — вуліцы былі запруджаныя абозамі і чорнымі кароценькімі, часам крытымі грузавікамі, на тратуарах купкамі збіліся салдаты ў зеленаватых, падпяразаных брызентавымі рамянямі гімнасцёрках.

Да цаглянага доміка падышоў, учуўшы ўжо, як млее і сціскаецца сэрца.

З высокіх мураваных сходцаў ганка, увітага пачырванелым дзікім вінаградам, выйшла, трымаючы місу падсіненай бялізны, мажная даўганосая кабета ў касмыльках рэдзенькай завіўкі і з дзівам паглядзела на Міцю. Па яе доўгім, насуплена-пільным зірку Міця дагадаўся, што нешта ўчынілася з Чэсяй. Баючыся нечаканай бяды, балюча страпянулася і заныла душа.

Косы слупок сонца свяціў у вузкі з абабітым тынкам, у ромбіках лучын, калідор, у далёкія расчыненыя дзверы Чэсінай кватэры, дзе крычма крычалі і дзеразаваліся дзеці.

Глыбока, як у чарнаце калодзеся са страхатліва-трапяткім бляскам вады, разлягаўся іхні водгалас. З-за вушака падазрона цікавала, згледзеўшы чужога чалавека, сіняе вочка, над якім навісла чорная стрэшка валасоў, што выбіліся з-пад вязанай шапкі з чырвоным кутасікам.

Перапуджаная дзяўчынка гадкоў пяці пачала памалу ціснуцца ўздоўж сцяны,975 тручыся плечуком аб пабелены тынк.

— А пані Чэся дзе, ты не ведаеш? — Міця нагнуўся і заступіў ёй дарогу.

Але тут, засланіўшы нізкае сонца, у пусты гулкі калідор крыкнула насатая кабета, трымаючы пры боку пустую міску, дзе брашчала некалькі прышчэпак.

— Вы ізноў тут!

У калідор вызірнуў рабаваты з пляскатым носам хлопец.

— Яшчэ і глядзіць, каб ты азірнуўся на тым свеце!

Адзін перад адным, як перапуджаныя авечкі з хлява, з пругкім, лёгкім тупатам з кватэры на калідор, а адсюль ужо на вуліцу выскачыла купка дзяцей.

— І адчыняць жа, каб ім рукі не служылі,— дзябёлая кабета папхнула дзверы, дыхнуўшы скразняком сухога гаркаватага тынку і нечым, чым пахне заўсёды нежылая

хата і павярнулася да Міці.— Знайшлі ў каго пытаць... Паехалі Доўнары, як Баранавічы бамбілі. Уцяклі адсюль.

— А вы не ведаеце куды? — Праз пройму дзвярэй, што з сухім рыпам зноў адчыняліся насцеж, Міця глядзеў у пакой з разломленым сервантам, з раскіданымі па падлозе кніжкамі.

— Хто знае цяперашнім светам, хто куды едзе,— і павяла пустою цёмна-сіняй місай, трымаючы яе пры боку.— А ты ці не той хлопец будзеш, што летам прыходзіў?

— Той самы.

— З вянзення, мусіць?..

Міця кіўнуў галавою.

— Доўнараў даўно знаеш?

— Як вам сказаць...

— Дак я табе скажу,— кабета страсянула парадзелаю завіўкаю, праз якую брыдка свяцілася лысаватая галава.— Яны тут сабе другіх кавалераў прывячалі. Прафесараў шукалі. А цяпер, вядома, паласкавеюць... Але праўду кажуць, што да Змітра дзеўка хітра, а па Змітры ты хоць ёю с... вытры.

— А што гэта вы абмаўляеце чужых, паглядзіце хоць на сваю,— Міця выскачыў на вуліцу.

— Скажы дурному, а ён другому. Вот табе й маеш,— крыкнула дзябёлая кабета, бліскаючы эмаліраванаю місай і высоўваючыся з-за дзвярэй.

Растрывожаны, трохі збіты з тропу нагаворам і нечаканай весцю, што невядома дзе ачуцілася Чэся, Міця як сам не свой выйшаў з Баранавіч, не помнячыся нават, куды ідзе, покуль не натрапіў на глухі і адзінокі ў лесе хутар. Ды далей ужо і ногі не ішлі...

І цяпер у душы нясцерпнаю, як балячка, гарачынёю нудна турзала помслівая злаба на дзябёлую кабету ў рэдзенькай, праз якую свяцілася ружаватая галава, завіўцы і нясцерпна смыліла крыўда, што ўжо ў Дварчанах паслухаўся аднарукага сваяка і не звярнуў да Грабянкавага дома, каб мець пэўнасць, тут Чэся з мацерою ці не.

Але на каго наракаць, бо калі ўжо разабрацца, то розум меў і сваяк, што беспрытомнага, ледзьве жывога Міцю прымчаў дадому.

А тут ужо борзда наказалі Ваўчку: як вылечыць, а паспрыяць, наведаць хворага чалавека ён нікому не адмовіў. А да Міці Корсака ў яго быў свой інтэрас і павага.

— Нічога, малады адужае ўсё. Мы во банькамі яму падможам,— Ваўчок патрос заношанаю, закуранаю да чарнаты кужэльнаю торбачкаю, дзе зацюкалі і забразгалі шкляныя мутнаватыя банькі.

— Ён і без іх да дзеўкі рваўся,— азіраючыся ў акно на прывязанага каня, смяяўся ведравіцкі сваяк, зняўшы суконны паўшубак і астаўшыся ў караткаватым шарачковым пінжаку.

Спадцішка кідаючы вокам на паліцу, ці няма там хоць якой на карэнні настойкі, ён нават з гонарам чакаў, калі яго пачастуюць. І ўгадаў.

Пасля таго, як Ваўчок зняў з Міцевай нацёртай тлустасцю спіны дванаццаць прысмактаных банек, бацька і праўда прынёс са стопкі прыхаваную бутэльку з белай галоўкай:

— Ці ёсць такая ў бальшавікоў?

— Руская гарэлка, нябось, на цэлую Яўропу славіцца,— закашляў ведравіцкі сваяк: у хаце яшчэ ўсё смуродзіла ад квача.

— Гарэлкі, солі ды запалак у бальшавікоў даволі,— Ваўчок накрыў Міцю цёплым коўдрам і падмаргнуў бацьку, каб у сіненькую невялікую чарку наліў кроплю і прынёс сюды, да ложка.

Здарожаны, хворы ды ап'янелы ад скупой чаркі Міця і заснуў, паспеўшы толькі расказаць цікаўнаму Ваўчку, як бег, аж да непрытомнасці, ■ Картуз-Бярозы.

— Ногі, нябось, падбіў,— трасянуў галавою, незнарок скідаючы з цемя прыгладжаны касмык валасоў, аблыселы Ваўчок.— У саляным растворы іх трэба патрымаць.

Разбудзіла Міцю, прымчаўшыся да Корсакаў з дзіцем на руках, устрывожана-радасная Алеся.

Нават заплакала, нагнуўшыся над ложкам і тыцнуўшыся тварам у Міцева плячо:

— А божачка, як зблажэў ты!

— Хай яшчэ азірнецца на тое месца, адкуль жывы прыйшоў,— хмыкнуў і горка ўсміхнуўся бацька.

— Балазе ўсё дабром абярнулася.

— Якое ж дабро, ногі вунь як калоды.

— Ах, божа літасцівы,— Алеся пабедавала, падгушкваючы на руках дзіця і, каб перабіць панурую бацькаву злосць, пад галоўку падняла туга ўвіты пакуначак, пахвалілася дзіцем: — А што, велькі ўжо хлопчык?

— Велькі,— згадзіўся Міця, прызнаючы ў смуглявым лабатым тварку, у цёмна-сініх вачах нешта ўжо чужое ды ненавіснае — Імполева.

Успомніўшы пра сустрэчу на мосце, няўзнак, ціха спытаў:

— Як жа ты адна?

Алеся адступілася, як ударыная, як абязвечаная чым, з падазронай цікавасцю спытала:

— А скуль жа ж знаеш, што адна?

— Ды ў Дварчанах на мосце стрэліся з тваім.

— І чаго там быў гэты смаркайла? — не стрываў бацька.

— Варту нёс. У рабочай гвардыі ён цяпер,— сказаў Міця, убачыўшы, як на Алесіных вачах холадна-пякучай вільгаццю адсвечвалі слёзы.

— Ты ж не ведаеш,— Корсак адвярнуўся ад дрыготкай чырвані нізкага сонца, што слепатою біла ў вочы,— Грабянку яны застрэлілі. Маладога. І Бубеля, кажуць, разам. Там, у Грабянкавай асадзе.

— Матка святая, што ўжо на свеце будзе,— уздрыганулася Алеся, і гарачыня сораму палыхнула па яе твары, нібы гэтае страшнае ўчыніла яна.

— Як свет гэты светам, так брат з братам...— зноў з нейкай непрыступнай злосцю да ўсяго сказаў стары Корсак.

Алеся пагушкала на руках раскатурханае дзіця, што пакрэктвала, мусіць, захацеўшы грудзеў, сказала пра другое, каб перабіць бацькаву панурасць:

— Я табе, Змітрык, семя напару.

— Нашто?

— Гэтак жа ж мяне, калі нейкая ліхата скруціла рукі й ногі, нябожчыца мама лячыла.

— На чужыя хваробы кожны доктар, хай лечыць адзінВаўчок,— не даўся даслухаць Алесінай парады бацька.

— А я прыйду ды напару,— цвёрда сказала, нібы паставіла на сваім, Алеся.

— Прыходзь, Аляксандра,— як мог ласкава папрасіў Міця і ўчуў, як у самога высачылася на сподзе душы даўняя дабрата да сястры.

Яна таксама ўсміхнулася яму, бліснуўшы ад радасці заслязёнымі вачмі. Твар у яе зардзеў скупою чырванню. Яна пастаяла так, пагушкала дзіця і спытала нечакана, ва ўсіх разам:

— Няўжо не было і не будзе дабра на свеце, ліха толькі? І людзі пазвярэлі.— І змоўкла, цяжка, з крыўдаю і адчаем, уздыхнуўшы.

Цяпер Міця, лежачы на ложку і ўзіраючыся на пераломаны касячок святла, што яснеў на пабеленай печы, зноў прыгадваў Алесін адчай і горкае нараканне на людзей, і памяць, як маланка сярод ночы, выкрасала ў кароткі міг Картуз-Бярозу, тую васемнаццатую камеру, сытага і давольнага нямецкага лётчыка з загіпсаванай рукою, што вісела на бінтавой падвязцы, сутулага са склюдаватым носам Мазуру, сляпучае святло батарэйкі, калі ў астатнюю ноч турэмная стража абыходзіла камеры, забіраючы на расстрэл, пэўна, самых падазроных. Тады замест Міці на іхні голас аклікнуўся Мазура і пад здзеклівы смех і галас выйшаў на калідор. Выйшаў нават з гонарам, адапхнуўшы стражніка.

Не кожны бацька рашыўся б на гэта. За што ён упадабаў і прыняў душою Міцю? Няўжо толькі за тое, што па гадах Міця прыходзіўся яму сынам? Што бараніў ад нязносных здзекаў і смешак малахольнага Грушкі. А можа, як бацька, перагарэўшы душою сам, хацеў аддзякаваць за ўсё і зберагчы, выратаваць ад смерці маладое Міцева жыццё.

І няўжо гэтага ціхага і сарамяжнага, крыўдлівага, як дзіця, чалавека застрэлілі?.. А меліся яго, Міцю. Няўжо Міця вінаваты ў тым, што няма на свеце Мазуры? А можа, усё было не так, як думаецца ды ўяўляецца цяпер.

Міцю ачуціў ад мысляў грукат сенечных дзвярэй. У хату адзін за адным увайшлі аж трое — Ладак Чабоцька, Язапат Змысла і нейкі худы, нескладны мужчына ў караткаватай, як з чужых плячэй, новай ясёнцы і юхтавых ботах са звінючымі падкоўкамі на абцасах.

— Што ж гэта ты? — зазірнуўшы за пліту і не павітаўшыся, спытаў ні то жартам, ні то ўсур'ёз Ладак Чабоцька.

— Падбіўся з дарогі, ногі апухлі. Паглядзі,— Міця высунуў з-пад коўдра нагу і пацягнуў за калашыну споднiх порткаў, паказваючы тоўстую з запухлай костачкай ступу.

— Шмат, пэўна, бег,— жменяю выцер стомленыя вочы чалавек у караткаватай ясёнцы.

— Ды нямала.

— Гэ, тады дзіва што апухнуць,— прыцмокнуў языком Язапат Змысла.— Ці не з Баранавіч дзгаў?

— Не, я ў Картуз-Бярозе сядзеў.

— Ух ты, канцлагер!..— пакруціў галавою Чабоцька.

— Самая страшная турма ў Гродні. Англічане будавалі,— зняў суконную кепку і пабрыдчэў чужы незнаёмы мужчына.

— А вы сядзелі? — Міця падсунуўся вышай на падушку.

— Чатыры гады скуру дралі.

— За што ж гэта? — падбіў свой каўпак Язапат Змысла.

— За пераход граніцы. Трох мы ішлі. Злавілі мяне аднаго.

— А тыя дзе двох?

— Ды ў галаве во не дабяру, дзе дзеліся. Пісем ад іх, кажуць, ужо гады са два як не было. Адзін блізка, недзе ў Слуцку, жыў.

— Можа, дзе ў іншае месца перабраліся.

— Можа,— зябка стуліў плечы мужчына ў караткавай ясёнцы і махнуў да Міці сваёю кепкаю: — А табе ачуньваць трэба, работа жджэ. Мяне сюды прыслаў Лаўрын Царык. Ён дачуўся, што ты жывы ды здаровы. Маемся сход праводзіць — сялянскі камітэт выбіраць. Цябе наказвае сватаць старшынёй.

Міця разам з падушкаю падсунуўся да біла, упёрся ў яе спіною.

— А чаму мяне? — Міця абвёў вачыма ўсіх трох мужчын.

— Граматны бо,— махнуў галавою Ладак Чабоцька.

— Ёсцека і яшчэ прычыны,— сказаў, але не дагаварыў, азіраючыся на грукат у сенях, чужы чалавек.

Дачуўшыся, пэўна, на сяле, што да Міці завітаў чужы з пляскатым абшморганым партфелем мужчына, у хату ўсунуўся і засоп ад задухі стары Корсак. Са спеху нават забыўся прыгнуцца і зачапіўся шапкаю за касяк.

— Дзень добры,— ён падаў руку толькі чужому чалавеку, спытаўся ўжо ў Міці, што сядзеў, прыпёршыся спіною да падушкі ў чырвоныя макавыя кветкі: — А чаго гэта людзі да нас?..

— Ды прыйшлі сватаць мяне на камітэт.

— А ты што, дзеўка якая?

— Дзядзька, так да слова прыйшлося,— задраў свой

наздраваты нос чалавек у ясёнцы, падаўшыся насустрач Корсаку.— Верасаўскі сход яго выбіраць будзе.

— Чаму гэта яго, а не мяне, для прыкладу?

— Хі-і,— прыплюшчыў адно вока Язапат Змысла.

— А што ты моргаеш? — Корсак дрыготкімі рукамі расшпіліў свой суконны каптан, зачапіў за цвік на сцяне.— Хіба я такі няспраўны, каб кіраваць іншымі?

— Кіраваць іншымі — трэба мець голаў,— вышчарыў ружаватыя бяззубыя дзёсны Язапат Змысла.

— А ў мяне што, доўбня? — І Корсак адвярнуўся ад Змыслы, глянуў туды на ложак, дзе сядзеў, прыхіліўшыся спіною да падушкі, зеленаваты ў твары, з паўпаданымі шчокамі Міця, і голас у яго пацвярдзеў.— Хваціць падстаўляць лабаціну. Напалітыкаваўся, даволі!.. Да пары збан ваду носіць.

— Велькая палітыка — скласці спіс беззямельных ды падзяліць асадніцкую зямлю,— адступіўся і ўгнуў голаў незнаёмы чалавек.

— Мне чужой зямлі не трэба, дай божа спажыць сваю. І нікуды ён не пойдзе. Хай во акрыяе. Мала адной турмы, хоча пакаштаваць яшчэ.

Корсак ужо разгарэўся ад злосці — лоб у яго панура зморшчыўся, вочы выварочваліся, бліскаючы бялкамі.

— Ты, папаша, не крычы,— сказаў чалавек у караткаватай ясёнцы, паляпваючы па калене пляскатым абшморганым партфелем.

— Перастань, тата, і праўда што,— зажмурыўся ад сонца, што нечакана паяснела доўгаю плямаю на ложку, недавольны бацькавым крыкам і Міця.

— Словам, так,— разважна загаварыў чалавек у ясёнцы, падышоўшы да ложка і падаючы Міцю руку,— да сходу ты павінен быць дуж, каб прыйсці, але выбіраць у вясковы камітэт мы цябе будзем.

— А каго ж яшчэ? — Міця падняў вочы на Чабоцьку.

— Ды варт было б памеркаваць.

— Ваўчка, можа,— падказаў Язапат Змысла.

— Не падыходзіць ён, браце, палітычна,— развёў рукамі Ладак Чабоцька.

— Чаго ж гэта? — насцярожыўся ўжо і стары Корсак.

— У легіёнах служыў.

— Успомніла баба дзевіц вечар. Калі тое было.

— Тады, наразе чаго, трэба ўстрымацца,— чалавек у ясёнцы першым падаўся да дзвярэй.

За ім, панура ўгнуўшыся, высунуліся ў сені Ладак Чабоцька і Язапат Змысла.

— Во, чуў? — Корсак паўзіраўся ў акно, вычакаў, покуль мужчыны не дойдуць да брамкі, і ўжо голасна сказаў: — У Ваўчка палітыку знайшлі, знойдуць і ў цябе. І каб хто іншы, а то свой, ліха яму.

— А чым свой лепшы,— не ўтрываў і ўжо са злосцю сказаў Міця.— Вайтовіч, як сабака на ланцугу, круціўся, калі мяне ў Алесі на надворку забіралі.

— Мне надоечы намякаў, што цябе падкусіў Юзік Кардаш і Дварчан.

— Скуль жа ж Кардаш ведаў бы, што я ў Алесі начую?

— Яно і праўда,— Корсак адняў лысіну ад шыбы, але, нешта прыцікаваўшы там на вуліцы, зноў прыціснуўся плячом да аконнай шуфляды і хрыпата, пракурана зарагатаў: — Пра яго памоўка, а ён і сам тут. Ваўчок да нас спяшае.

У сенцах упоцемку доўга шкрабліся рукі, нарэшце знайшлі клямку.

— Во, каб на яго нарат, заблудзіўся,— Ваўчок паставіў на заслон свой скураны саквяж і доўгаю дужкаю замка ў чорных плямах аблушчанага нікелю і зняў кепку; злавіўшы на патыліцы абшморганы касмык, закінуў яго на лысае цемя, далікатна прыгладзіў і падняў свой нос на Міцю: — Ну як? Акрыяў трохі?

— Ды ўжо,— засмяяўся Міця, выблытваючы з-пад коўдра распухлую нагу.

— Самы час у камітэт бегчы,— Корсак прысеў на лаве каля Ваўчковага аблушчанага і абшморганага саквяжа.

— Які камітэт? — адвесіў ніжнюю губу Ваўчок.

— А ты не чуў, што сход будуць склікаць?

— Чаму не? Такая пагудка ідзе.

— Там жа ж камітэт выбіраць будуць,— Корсак патурзаў за мочку зарослага валасцёю мясістага вуха.— І гэтага дурня падаткнулі. Мала яму аднаго гуза.

— Пачакай, Улас. Не ён, пэўна, рашаў.

— Ды з Дварчан нейкі прыбег. У кароценькай ясёнцы, як падстрэлены.

— У Дварчанах, кажуць, ужо робіць валасны камітэт. І дварчанскі Царук, я ведаю яго, такі няскладны, цыбаты сугнет, што раз на фэсце мітынгаваў па-беларуску, цяпер кіруе ім.

— А не Царык? — прыпадняўся на ложку Міця.

— Можа й праўду кажаш — Царык. Учора на мітынгу з чырвонай трыбуны гаварыў. Газеты якраз прывязлі, і я во схапіў лісток,—Ваўчок шмарганууў рукою ў кішэню, суха зашалясцеў там папераю і дастаў у некалькі столак складзеную газету.

— І што пішацца? — выцягваючы па-індычы голаў, адным вокам цікаваў на Ваўчка Улас Корсак.

— Карта во намалёвана,— Ваўчок разгарнуў невялікі, на адну газетную палосу, лісток, распасцёр на лаве. Прыжмурыўся над тлуста-чорным, што скруціўся, як чарвяк, паскам, тыцнуў у яго пальцам: — Во граніца.

Корсак нагнуўся, але ў падслепаватых вачах яго то выясніваліся, то зноў гінулі ў разрадку надрукаваныя словы: «Литва», «Восточная Пруссия», «Балтийское море». Разабраў ён толькі адно — «Германия».

— Па рэчцы граніца ідзе,— яшчэ ніжэй нагнуў сваю лысаватую галаву з сярпочкам прытаптаных валасоў Марцін Ваўчок.— Буг, Нараў... Пісса, ці што? — І пакруціў галавою.— Не чуў такую рэчку.

— Гэта, мусіць, пад Прусы,— сказаў Міця, павярнуўшыся на локаць.

— Ага. Вышай, як кажаш, во і напісана — «Восточная Пруссия»,— Ваўчок абедзвюма рукамі падняў з лавы невялікі, даўжынёю на локаць, газетны лісток і панёс яго на ложак да Міці.— На, будзеш чытаць, разбярэшся і мне раскажаш. Тут наконт дагавору пра гандаль і граніцу. Расія дакляруе дастаўляць Нямеччыне сыравіну. І пакт з Эстоніяй аб варужоннай помачы падпісана. Але дай агледжу цябе, а то не выхадзішся, як з зімы паршывая авечка.

— Я ж і кажу, самы раз бегчы ў той камітэт.— Корсак таксама падняўся з лавы, цікаваў, як перабірае ў сваім адчыненым саквояжы дактарскае начынне Марцін Ваўчок.

— Ці не дзяліцьмуць асадніцкую зямлю? У іншых вёсках ужо склалі спісы батракоў і бедных,— Ваўчок выцягнуў нарэшце бляшаную трубку.

— Мо і табе дадуць? — Корсак спытаў, успомніўшы тое, што надоечы гаварыў чужы мужчына з Дварчан.

Ваўчок задраў на Міцевай спярэшчанай жаўтлявалілoвымі кружкамі ад добра прысмактаных банек спіне споднюю кашулю, прыставіўшы шырэйшым канцом трубку, стаіўся, каб злавіць, ці не чуваць якое хрыпаты, і,

не ўчуўшы нічога падазронага, перапытаў у старога Корсака:

— Кажаш, ці мне дадуць?

— А ты хібя багатыр? Які ж твой надзел?

— Два гектары з чымсь. Усяго разам — і ворыва, і ляску, і сенажаці.

— Каму ж тады дзяліць, як не табе?

Ваўчок прыклаў вуха да Міцевай спіны, дробненька пастукаў па ёй пальцамі, паслухаў тугі гулкі стук і закінуў на цемя рассыпаны касмык:

— Можа, й дадуць, калі не накрылі мяне другім спісам.

— Якім другім? — выцягнуў худаватую, зморшчаную шыю і скрывіў набок голаў Улас Корсак.

— Чуў пагудку — сарока на хвасце прынясла,— што за каршэнь хочуць узяць тых, хто трохі замараны.

— А ты чаго калошы завязаў?

— Што казаць, на каго людзі гамоняць, на таго і свінні рохкаюць,— і ўжо, турзануўшы на Міцевай спіне кашулю, прызнаўся: — Усё Верасава знае — у легіёнах быў.

— Вы не афіцэр, чаго там,— супакоіў Ваўчка і Міця.— Праз абмылку хібя.

— Чы так, чы гэтак,— уздыхнуў Ваўчок і, ужо з натугаю засмяяўшыся, гладка ляпнуў на спіне рукою: — Чыста ў грудзях. Прастуда прайшла. Ногі толькі трэба ў солі папарыць.

Ваўчок прыгладзіў цемя, дзвюма рукамі — за брыль і дашак — нацягнуў на голаў і павярнуў набакір кепку. Падхапіўшы свой абшмарганы скураны саквояж, пастаяў яшчэ каля дзвярэй:

— Ды калі ж будуць склікаць той сход?

— Ці ў галаве яны мне. Думаю, што абыдуцца тыя хрэсьбіны без мяне,— Корсак скоса зірнуў на Міцю, сказаў нібы для Ваўчка: — Карову вунь нанач напаіць ды накарміць трэба, сходамі яна жыць не будзе.— І тонка зазвінеў вядром, зачапіўшыся за вушак і выходзячы ўслед за Ваўчком у сені.

Рэдкая чырванаватая яснасць нізкага сонца дагарала на закурэлым абразе ў покуці. На вуліцы крычалі і перагаворваліся жанчыны, мусіць, устрывожаныя навінай пра першы, яшчэ ніколі не бачаны савецкі сход. Стаяў тонкі і высокі крык дзяцей.

Міця скаціўся з ложка, памалу ступаючы на млявыя, што шчымелі ад болю і пакалвалі, як іголкамі, распухлыя ногі, падышоў да акна.

Свет, азалочаны нізкім сонцам — вяршкі рэдкіх, абсыпаных бярэзін, чубкі стрэх, далёкія боханы ўзгоркаў, нізкія бэзавыя хмаркі, што віселі над ім,— усё нечаканай гарачай радасцю аддалося ў Міцевай душы.

Ён падумаў пра той будучы сход, дзе будуць гаварыць пра яго, і нейкая таемная даўняя радасць забушавала ў душы. Яна знайшлася яшчэ тады, калі пачаў складаць вершы і калі ў іхні сёмы клас прыйшла Чэся. У той год і нарадзілася гэтае патайное салодкае жаданне, што пра яго будзе ведаць і чуць увесь свет. І дзе ні апынецца, ні ачуціцца ў гэтым свеце Чэся — яна будзе чуць і ведаць пра яго.

«Няўжо чалавек заўсёды парываецца ўзвысіцца над іншымі, няўжо ў гэтым ёсць яго шчасце?» — халодным вострым джалам да сэрца падступіла сумненне.

Міця стаяў каля акна, углядаючыся, як загасалі бэзавыя хмаркі, як раставала на чужой шарай сцяне рабенькая, спярэшчаная палосамі чырвань. Ён думкамі быў далёка адсюль. Меркаваў ужо пра тое, як перабрацца ў Дварчаны, дзе, напэўна ж, адкрыецца школа для сталых людзей, каб трохі паравучыцца і падавацца далей у Наваградак ці ў Віленскую гімназію, бо што выседзіш тут у Верасаве.

Мыслі яго паплылі ў далёкі, яшчэ невыразны затканы мроівам свет, і разам з ім была яна — Чэся...

Бацька ў хату прыйшоў скора. Убачыўшы каля акна Міцю, са злосцю паставіў на лаўку пры печы вядро, расплюхаўшы ваду і бразнуўшы восілкам:

— Знябыўся, гляджу, ты па гэтых камітэтах. Не сядзіцца ў хаце. Але глядзі...

— Чаго страшыш, тата? — не павярнуўшыся ад акна, спытаў Міця.

— Вайна вунь. Раз грыміць здалёк, то прыйдзе й сюды тая хмара,— бацька задушыўся ад атрутнага дыму махоркі.

— Я во надумаў у Дварчаны перабірацца.

— Куды такім светам?

— У вячэрнюю школу пайду.

— А жыцьмеш за што?

— Лаўрын Царык, можа, знойдзе якую работу.

— Глядзі, у таго Царыка, як і ў цябе, можа, свайго цара ў галаве няма.

Корсак доўга са стогнам і натугай сцягваў свае прапахлыя дзёгцем боты, нарэшце аказаўся:

— Я пра адно думаю: не пільнуецца чалавек свае хаты, так і загіне, як валачашчы сабака. Сколькі змарнавалася, шукаючы гультайскага ды лёгкага хлеба... Я ці пажыву доўга. Гаспадарка во...

— Тата,— Міця ўжо як мага спакойна загаварыў,— ці мне гаспадаркі пільнавацца? Бачыш сам, ідзе на тое, што іх не будзе.

— А што, камуна паўстане ўжо?

— Пэўна, і так.

— Ідзі ўжо, раўнуй гаспадаркі, збірай гультаёў і рабі свой камітэт. Рабі, але помні — чужым не разжывешся.

— Тата, а мне чужое не трэба, я сваё хачу знайсці.

— Сваё-ё? — расцяжна сказаў бацька, і нешта заскрабло, захрасла ў яго горле.— Спіс складацьмеш на арышт, во што будзеш рабіць. Мне ўжо добрыя людзі сказалі.

Шчымлівы, горкі боль крыўды апёк сэрца. Міця ўжо не ведаў, што адказаць бацьку. Панура маўчаў, успамінаючы Баранавічы, летнюю задушлівую ноч, грукат цяжкіх таварных паяздоў, Чэсю, тады змучаную жалобай, смерцю бацькі, адданую, блізкую яму. Міцю зноў зажадалася быць поруч ■ ёю. Ён нават убачыў сябе ў далёкім гарадку ■ белымі дамамі і вузкімі брукаванымі вулачкамі, у глухаватай кватэры з адным акном, старой камодай і вялікім падвязаным фікусам...

Яны жылі б у тым горадзе: Міця вучыўся б, а Чэся рабіла б сястрою ў шпіталі. Яна ж ведае, што яму трэба вучыцца далей. Ён нават знайшоў бы сабе якую начную работу — вартаўніка ці якога дзе апальшчыка.

І раптоўная трывога, як абрывісты бераг пад нагамі, раскалолася жахам: «Але дзе ж яна, дзе Чэся?»

## IV

Гора лягчэйшае тады, калі яно для ўсіх гора, пакутна перажыць яго сам-насам.

Алеся бедавала ды пакутавала адна і няшчасце сваё таіла не толькі ад староніх і чужых, а нават ад Міці з бацькам.

А хіба скажаш ці прызнаешся каму, што сэрца заныває па Імполю?

Ненаўмысна ўжо, болей ад крыўды і ганьбы, калі бацька стаў распытваць пра дварчанскую гвардыю ды той апастылелы, ненавісны кацёл, яна з дасадаю і жалем абмовілася, што пойдзе ды прыгоніць яго дадому. А потым перагорацьне магла, што [redacted] языка зляцела лішняе. Хоць бацька, пэўна, і ведаў, які глыбокі, страшны вір круціў у яе душы.

Бо на Алесіну просьбу, каб прыгледзеў за дзіцем, покуль яна абяжыць ды зойме на заўтрашні дзень верасаўскіх ужо вольных ад работы баб капаць картоплі, ён унурыўся і, не падымаючы вачэй ад стала, нечакана замармытаў:

— Збедавалася ты без гаспадара.

— Што пытаеш, тата? — Алеся падала від, што не ўчула.

— А дзе ж твой недавярак? Казала, дадому прыгоніш.

— Ды во бачыш, тата, прыгнала,— зніякавела яна ад бацькавай злосці.

— Ды во бачу, што картоплі перастаялі даўно, а гаспадару ні да галавы. Другі Пятрук Жамойцік знайшоўся?

Петрука Жамойціка ў Верасаве мала хто ўжо ведаў ды помніў. Больш помнілі ды жартам расказвалі пра яго дурноту ды несусветнае гультайства. Дзяцініўся чалавек: вярнуўшыся [redacted] сенавання дадому, стукаў у акно, каб жонка ішла здымаць з пляча касу — ён, змучаны ды напрацаваны, не меў ужо сілы. Было іншае, ужо не смешнае: соладка прыдрамаўшы на печы і раскатурханы жонкаю, Пятрук не пайшоў даставаць з багнішча сваю карову, калі згаладалая, нядужая пасля зімы скаціна папала да першай, зазелянелай каля незамерзлых крыніц сакаўной травы. Нарэшце і ўволю наелася, але вылезці назад ужо не здужала. Жамойцікава жонка, са страхам ды плачам абабегшы вёску, прыклікала на помач мужчын. «А дзе ж гаспадар?» — спытаў нехта з іх, зайшоўшы ў хату. «Вуньдзека спіць. Каб яго ліха абаспала»,— паказала на печ устрывожаная бядою кабета, не ведаючы, чым гэта абернецца. А абярнулася ды скончылася ўсё тым, што мужчыны, згледзеўшы як Пятрук яшчэ і голаў пад радзюжку хавае, плюнулі ад злосці ды разышліся дадому. Чалавек не дбае пра сваё, то хіба гонару трэба не мець, каб памагаць яму. Дабраўшыся па кладках, карову выцягнуў ужо

сам Пятрук, вяроўкамі, калі яна скалела і дайшла ў топкай гразі.

Даўно тое было. Даўно памёр Пятрук Жамойцік, а няшчасна-горкі выпадак помніўся. І верасаўцы ўзялі ўжо за звычай гультаяватых, нядбалых ды няздатных да работы людзей упікаць ды называць Петруком Жамойцікам.

Алеся не вельмі каб загневалася на бацьку, але ўчула, як балючая стрэмка ўпілася ў сэрца.

— Скажаш, тата, Пятрук хоць на печы сваёй ляжаў,— хацела пажартаваць, але голас спакусліва задрыжаў, зрываючыся на плач.

— Шаблі пабраўшы ўлежаць яны,— бацька, ужо такСама разгарачаны, падымаючыся з лавы, зласнавата азірнуўся на ложак, дзе ляжаў ледзьве жывы, зблажэлы ад хваробы Міця.— А на гэтага паглядзі. Кабыла, кажуць, здыхае, а за траву хватае. Так і ён — усё на сход рвецца, камітэты творыць.

У Алесі быў трохі ачах гэты трывожна-палахлівы агонь за Міцю — ён балазе ўдома. Але прыгледзелася да яго, нездароўча-ззелянелага ў твары, на якім толькі бліпчалі вялікія ўпалыя вочы, і ўчула, як абамлела, аблілася пякуча-шчымлівым болем душа.

Выбегшы з хаты, на вуліцы ўжо не дала рады слёзам. Было горка за ўсё: і за сваё нескладнае, пакутнае жыццё, і за Міцю, у якога, няхай крые бог, ззамаладу аднялі здароўе, і за сына, што расце сіратою пры жывым бацьку. Сэрца млела ад жалю і крыўды.

У сцішнай хаце, у глухаце ветраных начэй і нудным, холадна-шапаткім дажджом, з дзяркатым шоргатам сонна-голага вішанніку ў чарнаце гародчыка, закалыхваючы ў рыпучай лазовай калысцы дзіця, Алеся наўгад прыкідвала, як будзе жыць далей. Прыгадваўся Імполь, у душы падымалася і не ападала помслівая злосць, і тупая зняверанасць душыла ледкае спадзяванне, што ўжо сыдуцца, што зноў саўюць сваё гняздо. І гэтае спадзяванне, як абсыпаны сівым калматым попелам ачахлы жар, раптам пачынала мігцець і дыхаць агнём. І зноў ачуньвала любасць да Імполя. Зноў далёкім мроівам дрыжала тое нядужае жаданне, каб быў поруч, абняў яе, і яна, заміраючы ад радасці, прытулілася б да яго...

Але халодным вужом да сэрца падпаўзаў нечакана-прытоены страх: а можа, рукі яго горнуць Хрысцю. І гэ-

так жа раптоўна ўздымаўся глыбокі вір злосці, цёмнай рэўнасці, салодка-балючай помсты.

Нешта ўжо нядобрае, звар'яцелае чула ў сабе, рашылася б нават забіць яго. Слёзы залівалі вочы, прыступ спакутаванага жалю даўка падкочваўся пад горла. У халодным бяссіллі замірала пякучая злосць.

Алеся нахілялася над калыскай, цалавала мякка-цёплы, абвеяны сном тварок сынка і, чуючы яго ўжо прыметнае мужчынскае пасопванне і слодыч дыхання, спакайнела і аціхала душою.

А сёння маладзіцы, што дакопвалі картоплі і прыйшлі ў хату, каб прыгубіць скупую чарку, знарок ці, можа, з п'янага языка паднялі зноў усё на вілы, успомніўшы і Імполя, і той кацёл у Дварчанах, і нават нябожчыцу свякроў і залувіцаю.

Пачалося са смеху ды жартаў. Бабы душыліся ад гучнага, прытворнага рогату, успомніўшы, як Міронаў Васіль, пераймаючы на шашы карову, што бегла пад машыну, у гарачкі ды са спалоху закрычаў: «Гэй, бабы, перакіньце карову!» Вядома, ён хацеў сказаць «перайміце», але абмыліўся чалавек, а языкатым ды з'едлівым капальніцам было ўжо смеху на ўвесь вечар.

— Ты чуеш, Алеся, бяжыць ён за кароваю ні жывы ні мёртвы,— выскалялася, паказваючы раннюю чарнату ў куточку рота, нізенькая кругаліцая Анюта,— і ўсё гэтак рукамі махае. А самаход як затрубіць, пуджаная карова як зараве ды навыперадкі з самаходам.

— І праўда, дзе тут яе пяроймеш,— круціла галавою, як што страсаючы з яе, Мікітава Юлька.

— Не ўспамінайце, бабы, а то, дальбог, не ўстояць ад смеху,— жмурыла свае лупатыя бязбровыя вочы Ваўчкова Вольга.

Высыпаўшы з воза ў новы пограб картоплі, у хату прыйшоў і перапыніў ужо гутарку бацька:

— Во смеху. Вы, гляджу, аж лыткі сабе...

— Ай, і праўда, дзядзька Улас, з гэтага Васіля грэшна смяяцца,— рукавом выцерла свае мокрыя вочы Чабоцькава Анюта.

— Чаму ўжо грэх? — бацька нагнуўся над цэбрам, каб памыць рукі.

— Нават на вяселлі сваём заміж гарэлкі прынёс са стопкі бутэльку карасіны.

— Ну, калі недабачвае.

— А хібя носа не мае?

— Нос-то ў яго ёсць,— зноў затраслі сваімі грудзьмі і засмяяліся верасаўскія маладзіцы.— Але ж гэтым носам і жонку не знайшоў. Бо [redacted] Маняю пераспаў, кажуць, Бронік Літавар.

— Каб вам ужо языкі аблезлі,— махнула рукою і падышла да плеценай лазовай калыскі, дзе перабіраў ручкамі ды ножкамі распавіты Алесін сынок, Мацюшкава Сабіна і папрасіла ўжо ў Алесі: — Дай пагляджу.

— Не ўрачы адно,— пажартавала Алеся, убачыўшы, якімі зайздроснымі прыжмуранымі вачмі цікуе на дзіця Сабіна.

— Магла б і свайго мець.

— І пэўна ж, хібя мая душа крывая? — ганарыста падняла залаціста-кучаравую галаў Сабіна.

— З дзеткамі гора, а без дзетак удвое,— маргнула бялёсымі выгаралымі вейкаміВаўчкова Вольга.— Але каб які прымак прыбіўся...

Абмовілася яна незнарок, але абгаворлівым кабетам было досіць і гэтага, каб памянціць языкамі.

— Хай іх, [redacted] прымакамі, Алесінага во цеперся няма з Дварчан.

— Як лес няроўны, так і людзі.

— Кажуць, начальнікам зрабіўся.

— Няўжо?

— З шабляю ходзіць.

— Каля таго катла?..— пырснула смехам Анюта.

Бацька, каб не умешвацца ў гэтыя бабскія плёткі ды помслівыя абгаворы, прыгрукнуў ад злосці дзвярмі ды вышмыгнуў [redacted] хаты. А ў Алесі шчымліва заныла пад сэрцам, бо яе ўжо саўсім даканала Ваўчкова Вольга.

— Каб толькі каля катла, а можа, і каля Хрысці.

— Не прыдумляй,— махнула на яе рукою Анюта.

— Гэтага прыкладзеш ды не выдумаеш, што цяперашнім светам творыцца,— абгавораную ды перасуджаную ў Верасаве навіну яшчэ раз пачала расказваць Ваўчкова Вольга, нібы ўжо знарок забыўшыся пра Імполя з Хрысцяй.— Цімошка дварчанскі вунь, кажуць, пакуль жонка ў мацеры дзіця раджала, прывёў сабе ў хату каханку.

— І што? — падняла брыво Анюта.

— Пытае — што? Сышоўся і жыве.

— Каб іх ужо ліха падушыла з гэтымі мужчынамі,—

сказала і сагнулася перад парогам доўгая, як жэрдка, Мікітава Юлька, каб пераступіць парог, але прыпынілася: новую ўжо весць расказвала Чабоцькава Анюта, закручваючы кругом шыі суконную ў чырвоныя балонкі хустку:

— Чулі ці не? Распускаюць жа гвардыю.

— Няўжо? — вырвалася ў Алесі.

— Ага. Савецкія паліцыянты будуць.

— Не паліцыянты, а міліцыянты,— паправіла яе Ваўчкова Вольга.

— Кажы, як хочаш,— зіркнула спадлоб'я Анюта.— Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаў. Але нашай Настулі сыновец вунь запісаўся.

Алесі карцела распытаць, што гэта за міліцыянты і ці не пайшоў часам служыць туды яе Імполь, але ўжо нейкаю цяжкаю задухаю да сэрца падкаціўся гонар. Ды затоеная брыдкасць не дала вымавіць слова.

Бабы нарэшце схамянуліся, што гутарка ў Алесінай хаце пра гвардыю ды Імполя недарэчная і крыўдная, і не столькі мо асалавеўшы ад густа-саладжавай вішнёвай настойкі, колькі ўволю нарагатаўшыся, нечакана зацягнулі на адзін голас горка-жалосную бабскую песню:

Ой, п'яна я, п'яна,
Не дайду я дадому.

Ужо знарок з гэтаю песняю і выйшлі з хаты, каб чула верасаўская вуліца, што сёння яны прыгубілі кілішак.

А ў Алесі ніяк не мог астыць прысак горкай крыўды на ўвесь свет, што так перакруцілася, знявечылася жыццё.

Ды што каму да гэтага жыцця? Бабам вунь адно смехата ды жарты, што ў Дварчанах каторая пара марнуецца ды цяняецца, як сам не свой, яе Імполь.

Перабедаваўшы да поўначы, не могучы ўжо звесці вочы, паднялася з ложка, падышла да акна (не ведала і сама, што хацела ўбачыць), абаперлася рукамі на халодную шуфляду, падумала, што пара кітаваць шыбы ды ўстаўляць падвойныя рамы.

Даўняя гарката працяла ўсю, што ў хаце, як не было, так і няма гаспадара. І нечакана ўстрапянулася ад вострага пакутнага болю — яна пойдзе ў Дварчаны і дзе ён ні ачуціўся, ці ўжо ў яе, у Хрысці, ці ў той міліцыі, а прытуліць Імполя дадому.

Сослепу, у поцемку асенняй глухой ночы біўся раз'юшаны вецер, спадцішка трос на вішнях і шчодра ляпаў у акно шаргатлівае лісце.

І страхотлівы холад сціскаў сэрца ад гэтага раптоўнага шэлесту вішняў, шапаткога дажджу, моцнага з віхрыстымі скразнякамі каля вуглоў падвывання ветру.

У зморанай саслабелай трывозе Алесі пачынала думацца, што жыць так далей няможна, што трэба шукаць ратунак, што нарэшце і праўда трэба ісці забраць, покуль саўсім не разбэсціўся, Імполя з Дварчан. Свет цяпер распусны.

За вішнямі, зліваючыся з поцемкам, мільгануў цень. Алеся адхінулася ад акна. Але, перамогшы страх, зноў высунулася з-за сцяны. Не — падалося. Яна перахрысцілася і, ступаючы босымі нагамі па шурпатым гліняным току, вярнулася да калыскі, дзе закрактала дзіця, просячы грудзей ды, мусіць, мокранькае ўжо, і перапавіцца.

І ледкае смутнае шчасце, як нядужы, затоены на шыбе матылёк, ажыло, затрапятаўшы крыльцамі, што трэба жыць, хоць з астатніх сіл брацца за жыццё.

## V

Міця сядзеў на покуці за сталом перад раскладзенымі паперамі — пісаў пратакол,— трохі сарамяжлівы ад такой пашаны ды гонару і затоены пасля бацькавай сваркі ды перасцярогі не хадзіць на сход. Украдкам паглядаў на дзверы — явіцца бацька ці не. Але ў хату заходзілі, моцна вітаючыся (той-сёй нават на рускі лад «здрастуйце»), мужчыны ■ Прылуцкіх хутароў. Далёкаму, як кажуць, бліжай. Верасаўцы яшчэ не паказваліся.

Наколькі дасужыя і дападныя да навін былі верасаўцы, настолькі, як пташка каля свайго гнязда, і асцярожныя.

Першымі ў прасторную Аўдоліну хату, якую даглядалі, як і гаспадарку, дзве незамужнія сястры — дарэчы, маладзейшая ■ іх, Юстына, узяўшы вянец, адразу з вяселля ўцякла дадому,— набіліся дзеці. Спярша самыя меншыя — гадоў дзесяці-дванаццаці, потым няўзнак ды неўпрыкмет — большыя, ужо нават падкавалеры.

Балазе, ашчаджаючы газу, лямпу ў хаце не запальвалі. Збіўшыся ў кутку, дзеці прыслухваліся да мужчынскай гутаркі.

Мяккаю нетутэйшаю гутаркаю, што прымалася верасоўцамі за рускую, чужы хударлявы чалавек, што сядзеў

поруч з Міцем на покуці, паклаўшы на стол сваю круглую шапку і свецячы пукатым лобам, адказваў на роспыты занадта цікаўнага і надаяднага Язапата Змыслы.

— Калгас какую, напрымер, мае перавагу перад адзінолічным хазяйствам, што там работаюць саабшча.

— Што адзін, то не два,— падтакнуў яму Ладак Чабоцька.

— Верна падмячае.

— Пачакайце,— азвалася з поцемку з-за пліты, са свайго ложка, Аўдоцця.— А колькі ж заробіць ваш чалавек без ніякага фаху ў руках?

— Без чіво, вы сказалі?

— Вот слухайце яе, дурную бабу,— малодшая Юстына хацела перапыніць, каб не сунулася ў гутарку, старэйшую сястру, што была нібы за мужчыну ў хаце, бо ўмела і араць, і касіць, а калі трэба, то і крута вылаяцца.

— Гэта яна пытае пра цёмнага рабочага,— стараўся, як умеў, расталкаваць гэты фах Язапат Змысла.

— А-а-а,— нарэшце дагадаўся чужы чалавек, што сядзеў на покуці, пра што ідзе гутарка.— Без спецыяльнасці, значыць.

— Ага, без гэтае, як вы кажаце...— тут Аўдоля запнулася і сказала па-свойму.— Ну, я лапатаю, для прыкладу.

— Ды рублёў пяць,— павярнуў сваю голаў туды, на ложак, бліснуўшы пукатым лобам, чалавек з покуці.

— А пуд жыта колькі каштуе? — не адступалася Аўдоля.

— Дзета каля етага.

— Дак тое і на тое выходзіць,— сказала Аўдоля, пасмехваючыся і падлічыўшы ўсё па-свойму.— І ў нас за дзень можна было зарабіць пуд жыта.

— А дзе ў нас знойдзеш тую работу? — нібы зазлаваў на Аўдолю Ладак Чабоцька.— Вунь у Дварчанах за яе парэзаліся Ведравічы з Дубатоўкамі.

— Я пра гэта не кажу,— паднялася з-за пліты Аўдоля, запляскала босымі нагамі да печы, каб, мусіць, на мурку знайсці запалкі, але схамянулася, што яны ёсць у мужчын, папрасіла: — Хлопчыкі, гляньце, ці ёсцека там газа ў лямпе?

— Ёсць,— падняўся, злавіў над галавою лямпу і патрос яе за магазын, дзе забоўталася кропля газы, Язапат Змысла.— На во шкло вытры.

— Не закурэла яно, я ўчора лямпы не запальвала.

— Чаму ж гэта ты ўпоцемку сядзела?
— А ты што, мне газы прынёс?
— Гы,— хмыкнуў Ладак Чабоцька,— у Дварчанах вунь савецкую прывязлі. Бяры — хоць заліся.
— А за што браць? Каб дарма давалі,— зажмурылася ад запалкі, што, востра стрэліўшы, пыхнула ў Ладакавых руках.
— Гніся не гніся, а за кішэнь бярыся. Патрасі сваю машну, бо ўсё роўна злоты прападуць.
— Ага, яны ў мяне з мяха сыплюцца,— Аўдоля падышла да дзвярэй, адчыніла іх, бо, заблудзіўшыся ў сенях і шукаючы клямку, шкроб сцяну стары Літавар.
— Не сілаю, так спосабам, ■ ўсё ж такі ўлез у хату,— пераступаючы парог, засмяяўся ён, на адзін бок расцягваючы рот і слепавата ўзіраючыся на покуць, дзе сядзеў, скінуўшы шапку, сухарлявы чужы мужчына ■ рэдкімі і гладзенька прычасанымі валасамі. Поруч каля яго, падпёршы шчаку, апусціў тонкі нос Ладак Чабоцька і ганарыста задзіраў свой дробны твар і свяціўся, як дзіця, радасцю, паголены і расчырванелы, ■ падбітым на патыліцу каўпаком, Язапат Змысла. Абвёўшы ўсіх вачыма, стары Літавар моўчкі, з затоенай цікавасцю прыгледзеўся да Міці.
— Садзіся, Ясь,— махнуў зеленкавата-рудым, як стары мох на страсе, пляшывым каўпаком Язапат Змысла.
— Наказалі, так, думаю, схаджу, мо што пра вайну раскажуць.— Літавар не прысеў, а толькі прыпёрся да лавы, злавіўшы абедзвюма рукамі тоўстую дылю.— Чаму ж гэта нямашука дахаты майго сына?
— Мы тут не пра вайну, а пра мір гаварыць будзем,— сказаў і азірнуўся на сухарлявага чужога мужчыну Ладак Чабоцька.
Але мужчына маўчаў, пазлядаючы на дзверы, што ўжо раз за разам адчыняліся, прыляпваючы звонка, заскакалі клямкі,— у хату то па адным, то купкамі заходзілі няспешныя верасаўцы, адны нібы знарок гучна вітаючыся, другія насцярожана-пудка маўчалі.
Ніхто пакамісь не падыходзіў бліжай да стала, стараючыся прысесці на самы край доўгае лавы, дзе стаўкліся дзеці, штырхаючы адзін аднаго і чубячыся, як маладыя пеўні.
— Гэй вы, чортава насенне, што не падзеліце,— прыкрыкнуў на дзяцей Марцін Ваўчок і ўціснуўся між іх.

— Марцін, ты там не агінайся, ідзі сюды бліжай,— важна падняўся над сталом Чабоцька.

— Я добра прымастаколіўся і тут.

— А на сваім сметніку і верабей гаспадар, чаго там, хай пасядзіць,— засмяяліся з жаночай купкі, што стаяла каля высокай пабеленай пліты.

— Можа, і праўда падступімся трохі туды,— загаварылі ўжо ад парога, напіраючы на чужыя плечы.

— Не жолаб да каня, а конь да жолаба ідзе. Цісніцеся туды, мужчынкі.

— Кось-кось да аброку, а потым кіем па боку,— выскаляўся нехта з грамады, што шырылася і расла з прыходу хаты. На сход усё смялей і больш набівалася верасаўцаў.

Першы сход з новаю, яшчэ не зусім вядомаю ўладаю цягнуў усіх — брала цікавасць, а што ж будуць гаварыць ды рашаць на ім,— і ў Аўдоліну хату ўслед за хлопцамі ды дзяўчатамі ўсунулася, сарамяжліва ўсміхаючыся бяззубым ротам, старая Таквіля.

— Во і я паслухаю, сярод людзей пабуду,— яна жаўтлява-змярцвелымі ў сініх жылах рукамі абляглася на кій, палажыўшы на іх свой востры худы падбародак.

— Вы, цётка Таквіля, туды наперад.

— Ай, дзеткі мае, я ўжо як-небудзь тут спабоку.

— О, упартая старая, і падзеразавацца не дасць, заняла добры куточак,— злавалі хлопцы, абдымаючы тут упоцемку каля парога дзявок.

Тыя прытворна войкалі і церабіліся, разрываючы тугія абручы сашчэмленых рук.

Толькі Вайтовічава Яніна, злосна косячыся на недарослага кавалера — малодшага Іконавага хлопца, што ўжо быў пад яе каптанік падсунуў руку, мусіць, навучаны некім са старэйшых, нечакана і рашуча пашылася наперад, дзе стаялі найбольш сталыя мужчыны.

Упарта-сур'ёзная, падцяўшы губкі, узіралася на хударлявага мужчыну з лысаватым высокім лобам, на якім рассыпалася крутая грыўка цёмна-русых валасоў.

Мужчына злавіў іх расчоскаю, потым акуратненька прыгладзіў рукою і падняўся за сталом.

Усе стаіліся, чакаючы таго першага і, як ім здавалася, нязвыклага яшчэ слова, якое ён скажа.

Але тут, падбіўшы на лоб аблезлы барашкавы каўпак, аб стол абапёрся абедзвюма рукамі і нагнуўся над ім Язапат Змысла:

— Слухайма, людзі, нам чалавек навіну сказаць мае.

— Што ты перабіваеш, ці мы не бачымо,— адгукнуліся з грамады.

— Каўпак хоць зняў бы, раз у покуць сеў.

— І праўда што,— растрывожаным роем загулі верасаўцы.

Расцягнуў тугаваты вузел гальштука і загаварыў хударлявы мужчына — твар яго зачырванеўся ад натугі, але голас быў сціпшы — і першых слоў з гаманкіх ды сварлівых верасаўцаў мала хто пачуў. Падштурхваючы адзін аднаго ды ўціхамірваючыся, учулі вось гэта ўжо:

— Я прысланы да вас валасным камітэтам, ці, як у вас кажуць, гмінным.

— А што гэта за ён,— не стрываў і спытаў стары Літавар,— камітэт гэты?

— Ну, гэта як гмінная рада,— хуценька ўзмахнуў рукою, нібы шпурнуўшы што з свае далоні, Ладак Чабоцька.

— А я думаў, што іншае,— заплюшчыў вочы і скрывіў свой твар стары Літавар.— Засядаў у той радзе Янка Вайтовіч, а цяпер ты будзеш?

— Ты, дзядзька Ясь, абы-чаго не гарадзі.

— Ён-то гародзіць, а ўсё на праўду выходзіць,— смяяліся з кутка.

— Досіць выскаляцца, дайце паслухаць,— папрасіў усіх МарцінВаўчок, упіраючыся рукамі і падсоўваючыся на лаве бліжай да стала; караткаватыя ногі яго не даставалі да падлогі.

Улучыўшы момант, калі гамана трохі прыціхла, хударлявы мужчына зноў сказаў трохі сіпаватым нядужым голасам:

— У камітэт трэба выбраць не менш як трох чалавек.

— Чаму трох? — нібы адпіхваючы Вайтовічаву дачку, высунуўся наперад з белым, даўно не стрыжаным запатылкам Сымон Ракоў.

— Можна і пяць.

— А каго ж гэта? — не стрывалі цікаўныя кабеты.

— Не шкодзіла б, каб і баба была,— зноў успёршыся абедзвюма рукамі на стол, прыпадняўся Ладак Чабоцька.

— А як жа ж камітэт, калі без бабы,— бліснуў вялікаватымі зубамі з чорнай шчарбінай і зрабіў сур'ёзную міну Міхась Шайбак.

— Некалі Вайтовіч таксама ў гмінную раду Антолю Чувачыху ўпісаў.

— Ага, усё з ёю нацянькі праз алешнік хадзіў.
— Гы-гы-гы,— троссяя ад смеху Міхась Шайбак.
Вайтовічава Яніна, не стрываўшы гэтых дурнаватых жартаў пра бацьку, рэзка рванулася назад. Нехта з кавалераў услед за ёю вышмыгнуў у сені, але там паляцеў ужо на пустыя ў кутку кадушкі. У хаце сыта ў адзін голас зарагаталі зноў.
— Бадай ужо вам языкі аблезлі, вунь дзяўча спатажылі.
— З нас ён здзекаваўся не так. Хай пабудзе ў нашай шкуры,— ужо са злосцю агрызнуўся Міхаць Шайбак.— Саквастатараў да мяне прыводзіў.
— Бо і яго вялі.
— Каб яго ўжо ліха абвадзіла.
— Ціха, людзі! — зноў крыкнуў Ладак Чабоцька, скрыва пазглядаючы на хударлявага мужчыну, што, збеднiўшыся і не ведаючы, як перабіць сварліва-гаманкіх верасаўцаў, стаяў з апушчанымі рукамі за сталом у покуці, дзе на зашклёным абразе з паточанай шашалем аправай адбіваўся і палахліва дрыжаў жаўтлявы язычок полымя ад далёкай лямпы.
— Раз ёсць, так скаць, такое прадлажэнія,— загаварыў хударлявы мужчына,— то можна вылучыць у камітэт і жанчыну.
— Чуеце, бабы? — пытаўся нехта з хрыплаватым смяшком і здзекам.
— А што,— адклікаліся з жаночай купкі высокім смелым голасам,— роўнае права настала.
— Цяперака не мужчына на бабу, а баба на мужчыну ногу закладацьме.
— Гы-гы-гы,— не стрываў нехта ад задушлівага рогату.— Парвацца можна.
— Так лічна каго назавяцё? — задзёр свой востранькі падбародак нетутэйшы чалавек, абводзячы нахмуранымі вачмі верасаўцаў, што сцінуліся ў невысокай з шарай столлю хаце, то напіраючы да стала, то адступаючыся ад яго далей.
— Няхай Антоля і будзе ў тым камітэце,— крыкнуў тоўсты голас недзе з лавы.
— Разбітная маладзіца.
— Некалі ў агніску каляёвым [1] на сцэне выступала.

[1] Агніска каляёва — клуб чыгуначнікаў *(польск.)*.

— Ага, чорта і бабу паказвала.

— Спадніцу ёй толькі доўгую трэба пазычыць. Як тады...

— О, рагаталі, аж пупы развязваліся,— захлынуўся нехта ад смеху, успомніўшы даўні спектакль, які паказвалі ў чыгуначным клубе дварчанскія хлопцы і дзяўчаты гадоў дзесяць назад і ў якім, як казалі верасаўцы, вычварала Антоля, пазычыўшы ў старое Такарады даўнейшую спадніцу-паўтарачку і чорны аксамітавы гарсэцік.

— А ты чаго там зубы прадаеш? — цвёрдым расцяжным голасам азвалася дзябёлая, бялявая з твару маладзіца, косячы вачмі назад, адкуль чуўся гэты сыты рогат.

Гэта была яна — верасаўская Антоля, што, некалі перабраўшыся ў Дварчаны, выйшла замуж за татарына Куреміна, [redacted] потым, кінуўшы яго, крываногага і васпаватага мужчыну, прыйшла да Кардаша, што вярнуўся з турмы, маладога ўжо і прыгожага, але не ўжыла з ім і прыбегла да свайго малодшага брата назад у Верасава.

Цяпер яна стаяла сярод баб, трохі зачырванеўшыся, але, пэўна, радая, што не каго іншага, а яе вылучаюць у сялянскі камітэт.

Кінуўшы вокам на прывабны маладжавы Антолін твар, сухарлявы мужчына нагнуўся да Ладака Чабоцькі, нешта скоранька і горача шапнуў у вуха, і той, выпінаючы ружаватую мокрую губу, махнуў сваім па-варанячы доўгім, дзюбатым носам.

— Тады прашу прагаласаваць,— сказаў хударлявы мужчына.

— Як гэта галасаваць? — спытаў нехта.

— Падняць руку, во так,— падбіў зрудзелы аблезлы каўпак і паказаў выцягнутую ўгору з растапыранымі пальмі руку Язапат Змысла.

Верасаўцы нядружна, хто жартам, а хто саромеючыся, нязграбна вырткнулі з-за чужых плячэй рукі.

— Мо хто мае прэтэнзіі? — пільна азірнуў усіх хударлявы чалавек з шырокім задзірыстым носам.

— Чаго там, хай будзе.

— Ага.

— Абы не нас,— нехта ціхенька гідаваў за парогам адчыненых дзвярэй: адтуль з сяней бялелі твары і бліскалі раз'ятраныя вочы — там ужо таксама сціснуліся і затоена задыхалі адзін аднаму ў шыю цікаўныя верасаўцы.

За Міцю Корсака, Ладака Чабоцьку, Язапата Змыслу

галасавалі ўжо дружна, нібы прывыкшы да гэтага, нават хітранька і здзекліва падміргваючы.

Але калі нехта выгукнуў прозвішча Ваўчка, з цемнаты сяней раптоўна падняўся тонкі з плачам крык:

— Людцы, нашто мне зноў божая кара? Дзіцятка ўтапілася, і яго забяруць.

— Куды забяруць? — развёў рукамі хударлявы мужчына, убачыўшы, як сюды да стала праз цесны гурт людзей бокам шыецца і чырванее ад натужлівай злосці бялявая маладзіца.

— Ці мала аднаго гора? І не пушчу! — крукнула Вольга і затрасла кулаком туды, дзе сядзеў на лаве і перабіраў ад нервовасці кароткімі нагамі яе Марцін.

— Гэта як рошыць сход,— разам з усімі выскаліўся ён і задзёр сваю ганарыста набакір пасаджаную кепку.

— Кяды вецер, туды й ты,— Вольга падскочыла да Ваўчка і турзанула яго за плячо.— Годзі тут сядзець, слухаць, як брэша гэтая зграя.

Ваўчок, знячэўку ўжо сашмаргнуўшы з лавы і апынуўшыся ў невялікім пустым кружку перад сталом, турзануўся быў назад, але Вольга што было моцы трымала яго за рудаваты шарачковы каптан. І, ухапіўшыся загрудкі, усім сваім цяжарам дзябёлай бабы рванулася ў грамаду людзей, што наўмысне расступіліся перад ёю, і Ваўчок не згледзеў, як апынуўся каля парога.

Сыты гучны рогат ад нечаканага дзіва і пацехі заглушыў хату. Махаючы рукамі, смяяліся ўсе, ажно да слёз на вачах. Брыдка шчэрыліся і бяззубыя раты. Доўга трэсся і перхаў ад смеху стары Літавар, потым выцер жменяю мокрыя губы:

— Мусіць, чорт не адну пару лапцей стаптоў, покуль такую пару даброў.

— Во баба.

— Не кажы — агонь.

— А спрытна, ліха ёй, вывалакла з хаты.

— Ды які ж з яго мужчына?.. Аршын з шапкаю. Такога й варона панясла б, каб схапіла за каршэнь.

— Не кажы, любка, бо ён калі завінецца, то начыста ёй рукі паперабівае.

Верасаўцы ніяк не маглі ўціхамірыцца, з дзівам і інтарэсам чакаючы, вернецца Ваўчок ці не. Але асарамачаны Ваўчок у Аўдоліну хату больш не прыйшоў.

Ды пасля таго, як выбралі камітэт і склалі пратакол,

гутарка пайшла пра дзяльбу зямлі. Усе, забыўшыся пра Ваўчка ■ Вольгаю, наперабой пачалі распытваць, па колькі ж гектараў і каму будуць раздаваць асадніцкую зямлю і хто зацвердзіць спіс.

— Спіс бедных і батракоў складзе камітэт,— зморапы ў нагах, прысеў нарэшце на лаве за сталом прысланы ■ Дварчан упаўнаважаны.

— А асаднікаў дзе дзенуць, га? — адапхнуўся ад лавы стары Літавар.

— Го, не знае дзе? — хрыпата і здзекліва пасмехваўся нехта з мужчын.

Спрэчку і грызню мужчын перабіла яшчэ адна важная навіна, якую ўжо доўга і няўдала пераказваў Ладак Чабоцька: арганізаваць «чырвоны абоз».

Цяпер верасаўцы прыціхлі, сам-насам разгадваючы, што гэта значыць.

— Расказвай лепш ты, пан-таварыш,— паварушыў застрэшкамі навіслых броў чорны, ■ тыдзень нязголены, негаваркі і ваўкаваты Ігнась Жагала з Прылуцкіх хутароў.

Учуўшы гэтае «пан-таварыш», мужчына скрыва ўсміхнуўся, але падняўся над сталом...

— Раз трэба, так трэба. Здамо,— нецярпліва заварушыўся на лаве Язапат Змысла, каб перабіць лішнія роспыты Ігнася Жагалы.

— Аказаўся. Ты ўжо здасі,— адвярнуўся і суха плюнуў сабе пад ногі Ігнась Жагала.— Яшчэ на помач пакліч Ваўчка. У таго заўсёды вецер у засеках ходзіць.

— Яно ж так, добра збіраць чужое,— заступаўся мо не столькі за Жагалу, колькі думаў пра сваё жыта скупы Літавар.

— А з багатшых вёсак ці ж вязуць? — пыталіся ўжо з кутка звонкім жаночым голасам.

— Хібя не бачыла, учора Уланаўшчына шашою з чырвонымі штандарамі ехала.

— Няўжо?

— Вязлі. З гармоняю нават. І коні, як на вяселле, у каснікі прыбраныя.

— Дзіва тут. У іх ёсцека што вазіць. На іхняй зямлі ўсё родзіць, яна тлустая, хоць на хлеб маж, а ў нас што? Адна пячуга ды чвыр,— стары Літавар устаў, адапхнуўся ад лавы, трымаючыся за крыжавіну і не могучы выпрастацца, усунуўся ў цесную граматы, што паволі расступалася, даючы яму праход да парога.

— Дзядзька Ясь, гніся не гніся, а за кішэнь барыся,— помслівым смехам удагон яму крыкнула Чувакова Антоля.

— Яшчэ не паспелі ў той камітэт выбраць, а ты ўжо чужыя кішэні абмацваеш. Смех бярэ,— Літавар нарэшце выпрастаўся і махнуў рукою назад.

— Каму смех, а каму грэх,— гідаваў нехта з кута.

Міця Корсак сядзеў, уважліва прыглядаючыся да людзей, і бачыў, што верасаўцы да ўсяго новага прымяркоўваюцца так, нібы ідуць першы раз цераз незнаёмую хісткую кладку: і перайсці трэба, і не ўваліцца хаця б. Таму сур'ёзную гутарку трохі зводзілі на смех ды жарты. Тойсёй хітравата маўчаў. Але на сход прыйшлі з кожнае хаты. Не было толькі бацькі, ды Алеся, мусіць, не маючы пры кім пакінуць дзіця, сядзела дома. Імполь ужо другі тыдзень не паказваўся ў Верасаве, і паводкаю расплылася чутка, што застаўся разам з Жэнікам Рэпкам служыць у рабочай гвардыі. Да гэтага яшчэ прыклалі, што сышоўся і жыве у Хрысцяю.

Цяпер Міцю думалася пра тое, што і самому не шкодзіла б перабрацца ў Дварчаны: там, кажуць, адкрылася вячэрняя школа. Варта было б падвучыцца па-руску ды нарэшце падавацца ў гімназію. Ці ж марнавацца тут у Верасаве, вечнай і каламутнай, як затока, глухаце? У Дварчанах — Чэся. Можна падмовіць, каб у школу хадзіла і яна.

Ачуціў Міцю ад думак хрыплавата-нядужы голас дварчанскага ўпаўнаважанага, які аб'яўляў, што сход закрыты і што ў хаце застаюцца толькі члены камітэта.

— Мы тут ненадоўга,— сказаў упаўнаважаны, калі прыгрукнулі дзверы, забіраючы ў сляпы поцемак сяней гул марудных верасаўцаў, палахліва страпянуўся жаўтлявы каснік полымя — кнот выцягваў астатнюю кроплю газы.

— Во лямпа зараз патухне ад вашай гаманы,— аказалася з-за печы Аўдоля.

— Нам трэба выбраць старшыню камітэта ды сакратара,— нібы недачуў яе ўпаўнаважаны.

— Ладак Чабоцька хай будзе,— сказаў Язэпат Змысла і, адпіхаючы стол, высунуўся з-за яго.

— Можа, Міцю Корсака, ён жа ж граматны,— прысела на лаву і жалабком уціснула між каленяў спадніцу Чувакова Антоля.

— Мы яго сакратаром, пратаколы складаць ды падан-

ні[1] пісаць выберам,— не даваўся Язапат Змысла, якому ўжо ківаў галавою ўпаўнаважаны.

— На першы раз я сам склаў,— шчоўкнуў бліпчастым, у воспах іржы замочкам у парусінавым партфелі ўпаўнаважаны і дастаў паперы — даўнейшыя, яшчэ польскія гмінныя бланкі, на тыльным боку якіх было нешта напісана, і расклаў іх на стале.— Распісацца вам толькі трэба.

Гэтыя бланкі і прынёс дадому Міця, таксама ў польскай кардоннай папцы, якую разам з паперамі са свайго партфеля выняў упаўнаважаны.

Балазе не прывёў нанач яго самога — паклікаў Ладак Чабоцька. Але бацька і без гэтага ўзняўся на дыбы, убачыўшы з-за пліты, як Міця запальваў лямпу і клаў у шуфляду стала шарую кардонную папку.

— О, дабром, гляджу, не скончыцца ў цябе. Нашто яны, гэтыя дакументы. Хто знае, як што павернецца.

— Мяне ў камітэт выбралі.

— Есць чым хваліцца,— бацька, цмокаючы прыгаслай папяросай, нават выбег з-за пліты і, смуродзячы на ўсю хату моцным атрутным дымам, крыкнуў: — А ты хоць ведаеш, што гэты камітэт рабіцьме?

— На зямлю спісы падаваць будзем.

— Гэ, ці толькі. Ды наўме табе чужая зямля?

— Не мне, людзям патрэбна.

— Ты глядзі сябе,— у бацькі нават загарэлася агнём скручаная з газеты папяроса.— Мала табе было адной цюрмы?!

Міця, ад бацькавай сварбы ды крыку, забыўся нават павячэраць, распрануўся, патушыў лямпу. Але, растрывожаны, заснуць не мог. У галаве кружыліся, як птаства ў асенні вецер, тыя спакуслівыя, неспакойныя думкі пра Дварчаны ды вячэрнюю школу.

Ізноў прыгадвалася яна, Чэся... Што з ёю цяпер? І дзе яна: асталася ў Дварчанах ці куды паехала? Кажуць, што той-сёй з польскіх бежанцаў перабіраецца ў Львоў або нават варочаецца дадому, пераходзячы граніцу. Але ж Чэся тутэйшая. Чаго яна не бачыла ў разбітай Варшаве? Хто яе там чакае?

Міцю карцела ўбачыцца з ёю, пагаварыць, і ён ужо цвёрда рашыў, хоць яшчэ не акрыялі ногі, заўтра ж сха-

[1] Падання — заявы *(польск.)*.

дзіць у мястэчка. Заадно завітае да Лаўрына Царыка, каб пачуць ад яго якую раду ды распытаць навасці, бо ў Верасаве стаіць глухата, як у глыбокім пограбе; акрамя лістка, што прывёс Ваўчок, не даходзяць і газеты, патайнай, халоднай гадзінай паўзуць толькі чуткі ды пагалоскі — добрыя і нядобрыя.

# VI

Зварок быў чорны, аж паліскаўся, і не больш за звыклага ката, хіба трохі даўжэйшы і спрытны ў паставе.

Ён бег уздоўж паглыбшанай пасля дажджоў, роўнай берагамі рэчкі, спыняўся на міг, выцягнуўшы шыю, падымаў круглаватую з кароткімі вушкамі і вастраватай пыскай галоўку, пільна ўзіраўся наперад і, абнюхваючы ваду, асцярожным украдкам імкнуў далей.

Міця згледзеў яго тады, калі ўзышоў на мост, ужо на другі бок жаўтлява-каламутнай рэчкі, што прынясла сюды да Верасава з наваградскіх гор і лагчын учарашнюю дажджавую ваду.

Што гэта быў за ён, які зварок, Міця не ведаў. Спудзіў нават у сваім гумне ласіцу, выпараў летась з дрывотні шашка, а гэткага вадзянога зварка ўбачыў першы раз. Перайшоўшы мост, на тугім, аблізаным вадою пяску, што па заберазі, спадаючы, пакідала крывымі абадкамі быстрая рэчка, згледзеў такія самыя, як у ката, сляды — шнурочкам, ножка ў ножку.

«Можа, выдра?..» — Міця паўзіраўся на зялёныя, яшчэ не згалелыя кусты алешніку, дзе знік чорны з высока ўзнятай галоўкай зварок.

— Го, чалавек, што згубіў? — ачуціў яго голас ззаду.

Шалпочучы алехавым, скручаным у трубку лісцем, сюды з дарогі зварочваў прылуцкі Віктук Удод.

— Хачу распазнаць, што гэта за след. Во, пры вадзе...

— Выдра тут вядзецца,— не дайшоўшы да Міці, яшчэ зводдаль сказаў Віктук.— Я бачыў, бегае тут не раз. Нару недзе пад карчом мае. Карычневая, з падласай шыяй.

— Не, гэты чорны і прыгожы, халера,— Міця сіліўся дагадацца, чаго яго сінімі прымружанымі вочкамі свідруе Віктук.

— Чуеш, добра, што напаткаў цябе,— да Міці пацяг-

нулася тоўстая рука з жоўтымі абкуранымі пальцамі.— Гэта ж я на сходзе не быў. У Наваградак ездзіў — дзіця ў бальніцы. Нейкі свішч у носіку знайшлі.

— Што вы кажаце? — спачуваючы, спытаў Міця.

— Рапарацыю маюцца рабіць... А тут, кажуць, на сходзе зямлю дзялілі.

— Была гутарка.

— Здэцца ж, цябе ў камітэт выбралі?

— Трох нас.

— Ай, што з іх,— Віктук сцёр з губы накарэлае ад снедання зярнятка крупніку.— Ты самы граматны, гэтыя ці распісацца яшчэ ўмеюць. Уваж, мяне запішы ў тыя дакументы, што на дзяльбу Грабянкавай зямлі складаць будзеця.

— Спіс мы ўжо склалі.

— Ты ж, Змітрычак, пра мяне хоць не забыўся? — Віктук Удод паглядзеў недзе туды, дзе патаемна мкнула цёмна-жаўтлявая рэчка, сцішна булькаючы і пераліваючыся ў чорных вузлаватых і пераплеценых, як гадзіны, карчах, што абраслі смярдзючай бадзягай.

— Ёсць вы ў спісе,— Міця таксама азірнуўся на рэчку, раптам убачыўшы на павароце сярод вады чорную вушатую галаву ягняці — яго нясло сюды пад мост.

Пэўна, гэльцаючы каля стромага берага, яно незнарок ускочыла ў рэчку і, змогшыся, плыло ўжо туды, куды яго нясла быстрая вада.

— Во, ці бачыш? — вырачыў ад дзіва вочы Віктук Удод.— Ягнятка плыве.

— Бачу,— страпянуўся Міця, прыкідваючы ўжо, як яго дастаць: з моста высока, а лезці ў настылую рэчку не акрыяўшы яшчэ ад хваробы, велькая рызыка, ды і ці паспееш па глыбокай вадзе на самым стрыжні быстрай рэчкі да яго дабрысці.

— Спяшай на той бераг,— падказаў Удод,— вада прыб'е ягня да карчоў.

Прыпусціўшы на ўсю моц, Міця перабег мост, з ніз-кай, увітай хмелем алешыны з гучным трэскам адшчапаў лапу, адламаў крохкі вяршок і праз сухое конскае шчаўе і крапіву прадзёрся да навіслай крывой вярбы. Трымаючыся за вілаватыя сукі, асцярожна ступіў на зеленаваты камень, што прагнуўся над самаю быстрынёю рэчкі.

Вушатае з белай зоркай ягнятка вада і праўда падносіла сюды, пад старую вярбу.

Віснучы рукою на доўгай нізкай лапе, Міця прыкленчыў на шурпатым камлі, пад якім вірыла, аж кружылася ў вачах, жаўтлява-каламутная вада, падымаючы са дна счарнелае алехавае і вярбовае лісце.

Ягнятка, згледзеўшы Міцю, нібы ад радасці падняло вушы і раптам забляяла нядужым, ледзьве жывым голасам.

Міця перамяніў руку і, узяўшыся за тоўсты, што стаяў старчма, сук, падступіўся на коленках туды, куды несла ледзьве жывое, акалелае ягнятка павольна-патайная і сцішная рэчка. Глыбокія лейкі выкручваў цёмны вір, глыбамі падымалася насупраць плыні і разыходзілася, не здужаўшы яго, жаўтлява-каламутная вада.

Нахіліўшыся яшчэ ніжай і выцягнуўшы руку, Міця ўжо нарыхтаваўся быў схапіць за голаў гэтага чорнага, як убачыў зблізку, баранчыка з белай зоркай між гузоў — яшчэ не вытыркнутых з кучаравых завіткаў шэрсці тупаватых рожкаў.

— Ага, во і зловіш, глядзі! — крычаў, узіраючыся з моста, Віктук Удод.

Але цёмны патайны вір, выварочваючы разам з аслізлым лісцем і чорнымі гнілымі каленцамі галля каламутную гліністую ваду, раптам закружыў у сваіх ямках-лейках баранчыка і пацягнуў яго ў бурлівы і страшны кіпень.

Захлёбваючыся вадою, баранчык замэкаў і згінуў у невідушчай каламуці вады.

Міця яшчэ вісеў над глыбокай, патайнай рэчкаю, што вірыла каля тоўстага камля вярбы, а на мосце ўскрыкваў спатажоны ад усяго няжданага Віктук Удод:

— Ах, іці тваю шапку, гэта ж каб трохі!..

Падняўшыся з калень, Міця памаленьку, трымаючыся за навіслае галлё, лез назад на бераг.

Недзе далёка ў кустах маладога алешніку, што трымаў на вяршках зрудзела-зеленаватае лісце, перапалохана і расцяжна бляяла авечка. Пэўна, учула гэтае астатняе смяртэльна-бездапаможнае мэканне дураслівага баранчыка. І цяпер, задзіраючы галаў і прыслухваючыся, ці не чуваць яшчэ яго голасу, ляцела сюды, нібы прадчувала, што ён недзе тут.

Ужо з берага Міця ўбачыў, як, крутнуўшы глыбока ўніз, вір зноў вынес баранчыка, але жыватом дагары; захлынуўшыся вадою, баранчык ужо не аказаўся і ціха, у мёртвым спакоі, пайшоў зноў на дно.

— Ядры іх ма! — крыкнуў з моста і прыстукнуў па пярыле кулаком Віктук Удод.— А дзе ж пастухі?

— Вунь пры агні,— паказаў Міця на сіні рэдзенькі дымок, што вяла кацiўся з грудка, зараслага круглаватымі, як макаўкі, кустамі маладога ялаўцу.

— О, басатва, каб хоць каторы зварухнуўся.

— Буракі, пэўна, пякуць,— Міця падышоў да моста, дзе яму зноў напярэймы падбег Віктук Удод.

— Так ты кажаш, што ёсцека спісы? — усунуўшы руку пад суконны шары каптан, Удод пачухаў грудзіну і скоса зіркнуў, падняўшы чорнае, закручанае ражком наскоса тапыраных валасоў брыво.— А чыю ж зямлю дзяліцьмуць? Кажуць, Грабянкову асаду. Калі праўда, то зямля ў даўнейшым фальварку добрая.

— Наконт гэтага гутаркі яшчэ не было,— прызнаўся Міця.

— Мне парабак [redacted] Міроўшчыны баяў. Яны маёнтак Стравінскага дзеляць: каровы ды коні людзям раздаюць.

— Не чуў я. Во іду ў Дварчаны, спытаю, можа, там выясніцца.

— Глядзі ж, Змітрычак, мяне не мінай,— забягаючы наперад, пакаўзнуўся на круглых маставінах Удод.

У Міцевай душы горкім накіпам паднялася крыўда да лісліваага і да прыкрасці агіднага Віктука Удода, бо ў Веласаве, калі падумаць ды прыкінуць, знайшліся б куды бяднейшыя гаспадары. Успомнілася раптам і тое, што перад самым Міцевым арыштам Віктук распытваў пра беларускія кніжкі і закідваў слаўцом, пераводзіў гутарку на палітыку.

— Я, як грыцца, малазямельны, чуеш, Змітрычак,— Удод выцягнуў руку з-за пазухі і, злавіўшы Міцю за гузік, патурзаў.— Новая ўласць стаіць за такіх, як я.

І наўрад ці адчапіўся б ад Міці ліпкі і слізкі, як смоўж, Удод, каб да моста ўслед за перапуджанаю авечкаю не нападаспела, блытаючыся доўгаю спадніцаю ў чарадзе і набіраючы цэлымі шчоткамі насення, старая ў расхрыстанай хустцы Кастуся.— Недзе ягня дзелася. Во як гавечка бляе. Мо ў рэчку, крый бог, увалілася.

— Дзелася,— перакрывіў Кастусю і адарваўся ад Міці Віктук Удод.— Ты, старая чапяла, чаго пільнуеш?

— Пільнаваць-то пільную, але ж ці ўскораю, ці сыдуся за гавечкаю. А ты не гідуй, не дурыся, калі бачыў, то скажы.

— Ягнятка вунь вада панясла.

— Вой, што ты кажаш? — старая растапыранаю пяцярнёю выцерла вочы і паглядзела ўздоўж жаўтлява-каламутнай, роўнай з берагамі рэчкі, што крута выгіналася пад навіслымі вербамі, адбіваючы шарае ў навале грудаватых хмар неба. Востры скразняк за паваротам маршчыніў шырокі пас настылай, здаецца, нерухомай вады.

— Праўда, цётка,— Міця паглядзеў на звялы з пасінелымі губамі Кастусін твар.

— Ах, божачка ты мой, [redacted] матка найсвенша! — старая ўсплёснула рукамі.

— Цяпер яна божкае, гэ,— крыва разявіўся Віктук Удод.— А дзе ж была? Нябось, забаўлялася, як маленькая, пры дзецях.

Міця, рады, што Удод, як барана ў лесе, зачапіўся за старую Кастусю, нарэшце скоранька перабег мост і, абыходзячы на выбухтаванай дарозе каламутныя, неадстояныя лужыны, заспяшаўся на зеленкаваты ад вільготнага моху круты грудок з учэпістымі кустамі ялаўцу, абсыпанага чорна-сіваватымі спелымі ягадамі: трэба было ўправіцца схадзіць у Дварчаны, завітаць у сялянскі камітэт ды ўчасна вярнуцца дадому — наказвалі зноў збіраць у Верасаве сход, меўся прыехаць вярбоўшчык.

Карцела Міцю і другое — убачыцца з Чэсяй ды сам-насам пагаварыць [redacted] Царыкам. За гэты няпоўны месяц на свеце змянілася і перавярнулася больш, як за які год.

Віляючы каля дарогі між ялаўцоў, дзе цэлымі выспамі натапырыліся сіваватыя, цяпер пад восень трохі бурачковыя скочкі, тупкая сцежка з натугаю выбегла на рудок.

Сыраваты вецер дыхнуў Міцю ў расхрыстаныя грудзі тугім і настылым холадам восені.

У нізкім і чэзлым, што прапах грыбніцаю, хвойніку смутна, ледзьве жывым голасам пераспеўваліся сініцы.

Сухі высокі шэлест бярэзін у рэдкім стракатым лісці нечаканаю жальбою абвеяў душу.

Міця любіў восень, адзіноту, сінявата-залацістае мільганне тонкай калючай павучыны, трапяткі шум лісця, шырыню бясконцага і неспазнага свету, але цяпер ужо чуў нейкі трохі памерклы цяжар сталасці, і ўсё кругом трациіла тую даўнейшую дзіцячую яснасць, тое неабдымнае хараство і замілаванасць.

Нават самога брала дзіва, што ён змяніўся за астатнія

гады, што ў душы змерк ясны і велічны свет даўняе радасці.

Жыло толькі нешта пакутна-замілаванае да Чэсі, і Міця ўжо ведаў, што гэты салодкі боль прынесла каханне. І яго нязведаная, неспазнаная таямніца, як незагойная рана, шчымела ў душы. Вялікі клубок калючага страху пераварочваўся пад сэрцам: Міця баяўся размінуцца з Чэсяй, страціць яе ў каламутным віры дзён; мяняўся час, мяняўся і лёс людзей — так скора і так нягадана.

Падагнаны трывогай, што, можа, яе не было і няма ў Дварчанах, разгарачаны ад скорае хады, Міця мінуў густа-шапаткі, раскалыханы ветрам хвойнік і выйшаў з яру на адкрыты скразняк гарбатых пагоркаў, цёмна-зялёных ад зарунелага жыта. Мякка і ледзьве чутна шаптала і тлуста льснілася кусцістая рунь.

Узрадаваны ад далечыні, што адбірала вочы, ад прастору, астуджаны ветрам, Міця пайшоў трохі вальней, коўзаючыся на тлуста-глiністай, раскіслай дарозе. Наперадзе ў лагчыне, дзеўбучы сухім тонкім кійком бурачковую пажухлую траву, памалу ківалася старая кабета ў вялікай накінутай на плечы суконнай хустцы. Не даходзячы, Міця пазнаў з іхняга Верасава старую Сцяпаню, як ведаў, даўнейшую мацерыну таварышку.

— Дзень добры, цётка. Далёка выправіліся? — загаварыў ён, каб моўчкі не мінуць кабету, з якою цяпер ужо зналася Алеся.

— Да касцёла іду. Во, не могучы... Скруціла мяне некая ліхата.

— Ці ж дома не памаліліся б?

— Праўду кажаш, дома памалілася б, каб маладыя не зняверыліся. Кажуць, вунь чалавек з Навасадаў адламаў галаў святому Яну, што каля рэчкі ў Дварчанах стаяў, але і сам згінуў.

— Як?

— Пад самаход зваліўся.

— Не выдумалі?..

— Такога і не прыдумаеш, як зрабілася,— старая Сцяпаня нават прыспешыла хаду, каб ускорыць за Міцем.— Конь спудзіўся і выкінуў з воза пеदаўярка акраз пад самаход.

— Калі ж гэта здарылася?

— Надоечы... Ёсць боская кара на такіх. Ты, Змітрычак, хоць не грашы. Злыдзень, ён пад'юшчвае!..— крык-

нула наўздагон старая, захлынаючыся ад ветру, і, азірнуўшыся, Міця ўбачыў, як яна хрысціць яго, робячы скручаную рукою крыж.

Халодны скразняк прабег па спіне: успомнілася мацi, тое даўняе, як аднаго разу яны пайшлі ў госці і цётка Сцяпаня частавала іх мёдам з пухкімі грэцкімі аладкамі, а потым ужо гэтага цёмнага і густога, як вішнёвая смала, мёду дала з сабою, ажно цэлую бутэльку — на лякарства. Спакуслівая бутэлька з аструганым, уваткнутым калочкам стаяла на паліцы ў цёмна-халоднай варыўні, і Міця, нават з ахвотаю на мацерыну просьбу што-небудзь прынесці, выскокваў з хаты, каб сцішком выцягнуць з бутэлькі аструганы калочак і аблізаць халодна-сцукраваны, ужо тугі мёд.

Помнілася не толькі гэтае частаванне мёдам, помнілася і тая кніжка з намалёваным у чырвоных ботах цыбатым танканогім буслам, якога Міцю паказваў Сцяпанін сын Метак, заходзячыся ад рогату, а Міцю не бралі смешкі, ён ужо стала і панура маўчаў, ведаючы, што гэтыя чырвоныя боты намалёваны дзеля жарту.

Распусны Метак, падросшы, уцёк з дому, туляўся ў Варшаве, зрабіўся беспрацоўным, жывучы на мізэрныя злоты, што выдавалі гэткім, як ён, і завашывены вярнуўся дадому, але ў Верасаве не ўседзеў і паехаў у Францыю на заработкі.

Сцяпаня, гаруючы па сыну, зблажэла і састарылася саўсім і цяпер, зняверыўшыся, што ён жывы ды здаровы, шчыра і да бяспамяцтва аддана малілася за яго.

Міця азірнуўся: згорбленая Сцяпаня памаленьку калывалася, мацаючы высокім арэхавым кійком вузкую сцежку, што вілася ў густой і збэрсанай, як кудзеля, траве. Знябожанае, пакутна-горкае было штось у яе хадзе.

У навале грудаватых хмар, сівых і халодных, нечаканай радасцю выблісквала яснасць, і трапяткім, растопленым волавам пераліваліся і гаслі рабыя, зморшчаныя ветрам лужыны на раскіслай асенняй дарозе. З даўнейшага, абгароджанага густым яловым частаколам хутара асіплатоўстым голасам адазваўся сабака. На нізкай пазелянелай страсе хлевушка ляжалі жоўтыя і доўгія, як парасяты, выспеленыя гарбузы, толькі за гумном на вузкіх градах разляглася, раскінуўшы шырокае дзіравае лісце і выставіўшы лабатыя качаны, сівая, яшчэ не высечаная капуста і злягло чырванаватае бацвінне цвікловых буракоў.

Ніхто яшчэ не выбіраў гародаў, чакаючы астатняга асенняга свята — галавасека, на якога шаткуюць капусту, выбраўшы буракі, бручку ды рэпу.

Міця глядзеў на шарую, падзёўбаную дажджамі раллю, на клін зялёнай руні, што харашыла смутнае пустое поле, на замглёныя сіняю смугою грабянцы лесу, з жоўтымі чубкамі ды прылескамі нізкага грабу і гарэшніку, на адзінокія з сухаверхімі кронамі хвойкі, што аўдавелымі бабамі, да якіх доўга не прыходзіць смерць, векавалі на прымежках, сярод поля, на калючыя дзікія грушы з шурпатымі крывымі камлямі — жоўта-бурачковыя або ўжо асыпаныя, чорна-згалелыя,— і ў душы млеў смутак, перамешаны з нядужай, празрыстай і крохкай радасцю, што ён, Міця, зноў дома, што бачыць гэты блізкі свет роднага поля ў пахлівым пырханні смутных жаваранкаў і чуе нагамі чорствы жвір дарогі. Чамусьці неўпрыкмет і раптам прыгадалася тая вузкая, як труна, камера, ■ якой на пэўную смерць пайшоў ссутулены і няскладны, з цяжкім, як бусліны дзюб, носам вязень Мазура.

І Міця ў горкай жальбе падумаў, як стыне ў асеннім холадзе амярцвелае, пустое поле недзе пры шырокім пясчаным гасцінцы, каля невядомай вёсачкі пад Беластокам, куды не вярнуўся, не прыйшоў і не прыйдзе ніколі ціхі душою, нічым і ні перад кім не вінаваты Мазура.

«А можа, ён жывы?» — зыркім агнём шуганула спадзяванне і згасла зноў. «Няўжо застрэлены?» І Міцю, як вялікая хмара, накрыла цемната вінаватасці, чаму не прызнаўся, не назваў сваё прозвішча, калі забіралі Мазуру. А хіба перамог бы сябе перад холадам адчаю і страху, што так абязвечыў і спаралізаваў усяго, не даў нават вымавіць слова. Няўжо чалавек не можа пераступіць мяжу, за якою пачынаецца чорная прорва смерці? Лягчэй, пэўна, памерці перад людзьмі, перад крэўнымі ці нават чужымі, што здрыганууцца ад жаху, перакаўтнуўшы горкі камяк жалю і шкадавання, і цяжка і, мусіць, да звар'яцелага адчаю пакутна адысці на той свет перад пустэчай невядомасці, калі ніхто не будзе ні знаць, ні ведаць ні дня твае смерці, ні твае зруйнаванае магілы. Але ж смерць не выбіраюць, выбірае яна...

Цяпер Міцю помніўся той даўні гідкі страх, што адабраў волю і розум, пакінуўшы толькі адно — усцерагчыся ад немінучай смерці, стаіцца, замерці хоць на міг, як за-

мірае на ліпка-напятай і адкрытай павучыне дробны павучок, перад тым, калі яна парвецца.

Але чаму ж тады не баяўся Мазура? А мо не спадзяваўся, што ідзе на смерць?

Міця выцер змакрэлы лоб, чуючы, як млеюць, ныюць і шчымяць падбітыя хадою ногі, і памалу выйшаў на засыпаную гаркавата-сырым бярозавым лісцем шашу, дзе марудна паўзла і траслася на бруку фурманка. Нават быў ірвануўся да яе, нечакана аслупянеўшы: на возе сядзеў Вайтовіч. У задку на новай з ружовым узорам радзюжцы прыпаднялася, убачыўшы Міцю, падгладзіла пад хустку валасы і падхарашылася Яніна. Чырвань неспадзявай маладой радасці заліла яе тварок.

Міця быдта незнарок, быдта зашнураваць чаравік, нагнуўся, каб перачакаць, покуль праедзе Вайтовіч, але фурманка, рассыпаўшы крохкі высокі грукат, нечакана спынілася.

— Го, Корсак, давай шыбчэй, падвязу! — абярнуўся назад і, прыскальваючы адно вока, крыкнуў Вайтовіч.

Як з цёмнай глыбіні, з памяці выплыла нядаўняе: росная раніца, гумно, Алесін нечаканы плач, мардаты паліцыянт Гура і збянтэжаны, што прыгнуўся, не ведаючы, дзе дзецца, ён, Янка Вайтовіч, што, пэўна, і прывёў паліцыю. Нешта нядобрае, злое і помслівае варухнулася ў душы да збрыджанага Вайтовіча, калі Міця нехаця падышоў да воза. Вайтовіч нібы счуў гэтую злосць:

— Бачу, знацца не хочаш, а я скажу, панечку мой,— Вайтовіч скоса зіркнуў на дачку, што насцярожана-круглымі шарымі вачмі, стуліўшы падпухлыя губкі, паглядала на Міцю,— віны перад табою не маю.

— Што спамінаць старое,— няпэўна сказаў Міця, прыглядаючыся і таксама цікуючы на Яніну, на яе абвіты цёплай малінавай хусткай тварок, што рдзеў ні то ад сарамяжнасці, ні то ад хусткі.

— Гэта, кажуць, у лесніка на кожнай хвойцы боты вісяць, а я прыбытку ад свае службы не меў, а толькі нараканне.

— Чаму ж нараканне?

— Во і ты, бачу, ідзеш і не ўзглянеш.

— Падалося вам.

— Каб жа ж...— Вайтовіч угнуўся, глядзеў назад, на вузкую, сціснутую абапал бярэзінамі шашу, дзе на няроўным бруку вуркатаў і ляскаў жалезам грузавік, блі-

скаючы дзвюма жаўтлявымі шыбамі пярэдняга акна.— А цябе ратаваў як мог. Яе ж выправіў наказаць, што паліцыя прыехала.

— Хіба ж я не помню.

— А за што ж мяне так на сходзе зняславілі?

— Гэта, мусіць, шуткавалі.

— Тыр-р! — Вайтовіч напяў лейцы, стрымліваючы трохі перапуджаную, што застрыгла вушамі, кабылку, і ўжо сказаў, калі, дыхнуўшы скразняком і смыродлівым бензінам, праляскаў скрыняй чорны [redacted] брызентавай шафёркай грузавік.— Людзей я не ўдаваў, няхай кажуць, што хочуць. І вешацца не буду, як доктар Пятроўскі, ці страляцца, як асаднік Закрэўскі.

— А што [redacted] Пятроўскім? Няўжо праўда? — здзівіўся Міця, ідучы зводдаль воза.— Што змусіла?..

— Хэ, што, ты яшчэ пытаеш?.. Садзіся, падвязу во,— Вайтовіч падсунуўся, паказаў на свабоднае, утоптанае месца поруч [redacted] дачкою.

— Ага, садзіся, Змітрык. Я ж чула, ты хварэў,— з-пад шнуркоў бровак зірнулі шарыя затоена-цікаўныя вочкі.

— Акрыяў ужо...

— Не дурыся, хлопец, не гізуй, сядзь во,— Вайтовіч пацягнуў да сябе лейцы і прыпыніў каня.

Ён і падвёз Міцю ўжо да самага мястэчка, бядуючы і наракаючы на сябе, што па маладой дурнаце ўсунуўся ў хамут — быў солтысам, а цяпер свет перавярнуўся дагары нагамі, толькі і глядзі, з якога боку загрыміць.

— Во і ты гэтаксама...— намякнуў Вайтовіч і асекся.

— Вучыцца ён будзе,— нібы ўгадваючы яго думкі, за Міцю адказала Яніна.

— Праўда, думаю вучыцца,— усміхнуўся Міця, пазіраючы на яе мякенькую, падцятую ніжнюю губку.— А ты?

— Перарасла я,— загарэлая за лета, смуглявая рука змахнула з вачэй, падгладзіўшы пад хустку, пасму валасоў.— Хіба ў вячэрнюю?.. Але ці ж пойдзеш поначы адна. Блізкі свет...

— Тады мо разам?.. Я збіраюся.

— Патрэбна бабе навука,— нібы не ў знак, але [redacted] ганьбаю сказаў Вайтовіч.

— Маўчы, тата, свет цяпер іншы, за кроснамі ды прадзівам не ўседзіш.

— Што не дадуць уседзець, то не дадуць... Но-о, каб на цябе! — панура крыкнуў Вайтовіч і турзануў за лейцы.

Кабылка натужліва ўгнула голаў, збіваючыся з павольнай хады, часцей зацюкала падковамі. Фурманка мінула чырвоны касцёл, што высока, як скінуць вокам, падымаў дзве вострыя вежы над паджоўклымі старымі клёнамі, і намалу каля пабеленых хатаў, прыхаваных зацішкам гародчыкаў, дзе дагаралі цяжкія шапкі вяргіняў, уехала ў мястэчка.

— Мы тудака да краўчыхі,— павярнуў свой схуднелы, няголены твар Вайтовіч, калі мінулі пераезд і воз скаціўся з бруку і зашалясцеў коламі па сыпкім пяску, уязджаючы ў вузкі завулак.

— Тады я выскачу, мне ў камітэт,— Міця, перакінуўшы ногі цераз драбінку, слізгануў на закурэлы спарышнік каля сцежкі.

— Ты ж, Змітрык, не забудзься распытаць пра школу,— над дужкаю брыва Яніна ізноў злавіла скурчанаю жменькаю рассыпаную пасму.

— Не,— сарамяжа ўсміхнуўся ён, успомніўшы пра Чэсю і радуючыся, што ёсць зачэпка шукаць яе ды намовіць таксама пайсці ў вячэрнюю школу.

— І накажаш мне!..— разам з возам памаленьку паплыў пясчанай вуліцай Янінін голас.

Міця глядзеў, як за пабеленым і ўжо аблезлым ад дажджу плотам, за трапяткім, шумным прысаддзем, што цэлым вадаспадам сыпала лісце, хавалася спярэшчаная чорнымі балонкамі хустка, і ў душы зварухнулася мяккая чуласць да гэтага шустрага дзяўчаці, што нечакана вылюднела ў спрытную прывабную дзяўчыну, прыгадаўся той вечар, калі яна прыбегла на поплаў наказваць, што ў вёсцы з'явіліся паліцыянты, і, стоячы на другі бок рэчкі, зманліва пасмехвалася і шпурляла, разламаўшы папалам, шорстка-калючую шчотку спелага сланечніку. Спомнілася і тое, што ў Верасаве нават бабы прымячалі Янініна хараство: «Сама чарнявая, а вочы як пралескі. Удалая дзяўчына».

Чуючы, як сэрца аблашчвала гаючая і шчодрая дабрата, Міця завярнуў на шары, выкладзены цэментнымі плітамі тратуар, мінуў ашалёваны дамок аптэкі, прайшоў каля зачыненых на завалы яўрэйскіх крамаў. Бязлюдна было на сцішнай насцярожлівай вуліцы. Толькі на высокім дашчаным ганку, падпёртым двума круглымі слупкамі, курыў рослы маўклівы вайсковец у фуражцы з малінавым аколышам, і каля ганка прыглушана вуркатаў і вы-

плюхваў з-пад бліскучай накрывачкі радыятара вар чорны і прысадзісты, як жук, легкавы аўтамабіль.

Міця дзеля цікавасці — [redacted] на якія ж грошы гандлюе Герцык? — таксама завярнуў у краму, убачыўшы там маладых дзяўчат у сівых барашкавых кубанках і варсістых шынялях. Паўнатварыя, курносыя і невысокага росту, яны перашэптваліся між сабою, разгарнуўшы на прылаўку скрутак цёмнага, як пабітага воспаю, стракатага крэпу. Мусіць, набіралі сабе на зімнія касцюмчыкі ці сукенкі.

За прылаўкам калываўся, накульгваючы на кароткую нагу, пільны, як певень, з адным паднятым брывом, з нягоўна павыстрыганаю нажніцамі пасівелаю барадою, сутулаваты Герцык:

— Вшыстко, нема юж.

— Что он говорит? Что? — вытарашчыла свае лупаценькія чарнявыя вочкі адна з дзяўчат у пасаджанай набакір барашкавай кубанцы.

— Што ўсё прадаў,— пасмехваючыся, падказаў Міця.

— Ага, усё. Нема ніцца, как гаварыцца,— Герцык закалываўся сюды, дзе на другі бок прылаўка стаяў Міця.— Камітэт мяне трасе, дае расказ — прадавай. А што прадавай? Матэрыя скончылася. На нет суда нет. Збыў усё. Даўней — злот, цяпер — рубель. Хто знае, што я зарабіў? Іншыя не прадавалі, то розум мелі. А я — такі, што меў, тое прадаў. Раз трэба, так трэба.

— Можно вас, товарищ продавец,— паклікала да сябе, падняўшы руку і варушачы кароценькімі пальчыкамі, мардаценькая курносенькая салдатка.

— Ну, дзякуй і за гэта, таварышам называюць.— Герцык мігнуў лупаватым вокам, падняў [redacted] прылаўка шырокі, акуты з двух канцоў драўляны метр і, махаючы, пайшоў да паўнагрудых дзяўчат у варсістых шынялях.

Міця адчыніў цяжкія філянговыя дзверы, над якімі глэнгаў званок. Каля ганка дрыжала, вуркочучы і чмыхаючы сіняватым дымком, гарбатая легкавушка. Вайсковец ужо сядзеў у ёй і нецярпліва курыў, прыадчыніўшы дзверцы. З-за іх высунулася фуражка з прамым казырком і мацінавым аколышам і бліснулі бялкамі падпухлыя вочы:

— Может, скажешь, как проехать на Слоним?

— Скажу,— Міця махнуў рукою назад.— Во направа і на Зецялу.

— А далеко?

— Кіламетраў сорак.

— Ничего себе.

Дзверцы тугавата ляпнулі, і машына, пастрэльваючы маторам, пачала разварочвацца, перапудзіўшы каля плота курэй, што з лопатам і кудахтаннем ляцелі да адчыненых веснікаў.

Нізка над бліщчастымі лысінамі бруку вецер панёс сінаваты дым перагаранага бензіну. Над платамі гнуліся і спелай густой чырванню гарэлі зраджайныя рабіны — знак на снежную зіму. Сухім, па-асенняму смутным і схаладнелым шэлестам у дварах шапацелі белыя, няроўныя ў камлях бярэзіны. Зеленкаватая ад вільгаці гонта хат, шарыя тоўста-саламяныя стрэхі хлевушкоў і гумнаў былі засыпаны пабітым іржою і размаітым лісцем старых, ужо згалелых груш, вязаў і ліп. Сцежку, што ліснілася і бегла пад расхрыстанымі аканіцамі, абступалі вялікія махрыстыя кветкі чырвона-белых вяргіняў.

Міця падышоў да Паштовай і знямеў: з-за рога пафарбаванага карычневага плота паказалася старая Грабянчыха. На шарым рукаве габардзінавага плашча страхатлівай жалобай чарнела крэпавая павязка. Твар зняў і зжоўк ад змардаванасці, нос завастрыўся, і яна нават пабрыдчэла, згорбілася і сцішэла, страціла рухавасць у хадзе.

Успомніўшы пра Чэсю і бачачы, што Грабянчыха пераходзіць на другі бок вуліцы, Міця прыспешыў ёй напярэймы.

— Дзень добры!

Грабянчыха адступілася, і нарэшце на яе схуднелым, звялым твары варухнулася штось жывое:

— А, гэта вы, Міцёк?.. Не пазнала.

— Як маецеся?

— Хіба не бачыце?.. Хрыстэ, змілуй сень над намі, цо сень дзее.

Міця маўчаў, прыгадаўшы ўжо чутае ў Верасаве. Нарэшце папытаў і задыхнуўся ад нясцерпнага чакання:

— А дзе Чэся?

— З намі яна,— нібы нехаця варухнуліся сінявата-бяскроўныя губы.

— Хацеў бы ўбачыцца з ёю.

— Нема ей в дому, поїэдла до товарышкі свэй, до Закшэвскей,— шараватыя, затуманеныя смуткам вочы хавалі непрыязнасць і злосць.— До відзэня.

Учуўшы перад ёю нібы сваю віну, Міця ўгнуў голаў і, топчучы шапаткое, назмятанае да штакецін разам з ку-

рыным пер'ем празрыстае кляновае лісце, ціха пасунуўся ўздоўж плота; сам-насам разважаў: заходзіць да Грабянкаў ці не.

Але адагнаў ад сябе сумненне і спыніўся напроці моцнага, складзенага з брусоў дома, што падымаў свой востры дах пад выгінастыя, развесістыя лапы старых, разгойданых ветрам хвоек. Бляха намутнела, на ёй толькі блішчалі тры новыя латкі: адна на грабяні — падоўжная, і дзве ніжай — папяровачныя.

На выбітай шыбе аконца ў шчыце сядзеў голуб, ужо адлінялы, дымна-ружаваты. Хаваючыся за нізкія, згалелыя кусты акацыі, стоена глядзелі на вуліцу цёмныя вокны, завешаныя жоўта-залацістымі гардзінамі.

Нечаканы віхор, закруціўшы апалае лісце, косым валам пагнаў яго ўздоўж вуліцы. Міця ўслед за гэтай мігатлівай, шапаткой мяцеліцай падышоў да зашчэпленых веснікаў і захлынуўся ад гарачыні. Зачыненыя дзверы ганка, белыя шчытныя гардзіны на вокнах з цёмнымі глыбокімі складкамі палохалі невядомасцю і жуткай трывогай — тут ці не Чэся. Перад вачмі мільгануў той ужо далёкі дзень зімы, калі яна ў ружаватым гуцульскім кажушку, у бярэціку, з-пад якога выбіваліся густыя залацістыя валасы, расчырванелая пасля хатняга цяпла, разам з сястрою, маладой Грабянчыхай, выбегла на двор, каб паглядзець на купленае цялятка, якое прывёз Літавар.

Міця папхнуў рыпучыя веснічы і, не дайшоўшы да драўляных драбінак, што ляжалі перад шэрымі цэментовымі сходцамі, у сябе за спіною ўчуў радасна-чаканы і такі сама ўсхваляваны-дрыготкі Чэсін голас:

— Міцек, Міцек!

Не верачы яшчэ гэтаму мякка-звонкаму і пяшчотнаміламу голасу, аступіўся перад драўлянымі драбінцамі.

— Ой, адкуль ты тут? — Яна, зардзеўшы ад шчасця, падбегла да ганка, трохі пахуднелая, у карычнявата-рабенькім суконным сачыку з чорным, абшытым аксамітам каўнерыкам і чорнымі закарвашамі.

З карычневай, пад колер сачыка, муфты яна дастала руку, і ён сціснуў яе цёплыя трапяткія пальцы, учуўшы ў гэтым дотыку палёгку і салодкі боль даўно жаданай сустрэчы.

Чэсіны вочы завільгатнелі бляскам.

Ён, не вытрываўшы яе ўпартага, пільнага зірку мокрых, шчаслівых вачэй, угнуў галаў:

— А я цябе шукаў у Баранавічах.

— Мы ўцякалі ад бомбаў, спадзяваліся, што тут будзе зацішна,— яна наском туфля са жвірыстым хрустам пакатала круглы на сцежцы каменьчык.— Такі смутны час... Мы збіраемся зноў...

— Куды? — Ён чуў, як халодны скразняк абвеяў душу.

— У Варшаву... Кажуць, можна перайсці граніцу.

— Апомніся, Чэся,— там вайна.

— А тут?..

— Што ты выдумала?

— Хіба не чуў? Забілі Юрака. Анця як сама не свая.

— Я ведаю,— прызнаўся Міця і ўзяў Чэсю за локаць: даўняя спакутаваная любасць варухнулася ў сэрцы.— Я прыйшоў з табою пагаварыць... Можа, пройдзем трохі вуліцаю?

Яна востра і спадлоб'я зіркнула на яго, але першаю выйшла за весніцы. Спынілася каля цёмнага, у варухлівым, яшчэ не асыпаным лісці высокага куста бэзу:

— Пастаім тут у зацішку.

— Чаму ты не пытаеш, дзе я быў? — у яго душы яшчэ ўсё віравала шалёная, п'яная і неразважлівая радасць.

— А дзе? — яна вялікімі ад дзіва вачмі зіркнула на яго.

— Мяне ж інтэрнавалі... У першы дзень, як пачалася вайна.

— Я бачу, ты нейкі змардаваны.

— Дзіва што, я цэлы дзень бег. Ты не паверыш — да цябе ў Баранавічы...

— Твой божа, адкуль?

— З канцэнтрацыйнага лагера, з Бярозы Картузскай. Яшчэ не акрыялі, не адышлі ногі.

Яна, здрыгануўшы ад холаду і хаваючы рукі ў муфту, адступілася пад цёмны, апечаны прымаразкам куст бэзу, сказала па-польску:

— Міцек, ты такі нешчэнслівы. Бедна моя глова... Ты ешчэ дзецко.

— Я хачу, каб ты пайшла ў школу.

— Якую школу?

— Вячэрнюю. Нам трэба вучыцца.

— Нашто мне гэты клопат.

— А я думаў, мы разам будзем хадзіць зноў да школы.

— Міцек, я хцэн спакою... Я не вем, цо робіць. Доктар Длубак, бардзо мілы і добры чловек, кліча мяне ў бальніцу.

— Хіба гэта перашкодзіць? — Міця сказаў і ўбачыў, як змяніўся, скамянеў і зрабіўся нейкім непрыступным Чэсін твар.

— Он упжэйму далікатны. Падоба сень мацi i сёстры...[1]

— I што? — раптоўна, як спадыспаду кастра, у Міцевай душы выбілася, шуганула і завілося трапятлівае полымя падазронасці і злоснай рэўнасці.

— Мамця і сёстра выперон мі за него замонж. Я поведзелэм собе: жучэн вшыстко і поядэн. Не умеен быць церплівон... [2]

— Куды ты пойдзеш? — ён учуў, як у яго палёгкаю ўжо і ратункам, як вільготным дажджом, акрапілася душа.

— Не на спацыр, вядома,— яна азірнулася, стуліла плечы і падняла абшыты аксамітам каўнерык.— Тут бежанцы ■ Варшавы... Да дантыста нелегальна праз граніцу перайшла жонка. На Новы год збіраюцца існі назад, кажуць, што гэта найлепшая пара. Возьмуць мяне,— шараватыя Чэсіны вочы мякка зіркнулі на Міцю, міргнуўшы дужкамі густых, падкручаных вейкаў.— Я папрашу, каб узялі і цябе...

Дух забівала радасць, што Чэся хоча быць з ім, і страх, перамешаны з пакутай, што ён не пойдзе ■ ёю, што яны могуць разлучыцца, і, пэўна, назаўсёды.

— Отповедзь [3],— мяккія губы яе здрыгануліся, і ў куточках іх застыла крыўда.— Ты пойдзеш са мною?

— Пра што ты гаворыш?

— Так чы не? Ты пойдзеш са мною?

Міця маўчаў: тугі вузел невыноснага страху, роспачы і адчаю зашморгваў і душыў яго.

— Тады — прэч!

— Чэся!..

— Прэч, кажу! — Яна подбегам ірванулася да брамкі. Прыстук дзвярэй на ганку з матавым распісным шклом у балонах схаваў яе.

Ад здранцвення, жаху, утрапёнасці Міцю ачуціў шапаткі парыўны віхор, што закруціў сюды, за рог плота, падымаючы разам з курыным пер'ем звітае ў трубку падсохлае лісце і гонячы яго зноў косым валам па небрукаванай пясчанай вуліцы.

---

[1] Ён вельмі далікатны. Падабаецца маме і сястры... *(польск.)*

[2] Мама і сястра выпіраюць мяне за яго замуж. Я сказала сабе: кіну ўсё і паеду. Не ўмею быць цярплівай... *(польск.)*

[3] Адкажы *(польск.)*

Рыжы калматы сабака, высунуўшыся з адчыненай ветрам форткі, пабег, вынюхваючы нешта каля плота, і ўслед за ім заківаўся на крывых ножках хлопец год пяці ў кароткіх штоніках са станікам і ў зімовай шапцы з брыльком.

— Юлек, Юлек! — за плотам каля карычневага ашалёванага дома з мансардаю крычала кабета.

Хлопчык, учуўшы старэчы сіпаты голас, што было моцы рвануўся ўперад, закалываўшыся і чапляючыся крывымі, як абручы, ножкамі адна за адну. Гэльцаючы круга яго і забаўляючыся, бег калматы сабака.

— Чуеш, Юлек! — на вуліцу заспяшалася нямоглая старая кабета і, зяхаючы ад задухі, закляла: — Нават і не азірнецца, каб на цябе халера ўвярнулася.

Міця засмяяўся, апярэджваючы непаслушнага хлопчыка, што не ўпершыню, мусіць, уцякаў гэтак з двара, са смуткам азірнуўся на глухі Грабянкаў дом з цынкавым памутнелым дахам, на густыя і нахіленыя, як шапкі ў старых грыбоў, кроны старавечных хвоек, што гайдалі выгінастымі сівавата-зялёнымі лапамі, і памалу выйшаў на дварчанскі рынычны пляц, бойкі ад ляскату калёс, люднасці, глухаватага патрублівання грузавіка.

У душы разбушаваным кіпнем пераварочвалася злосць, жальба і шкадаванне: няўжо ён больш не сустрэнецца з Чэсяй, няўжо ўсё так неспадзявана згіне, не завязаўшыся, упадзе, як спалены маланкай арэх, пусты і чорны, і няўжо ім не суджана быць разам? А колькі яму перадумалася, пеажылося ўжо сам-насам у тым выдуманым свеце — хараства і радасці.

Як неспадзявана мяняецца і перайначваецца жыццё. Як ён баяўся, што гэтыя раптоўныя змены, калатэча, вайна разлучаць яго з Чэсяй. Колькі ён думаў пра гэта, сцішыўшыся перад сном у турэмнай камеры, калі ўсе задушліва храплі і стагнаў, мусіць, ад болю, паранены нямецкі лётчык, калі прыгадвалася ўсё: і нядаўняе дзяцінства, і Верасава, і школа, і бясконца — з пяшчотай і любасцю — яна, Чэся... А найбольш — летняя кароткая і светлая ноч у адзінокай кватэры ў Баранавічах і той бесперастанку цяжкі, з дрыжаннем зямлі, грукат цягнікоў... Міця нават тады пачынаў шкадаваць, што не быў смелы, як мужчына, што не меў блізкасці з ёю...

Яго мучыла і гняла тады рэўнасць, што з некім будзе жыць гэтая ўдалая хараством, ласкавая дзяўчына, што нехта будзе абдымаць, груба і брыдка туліць да сябе.

Не, сёння яна была непадступна-злосная, нават пабрыдчэлая з твару.

Няўжо канец усяму — надзеі, высненаму шчасцю? Няўжо гэтак неспадзявана змеркне, астанецца нежывым і абрыдлым свет?..

Раптоўны, гучна-захлёбісты званок веласіпедыста, што, крута нахіліўшыся, выехаў з-за завулка, спыніў і адвярэзіў Міцю. Ён стаяў і глядзеў як каля нізкіх, падразаных бештовясны ясеняў з тоўстымі куксамі камлёў, напроці белых двухпавярховых мураванак збівалі з сырых смалістапахучых, прывезеных надоечы ■ тартака дошак жоўтую трыбуну са сходцамі і парэнчамі.

З круглага акна, што цямнела ў белым шчыпцы з піклямі шырокага атынкаванага дома, уроскід высунуліся два чырвоныя штандары. Тугі вільготны вецер парывістым віхрам ірваў і круціў выфарбаваны ў плямы паркаль.

Шыбуючы наўпрасты праз слізкаваты, пагрызены гусеніцамі танкаў брук да белых мураванак, пад якімі жаўцела новая трыбуна, Міця дагадваўся — Дварчаны рыхтуюцца да мітынгу. На карнізе шарай, з выпуклых пустакаў [1] крамы трапятаўся туга напяты чырвоны транспарант ■ белымі вялікімі літарамі: «Галасуем за кандыдатаў народа!»

З хлёсткім ляскатам прыстукваючы малатком па плешцы цвіка, што лёгка ўпіўся ў сырую дошку, на Міцю азірнуўся і сказаў, пазнаўшы ці проста каб памянціць языком, стары дварчанскі Ладзімер — леташні Алесін малацьбіт:

— Ёсцека адкуль крыкнуць «Ура!».

— Ёсць,— усміхнуўся Міця.

— А што — жыцце новае настала. Каб мне, старому, гадоў пятнаццаць скінуць, то жыў бы на ўсю ногу. І так збіраюся ў Данбас...

— Куды? — не паверыўшы, перапытаў Міця.

— У шахты думаю з'ездзіць. Паявіўся тут вярбоўшчык. Сыты, гляджу, гладкі. Добра жывуць там у Расіі,— і, прыжмурыўшыся, перапытаў: — Што, не праўду кажу?

— Туды, пэўна, вярбуюць маладых?

— Я ж кажу, каб год пяцьдзесят было, то жыў бы на ўсю ногу,— ён зноў прыстукнуў малатком.

Міця прыпыніўся каля невысокіх, на тры прыступкі, цэментовых сходцаў. З левага боку зарашочаных дзвярэй

[1] Пустакі — пустацелыя блокі.

нечаканай абновай блішчала бляшаная, без рамкі, шыльда: на сіняй фарбе белымі касаватымі літарамі надпіс — «Дварчанскі валасны камітэт», а над ім — пяціканцовая зорка.

З малога, прапахлага асенняй вільгаццю і гаркаватым тынкам вестыбюля драўляная, з аблупчанай фарбай рыпучая лесвіца падымалася на другі паверх. Калідор тут разбягаўся на два бакі. Засланіўшы акно, у цямнейшым кутку стаялі людзі. Мяккіх, у зялёнай абіўцы крэслаў было ўсяго два. У адным, парыпваючы спружынамі, гушкаўся і выскаляў шчарбаты рот мурлаты мужчына:

— Грабянкавыя, пэўна.

— А не ксяндзоўскія? — спытаў маладзейшы і далікатны з твару і, узяўшыся за фігурныя падлакотнікі, таксама гайдануўся ў крэсле.

— Што ты мне кажаш,— скрывіў у злосці ніжнюю адвіслую губу мурлаты мужчына.

— А тое і кажу, што ксяндзовыя крэслы пабраў Царык... І скуранoe паліто. Бачыў?

— Бачыць-то бачыў, але ці праўду кажаш?

— Вот яшчэ чалавек, не верыць,— незалюбіў і цвёрда сказаў зарослы чорнай шчацінай мурлаты мужчына і зноў гушкануўся ў мяккім спружыністым крэсле.

Міця прайшоў міма іх, намерыўшыся ўсунуцца ў пачакальню, але ў дзвярах, прыпёршыся спіною да вушакоў, непрыступна стаялі, калі не лічыць гэтага, што гушкаўся ў крэсле, хлопца, усе сталыя, шмат старэйшыя за Міцю мужчыны.

Сярод іх смяялася, моршчачы пукаты лоб, круглавідая маладзіца і сарамяжа апускала загарэлы, рудаваты твар невысокае з кудзеркамі рыжых, выбітых з-пад хусткі валасоў дзяўчо ў плюшавым, што пераліваласся і мяняла колер, чорным паліто.

У сапрэлую ад цяжкага духу пачакальню адчыніліся абабітыя цыратай дзверы ў ромбіку медных цвікоў, і над чужымі галовамі Міця ўбачыў чорную ў іскрах сівізны і рассыпаную дзвюма грывамі на вушы Царыкаву чупрыну. Карыя вочы прыжмурыліся, аббягаючы ўсіх, і раптам, на які міг, спыніліся на Міці.

— А, Корсак, ты тут? — Царык адкінуў назад слізкі рассыпаны застрэпак валасоў і рушыў праз грамаду людзей сюды на калідор.

Міця ўчуў густы пах заядлага курца, што толькі вы-

смактаў папяросу, і нямоцны поціск халодных, выпетраных рук.

— Дзе не разлучаліся, абы спаткаліся,— Царык засмяяўся, паказваючы шчарбіну ў верхнім кутку рота.— Хоць і не спадзяваўся, што вярнуўся. Але, халера, чалавек жывучы. На ім усё зажывае, як на сабаку... А ты як?

— Пакаштаваў і я гэтага хлеба.

— Чуў,— Царык зноў адкінуў рассыпаную стрэшку чорна-сіваватых слізкіх валасоў.— Табе мо трохі было лягчэй. Я ж у гродзенскай, у самай страшнай сядзеў. Нават у карцэры, а там — сцены ў калючым дроце, каб не прысланіўся, і на галаў вада капае, як са ржавага вядра, па адной капельцы. Я ж кажу: чалавек трывушчы, як сабака. Але пагаворым. Трэба во асаджваць рой. Чуеш, як разгуліся,— Царык абярнуўся, махнуў рукою на адчыненыя цяжкія дзверы, гукнуў, каб чулі ўжо ўсе: — Просім, заходзьце.

У пройму дзвярэй, не здымаючы з сябе сівых суконных каптаноў з шырокімі хлясцікамі на паясніцы, у выцвілых і новых, што яшчэ пахлі рошчынай, чырвანавата-жоўтых кажушках, у рабенькіх, тканых у елачку, крамных — не свае работы — паўшубках з цыгейкавымі каўнярамі, мужчыны рушылі ў залу.

Міцю ў плечы лёгка папхнуў Царык:

— Ты ж пасля сходу глядзі не адлучайся. Інтарэс да цябе маю.

— А што? — Міця зіркнуў на жоўты, сцягнуты хваробай Царыкаў твар з цёмна-сінімі кругамі пад вачыма.

— Можа, зойдзеш да мяне, чуеш? Аднаму тут не вельмі слугуе пагода... Хачу цябе зацугляць.

Стараючыся разгадаць гэтае намяканне, Міця ўслед за маладзіцай у каптаніку, абшытым чорнай апушкай, увайшоў у залу, дзе ўжо стаялі складныя драўляныя крэслы, а перад імі — два ўпрытык — сталы, засланыя чырвонай, што адбірала вочы, матэрыяй.

За імі стаяў, абцягваючы сінюю гімнасцёрку з малінавымі пятліцамі на туга зашпіленым каўняры, скуласты, з шырокім лобам і падстрыжаны «пад бобрык», асадзісты мужчына. Твар яго, ад прыроды смугла-жаўтлявы, на першае вока выдаваў нездароўчы.

Поруч каля асадзістага мужчыны сутуліўся, трымаючы ў руцэ фарфоравую чарніліцу-невылівачку з уткнутай драўлянай, прыгожа выштукаванай ручкай, не ведаючы,

пэўна, дзе яе паставіць, высокі, з гарбаватым носам і віхрастым чубком цёмна-русявы хлопец.

Злавіўшы рукою кант чырвонага стала і счакаўшы, покуль людзі ўсядуцца на рыпучыя складныя крэслы, Лаўрын Царык зноў падтрос растрэсеную стрэшку сыпкіх валасоў і загаварыў нямоцным, што перасядаў у горле, сухаватым голасам:

— Сёння мы склікалі старшыняў вясковых камітэтаў. Бачу, што няма толькі двух. Можа, счакаем, ці мала што. Позняцца.

— А чаго маем чакаць? — цвёрда спытаў надзьмуты, як сыч, мужчына.— І так начакаліся.

— Ага,— пацвердзіла круглавідая маладзіца.

— Дзе голка, там і нітка,— нехаця засмяяўся Царык, паказваючы чорную шчарбіну ў зубах.— Раз грамада так пажадала, не будзем ісці папярок — пачнём,— і зіркнуў зверху ўніз на чалавека з смуглявым тварам і палахліва натапыранымі чорна-сіняватымі валасамі.— Таварыш Назімаў ці, як цяпер гавораць па імені і бацьку, Нурмат Рахматулавіч.

— Рахматулаевіч,— бліснуў вачмі і ўздрыгнуў яршыстым бобрыкам мужчына ў цёмна-сіняй гімнасцёрцы.

— Перапрашаю,— зачырванеўся і збянтэжыўся Царык.

— Вой, ці такое імя вымавіш,— уголас паспачувала Царыку бойкая маладзіца.

— Конь на чатырох нагах і то спатыкаецца, а то чалавек,— азваўся тоўстым голасам мужчына.

— Ціха, людзі! — падзёўб у чарніліцу пяром малады хлопец, што, мусіць, нарыхтаваўся пісаць пратакол.

— У восені, як гаворыцца, раніца маладая. І ў нас лішкаў часу няма. Скончым гаману і паслухаем начальніка зямельнага аддзела,— тут Царык запнуўся і вымавіў адно толькі прозвішча,— таварыша Назімава,— і схамянуўся: — Вот жа ж галава — нічога не варт. Я ж не сказаў вам, што сёння маемся абталкаваць справу з дзяльбою зямлі і высвятліць, як гатуемся да выбараў у народнае сабранне. Ёсць і яшчэ клопат — інвентарызацыя асадніцкіх двароў. Ніхто ж не пільнуе, не глядзіць гумнаў. А там жыта і грэчку мышы малоцяць.

— Каб толькі,— з задніх радоў, дзе прысеў Міця, Царыка падкусіў курносы, высока падстрыжаны мужчына і, павярнуўшыся да Міці і бліскаючы залатою каронкай, задаволены ўсміхнуўся.— Той-сёй з камітэтчыкаў, як я ведаю,

ужо добра намалаціўся. Вунь Абелькавічы ўсе ператраслі, пакінулі толькі кніжкі.

«А што з кнігамі? — балючым джалам трывога жыгнула Міцю ў сэрца.— Няўжо змарнаваліся?» Устрывожаны нечаканай навінай, нават не чуў, што гаварыў начальнік зямельнага аддзела, бачыў толькі, як той пагладжваў натапыраны вожык пруткіх валасоў, і апомніўся толькі тады, калі гутарка зайшла пра Верасава.

— Што там? — нахіліўся да мужчыны з высока выстрыжаным запатылкам.

— Хі, што,— варухнуў той патрэсканаю ніжняю губою.— Не праведзены точны ўчот батракоў, кажа, і беднякоў.

— Як? — здзівіўся Міця.

— Жалаба паступіла.

Міця ўспомніў, як сёння спаткаў на мосце Віктука Удода, успомніў яго гідкую лісявасць, жаласлівы, плаксівы голас і чамусь падумаў, што скардзіўся, напэўна, ён. Прыкрасць і ганьба скаламуцілі ўсяго — Міця ўжо сядзеў як сам не свой.

Начальнік зямельнага аддзела расправіў пад шырокім рэменем гімнасцёрку, абедзвюма рукамі недзе за спіною туга абцягнуў яе і ўжо цвёрдым, грудным голасам сказаў:

— Задачи волостных комитетов — проводить политико-массовую работу, чтобы возглавить успешный ход заготовок зерна. Чтобы не случилось так, как было в Ятранском волисполкоме, где во время хлебозаготовок столкнулись с антисоветским настроением части крестьян.

— Ат, нічога там не было,— махнула рукою маладзіца.

— Как не было? — паправіў пад шырокім рэменем і зноў абцягнуў гімнасцёрку шыракатвары з вузкімі шчылінкамі вачэй начальнік зямельнага аддзела.

— Бо й не было. Сказаў лішняе чалавек, пагарачыўся,— маладзіца паднялася і расшпіліла вялікі абшыты гузік на сваім цёплым каптане, дастала складзеную ў некалькі столак паперу.— Я паданне прынясла... Цэлая вёска падпісалася.

— Какое подание?

— Пісьмо,— маладзіца зашарахцела паперкаю, разгортваючы яе.— Я пачытаю во: «Дарагой ацец і ізбавіцель трудзяшчыхся...»

— Письмо на имя Сталина?..

— Ну, але.

— Письмо отдайте мне. Я посоветуюсь,— працягнуў руку начальнік зямельнага аддзела.

— Раз мы напісалі, значыцца, мы пашлём.

— Глядзі, баба,— падкінуў угору свой задзірыста-чырвоненькі нос дробны мужчына.

— Не страш, як кажуць, бабу... А трэба, каб па-справядліваму было,— скоса зіркнула яна, склаўшы і хаваючы паперу ў нейкую патайную кішэню пад каптаном.

— Создаешь вопрос,— пакруціў стрыжанаю кругла-сіняватаю галавою і нарэшце сеў начальнік зямельнага аддзела.

Адкідваючы звыклым жэстам упартую стрэшку пасівелых валасоў, за чырвоным сталом падняўся Лаўрын Царык, папрасіў аддаць гэтае пісьмо, але, убачыўшы, што кабета ўпарціцца, пачаў зачытваць тэлефанаграму з часовага ўпраўлення, каб вясковыя камітэты выслалі людзей на «трудовое участье» — вазіць на рамонт шашы каменне.

— Гэт што? Шарварка цяпер так называецца? — спытаў хрыплаваты пракураны голас з-пад белага акна і густа выфарбаваным і тоўстым падаконнікам, ад якога сляпіла ў вочы.

— А што табе ад назвы, давай конных ды пешых,— перабілі яго.

— А дзе ж іх вельмі набярэшся? — забубніў зноў той самы хрыплаваты голас.— Учора пяць падвод выправіў вазіць з фальварка сена.

Перасварыліся толькі гэтыя двое, астатнія маўчалі, не адклікаючыся на іхнюю гутарку. Сцішыўся ў сваіх думках і Міця, успомніўшы Чэсіну нечаканую злосць, знерваваны крык на яго і тую страшна балючую, што ўпілася вострым джалам у сэрца, навіну, што Чэсю сватаюць за Длубака і што яна, каб уцячы ад збрыдзелага кавалера, брыдкасці, ганьбы, хоча разам з варшаўскімі бежанцамі ісці праз граніцу. Збіты з тропу, узбунтованы ўсім, што бачыў, Міця цяпер не ведаў, што парадзіць тут, якое шукаць выйсце, але адчуваў адно, што Чэсю трэба адмовіць, адгаварыць, каб з гарачкі не ўчыніла бяды. Ёй варта было б рабіць у бальніцы і наведваць вячэрнюю школу, каб падвучыцца па-руску. Яна ж будзе разам з Міцем, бо ён не перажыве разлукі. Няўжо яна не чуе, не ведае гэтага? Напэўна ж ведае, раз кліча з сабою. Але куды ж ісці? У невядомасць, у разбітую, спаленую Варшаву?.. А тут нарэшце выдалася магчымасць вучыцца... Нават далей: ка-

жуць, з Вільні ў Наваградак перавядуць беларускую гімназію.

Ад паводкі гэтых патайных, што хлынулі на яго, мысляў Міцю Корсака ачуціў дружны рогат.

Лаўрын Царык, чмыхаючы ў доўгі нос і крывячы губу ад прыхаванага смяшку, зачытваў заяву ад дварчанскіх цыганоў:

«Не имея кровли над головой, просим сказать милосердие и дать оставшийся дом полициянта, землю и всякий необходимый инвентарь, как-то: плуг, борону и так далее, ибо мы, очень бедные цыгане, гнаные злою судьбой с места на место, остались без местожительства».

— А што значыць гэта кроўля? — раптам перабіла Царыка паўналіцая кабета.— Кроквы, ці што? Смехата з гэтага слова.

— Дурной дзеўцы ўсё смех,— нехта са злосцю ўпікнуў маладзіцу.

— А ты не выскаляйся,— азірнулася на голас маладзіца.— Я не такая дурная, як з твару выглядаю. Я пытаюся во ў чалавека.— Маладзіца кіўнула галавою на Царыка.

— Кроўля — страха значыць,— спакойна адказаў Царык.

— Я ж і думаю сабе, нешта ж да крокваў падобнае,— адным кутком рота засмяялася ўжо давольная маладзіца.

— Тады ўважым, хай людзі маюць над галавою страху! — крыкнулі адсюль, з рыпучых складных крэслаў.

— Товарищи,— махнуў рукою і падняўся над чырвоным сталом начальнік зямельнага аддзела.— Все постройки передаются только общественным организациям.

— Каму?

— Камітэту ці бальніцы, толькі не ў прыватныя рукі,— расталкаваў Лаўрын Царык.

— А камітэт хіба не ў будынку сядзіць?

— Я гэта для прыкладу гавару,— чмыхнуў у нос і са смяшком адказаў Царык.

— Бедных трэба ўважыць,— крыкнулі з-за Міцевых плячэй.

— Ага, праўду кажа.

— Нашто ж каб бедны і зноў гараваў. Аддаць ім будынкі.

— Такие дела решает временный уездный комитет, а не вы,— цвёрда сказаў і сеў начальнік зямельнага аддзела.

— Чаму гэта не мы?

— Хібя не ведаем, у каго хаты няма?

— І праўда ж.

— Ціха, людзі,— тупавата пазвінеў па графіне драўлянаю вытачанаю ручкаю з прыгожым узорам дзюбаносы хлопец, што дагэтуль, унурыўшыся ў стол, пісаў пратакол.— Зараз скончым.

— Дый пара ўжо.

— Бо поначы і дахаты прыйдзецца ехаць.

— Тут адно пытанне асталося. Дамалоцім, як кажуць, гэты паслед,— Царык жменяю зноў падкінуў з лоба і падгроб рассыпаную стрэшку валасоў.— Раскажа таварыш Назімаў, як правесці надзел зямлі. Землямераў усім не хваціць, трэба ж будзе самім...

Міця чуў і не чуў сухаваты голас Назімава, бо ў вушах усё білася, як б'ецца сослепу ў шыбу акна абрыдла-звінючая аса, тое Чэсіна кароткае і злое слова: «Прэч!» Абліваючы гарачым болем сэрца, востраю страмякай у ім ныла вялікая крыўда і нязлосная дасада.

Гэты боль не праходзіў яшчэ і тады, калі Міця разам з Царыкам выйшаў на прапахлы вільготным, гаркаватым лісцем і конскім свежым гноем брукаваны надворак камітэта, дзе яны меліся прычакаць начальніка зямельнага аддзела, што адлучыўся да ветру.

Радыя, што вырваліся з духаты, з доўгай седні, людзі вясёла пагуквалі на коней, выкіроўваючы іх у браму на вуліцу.

— Эйш ты, ядры тваю ма,— круціў над галавою лейцамі чалавек у суконнай бурцы.

— Паспеецца, чаго ты раскрычаўся? Якое ліха цябе гоніць? — азіралася маладзіца, але не саступала з дарогі.

— Паганяй, не стой! — зноў гукнуў чалавек у суконнай бурцы.

— Прышпор, няма чаго глядзець, застаяліся, нябось.

— Но-о-о!

Фурманкі з грукатам, скрыпам, з вясёлым фырканнем коней і цяжкім цюканнем падкоў несліся ў вялікую, расчыненую насцеж браму. Грукат колаў рассыпаўся, аціхаў на пясчанай вуліцы, як ужо захлёбваўся ад густога і тугога ветру пануры крык і галас фурманаў.

— Праўду кажуць: няма лепшай рэчы, як на сваёй печы. Ляцяць людзі дадому,— Царык адступіўся ў зацішак і азірнуўся на дашчаную будку з ганарыста паднятым застрэшкам, камінком і трыма высвідраванымі дзі-

рачкамі ў дзвярах, за якімі нядаўна схаваўся ўжо адзеты ў даўгаполы шары шынель начальнік зямельнага аддзела.

Адтуль ён скоранька і выйшаў, нацягваючы глыбей на лоб, каб не сарваў вецер, гэтую зеленкаватую фуражку і перабіраючы пальцамі гузікі — ці ўсе зашпіленыя.

— Можа, зойдзем, пераначуеце ў мяне,— неяк бокам высунуўся на адкрыты скразняк Лаўрын Царык.

— С удовольствием, но не могу.

— Ат, шкада,— Царык сагнуўся, тулячыся ад ветру, падаў Назімаву руку.— І незгаворлівы вы чалавек.

— Какой уж есть...— хітры смяшок схаваўся ў шчылінках падпухлых вачэй.— Может, успею на «кукушку». Завтра должен быть [redacted] Новогрудке.

І калі нарэшце Назімаў, прыспешваючы крок і пацюкваючы кутымі абцасамі на брукаваным надворку, завярнуў за рог белай, на высокім фундаменце, мураванкі, Царык безнадзейна махнуў рукою:

— Знойдзеш у ім толк, як у парваным боце. Але такой бяды, нам дваім спарней будзе. Дый пагаварыць маем пра што. Столькі не бачыліся.

На далёкую Падлесную, забудаваную толькі з аднаго боку новымі дамамі, дзе ў дварах стаялі высока падголеныя сосны і дзе пачынаўся вытаптаны, увіты шнуркамі і петлямі сцежак дварчанскі лес, прыйшлі ўжо на шараку.

Вецер коса і нечакана пагнаў халодную ліпучую імжу. Пад нізкаю навіссю цяжкіх хмар з мяккім густым шэптам пахісталіся тонкія хвойкі, палусквалі дробным сушняком, цярушачы яго на зямлю. За рэдкімі штакетамі нізкага плота [redacted] маладых, яшчэ дубцаватых вішняў вецер абшморгваў палахліва-трапяткое астатняе лісце.

У зачыненых аканіцах глыбокімі шчылінамі свяціліся выразаныя вастрадзюбыя сэрцы.

— Во, бачыш, нас страчаюць,— Царык адчыніў і прытрымаў веснічкі, прапускаючы да ганка Міцю.— Угадалі якраз у час.

Мінаючы будку, Міця на які міг прыпыніўся на слізкай ужо сцежцы і прыцікаваў — будка, здаецца, была пустая: на чубку чорнага, абабітага толем даху ляжаў ланцуг з зашчапкай.

— Німа майго Валета,— глуха, з шкадаваннем і смуткам, азваўся Царык.— Сышоў [redacted] дому, як мяне забралі. Жонка кажа, што пагараваў з тыдзень і сышоў. А можа,

пайшоў паміраць: стары ўжо быў. Звер памірае на адзіноце.

Царык на драбінках перад ганкам доўга выціраў ногі. Паслухаўшы, як па гонце густа шапоча дробная імжа і як мякка шумяць, лашчачы душу нейкай таемнай жальбою і адзінотаю, густыя, раскалыханыя ветрам стрункія хвойкі, паглядзеў туды ўгору, у прасвет між сплеценых кронаў:

— Чалавек, бывае, крычыць, енчыць усё жыццё, а памірае ціха, як падбітая птушка... Найбольш удома, дзенебудзь на печы за комінам.

— Не кожны, пэўна,— ціха запярэчыў Міця, успомніўшы турму, камеру з дашчанымі нарамі і даўганосага, сутулага Мазуру, што, неяк трохі выпрастаўшыся, маўклівы і цвёрды ў сваёй упартасці, пайшоў тады ў глухую цемру, у невядомасць, за яго, за Міцю.

— Праўда што — не кожны. Мы ўжо так не памром,— Царык узяўся за слупок ганка, ступіў на невысокія сходцы.— Рассудзіла доля... Але чаго ж я сёння разжаліўся? Хоць саломку еш, а хвост дугой трымай, га? — і ўжо моцна, усімі грудзьмі, адчыніўшы дзверы і падпіхаючы Міцю на жаўтлявае слабое святло кухні, крыкнуў узрадавана-збянтэжанай жонцы, што выскалялася, паказваючы крываватыя з прастрэлам зубы: — Люба, бачыш, каго я прывёў? Га?

— Чаму ж не,— яна выцірала руку аб фартух, каб павітацца з Міцем.— Хіба невідушчая я, не ўгадала, што Корсак гэта, хоць і зблажэлы...

— Дзіва што. Не на выгодзе жыў,— Царык скінуў чорнае караткаватае паліто і махнуў галавою Міцю, каб распрануўся таксама.

— Няўжо і ён не ўратаваўся?

— Не,— прызнаўся Міця, адною рукою абмацваючы кішэні, каб знайсці расчоску, другою падграбаючы прытаптаныя кепкаю, аб'еханыя на вушы валасы.

— А я ж на пошце казала: глядзі, ратуйся, хлопяц, бо хватаюць усіх, хто на падазрэнні. І цяпер кажу.— Царыкава жонка павярнула свой доўгі вастраваты нос на мужа.

Царык нібы адмахнуўся рукою, каб перабіць жончыну гутарку:

— Вот кліч за стол госця, лаву не праседзіць.

— А ты не перабівай. Добрае слаўцо лепш за піўцо. Няхай паслухае.

— Што ён мае слухаць,— абмацваў у цёмным пакоі і

пстрыкнуў уключальнікам Царык: пад белай эмаліраванай талерачкай загарэлася прадаўгаватая матавая лямпачка, пыхнуўшы мяккім, нячутным, як крыллі матыля, святлом на раскладзеныя на падлозе стосы кніг, на засланы бела тканым у каробачку абрусам стол, дзе ўжо стаялі талеркі з ружаватай нарэзанай шынкай, з сінімі старамоднымі чаркамі і прысадзістым, цыбуляватым, абвітым двума пазалочанымі пасачкамі графінам, у якім скалыхнулася ад крокаў зеленаватая зубровіца.

— Гэ, дак ты маладзец, жонка,— адкінуўшы назад расрэсеную стрэшку валасоў, гукнуў Царык туды, на кухню, дзе ўжо зашыпеў прымус.

— Во, нарэшце, хоць раз угадзіла.

— Ды ўжо ж,— і, беручыся за карычневае гнутае венскае крэсла, падмаргнуў Міцю.— Садзіся.

Міця няспешна, больш зазіраючы на стосы раскладзеных на падлозе кніжак, прысеў пры стале.

— Гэта я з бібліятэкі агніска каляёвага аж тры мяшкі прывалок,— злавіўшы яго зірк, пахваліўся Царык.— Днямі нейкі прадстаўнік з Наваградка прыязджаў.— Царык пераважыўся, узяў з невысокага стоса чорную з залацістымі літарамі і залацістым адбіткам быка на вокладцы ваґкую кніжку, пагартаў яе, усміхнуўся, прачытаўшы.— Во, бачыш, габелен польскі, тканы ў Карэлічах.

І падаў Міцю немалы па фармату і памеру том:

— Энцыклапедыя старапольская. Удружу табе. Недзе тут яшчэ заваляўся другі томік... Ледзьве выратаваў...

— Як? — перапытаў Міця, разгортваючы кнігу і разглядаючы старонку з гербамі.

— Смехата бярэ, як успомню. Ты, брат, веры не дасі. Падасць мне кніжку і кажа: «Чытай».

— Скуль жа ж ён такі?..

— Недзе свае гадоўлі дурань,— Царык падняў накрывачку прысадзістага графіна, забулькаў у сінюю Міцеву чарку і азірнуўся на адчыненыя дзверы.— Люба, дзе ты там? Кілішак нясі свой!

Люба прыйшла пазней, прынёсшы яшчэ марынаваных грыбкоў — адзін у адзін — бела-жоўценькіх з карычняватымі галоўкамі і тлуста-слізкіх — і паставіла серабрыстабліщчастую металічную чарачку, з адлітымі на ёй вяночкамі , пахвалілася, паказваючы Міцю:

— Яшчэ майго дзеда. Ад яго асталася, ён валасны пісар быў...

— Гэй,— махнуў за пукаты лоб скурчанаю жменяю Царык, адкідаючы навіслыя валасы,— шляхоцтвам сваім ганарыцца.

— Бо і не ■ мужыкоў,— хмыкнула жонка, паказваючы няроўныя верхнія зубы.

— Ну, так за нас, мужыкоў, што ў валасныя пісары нарэшце выбіліся,— Царык нахіліў графін над серабрыстай прадаўгаватай чарачкай.

— Ты ж, здэцца, старшыня,— скоса зіркнула на яго жонка, падымаючы поўную, як вока, чарку.

— Яго хачу ўзяць у Дварчаны. Дзелапраізвадзіцелем, як называюць. А то зачахне там у Верасаве,— Царык дзюбнуў трохзубым відэльцам у гліняную місачку са слізкатлустымі грыбкамі, падчапіў адзін. Пахрумстаўшы ім, перапытаў: — Не ведаю, ці толькі згодзіцца?

— Чаму ж,— папярхнуўся гарэлкаю і закашляўся Міця.

— Згоду дае, а піць, пане мой, не навучыўся,— крыва ўсміхнуўся Царык.

— І не трэба такой навукі,— паставіла сваю недапітую чарку гаспадыня.

— Дзе гарэлка, там і слёзы. Можа, і так,— Царык зноў узяўся за прысадзісты ■ доўгім рыльцам графін.

— Не ведаю, як тут з кватэрамі,— прызнаўся Міця.

— У нас наразе пажывеш. Як, гаспадыня, думаеш? — Царык злавіў жончыну серабрыстую з рельефам чарку і стукнуў у яе сваёю сіняватаю шкляною, упрыгожанаю васпаватым шляком з кветачкамі.

— Хіба хату пралежыць.

— І я так думаю.— Царыкава худая з тонкімі пальцамі рука пpыляпнула па стале.— Няхай во і сёння пераначуе.

— Сёння не,— Міця прыпадняўся з крэсла, убачыўшы, як пахіснулася абклееная шпалерамі сцяна.

— Куды пойдзеш на ноч гледзячы? — яго за рукаво злавіла збянтэжаная гаспадыня.

— Ты ж яшчэ песняў не слухаў,— хітра прыжмурваючы адно вока, усміхнуўся Царык.

— Не выскаляйся, стары шлупацень, і не налівай болей хлопцу, ён не табе раўня, а гітару я зараз прынясу,— абцягнула на сабе сукенку і грузна паднялася Царыкава жонка.

— Ну, браце мой, прыйдзецца табе паслухаць увесь

наш хатні рэпертуар,— Царык лёгка штурхануў Міцю ў плячо.— Але ж скажу — спявае яна хораша. Сам некалі дзівіўся, што ў яе гэтакі голас.

Царычыха вярнулася скора, трымаючы ў руцэ старую пацямнелую гітару, прысела зводдаль ад стала на засланую цялячаю светла-вішнёваю аўчынаю алехавую калоду, з якой Царык выразаў і так, мусіць, не скончыў чалавечую голаў, доўга настройвала гітару, то падкручваючы тужэй, то адпускаючы струны і скардзячыся, што з паўгода не брала яе ў рукі, і нарэшце чапіла іх усе разам вялікім пальцам і пад густы іхні раз'юшана-чмяліны гуд хрыплавата-нядужым галасам заспявала:

Ішлі мы з табою мяжой,
Нам колас свой жыта схіляла...

— Раманс,— Царык ткнуў угору пальцам і нахіліўся да Міці, дыхнуўшы цяплом у вуха.— Ведаеш, хто склаў?

— Не,— пакруціў Міця галавою, заслухаўшыся мелодыяй, якую ўжо ледзьве магла выцягнуць Царычыха.

Нарэшце яна скончыла спяваць, суха закашлялася і,ватрасучы залаціста-каштанавымі, падфарбаванымі хной валасамі, пажалілася:

— Ужо занывае чалавек. Дзе падзеўся той голас.

— Нічога яшчэ выходзіць,— расчырванелы Царык узяўся за доўгае рыльца пляскатага, як мухалоўка, графіна і нахіліўся да Міці.— Дык ведаеш, чыю песню яна спявала? — і мокра прыцмокнуў губамі: — Удалы хлопец тут быў... у Навагрудку.

— Спіўся,— Царычыха паклала гітару на калені, жалосна чапіўшы струну.— Упаў у рышток і захлынуўся ў вадзе.

— Дайшоў, ага,— Царык падняў графін над Міцевай чаркай.

— Не налівай, кажу! — крыкнула Царычыха, падымаючы і ставячы на рабро гітару.

Міця, чуючы, што перад вачыма плавае і мроівам трымціць свет, закрыў далоняй нізенькую чарку.

— Ну, па кропельцы, каб жылося ды вялося. Бяру цябе ды спадзяюся, што, можа, на маё месца станеш.

— Як на ваша? — Міця адсланіў далонь.

— А ці доўга ўседжу. Граматнасці ў мяне малавата...

— Не шкодзіла б вучыцца і мне. Кажуць, вячэрняя школа адкрываецца,— Міця прыгубіў і адсунуў чарку.

— Будзе школа. Настаўнікаў прыслалі,— Царык скрывіўся, выцер жменяю рот і не закусіў.— І начальнікаў ужо... Так што такія, як я... годзе, напанавалі. Нам асталося хіба даць у рукі грамнічную свечку.

— А куды ж вас? — Міця з дзівам глядзеў на Царыка: у таго ўжо блішчалі п'янавата-патайной злосцю асалавелыя вочы.

— Гэ, куды? — з'едліва крывячы твар, усміхнулася жонка.— У катых.

— Памаўчы! — Царык прыстукнуў кулаком па стале.

— А што выседзіў у турмах?

— Не пляці лішняга, узяла гітару, так патрэнькай во,— Царык злосна трасянуў галавою, адкідаючы са лба рассыпаную чупрыну.

Царычыха вінавата патупілася, доўга глядзела на падлогу, дзе мякка пагойдваўся круг святла, рассыпаны з-пад паліраванага каптурка, нарэшце падняла вочы: на твары ў яе ўжо растала нечаканая ўпартасць і злосць, яна з вінаватай ласкавасцю прызналася:

— І праўда, чаго гэта я. Во, дзякуй богу, што вы ўдома. Гэтакі ліхі час, маглі і не вярнуцца.

— Маглі,— Царык няўмела чапляў відэльцам, нарэшце рукою схапіў з плыценькай талеркі ружавата-сіні, што адліваў вясёлкай, скрылёк сухаватай паляндвіцы.— Мяне былі ўжо да расстрэлу прыгаварылі. Не паспелі толькі...

— І ў нас штоночы бралі...— Міця ўспомніў, як у камеры на яго прозвішча азваўся Мазура, як цяжкі, рыпучы грукат дзвярэй закрыў яго шарую спіну ў арыштанцкай куртцы і як Міця першы раз тады ўчуў вар'яцкую радасць, што лёс зліташаўся над ім — смерць прайшла міма. А цяпер сляпым, вёрткім і слізкім сліўнем заварушылася брыдкасць, крыўда і вінаватасць за тую сваю атупелую шалёную радасць.

— Ну, так выпійце, хлопцы,— нарэшце падабрэла Царычыха.

Міця дапіў тую невялікую, з напарстак, кроплю гарэлкі, што калыхалася на дне, і, здаецца, працверазеў, убачыўшы, як толькі п'янее, наліваецца бурачковай чырванню Царыкаў твар і на губах кісне п'яны смех. Царык раптам абцёр яго жменяю і ўжо строга, нібы працверазеўшы, папрасіў жонку:

— Ты ўжо заспявай маю. Чуеш?

І Царычыха, давольная, радасна-шчаслівая і ажно адмаладзелая, падняла з каленяў гітару і, трымаючы яе адною рукою за чорны грыф, другою ўсімі пальцамі ўдарыла па струнах.

Царык абняў Міцю, прытуліўся да яго, абдаў цяплом праз сваю паплінавую, у цёмна-чырвоныя палоскі кашулю і, махнуўшы наводліў рукою, заспяваў нечакана мяккім, чыстым голасам:

Жый вэдлуг вяры, пій подлуг мяры,
А так здроў бэндзеш,
Пшылож пільносці, зажый скромносьці,
Багатым бэндзеш[1].

Міця слухаў, нахіліўшыся на стол, чамусьці раптам уявіўшы сённяшнюю Чэсю, непадступную і злую, і праглынуў горкі, балючы камяк крыўды. У душы зашчымела дасада, на вочы насачыліся слёзы, затуманілі, замглілі мігатлівым мроівам пакой у белых шпалерах з ружовымі кветачкамі, Царыка, яго жонку, што таксама з павільгатнелымі вачмі, трапляючы ў голас, падспёўвала Царыку:

Радзь пшыяцёлам, не дмі в уль пчолам,
То мілым бэндзеш.
Не будзь седзь ціха, кеды спі ліхо,
Шчэнслівым бэндзеш[2].

Раптоўная жаласлівасць працяла Міцю, зрабілася шкода Царыка, што страшна і нешчасліва абышоўся лёс з чалавекам, і няўжо на свеце няма збавення ад бяды, няўжо ёсць толькі пакута?

За сцяною мацнеў і турзаў фортку аканіцы раз'юшаны вецер, і змардавана шумелі хвоі, і недзе з балючым рыпам і хрустам церліся сашчэпленыя лапы. У сцяну перагонамі, з густым шоргатам сек шчыры спорны дождж. Нуда брала за сэрца, і Міця, сцішыўшыся, пачынаў думаць пра сваё жыццё тут, у Дварчанах: куды павернецца, якую новую дарогу ўкажа яно.

---

1 Жыві паводле веры, пі ў меру,
Здаровы будзеш,
Ашчаджайся, жыві скромна,
Багаты будзеш.

2 Дагаджай прыяцелям, не дзьмі ў вулей пчолам.
То мілы будзеш.
Сядзі ціха, калі спіць ліха,
Шчаслівы будзеш. (*польск.*).

# VII

На развілцы вуліц тупаватым вуглом на Міцю выплыла двухпавярховая камяніца, і ён здрыгануўся ад цвілога і даўняга холаду лядоўні, што была вымуравана ў адвары і ў якую іх, арыштантаў, роспаю з рэдкім імжыстым туманам вераснёваю раніцаю выпхнулі з фурманак, выклікаючы потым па адным на допыт.

Сухарлявы, хваравіты, з паўпаданымі шчокамі і лупатымі вачмі начальнік следчага аддзела перабіраў стос з чырвонымі картамі, і Міця на адной з іх, ужо адкладзенай убок, паспеў прачытаць: «Rozporzadzenei o internowaniu» [1].

Глухім, нядужым сухотным голасам следчы перапытаў імя, прозвішча, чым ён, Міця, займаецца і, неяк гідка скрывіўшыся, вяла і нехаця махнуў рукою, даючы знак паліцыянту завесці Міцю назад у глыбокую лядоўню, якую вымураваў у двары свайго дома свінабой Канэцкі, каб быў спрат на мяса, вэнджаныя шынкі ды скруткі кілбас. А тады ў ёй сачыўся вадою, раставаў наколаты крыгамі на возеры лёд, які яшчэ не паспелі раскупіць марожанікі. Тыя няпоўныя нават адседжаныя суткі ў лядоўні, дзе напхалі, як селядцоў у бочку, мужчын — кабет трымалі на пастарунку,— Міцю будуць помніцца доўга, калі не ўсё жыццё. Спярша было нават вясёла. Высокі, сутулаваты армянін Атараў, якога арыштавалі, ён казаў, за схаваны рэвальвер і грошы, на чужых працягнутых далонях, пад слабаватую з ледзь жывымі валаскамі лямпачку, разгадваў лёс.

— Хлопцы, я хірамант. Гадаю на далонях. Хто смелы?

— Давай мне,— адклікнуўся тады здаровы дварчанскі дзядзька, дарожны майстар, чорны і насаты Іван Грыцук.

— Хто там? — павярнуўся таксама чорны, як крумкач, Атараў на чужы голас і, убачыўшы нарэшце ў кутку за чужымі галовамі Грыцука, прыклікаў да сябе.— Сюды ідзі, пад жароўку, на яснасць.

Дарожны майстар, распіхаючы ачадзелых ад страху, што з імі будзе, куды іх пагоняць з лядоўні, непаваротных, сонных, як мухі пад восень, арыштантаў, праціснуўся да лямпачкі, дзе стаяў Атараў, падняў закасаўшы нат, сваю тоўстую, нібы кавальскую, валасатую руку і хітра павярнуўся да ўсіх:

---

[1] Распараджэнне аб інтэрніраванні *(польск.)*.

— Гадай! Адно скажы, колькі я каханак меў?

— Не шмат,— жмурачы вочы і пільна ўзіраючыся ў гэтую тоўстую кавальскую далонь, спакойна і развяжна сказаў Атараў.— Тры ўсяго.

— Угадаў, хлопцы, іці яго за ногу,— махнуў угору сваім носам дарожны майстар.

— Ну? — страпянуліся ў стоенай грамадзе.

— Угадаў,— ужо спакойна пацвердзіў Грыцук.

— Няхай скажа, калі дадому пойдзеш,— гукнулі сіпатым голасам.

Атараў, выгінаючы перад сваім носам і пакручваючы на святло Грыцукову далонь, счакаўшы, сказаў:

— Адсюль-то ён выйдзе заўтра, але яго зноў чакае казённы дом.

— Хэ, абнадзеіў,— вырваў сваю руку Грыцук, недавольны, кісла ухмыляючыся, адвярнуўся ад Атарава.

Міця падышоў астатнім, ці не чацвёртым, бо больш ніхто і не адважыўся, і Атараў, як незалюбіў, скоса зіркнуўшы на Міцеву далонь, а потым на яго самога, ужо са злосцю ці крыўдаю ўпікнуў:

— Падсунуўся ты мне.

— Што, не ўгадаў? — дробненька зарагатаў, выскаліўшы нізкія, сінявата-цёмныя з'едзеныя зубы, звялы, зморшчаны ў твары — як усе ведалі — канфідэнт Цімох Ганчарык.

— Чаму? -- паціснуў плячом і пільна зноў зіркнуў на Міцю з-пад сваіх чорных касматых броў Атараў.— Адно ці варт гаварыць хлопцу.

— Гаварэцяˌ— Міця выгнуў тужэй сваю далонь.

— А што гаварыць: каханак у цябе не будзе.

— Гэ,— хмыкнулі ззаду.— Гэдакі хлопяц.

— І праўда, гародзіць ні ў пяць, ні ў дзесяць.

— Чаму гародзіць? Тут ад натуры залежыць. Во наш Клімец, сам мужчына, як мур, а яна...

— Ну, як кажуць, мыш капы не баіцца...

Але гэтую балбатню ды гам перабіў, казытліва правёўшы неяк накрыж па Міцевай далоні, Атараў:

— А ў яго і праўда німа чым хваліцца — ні то жонка будзе, ні то каханка... Дый то з чужых рук. Ды і сцежка жыцця далёка не бяжыць...

Міця ўчуў, як холадам пачала занываць душа, калі ён падумаў пра Чэсю.

— Каб табе такі нос, як ты ўгадаў хлопцу.

— Нос-то ў яго ёсць.

Атараў, не аказваючыся, пайшоў у куток, адтуль, ужо з поцемку, плюнуў:

— Цьфу, вот жа падсунецца. Не скажы — кепска, скажы — яшчэ горш.

— А нашто казаць такое, калі і ўгадаў.

За Міцю пачалі заступацца, а назаўтра, калі з лядоўні сапраўды выпусцілі Грыцука, то нават з палахлівай жальбою і спагадай паглядаць. Міця, чуючы на сабе зірк чужых, падазроных вачэй, і сам закіпеў нечаканай крутаватаю злосцю на Атарава: нá табе — навараражыў, нібы памыямі абліў. Гэтая варажба то забывалася, то ціхай халоднай крынічкай крыўды сачылася зноў.

Міцю ўжо незнарок нешта прыпыніла каля белага з высокім блочным фундаментам дома.

## VIII

Дзень выдаўся ясны, з нізкім асеннім, але прыветным сонцам, што заблыталася ў рэдзенькай сетцы бярозавага вецця, з сівым калючым замаразкам, што іскрыўся залацістай чырванню на саламяных стрэхах хат і гумнаў. Апечаная ім, каля плота апала і згарнулася, раптоўна пачарнеўшы, маладая крапіва-жыгучка. У гародчыках няждана згаслі познія зімовыя вяргіні, што ўсю восень гарэлі жоўтым ясеным цяплом, абвяваючы чалавечую душу нечаканай радасцю, перамешанай з халодным асеннім смуткам.

Спадцішка шоргаючы па вілаватым крывым галлі, на бэзе ападала пацямнелае скурчанае лісце. Ужо асыпаўшы яго, у жоўтых пухкіх кругах, што дыхалі цёплай вільгаццю, стаялі старыя шурпата-зялёныя кляны.

Над чорнымі карлаватымі садкамі кудзеляю бэрсаўся сіні дым. У выкапаных далей ад хатаў вузкіх, прадаўгаватых ямах патрэскваў і пастрэльваў вуглямі нячутны здалёк агоньчык. Над ім, разасланы нятоўстаю пасмаю, на жэрдачках сушыўся і пах прысмажаным алеем вылежаны на выганах ды аблогах порсткі лён.

Перацiраючы тросціну, захлыналіся, а потым з водгаласам ляскалі цяжкія, на тоўстых вілаватых ножках, дубовыя церніцы.

Разагрэтыя, ружовашчокія маладзіцы ўвіхаліся, каб

за пагодныя дні пацерці і патрапаць лён ды неўпрыкмет брацца за прадзіва.

Збэрсаная галлём яснасць ад нізкага сонца коса і мройна пакалыхвалася на іхніх плячах і хустках.

Нядужы марозік, да якога яшчэ не прывыклі, спадцішка і злосна кусаў маладзіц за голыя рукі.

Сцінаючыся ад холаду і пацепваючы плячмі, подбегам па вуліцы ішоў і паслізгваўся на бурачковых расплясканых павуках спарышніку Марцін Ваўчок.

Згледзеўшы ў Корсакавым садку пад старою ліпай Алесю, прыпыніўся, цікуючы крошку зайздросным вокам на гэтакую ўдалую — дый хараством бог не пакрыўдзіў — маладзіцу, ганарыста падбіў кепку і гукнуў вясёлым жартам і зачэпкай:

— Ты во рукамі, а ў Расіі, кажуць, цярэбяць і труць лён машыны.

Алеся прыстукнула ручніцай, пажавала ёю слізкую заляцістую ручайку і, палажыўшы яе на разасланую радзюшку, азірнулася:

— А няўжо ж машыны і без чалавечых рук абыдуцца?

— Што праўда, то праўда, не абыдуцца,— падмахнуў галавою Ваўчок, топчучы шапаткое, у белым замаразку, лісце.— А ў мае вунь і працці не будзе чаго.

— Чаму ж гэта? — насцярожана зіркнула Алеся і выпнула абветраныя губы.

— Віхор са сцелішча скаціў і панёс увесь лён. Як ёсць — увесь.

— І не сабралі ні каліва?

— Дзе там,— варухнуў сутулаватымі плячмі Ваўчок.— Сабраць можна, але ці пасцелеш зблытаны.

— Не свенчаны быў,— Алеся адвярнулася ад сіняга рэдзенькага дымку, што закурэў у вочы, і выцерла рукавом набеглыя слёзы.— Некаторага ж году і ў мае мамы вецер слупом закруціў разасланы лён і раскідаў па ялаўцовых кустах... Не свенчаны быў...

— Свенчаны ці не свенчаны, а неяк перагораем,— Ваўчок выняў з кішэняў рукі, пацёр іх і зноў схаваў ад холаду.— Сёння зямлю даюць беднаце. Ідзём дзяліць грабянкаву асаду. Чула?

— Чаму ж не... Толькі чаго ж Змітрыка падтыкаеце ў гэту дзяльбу?

— Змітрык цяпер знакаміты чалавек — ён сакратар вясковага камітэта.

— Нездароўчы ён. І вучыцца рвецца, аж душа занывае.

— Сённяшнім светам я і сам не ўседзеў бы ў Верасаве. Вунь усе хлопцы едуць на шафёрскія курсы. А хто і ў шахты — на заработкі.

— Што робіцца на свеце, няхай бог адносіць. Разбэсціліся людзі, ніхто не пільнуецца свайго вугла.

— А што тут пры жаночай спадніцы выседзіш? Можна знайсці і другую. Шмат такога квяту па цэлым святу,— пажартаваў Ваўчок і раптам зніякавеў, убачыўшы, як спатыкнулася каля церніцы з пуком падсушанага лёну ў руцэ абязвечаная Алеся, і, з шастаннем махаючы шырокімі калошамі, борздзенька заслізгаў па сівай, абсыпанай шорсткім марозам траве да Корсакавых веснікаў, папхнуў іх бокам і спатыкнуўся сам.

— Эх ты! — глуха застагнаў ён, зла віўшы ўжо на носе сваю стаўбунаватую, з падкладзеным абручыкам згорнутай у некалькі столак газеты, натапыраную кепку.

— Што за праява, п'е-то сённячы Саўка Бацян, а ты чаго на нагах не ўстоіш? — зарагатаў каля аб'еханай саламянай стрэшкі паграбка Язапат Змысла, што з другой вуліцы выйшаў сюды на Корсакаў надворак. Ён быў туга падпяразаны вераўчаным путам і па-зімняму адзеты: у шарым, паверх кажушка, бурносе і сівых, з жаўтлявай прыпалінай на левым галяншчы, валёнках.

— Няўжо гэты скупярдзяй расшчадрыўся? — спытаў Ваўчок, калі Змысла падаў яму цвёрдую шурпатую далонь.

— Нявыкрутка. Як-ніяк, братавая з Расіі прыехала.

— Што ты кажаш, Сарафіна?..

— Яна,— Змысла падцягнуў на худым жываце вераўчанае пута.

З гэтаю нечаканаю навіною яны і ўвайшлі да Корсакаў у хату, дзе акрамя старога Уласа, што стаяў пры распаленай печы, і Міці, што снедаў за сталом, над якім курэла параю сопкая картопля, на лаве, прыпёршыся да сцяны, сядзелі двое верасаўскіх мужчын — рыжабровы, з натапыранамі рыжымі вусамі Мікалай Пыцель і чарнявы, трохі касаваты, у старым аблушчаным кажушку Ікон Жыток. Зводдаль на табурэце, заклаўшы нага за ногу і ашчаперыўшы дужымі рукамі калені, угінаў голаў ад сляпучага сонца Ладак Чабоцька.

Забыўшыся нават даць «дзень добры», Язапат Змысла

доўга і трохі заікліва пачаў пераказваць навіну, паўтараючы за кожным разам ужо абрыдлае ўсім «Чуеце?»:

— Гадоў дваццаць смела, як не была тут. Чуеце? Гэта ж пасля жніва ў пятнаццатым паехала.

— Ты не пра жніво, а пра Расію кажы, што ж яна расказвае? — нецярпліва і панура забурчаў Ікон Жыток.

— А ты схадзі ды папытай,— насупіў густыя застрэшкі броў Ладак Чабоцька.— Раз не знаешся, так не лезь.

— Ат, цёмная баба, што ў яе дапытаеш,— махнуў шырокім закарвашам бурноса Язапат Змысла.— Я ж бачыў яе надоечы. Чуеце?

— Ну і што? — адхіліўся ад печы разагрэты, з напаленым, паружавелым тварам Улас Корсак.

— Кажу, здароў была, Сарафіна! А яна смяецца, выскаліўшы жалезныя зубы, і частуе мяне цукеркамі.

— Якімі ж хоць? — на пукатым лысым лобе ў Корсака затрапяталася чырвань ■ расшуганай печы.

— Падушачкамі.

— Цьфу, з твае гутаркі,— плюнуў і злосна раздзьмуў ноздры Марцін Ваўчок.— Пра цукеркі ён гаварыў. А ты пра стан эканамічны спытаў?

— Мне вунь — тры чвэрці да смерці, ці ўжо пра станік пытацца,— выскаліўся Язапат Змысла.

— Нічога,— варухнуў калматымі бровамі і адышоўся ад печы Улас Корсак,— кабыла здыхае, а за траву хватае. Так і ты мо...

— Фігу ўжо схопіш,— расшпіліў свой кажух, выкручваючы з петляў тугія вузялкі круглых гузікаў, Ікон Жыток і, адкінуўшы крысо, прысеў на вузкі заслончык каля занятага снеданнем і аціхлага Міці Корсака: — А што скажа во ён, граматны чалавек?

— А што ён скажа,— нібы незалюбіў, што не лічацца з ім, Марцін Ваўчок, зіркаючы спадлоб'я на Міцю.

— Трохі больш, чым мы з табою. Ён жа ж бывае на тых, як кажуць, радах ці саветах. Там, пэўня, ужо рашылася, калі ж пачнуць даваць асадніцкія хаты?

— А ты, як той Рэпка, захацеў гатовую, з вазонамі.

— Вазоны ■ сам развяду, а хату перасыпаць не шкодзіла б, саўсім падваконне ды падваліны струхлелі. Каб хоць які хлеў далі.

— Будынкі, я чуў,— Міця падняўся з вузенькага заслончыка, несучы на паліцу жоўты, з зялёнымі кветкамі, паліваны збанок,— пойдуць пад школы ці клубы.

— Ну во,— развёў рукамі Ікон Жыток.— Не маючы дзе жыць, танцаваць будзем.

— Яшчэ і ўпрысядкі пойдзеш,— Корсак выцягнуў з печы вялікі чыгун, што клубіўся ружаватаю парай, і, схаваўшыся ў гэтай густой пары, азваўся: — Ты ж гэтага чакаў, цяпер скачы і радуйся.

Міця, паставіўшы на паліцу збанок, скоса і са злосцю азірнуўся на бацьку:

— Тата, вы ізноў пра сваё.

— А ты не зіркай так. Паслухай вунь, што людзі гамоняць.

Міця, ускінуўшы адну руку, зняў са сцяны з іржавага цвіка суконны паўшубак:

— І што людзі?

— Ён пытае — што? А тое,— губы ў бацькі пасінелі і задрыжалі.— На каго людзі гамоняць, на таго і свінні рохкаюць. Вот што!

Міця падняў сталёвае кола туга скручанай мярнічай ленты, што ляжала на лаве, і борздка, каб ужо абарваць сварку, рушыў да дзвярэй.

Угінаючы галовы і асцярожна абыходзячы ражку, дзе ўжо курыліся высыпаныя картоплі, верасаўцы адзін за адным вінавата падаліся за ім.

Ранішні марозік астудзіў усіх. Ачахла і Міцева злосць. Ён сціпана ішоў па сухой, укамянелай вуліцы, чутка слухаў, як з высокім водгаласам у рэдкіх садках, у згалелых старых прысадах, прапахлых гаркаватым лянівым дымам, што цягнуўся, курэў з ямаў, дзе патрэсквалі кастры і дзе сушыўся лён, ляскалі збіваючыся з такту, звонкія церніцы, як крохкім шклом пад нагамі ў мужчын лускаў лядок на высушаных лужынах і бельмамі пустых кругоў.

Вочы жмурыліся ад ружавата-залацістага сонца, падрэзанага вострым касніком сінявата-ліловай хмаркі. У душы рос, нечакана дужэў спакой. І было добра маўчаць і ісці гэтак, чуючы, як шоргаюць чужыя ногі па ўмерзлай аб'інелай зямлі, як ясным, настылым холадам з-за ціхага карычневага вецця высокіх струпаватых бярэзін свіціцца нерухомае неба. І ёсць задумлівая вечнасць у ім, і бясконцы спакой, і трывога блізкай, неадпакутаванай бяды.

Ад развярэджаных думак і забыцця Міцю ачуціў Алесін голас:

— Змітрык, Змітрык, пачакай!

Закручваючы тужэй круга шыі рог суконнай хусткі, яна подбегам пайшла на крутаваты груд да выкладзенай, каб не аб'язджала, старым замшэлым каменнем вуліцы. Задыхнулася пад маладою гонкаю яблынкаю з жоўта-налітым, падзёўбаным сарокамі яблыкам на гнуткай галіне:

— Куды ты?

Міця, трохі збіты з панталыку гэтым нечаканым запытаннем і ўжо дагадваючыся, што скажа сястра, знарок перапыніў яе:

— А з кім жа ж дзіця?

— Да цёткі Спяпані занясла,— коратка адсекла яна, не даючыся далей распытваць, і пільна з-пад нахмураных броў зіркнула: — Знайшоў сабе кампанію: вашывага Змыслага і гэтага зноска, курачага выліўка Ваўчка.— Яна павярнула цяжкую ў хустцы галаў, ці не чуюць мужчыны, і ўпікнула яшчэ: — Усунешся ты з гэтай дзяльбою. Каму цяпераршнім светам патрэбна зямля? Я некалі, дурная, па-гналася за гактарамі, а сёння чы спажыць не магу.— Вочы ў Алесі заморгалі і павільгатнелі ад слёз, яна шмарганула па твары рукавом і борзда завярнула назад, дзе стаяла жоўтая цэрніца і дзе пад старою ліпаю з выкапанай ямы цягнуўся гаркаваты дым.

Міця дагадаўся: у яе душы яшчэ ўсё жыў Імполь і тое, што ён не вярнуўся дадому, а астаўся ў мястэчку і сышоўся з Хрысцяй, яна, Алеся, перагараць не магла.

Хацелася суцешыць сястру, сказаць штосьці спагадліва-зычлівае, але не знайшлося што, Міця толькі ўчуў, як у самога на вачах мроівам задрыжала навалока слёз і даўкі, балючы камяк перавярнуўся ў горле.

Пераждываючы віну перад Алесяй, ціха завярнуў за Ваўчковай хатай на папярочную вуліцу, засыпаную счарнелым, слізка-тлустым вярбовым лісцем.

На мосце, аблакаціўшыся на пярылы і звесіўшы галовы, мужчыны глядзелі на абмялелую рэчку, што на халадзе ўжо курылася рэдзенькай парай. Зводдаль ад іх стаяў збеднены ад болю і смутку ўспамінаў пра нядаўнюю смерць хлопчыка Марцін Ваўчок. Ён моўчкі адарваўся ад пярылаў, і ўслед за ім гэтак жа моўчкі, у ціхай дрымоце, сышлі з моста верасаўскія мужчыны. Толькі сярдзіта мацюкнуўся, выпусціўшы з рук бярэмя наколатых ды зачэсаных калочкаў, глухаватым ад крыўды голасам аказаўся Ікон Жыток:

— Во, нясу, спадзяюся — зямля дзецям будзе. Але ці будуць яны, дзеці? Старэйшага няма ж з вайны і няведама ці прыйдзе...

— Не гавары абы-што — грэх,— нагнуўся да рассыпаных калочкаў і памог іх сабраць Язапат Змысла.— Прыйдзе і твой.

— Дай жа божа.

— Кругом чуваць — ідуць з вайны дадому. Можа, й твой ідзе.

— Можа...

— Не гаруй. У Румунію польскае войска перайшло,— паныла сказаў, нават сам не верачы ў гэта, Марцін Ваўчок.

— Можа, й там, толькі весці ніякай.

— Напіша яшчэ.

— Напіша...— сіліўся і жмурыў вочы, каб не ўбачылі слёз, Ікон Жыток, але голас яго жалосна і зманліва дрыжаў.

«Няўжо няма радасці без бяды?» — Міця азірнуўся на мужчын — яны ішлі таксама панурыя — і каля маладога, што адсвечваў перламутравай карою, бярэзніку, каля адзінокага, што зашамацеў перадроглым холадам калянага лісця, дубка, пад якім замёр абсівераны каптурык мурашніку, скіраваў на крыжавую дарогу. Збэрсаны дым спалавелай мятліцы слаўся абапал пераплеценых, раз'езджаных каляін. Дарога вяла ў Грабянкаву асаду і млын.

Пабялела ўжо і вышай паднялося сонца, з'еўшы сівенькі замаразак, за лесам спацела карычневая ралля. Дыхнуў пранізлівы ветрык, сцішна зашумеў у счарнелым прыдарожным быльніку, пахістваючы счахлыя чачоткі крываўніку.

Далёка на заходзе ў чыстаце сіняга неба выясніўся высокі, сінявата-рэдзенькі, вышчарблены месяц.

Там, на гарбатых грудах, няроўнаю наміткаю цягнуліся голыя дубровы, замглёныя нерухомай сінечай. Рэдзенькая смуга стыла ў лагчынах, ярах і хмурых, цёмных пералесках, што высунуліся на густа-зялёнае маладое ўрунелае жыта да адзінокіх хутароў з замшэлымі стрэхамі і акружаных касабокім жардзяным плотам і абвеяных смуткам доўгага бярозавага вецця.

Шарая, падсушаная замаразкам дарога падымалася то на пагоркі, дзе адзінока і мякка шумелі густымі кронамі старавечныя ружавата-шурпатыя хвойкі, то стрымгалоў падала ў лагчыну да карычневага ў белых катках лазняку,

кустоў каліны, акропленай чырванню не падзёўбаных ягад, то мінала чорна-калючыя, абсыпаныя ўжо ад жоўта-бурачковага лісця, дзікія грушы, то бегла глыбокім ярам [redacted] вечназялёным мяккім ялаўцом у чорна-дымных ягадах, то лужкамі, што зараслі раскідзістымі пучкамі парудзелай конскай цыбулі, то абягала даўнейшыя котлішчы з круглым каменнем падмуркаў, з зараснікам кашкі, здзічалага бэзу, жаўлявых дубцоў малінніку, чорна-пераспелага бур'яну, з якога чародкамі падымаліся чубатыя жаўтабрухія пташачкі.

Ціпэла і замірала душа ад празрыстага асенняга дня, лёгкай тупкай дарогі, ад прытоенай пустаты поля, зялёнай руні, яхкання ненавязанага сабакі каля хаты [redacted] вушатым каньком, з шарымі, ніколі не фарбаванымі ліштвамі.

— Хутары, кажуць, будуць ссяляць,— першым загаварыў, затужыўшы і знябожыўшыся па гутарцы, Язапат Змысла.

— Як? — не паверыў, мусіць, і падняў ад дзіва рыжыя бровы Мікалай Пыцель.

— Хату — на сані і пацягнулі трактарам у вёску,— пазяхнуў Марцін Ваўчок.

— Ну?

— Вот табе і гну — дуга будзе.

— Ну й чалавек, слова скажа, два прыложыць,— пераступаючы глыбокія, выбухтаваныя коламі каляіны, наперад усіх забег і нібы зрабіў заступ дарогі Мікалай Пыцель.

— Наконт хутароў не чуў,— зашамацеўшы кажухом, прыспешыў крокі Язапат Змысла.— А што за Дварчанамі, дзе Ясевіцкія хутары, на той роўніцы арадром рабіцьмуць, чуў. І план даводзяць — каменне збіраць.

— Знаешся ўжо ты,— прыскаліў адно вока Марцін Ваўчок, пазіраючы на Міцю і чакаючы, што скажа ён.

— Не чуў яшчэ,— прызнаўся Міця.

— Значыцца, не аціхае свет,— ні то сабе, ні то другім сказаў Ладак Чабоцька.

— Тады на злыбеду гэтая зямля,— крутнуўся і, перабегшы на другі бок дарогі, зашастаў калашынамі па сухой мятліцы Ікон Жыток.

— Чаго ты трапечашся, як той у портках? — дробненька засмяяўся Язапат Змысла і ўжо са злосцю сказаў: — Кажуць, паміраць збірайся, а жыта сей.

Але ад гэтага перапуду Ікона Жытка астатнія мужчыны трохі насцярожыліся і прыціхлі. Гэтакімі насцярожанымі, мінуўшы высокі, некім ужо раскалыханы і нахілены крыж, увайшлі ў вёску, чуючы на сабе зірк пільных насцярожаных вачэй з вузкіх, заціснутых частаколам і будынкамі двароў і нават нейчы недавольны голас:

— Во, верасаўцы ідуць. Бачыш, таксама знайшлі сабе вотчыну.

І другі, кабечы ўжо, звонкі і з пасміханнем:

— Ці мала цяпер знойдзецца на чужое.

— Што праўда, то праўда,— пацвердзіў той самы злы голас.

— Пацалуй ты...— спатыкнуўся на бруку, азіраючыся на чужы двор, дзе на старой грушы вісела шарая патрэсканая калода без пчол, Язапат Змысла.

— Ціха ты,— выпінаючы мокрыя губы, зашыпеў на яго Марцін Ваўчок.

— А што? Іхняя асада, ці што?

За старою вярбою з вялікім, трохі з'еханым набок чорным буслovым гняздом, дзе накрыж ляглі чорствыя, засыпаныя лісцем дарогі, скіравалі ў лагчыну да возера пад шары, закурэлы мукою млын з чырвоным чарапічным дахам і вузкімі аконцамі. З цяжкім густым шумам з заставак падала вада. Іржавая завала прыціскала і сцерагла дашчаныя дзверы з кованымі жалезнымі завесамі. Млын здаваўся здзічалы і аглухлы, без таго звыклага тупавата-цяжкага грукату жорнаў, без калатлівага дрыжання, галасу і крыку, чаргі фурманак. Як велічна-таямнічым было і серабрыста-трапяткое возера, што ад брукаванай, аплеценай карэннем дуплявых вербаў грэблі няспешна, паволі плыло да жаўтлявага, спалавелага трысніку, да чарады маладога алешніку, пад цяжкую сінюю хмару. Чорны з паджарым жыватом сабака памкнуўся на мост, але, убачыўшы мужчын, завярнуў назад і пабег з перакошаным тулавам міма старых векавечных прысад пад вялікае, на двое дзвярэй, гумно і адтуль ужо, асмялеўшы, гаўкаў.

— Ты глядзі, асаднiцкі, ці што? — здзівіўся Ікон Жыток, першым выходзячы на шапаткую, засланую сухім лісцем сцежку ў чорна-разгалістым парку.

— Які асаднiцкі, не чуеш, вунь у гумне малоцяць, гаспадар там,— сказаў Мікалай Пыцель, абыходзячы тоўсты зеленавата-чорны камель высокай у парудзелай ігліцы загранічнай елкі.

— А дрэвы як скінуць вокам,— задзіраў голаў на старыя, у гузах і нарасцях, шурпатыя ясені Ікон Жыток.— Год пад сто.

— Дзіва што, яшчэ Кашыц садзіў,— тапіўся ў глыбокім чуйна-пухкім лісці Язапат Змысла.

— Твая велічнасць, ты ўсё знаеш,— расшпіліў пад барадою кажух Ладак Чабоцька, пэўна, спацелы ад скорай хады.

— Няхай не ўсё, а кольвек-што чуў. Кашыца на Сібір саслалі, паўстанне падымаў.

— І не вярнуўся?

— Гэ, туды, як кажуць, дзверы шырокія...

— А Грабянка як дваром заўладаў?

— Ужо як інвалід, што за Пільсудскага ваяваў, што ногу страціў.

Учуўшы гутарку верасаўцаў, з-за гумна выткнуўся высокі даўгавіды мужчына з белаватай апаленай шчакою.

— О, верасаўцы ідуць на расхват шапак,— ён падрапаў каля скроні, быдта не сумысна прыкрываючы рукою шчаку.

— Чаму ж гэта на расхват? — Ікон Жыток першы зазірнуў на прыгумень, дзе чарнеў здратаваны круг: прыпрэжаныя да дышля, унурыўшы галаў, цягавіта і няспешна хадзілі па кругу двое коней — шпакаваты[1] ■ сівай грывай і каштанавы ■ чорнай.

Зводдаль ад іх, папусціўшы лейцы і памахваючы скураною пужкай, ішоў малады, дробны, з абвіслымі вусамі паганяты.

Малацілі асадніцкае збожжа. У гумне натруджана гудзеў барабан, чуўся ўперамешку з сытым, трохі сіпатым мужчынскім высокі і залівіста-радасны бабскі смех.

— Гэй там, халера на вас, снапы падавайце! — крычаў вусаты адсюль, знадворку.— Чаго коней упустую ганяць?

— Пададуць яны табе, вунь мышэй ловяць,— скрывіўся ад смеху чалавек з бела-рабаватай, апаленай шчакою.

— Я ж і думаю, што недзе за пазухаю іх шукаюць. Чуеш, як Даня крычыць, аж на лыткі пускае.

— Дзіва што,— прыпыніўся і ўмяшаўся ў гутарку Язапат Змысла.— Аднаго разу маладзічка з Ятвязі прывяла кароўку да бычка і трымала яе за рогі, каб лепш дагадзіў...

— Каму што, а вашываму лазня. Вы ўсё пра дурное,—

[1] Шпакаваты — чорны, у сівыя плямы.

перапыніў гутарку Ікон Жыток.— Пра надзел трэба пытаць, чуеш, Змітрык? Тут жа ж у двары нехта за старшага ёсць.

— Ёсцека,— абгладзіў абвіслыя вусы чалавек у пляскатай кепцы і крыкнуў у цемнату завешанага пылам гумна: — Петрык, чуеш? Да цябе тут людзі з Верасава!

Рогат сціх. У гумне пачалі перамаўляцца, і ■ поцемку яго, абцярушаны саломаю, у чорным суконным паўшубку і рудаватых, залапленых на каленях портках выйшаў расчырванелы, пэўна, ад жартаў, што строілі ў гумне кабеты, курносы, гадоў пад трыццаць мужчына. Ён скінуў з чорнае густавалосае галавы закурэлую ў жытніх асцюках кепку, абабіў яе аб калена і, убачыўшы ў Міці мярнічую ленту, першаму падаў руку:

— Можа, хлопцы, я не пайду. Знойдзеця самыя.

— Глядзі, чалавек, а то адмераем, ды не сваё,— Ладак Чабоцька ўсё касіў вокам на маладзіцу, што, высунуўшыся ■ гумна, вытрасала з-за пазухі асцюкі і салому, свецячы белізною сакаўных, налітых грудзей.

— Знойдзеця — вам клін пры балотцы. Акраз на жыта прыйшоўся. Зямля там добрая,— задраў голаў мужчына, паказваючы востры кадык і таксама хітра-спакусліва цікуючы на відную сабою, сытую маладзіцу.

— А жыта каму? — перахапіў гэты хітры зірк Язапат Змысла.

— Жыта — гасударству: і тое, і гэта. Заўтра чырвоны абоз пойдзе — збожжа павязём. Дамалаціць трэба... Так што вы без мяне ўжо. Там адмечана, пяць гектараў.

— Як пяць? — чмыхнуў у свае рыжыя натапыраныя вусы Мікалай Пыцель.— Казалі, па два дадуць. Нас тутака чатырох.

— Дзе ж ты ўсім набярэшся,— хмыкнуў здзекліва мужчына з абвіслымі вусамі і прыцмокнуў на коней.

— А ты гаворыш як пра сваё,— скрывіў набок голаў, гледзячы адным вокам, Язапат Змысла.

— Бо так яно і ёсцека — зямля нашай вёскі. Ці мала што пан некалі забраў.

— Ты глядзі — гаспадар знайшоўся,— Ікон Жыток тужэй зашмаргнуў папружку на бярэмі завостраных трохкантных калочкаў і закінуў іх за плечы.— То пойдзем, мужчынкі, я знаю, дзе наш надзел.

— Як мінеце асаду, пры балотцы той клін. На правы бок грэблі,— маладжавы мужчына абіраў салому з шы-

рокіх і роўненькіх плячэй у віднай сабою і грудастай маладзіцы. Яна ласкавым цёмна-сінім вокам азіралася на яго.

— На правы бок, на левы бок,— перакрывіў маладога, прыгожага і здаровага, як мур, мужчыну Марцін Ваўчок, калі верасаўцы адышліся ад гумна.— Яе, можа, тольні і перакідвае.

— А што ж, браце мой, на такі сноп і цэп добры трэба,— у вялай усмешцы скрывіў куток рота Ікон Жыток.— Ды нашто нам ён. Лента ёсць. Можам нават трохі і накінуць. Праўда, Змітрык?

Міця маўчаў, азіраючыся на чорна-шурпатыя, з пасівелымі ад марозу камлямі, старыя дрэвы парку — клёны і ясені,— у прасвеце якіх бялеў атынкованы дом з тоўстымі драўлянымі калонамі і трохкутным шчыпцом, дзе пустою чарнатою зіяла выбітае круглае акно.

Над паркам раптоўна падымаўся шматгалосы ўспуджаны крык дзяцей: у палацы, пэўна, ужо адкрылі школу. І Міцевы думкі нечакана набеглі на Дварчаны: з нейкай патайной радасцю і трывогай думалася пра работу ў валасным камітэце, пра местачковае жыццё, куды парывалася, ломячы крыллі, ляцела душа, туды да яе, да Чэсі...

Падняўшыся на абветранае поле, шарая падмерзлая дарога лёгка пабегла ўздоўж трапяткой мяккай руні і злінялага на дажджах іржышча з растрэсеным ужо асеннім гноем.

Скалмачаная, стаптаная шчотка ржышча адсвечвала процi сонца шарай саломай. Там-сям між яе бялелі невысокія, убітыя ў зямлю калочкі — палетак ужо быў раздзелены на «дзялкі».

— Глядзі,— топчучы спалавелую мятліцу і апярэджваючы Міцю Корсака, махнуў рукою Язапат Змысла,— зямля не благая, рунь як узялася.

— Зямля што трэба.

— Скажаце, каб паны ды благую мелі,— закурыў і закашляўся ўдушлівым кашлем Ладак Чабоцька.

— А наша дзялянка глядзі што няўдачная будзе,— сыходзячы на ржышча, калюча зашапацеў ім і перабіў мужчынскую гутарку Ікон Жыток.

— Чаму ж гэта? — папярхнуўся ад дыму Ваўчок.

— А таму, што пры балоце. А там, сам знаеш, макрэц ды куколь з гірсаю. Хлеб ад яго аж чорны.

— Гірса яшчэ паўбяды. Пры балоце вымакае ўсё. Во ў чым загваздка,— разважна сказаў Ладак Чабоцька, бокам ідучы проці настылага ветру, што дзьмуў з парудзелага ў пучках конскай цыбулі, а далей у белаватай асацэ лужка.

— Ну, зганілі вы ўжо ўсё, а рунь во лепшая, як на грудку,— спыніўся з краю поля Міця Корсак і паклаў на палеглы грывамі сушнік сваю мярнічую ленту, што студзіла ўсю дарогу рукі.

— Ды не горшая, праўду кажаш,— развязаў і высыпаў тут выструганыя калкі Ікон Жыток.

Абазначаную ды адмераную дзялянку, топчучы на ёй яшчэ не ўмерзлую рунь, абышлі ажно два разы, каб ацаніць зямлю ды прымерацца да дзяльбы: трэба ж было вымеркаваць патрошку ўсім і ніжэйшага, і вышэйшага грунту.

Але простакутнік верасаўскага надзелу аказаўся няроўны, і трэба было адмяраць «дзялкі» з дадаткамі. Праз гэта і пайшла ўся сварба. Загрудкі ледзьве не браліся, занадта гарачы, купаны, як кажуць, у кіпні, Ікон Жыток і не вельмі разважны, заюшлівы ў злосці Ладак Чабоцька. Смехам ды жартамі разводзіў іх Міця Корсак. Толькі МарцінВаўчок ды Мікалай Пыцель, не ўмешваючыся ў тузаніну і не зважаючы, што будзе з надзелам, задраўшы галовы, з наіўнай ды смешнай цікавасцю глядзелі ў неба: там у бясконцай, што адбірала вочы, і сіняй вышы, збоку ад сляпучага сонца, кружыліся, шырока распасцёршы крыллі і, здаецца, не махаючы імі, два каршуны над адзінокім крумкачом, што ўстрывожана і працяжна каркаў.

— Што там згледзелі? — ужо трохі ачахшы ад злосці і не ведаючы, як яшчэ падступіцца з гутаркаю да мужчын, зіркнуў у неба адным вокам і Ладак Чабоцька.

— Пташкі б'юцца. Каршуны з крумкачом. І што яны там не падзялілі?

— Цьфу ты, гаспадары,— плюнуў і паслізнуўся на макраватым з адталай намараззю сіўцы Ікон Жыток.

— Не кажы, брат, у іх — сваё, у нас сваё,— выціраў аслеплыя вочы Марцін Ваўчок.

— Табе адна трасца — дзе сваё, дзе чужое, сядзіш, як у бога за дзвярыма, абы не рабіць,— чапіўся ўжо да Ваўчка падкі на сварку Ікон Жыток.

Але на яго крык ужо ніхто не адзываўся. Усе падаліся туды, куды ішоў, раскручваючы мярнічую ленту, Міця

Корсак. У кліну поля, дзе чарнела і бралася за калошы густою шчоткаю нераспелая чарада, Ладак Чабоцька, вышмаргнуўшы з-за папругі невялікую з крывенькім тапарышчам сякеру, забіваў першы калок: умовіўшыся прырэзаць сушэйшага балотца, каб выйшла кожнаму па два гектары, верасаўцы пачалі разбіваць увесь надзел на доўгія гоны...

Дадому варочаліся ўжо сцішным надвячоркам, трохі нават захмялелыя ад той бутэлькі, закаркаванай жоўценькім надломленым коркам, якую выняў з-за пазухі Мікалай Пыцель і якую выпілі тут жа на полі, прысеўшы на паўмежку ў дымнай мятліцы. У душы, падвяселенай гэтай скупою кропляй, завірыла радасць. Усе ішлі гаваркія, з задавольным, вясёлым мужчынскім рогатам. Шуткаваў Язэпат Змысла, расказваючы, як верасаўскі Тодар, калі хацеў выпіць, ішоў да Гіты ў карчму, браў у сенях яе сякеру і аддаваў у заклад.

Мужчыны, падхвальваючы Тодараву хітрасць ды ўспомніўшы яшчэ смешнае здарэнне ці выпадак, што мог утварыць ён, шалёна закідваючы дагары галаў, заходзіліся ад рогату.

І раптоўна гэтая вясёлая, трохі хмельная радасць апала і ачахла, як ападае высокае расшуганае полымя. Збягаючы з крутога грудка ўжо да верасаўскага моста і шоргаючы нагамі па шалпатлівым лісці, мужчыны ўбачылі, як [illegible] хаты, пэўна, згледзеўшы іх у акно, подбегам ішла перапуджаная і збялелая ў твары Ваўчкова Вольга. Пад крывымі, пераплеценымі ў кронах вербамі нібы спатыкнулася і хрыплавата, адкашліваючыся, спытала:

— Вы ж чулі?

— Не-о? — першым на маставінах пакаўзнуўся Ваўчок.

— Вайтовіча арыштавалі.

— Хто?

— Салдаты вунь са штыхамі.

— Ну, гэта не навіна,— спакойна і неяк трохі абыякава сказаў Ладак Чабоцька.— Солтысам быў жа.

— Не навіна, а ўсё ж не па сабе,— прызнаўся Ваўчок.

Астатнія мужчыны маўчалі.

Міця ўчуў, як дрогкі, слізкаваты, што смоўж, холад падкрадваецца і да яго душы.

## IX

**Нечакана перайначыўся і нечакана змерк для Хрысці свет.**

Пасля смерці Грабянкаў, якую яшчэ ў чорным, знясіленым жалю не магла адпакутаваць старая асаднічыха, пасля таго, як з Баранавіч сюды ў дварчанскі ганарысты дамок пад старымі пасівелымі хвойкамі пераехала Чэся з мацераю, Хрысця з горкім адчаем убачыла, што яна лішняя ды нікому не патрэбная тут, нават дзіцяці, да якога прывыкла, як да свайго.

Дзіця цяпер даглядалі ды няньчылі ўсе. Забаўкаю з ім нібыта ратаваліся ад усяго. Хоць, як кажуць, няўлежна ды няўежна было тут, у Грабянкавым доме, але іншае зацішнае месца Хрысця не ведала, як і знайсці.

Зрэшты, не гнала ў карак і нічога не казала пра гэтыя пярэбары занятая нейкім сваім таемным клопатам пані Анця. Не вельмі, здаецца, убіваючыся па мужу, яна астатні час паспраўнела ды папрыгажэла яшчэ больш, наліваючыся спакуслівым хараством, як ацяжэлы яблык, што ўбірае нізкае вечаровае сонца, высунуўшыся з сівавата-зялёнага, што хавала яе, лапушыстага лісця.

Пакутуючы па сыну ды мужу, акрыяць не магла толькі старая Грабянчыха. Невыносна-раптоўнае гора ды вялікая жальба скончыліся для яе ўжо выпрашанай, вымаленай у бога лёгкай смерцю.

Было гэта ў пагодна-ласкавы дзень чыстай нядзелькі. Старой пані вынеслі калясачку з дзіцем, каб яна сама пабыла на свежым «паветшы», а заадно прыглядзела ды пазабаўляла яго.

Адсюль, з ветранага двара, у хату асаднічыха ўжо не вярнулася. Як села на лаўку пад тоўстым камлём шурпатай хвойкі, накінуўшы на голаў цёмна-сіні ў ясныя балонкі плед, так болей і не ўстала. Халодную яе агледзела ўжо Хрысця, выбегшы да хлевушка пад навесік, дзе была дрывотня і дзе даўкай, аж сушыла ў роце, гаркатою пахлі падсушаныя алехавыя ды бярозавыя дровы, каб ужо набраць бярэмя ды напаліць на нач сапучыя, што добра трымалі дух, кафельныя грубкі.

Высунулася з-за прыбудоўкі дома і змярцвела: у калясачцы заходзілася дзіця, а каля шурпата-ружовай хвойкі сядзела, неяк нядобра адкінуўшы голаў і сціснуўшы пад барадою клятчасты плед, аглухшая, безуважная да

ўсяго пані Грабянчыха. Глыбокай страшнай чарнатою разявіўся і перакрывіўся яе рот.

Чуючы, як млеюць і адымаюцца ад страху ногі, Хрысця памаленьку падышла да сіняй, на блішчастых колах, цыратовай каляскі, дзе ўжо асіпла з плачу дзіця.

Твар у старое Грабянчыхі застыў у пакутна-сцятай міне. І Хрысця, калоцячыся ад лядовага холаду, ірванулася назад, паслізнуўшыся на пабурэлай зачахлай траве, упала на коленкі, паднялася і пабегла зноў.

Мокрымі, упэцканымі ў гразь рукамі папхнула выбеленыя чыстыя дзверы ў пакой да пані Анці. На дзвярах астаўся чорны адбітак далоні.

Зіркнуўшы на гэтую брудную пляму, а потым на Хрысцін збялелы твар, пані Анця паставіла распаленае жалязка на кубак з вадою, апусцілася на табурэт, засланы старым прапаленым коцам, дзе прасавала каўнерык ад свае сукенкі, і, ускінуўшы рукі, са сполаху войкнула:

— Вой, што там? Дзіця!

— Няўжо? — змяніўся і пабрыдчэў прыгожы Чэсін твар, абсыпаны кудзеркамі не прыбраных пад касынку і рассыпаных валасоў.

Чэся першаю і падхапілася, скокнуўшы на невялічкі бурачкова-жоўты дыван, што ляжаў каля канапы, на якой яна і сядзела, падкурчыўшы пад сябе ногі і трымаючы на голых круглых каленцах белы недавязаны світэр.

— Пані там, пані!..— задыхнулася Хрысця, трымаючыся за палавінку расчыненых насцеж дзвярэй.

— Няхай крые бог, а я думала, што з дзецем,— нарэшце, ачуняўшы, ледзьве вымавіла пані Анця.

— А дзе пані Тарэза, што з ёю? — ужо ў калідоры пыталася ўстрывожаная Чэся.

— Каля хвойкі... нежывая ўжо...

— Оддаль од нас, просімы цень, пане, неправосьці нашэ [1],— сказала і, махнуўшы перад грудзьмі рукою, перахрысцілася пані Анця.— Але, можа, так і лепш.

Дзівам было для Хрысці, што ні ў той дзень, ні ўжо на могілках, абапёршыся плечуком да хвойкі, яна стаяла зводдаль ад труны і нават для прыліку не скрывілася — вочы яе блішчалі толькі сухою злосцю, як не плакала і напярэдадні, калі хавалі абодвух — старога і маладога Грабянкаў.

---

[1] Аддалі ад нас, просім цябе, госпадзі, грахі нашы *(польск.)*.

Плакала больш за ўсіх, мусіць, яна, Хрысця, калі немалады, ружовашчокі ксёндз, у чорнай доўгай сутане, грэзнучы ў свежым жвіры, на якім перад прорвай магілкі стаяла труна, пачаў адгаворваць казанне. Залівалася ад жалю слязьмі і потым, калі ішла з могілак дадому і ўспаміпала насыпаныя ў радок тры капцы: першыя два падзёўбаныя дажджом, а трэці — зусім свежы, падраўняны ды прыпляскаиы лапатамі.

Хрысці як штось — няўжо не шкода чалавека? А Даўнарыхі ўсе трое: і маці, і дзве дачкі — нібы радыя, што зваліся Грабянкі. Яшчэ на жалобнай вячэры няўзнак з'явіўся ў Грабянкавым доме і, па-гаспадарску ўсім заўладаўшы, пачаў упраўляцца даўнейшы польскі настаўнік — чарнявы з падбрытымі вусікамі Ма́рак Жэпка.

Прыбягаў памагчы то напілаваць ды насекчы разам з Хрысцяю дроў, то падправіць ганачак, што быў у адным кутку падгніў, то правесці ў сенцы электрыку — і ўсе тры кабеты ўжо не ведалі, як можна ў доме абысціся без Марака. Хрысця з дзівам, але ўжо і з агідаю пачала прыкмячаць, як слаўся ён лістом перад паняй Анцяю, строячы смешачкі ды жарты, і вочкі ў яго гарэлі, як у ката, што глядзеў на мазку, то рабіўся сур'ёзны, млеючы ад салодкай блізкасці, калі браў пані Анцю за ручку і, лёгенька тулячыся, абдымаў яе за круглыя плечы і рука яго слізгала ніжэй, да гладкіх клубоў.

Іншы раз, быдта заняты якою-небудзь работаю і незнарок запазніўшыся, ён пачынаў нехаця збірацца дадому ў тую, як ён казаў, непшытульну кватэрку, але яго заўсёды запыняла Анціна маці:

— Буй сень бога, пане Марак, хіба месца пралежыць, аставайцеся напач. Такі бужлівы час.

І пан Марак выходзіў толькі ў цемнату вечара, як ён казаў, «поцёнгноць сьвежэго поветжа»[1] і варочаўся ў спехам прыгатаваны для яго пакойчык, дзе стаяла канапа, дзе былі шафы з кнігамі, дзе наўскос да палічкі прыткнуўся шырокі з зялёным сукном стол, за якім даўней сядзеў, нешта ўсё пішучы, малады Грабянка.

Цяпер там перабіраў кніжкі пан Марак і заходзіла Анціна мама пажаліцца і пабедаваць да яго. І Хрысця чула тое самае, што яна казала не адзін раз, збрыдзеўшы ўсім:

---

[1] Пацягнуць свежага паветра *(польск.)*.

— Здрова мі не допісывала... Бачыце — выхудалэм, як шчапа, і мам завроты главы [1].

І Чэся ціхенька рознымі хітрыкамі выводзіла яе з пакойчыка.

А аднаго разу — няхай крые і бароніць бог! — Хрысця ўбачыла, як ў кухні, дзе перад нядзелькаю, нагрэўшы вады, мыліся ўсе кабеты, ціхай мышшу ў пакой да Марака, не затуляючы расхрыстаны халат і свецячы белым жыватом і ружаватымі сцёгнамі, ускочыла голая, у чым маці радзіла, пані Анця.

Жахнуўшыся, анямеўшы ад дзіва, Хрысця нарэшце разабралася, што маладая Грабянчыха папраўдзе ніколі не любіла нябожчыка мужа, і вось чаму ён, здзічалы ад злосці, цягаўся поначы, гуляў у карты і нелітасціва піў.

Брала злосць, а ўжо разам і брыдкасць, што ў хаце незнарок з'явіўся і яшчэ адзін кавалер — лысаваты, атлусцелы, з гладкім жывоцікам, што пераважваўся праз бліскучую сашчэпленую спражку, не брыдкі з твару доктар у клятчатай ясёнцы і гэтакай жа клятчатай кепцы з шырокімі, зашпіленымі наверсе вушкамі. Гэты быў ужо занадта далікатны: ніколі не аставаўся нанач, прыносіў для Чэсі кніжкі і запрашаў яе на работу, а для прыліку і Хрысцю ў бальніцу, што адкрылі нядаўна, не болей як тыдзень, у Хургінавым гатэлі — двухпавярховай мураванцы.

Пазаўчора яшчэ раз прыходзілі і ўжо з нейкім начальнікам, у якога на рэмені блішчала вялікая медзяная зорка, абмерваць Грабянкаў дом, і пані Анця раўла, заломваючы рукі, што, можа, прыйдзецца выбірацца на іншую кватэру, покуль адвячоркам не завітаў далікатны доктар і, усміхаючыся і бліскаючы залатою каронкай, не пачаў суцяшаць ужо іх усіх, што не трэба ўбівацца, бо не можа быць, каб «товарищ красноармеец» не ўважыў доктара, які лечыць яму ныркі.

У Хрысці не адыходзіць злоба на гэтага ліпкага, як смоўж, доктара, што маскуецца і падлашчваецца да Чэсі, ды помслівы боль кіпіць у душы і на яе, на Чэсю, што забылася, не ўважыла Міцю, нават ні разу не спытаўшы, дзе і што з ім.

А Міця, брыдкавата і казаць, падае за ёю, ажно не помніцца — гэтак, пэўна, любіць. Чула ад Імполя, што і

[1] Са здароўем мне не пашэнціла. Бачыце — худая, як шчэпка, і галава ў мяне кружыцца (*польск.*).

надоечы, варочаючыся з турмы, распытваў пра Чэсю: ці не прыбілася часам з Баранавіч сюды да Грабянкоў у Дварчаны.

Імполь расказаў, быдта хворага Міцю фурманкаю дадому вёз Хрысцін брат — аднарукі Коля. Але адкуль вёз, Хрысця ўтолк і не распытала, бо не было ўжо як — пасварыліся з Імполем. Пэўна, абое не ведаюць, за што. І трэба ж было... Столькі не бачыліся, а, стрэўшыся за мастком на той вузкай крывой вулачцы, якую перабягае смярдзючы раўчачок, падмываючы пазелянелы фундамент белай мураванкі, дзе да нядаўніх дзён быў рэстаран асадніка Шумскага, а цяпер, зняўшы ўсе завалы, размясцілася рабочая гвардыя, пагаварыць як належыць не маглі: слова за слова — і выйшла сварба.

Нешта ганарыстае, фанабэрыстае ды, можа, нават чужое і нядобрае прыкмеціла Хрысця ў Імполя, калі ён выйшаў на невысокі, падпёрты двума тоўстымі слупкамі ганак і, падтрасаючы на плячы карабін і, мусіць, ужо не хаваючы пыхі і ашалелай радасці, што ён са зброяю, з чырвонаю павязкаю на рукаве, спусціўся да Хрысці.

На ім шчытна сядзеў зеленкаваты, пашыты з вайсковага сукна паўшубак з цыгейкавым каўняром і круглая, не тутэйшага фасону цёмна-сіняя з чырвоным аколышам фуражка.

Ці мо ад таго, што змяніўся ды яшчэ пахарашэў у новым убранстве Імполь і нібы пачужэў да яе, Хрысця першы раз учула, як на душы затлелася гарачая ні то злосць, ні то невядомая жальба і крыўда на яго.

І калі, пераказаўшы ўсе навасці, ён нарэшце спытаўся, чаму яна сядзіць у Грабянкаў, чаму не пакідае гэтага асінага гнязда, Хрысця ўжо не стрывала, адсекла злымі, ужо ненавіснымі словамі:

— А ты звіў гняздо, ты маеш сваё, што мяне папікаеш асіным?

— Не, Хрысця, не маю, але хачу...

Яна не даслухала тады, ведала, што ён скажа, перабіла:

— Скінь паўшубак, грашно чужое насіць.

Ён задыхнуўся ад нечаканасці і ледзьве вымавіў:

— Я нічыйго не браў, выдалі.

А ў самога ад сораму гарэлі вушы.

— Не махлюй!

— Праўда, Хрысця.

— На праўду вашу я нагледзелася там, у асадзе, як засеклі Грабянку.

Імполь нечакана і насцярожліва адступіўся і падняў адно плячо:

— Не мой грэх. Але бачу, ты наслухалася... Можа, ужо і над свінабоем паплачаш?

— Згары ты разам з ім! Знайшоў кім папракаць.

— Хрысця,— апомніўшыся і астываючы ад злосці, ён памкнуўся злавіць яе за локаць, учуўшы, як яна звінюча і скоранька затупацела абцасамі туфляў па няроўных плітах тратуара, подбеж прыпусціўся за ёю: — Хрысця, я тут напытаў кватэру.

— Так і жыві ў ёй!

— Спадзяваўся, што і ты...

Яна, збітая з панталыку гэтым яго спадзяваннем, нават непрыстакнула, але, каб перабіць, перамагчы ў сабе тое неспадзявана-добрае, што знайшлося ў душы да яго, раптоўна і без літасці спытала:

— А ці не падумаў, што Алеся якім ражном выпара цябе з гэтага катуха?

— Думаў пра ўсё,— вінавата прызнаўся ён і ўнурыўся, апусціў вочы.— І работу табе падшукаў.

— Якую ж гэта?

— Да нас — тэхнічкай. Чуеш?

— Што гэта за работа?

— Печкі выпаліць ды падмясці. Лёгка...

— Лёгка, кажаш,— Хрысця горка ўсміхнулася і з гаркатою перапытала, ажно адыходзячы ад памяці: — А ці лёгка будзе, як прыбяжыць Алеся? Ой, прыбяжыць!..

— Няхай бяжыць!

— А я не хачу, каб помсціла ды праклінала,— Хрысця борздзенька пайшла і ўжо здалёк учула, як у спіну ён гукнуў (словы блізкім і моцным перуном аглушылі яе):

— Не любіш ты мяне.

— І не люблю,— ледзьве вымавіла, душачыся ад гарачых і пякучых слёз, што дрыгатлівым мроівам заслалі крывую вулачку з белымі камяніцамі.

Няпомнячыся і нічагуткі не бачачы, бегла вузкім, няроўным з выкрышанымі плітамі тратуарам. Душу раздзірала крыўда, што сказала няпраўду, што зрабіла балячку і сабе, і яму.

Дарогу Хрысці заступілі спярша два чорныя грузаватыя стваλы старых ясеняў, што раслі тут на самым тра-

туары, а потым ужо і рогат салдатні і незразумелыя, ніколі не чутыя словы:

— Девушка, вы здешняя?

Прыпыніўшыся, глядзела, як, седзячы радком у скрыні самахода — чорнай з брызентавай кабінай палутарцы, што курылася перагрэтым радыятарам,— выскаляліся маладыя, чырванашчокія ў цёмна-сівых з нязвыклымі высокімі пупамі шапках і шэрых, як хатняй работы, суконных шынялях круглаліцыя хлопцы.

Адзін чарнявы, што прыпадняўся і аблакаціўся на шафёрку, здаўся нават падобным да Імполя, і Хрысця ажно сумелася, угнула галаў.

— Тише вы! — гэта, здаецца, ён суняў неадчэпныя жарты ды рогат.— Девушка плачет.

— Ай, правда.

— И кто обидел?

— Не шуткуй, ребята.

З шафёркі-кабіны, апусціўшы ў дзверцах шкло, высунуў галаў у круглай шапцы з шырокім і трохі задзірыстым брылём смуглявы і не брыдкі з твару, але, здаецца, старэйшы за іншых гадамі — ці не афіцэр?

— А где здесь милиция? — махнуў ён чорным лакіраваным брылём.

— Як кажаце? — нарэшце апрытомнела і ачуняла Хрысця.

— Милиция, спрашиваю, где у вас?

— Міліцыя не ведаю, а гвардыя вуньдзека,— азірнулася Хрысця, махнуўшы рукою ў канец вулачкі на белы дом з двума аконцамі ў шчыце.

Афіцэр уцягнуў галаў у кабіну, і машына, чмыхаючы з-пад кузава сінім саладжава-чадным дымком, натужліва завуркатала і памалу, набаўляючы скорасць, затраслася па няроўным ружаватым бруку.

Вясёла, выскаляючы белыя зубы, смяяліся маладыя салдаты.

Хрысця глядзела, як, падымаючы віхрам пыл, бег па вуліцы грузавік, і думкі завірылі пра балючае ды горкае сваё: дзе шукаць які прытулак? У Грабянкавым доме яна і словам не абмовілася пра тое, што будзе перабірацца на іншую кватэру ды пойдзе на работу ў тую невядомую бальніцу, дзе можна будзе дармова сталавацца.

Неўпрыкмет заўважыла, што яе стараніліся ды ціхама пешапталіся ўсе тры пані. Хіба адна толькі Чэся зрэдку пе-

ракідвалася словам, і во надоечы, няўзнак, каб, мусіць, не ведалі маці з сястрою, на двары, калі яны вынеслі з хаты выпыліць ды вытрасці ходнікі ды закурэлыя воўчыя шкуры, што ляжалі, каб было цёпла ў ногі, каля ложкаў, яна адкінула з лоба рыжаватую кучарава-ўпартую кудзерку, паглядзела сваімі прыгожымі валаватымі вачмі на Хрысцю.

— Ты скажы,— і Чэся азірнулася на голыя кусты акацыі, дзе нядужа цiлiўкала шара-зялёная з белымі шчочкамі і чорным берэцікам надзьмутая сініца,— можа, ты чула, дзе цяпер твой брат?

— Змітрык? — узрадавалася гэтаму роспыту Хрысця.

— Ага, Міцек. Дзе ён?

— Удома.

— Праўда? А ён быў у вязненні?

— Быў. Вярнуўся дадому. Хварэе толькі.

— А што з ім?

— Не ведаю, не ўспела распытаць я.

— У каго?

— Ай, тут адзін з вёскі нашай.

— Ці не твой? — Чэся, пэўна, хацела намякнуць на Імполя, але Хрысця закруціла галавою:

— Не-не.

— А я думала...— Чэся не дагаварыла.

Хрысця, прыгледзеўшыся да яе вялікіх шарых вачэй, мяккіх, прыгожа надзьмутых губ, убачыла ў ёй новае прыхаванае хараство, якога дагэтуль, здаецца, не прыкмячала, і сэрца апякла трохі пякучая зайздрасць і нейкая ласкавая, перамешаная з сарамяжнасцю, сцішнасць, і павага знайшлася ў душы да Чэсі.

І, ужо зарадаваўшыся, Хрысця перапытала:

— Можа, што наказаць яму?

Ёй самой не цярпелася збегаць у Верасава, пачуць і паглядзець, што робіцца там.

— Не, не,— Чэся затрасла прыбранымі пад хустку залацістымі кудзеркамі.— Я ўчора бачыла яго.

І холад насцярогі зноў абвеяў Хрысцю — чаго тоіцца, чаго не дагаворвае ўсяго Чэся. Няўжо не верыць, няўжо баіцца і ў нечым падазравае?

Пасля гэтай гутаркі Чэся пачужэла для Хрысці яшчэ больш і нешта злое, нядобрае пераварочвалася ў душы да Грабянкавага дома, да ліслівага пана Жэпкі, што аставаўся тут нанач, да лысавата-сыценькага доктара, што нібы-

та лячыў Чэсіну маці, а як па Хрысціным знаку, так больш прынаджваў да сябе Чэсю.

Але сённяшняй ночы ўчынілася самае страшнае, што магла чакаць Хрысця. Усе ўжо не хавалі радасна-шалёнай злосці і гідкасці, што ліхата ад яе, што гэта яна прывеціла і прыклікала ў дом Імполя.

Сёння ўночы Імполь разам з двума салдатамі ператрэслі ўвесь Грабянкаў дом, пачынаючы з гарышча і канчаючы склепам, адкуль толькі вынеслі прыгожы батарэйны прыёмнік з устаноўленым у яго чатырохкутным гадзіннікам, а паліцыянта Гуру, пра якога ўсё больш распытвалі ў Хрысці, не знайшлі.

Ды Хрысця, праўда, ніколі не прыкмячала ў Грабянкавым доме паліцыянта Гуру, як цяпер, так і даўней. Калі бываюць, то хіба што доктар з вучыцелем.

У калідорчыку ўжо Імполь потайкам шапнуў, што Гура ўцёк са Слоніма і хаваецца недзе тут у Дварчанах: або дома, або, як падазрэнне падае, ці не звіў патайное гняздо ў Грабянкавым доме.

А калі ператрывожаная Хрысця выйшла замкнуць дзверы, Імполь, стоячы ў парозе пад лямпачкай, што віселa над вушаком, і трымаючы на руках гэты прыгожы, з устаўленым гадзіннікам прыёмнік, зноў коса падцяў губу і зноў са злосцю сказаў — цень ад брыля хаваў яго вочы:

— Уцякай ад іх, досіць быць парабчанкай.

— Ну, уцяку,— засмяялася яна і знарок, ужо напоперак яму, закружыла падолам доўгай споднярй кашулі з карункамі.

— Жартачкі строіш,— ён зачапіўся за парог, доўга грукаў ботамі на пустым і гулкім, як барабан, ганку.

А калі гэты грукат сціх і сціх натужлівы вуркат самахода — ці не таго грузавіка з брызентавай шафёркай? — Чэсіна маці, цэдзячы з бутэлечкі ў сінюю мензурку едкапахучыя валяр'янавыя каплі, нечакана, як з вялікага спалаху, пачала заікацца:

— Гэта яна! Яна...

Прыхіліўшыся да вушака і не заходзячы ў расчыненую кухню, дзе, падаўшы мацеры вады, курчылася нібы ад холаду і сціскала пад падбародкам байкавы жаўтлявы халат Чэся і гупкала разгулянае дзіця Анця, зніякавелая Хрысця яшчэ ўсё не магла разабраць, што гутарка ідзе пра яе самую.

— Мама, перастань! — Чэся паднялася з лёгкага гнутага крэсла.

— Як перастань? Буг мі свядкам [1]: яна сказала, што ў нас бывае пан Марэк.

— Мама, ты наіўная, як дзіцятка,— Чэся са злосцю вышмыгнула з кухні і адазвалася ўжо ў калідоры, за Хрысцінай спіною.— Хіба яны не ведаюць...

— Ніц подобнэго! [2]

— А нашто ж лішне напамінаць? — Анця павярнула сваё вострае плячо да Хрысці, і дзіця, бліскаючы жывымі кузюркамі вачэй, працягнула да яе свае растапыраныя трапяткія ручкі.

— Досць! Не заврацай гловы. Класьць сень спаць [3],— раздражнёна, з адчаем ужо закрычала Чэся, каб як супаяць, супакоіць сястру і маці.

Паслухаўшы гэтую нечаканую сварбу, Хрысця нібы абамлела душою, не ведаючы, што ўжо і рабіць: ці то аставацца, ці ўцякаць у гэты ж міг з хаты, як уцякала летам у вялікі дождж, у навальніцу, калі да яе прыставаў свінабой, што прываloкся да Грабянкаў разам з п'яным Франакам.

Заліўшыся слязьмі, шыбанула ў кутні пакойчык, дзе стаяла рыпучая, з гарбамі ад спружын, старая канапа і дзе цяпер спала яна, Хрысця,— адзінюткая ў гэтым доўгім і халодным пакойчыку.

Ад гаркаты і крыўды на цэлы свет і нейкага салодкага жалю да сябе там ужо плакала ўволю.

А на кухні, чуваць было, яшчэ ўсё сварыліся пані Анця з мацераю.

— Цо радзіш тэраз робіць? [4]— крычала тонкім, трохі сіпаватым голасам старая Даўнарыха.

— Наразе трэба зачэкаць [5],— досыць спакойна адказвала ёй пані Анця.

Знерваваная і змучаная ад невыносна-цяжкіх, пакутных думак, Хрысця і заснула пад гэты крык на кухні, прачнуўшыся, як заўсёды, раненька: за вокнамі яшчэ не раставала глухая асенняя ноч. Разбушаваны вецер глуха

---

[1] Бог мне сведкаю *(польск.)*.
[2] Нічога падобнага! *(польск.)*
[3] Досыць! Не тлумі галавы. Кладзіся спаць *(польск.)*.
[4] Што раіш рабіць? *(польск.)*
[5] Спачатку трэба пачакаць *(польск.)*.

бухаў па бляшаным даху, тоненька падвываў за вуглом хаты, з рыпучым крэктам гайдаў кучаравыя хвойкі, і праз свіст ветру, дзінькане шыб Хрысця, здаецца, чула іхні мяккі густы шум.

Ёй бачыліся высокія ялаўцовыя кусты на палявой дарозе, чуўся іхні смутны і гэтакі гусценькі шум, успаміналася свая вёска за высокім абветраным пагоркам. І Хрысця з жалем падумала, што ўсё пачужэла, адышло для яе там і што яна ўжо не вернецца дадому.

Ад гэтых думак на вочы набеглі слёзы, сэрца зайшлося ад тупога, як вытрываць, болю, што яна як была, так і асталася адна ў гэтым неспазнаным свеце. Адзінокая, нікому не патрэбная, нават, можа, яму, Імполю. Бо нават, апроч нейкай панурай грозьбы, ласкавага, зычлівага слова ад яго не ўчула. Пэўна, і сама вінавата — ён жа ж клікаў і на работу, і да сябе.

Але як жыць з ім пры жывой жонцы? Грэх жа ж вялікі, грэх. Каб хоць разлучнік быў.

Ужо не раз спынялася Хрысця перад гэтым скрыжаваннем — куды пайсці. А сёння, няхай крые бог, начыста збілася з тропу.

А можа, астацца ў Грабянкаў? Яшчэ ж не выганяюць з хаты. Пасварацца ды ачахнуць. Бо нешта не пускае, вось так, нічога не кажучы, узяць ды пайсці.

Нацята-звінючым раскалыханым звонам прабомкаў у вялікім, мусіць, расхрыстаным пакоі шафкавы гадзіннік.

«Вой, сёмая гадзіна». Хрысця па звычцы скоранька падхапілася з рыпучай старой канапы.

У калідорчыку, дзе быў прыбіты ўмывальнік, над вялікаю белаю місай ужо мылася Чэся.

Жоўтае, ледзьве жывое святло ад слепаватай, з чырвонымі валаскамі лямпачкі раставала цьмяным дымам у яе кучаравых, узбітых дыбам валасах.

— І ты не спіш? — ловячы на жоўтым медзяным кручку белы ў карычневыя паскі ручнік, яна падняла свой мокры твар.

— А хібя заснеш, калі на цябе...— у Хрысці зноў быстрым палахліва-трапятлівым агнём успыхнула крыўда.

— Ты злуеш на маму?

— На ўсіх.

— Выбачай, столькі ў хаце бяды.

— Я ведаю, лішняя тут.

Закрыўшыся ручніком, выціраючы ўжо сухі твар, Чэ-

ся маўчала — пэўна, згодная была з тым, што сказала Хрысцця.

— Я сёння пайду,— у Хрысціным голасе была ўжо цвёрдасць.

— Куды? — Чэся зашоргала конаўкай у пустым вядры, каб, мусіць, наліць у бляшаны пусты ўмывальнік вады.

— Да Сулі во,— з языка зляцела тое, што яна перадумала ўжо не раз.

— А можа, пойдзем разам у бальніцу, мяне прымаюць пелянгнияркай, ці, як цяпер кажуць, медсястрою.

Хрысцця, яшчэ не апомніўшыся ад перажытага, з недаўменнем і дзівам глядзела на Чэсю.

— Так пойдзем? — маргнулі шарыя вялікія вочы.— Там сталавацца будзеш.

— А што я рабіцьму? Я ж баюся нябожчыкаў.

— У радзільнае аддзяленне цябе бяруць. Няўжо ты баішся цяжарных кабет?

Хрысцця ўзяла з табурэціка пустое вядро, адчыніла дзверы, захлынуўшыся і ад гэтай нечаканай весці, і ад вострага скразняку.

Перад ёю на надворку вірыла цёмная сырая ноч — яшчэ не заднеўся дзень.

## X

Што абʼявіўся дварчанскі паліцыянт Гура і сяды-тады соннай ранічкай прыбягае да гладкай, шчодра-вяснушчатай, але не брыдкай на твар жонкі, падказала старая Кайтаніха.

Брала нават дзіва, што слепаватая, з вывернутым слязлівым вокам баба прыцікавала, як з-пад рэчкі, перабегшы кладку, у свой блізкі і недакончаны дом, што ўткнуўся блочным падмуркам у стромы бераг, крадком, вядома, пераапрануўшыся ў цывільнае, прыходзіць Гура, і, покуль ён снедае ды кахаецца з жонкаю, на надворку калее, стоячы напагатове, яго сын — хлопец гадоў дванаццаці.

Кайтаніха і падказала, як лепш падысці да Гуравай хаты, бо па суседству сядзіць яго цешча, здыхатлівая, занэнджаная ды знявечаная каўтуном Казмерчыха; яе няжеглая, з белымі атынкованымі сценамі хатка выткнулася

на самую вуліцу, і з нізкіх на пэсць балонак вокнаў відаць таксама шмат.

Імполь з новым, прысланым у Дварчаны недзе з Магілёва оперупаўнаважаным Гаўрылам Сяміглазавым — сухарлявым, рослым мужчынам — днямі зайшлі да дзядзькі Ладзімера, каб, не не вельмі патыкаючыся на чужое вока, рассмакаваць бутэльку «Маскоўскай», якой Імполь яшчэ ні разу не піў. Гэтую бутэльку, а заадно і салёнага каўказскага сыру, што робяць з авечага малака, прывёз Сяміглазаў.

— Імеецца хто знаёмы?

— Знаёмы не знаёмы, а чалавек свой знойдзецца,— прыпомніўшы старога малацьбіта дзядзьку Ладзімера, прызнаўся Імполь.

— Тады, можа, зойдзем? У мяне тут,— Сяміглазаў паляпаў па сваім чорным цыратовым партфелі з блішчастымі ніжнімі кантамі,— бутэлька вычхнецца.

Сяміглазаву ды, вядома, і Імполю не хацелася сядзець у пракуранай настылай камяніцы, дзе сталаваліся, начавалі, а іншы раз, не маючы чаго рабіць, рэзаліся ў карты салдаты рабочай гвардыі — дванаццаць чалавек, найбольш вясковых хлопцаў і маладзейшых мужчын,— і яны, дачакаўшыся поцемку, цішком паджгалі да старога Ладзімера.

На краі мястэчка, дзе ўжо кончыўся брук, а паабапал яго і вузкія, выкладзеныя цэментовымі плітамі ходнікі і дзе ад старых, нахіленых, як чарвівыя баравікі, закажанелых хвоек вытачыліся і выпаўзлі на пясчаную вуліцу вузлаватыя, у гулах нарасцяў, паабіваныя карэнні, Сяміглазаў нечакана прыціх і ці то са сполаху, што, можа, усунуўся не туды, ці то для перасцярогі папытаў:

— А ён наўродзіў не джыгне? Етый чалавек.

— Што? — не разабраў Імполь, што кажа Сяміглазаў.

— Я кажу, жміндаць не будзець? — Сяміглазаў нават спатыкнуўся, зачапіўшыся за корань.— Гаварыць ці падкусываць.

— Гэ, баязлівы тут, гляджу. Хоць і ляворвар з сабою носіш. Ды свой ён чалавек, чуеш.

— Не ўсігда давярайся,— смешна, расцягваючы словы, гаварыў Сяміглазаў.— Спярва правер, а потым вер.

Імполь нават быў раскаяўся, што згадзіўся пайсці з насцярожаным Сяміглазавым. Але ў нізенькай хатцы з пабеленай перагародкай ля печы, з няроўным гліняным

токам, з папяровымі выцінанымі фіранкамі на вокнах, дзе пахла газаю слепаватая закурэлая лямпа і дзе яны, усе ўжо разам, гаспадары і госці, прысеўшы на абслізганыя лавы каля стала, раскаштавалі гэтую бутэльку, Імполь раптам падабрэў.

Расчырванеўся і, здаецца, паспакайнеў Сяміглазаў.

— Ну, як? — маргнуў ён Імполю, паказваючы на пуставатую чарку, калі выпілі па першай.

— Як агнём смаліць у грудзях,— старая адвярнула сваё чырвонае вывернутае вока. Змахнула з шчакі набеглую слязу, як змахваюць камара.

— Гарэлка як гарэлка,— задзёр свой сівавата-рэдзенькі, натапыраны чубок стары Ладзімер.— Але скажэця, што гэта за сыр? Чаго ён такі салёны? — І стары перастаў жаваць, мусіць, прыслухоўваючыся да смаку.

— Брынза гэта.

— Як кажаце? — прыжмурыліся сіненькія вочкі. На белай, ніколі не загарэлай галаве старчма і ўпарта стаялі ценькія валасы.

— Сыр, што выраблюць з авечага малака.

— Цьфу! А я ўзяла ды пакаштавала,— паднялася з шырокай, абслізганай лавы Кайтаніха.

— А я не прымаюся,— засмяяўся стары, паказваючы бяззубыя дзёсны.— Ем, і хоць бы што. Я — не гідлівы.

— Во, яшчэ і выскаляецца, чапяла гэта,— Кайтаніха зашаркала атопкамі недзе туды да печы.

— Далікатная якая...

— Досіць ужо бубніць! — крыкнула адтуль з-за пабеленай перагародкі старая Кайтаніха.

Імполь таксама не знайшоў смаку ў гэтым перасоленым і занадта сухім авечым сыры і таму пацягнуўся да талеркі з ружаватым, добра выхаваным салам, але, каб не ўгнявіць нікога, сарамяжліва прызнаўся:

— Мне лепшая свая закуска.

— Тута так,— Сяміглазаў растапыранаю рукою, нібы навобмацак, зноў злавіў бутэльку.— Як мой сусед кажыць: «Што край, то абычай».

— Што праўда, то праўда,— стары падсунуў доўгі грацёны на тонкай ножцы кілішак.— У Францыі, кажуць, жаб сушаных ядуць.

— Ты ўжо знаешся,— не дала старому Ладзімеру дагаварыць Кайтаніха.— Вот лепш паслухай, што людзі кажуць.

— Ці я не чуў,— скрывіўся ад выпітай чаркі стары Ладзімер.

— Прафэсар ты ў нас,— усё з той жа зацятай злосцю крыкнула з-за перагародкі Кайтаніха і спытала ў Сяміглазава: — Вы ж скуль будзеця?

— З Мсціслаўя я.

— Хто ж там у вас?

— Бацька жывець аднарукі. Каня запрэгчы і то не запражэ, хамута адною рукою не сцягнеш.

— Дзіва што,— стары Ладзімер зіркнуў на Сяміглазава.— Німа рукі ці нагі, лічы — гэта ўжо паўчалавека.

— Не перабівай, до паслухаць. Ой, надаядны ты.

Кайтаніха перапыніла старога і, трымаючыся адною рукою за балячы крыж, прыкульгала зноў да стала, прысела на тоўстую жаўтлявую лаву. Пазіраючы набрынялым лупатым, з якога кацілася сляза, чырвона-страшным вокам на Сяміглазава, доўга распытвала ў яго: ці жанаты, і колькі мае дзяцей, і што робіць цяпер. І той спярша ўсур'ёз, а потым жартам ды смехам пачаў адбівацца ад роспытаў старой, але адбіцца не мог, покуль не выручыў ды не падсобіў Імполь:

— Міліцыянер ён.

— Які гэта?..— запнулася, не магла вымавіць чіколі не чутае слова старая Кайтаніха.

— Нападобе нас, рабочай гвардыі.

— Вы ўжо рабочыя,— змахнула з чырвонага набрынялага вока набеглую слязу старая Кайтаніха.— Сядзіце там каля катла. Вы ўжо — як той раскормлены кот, што лянуецца мышэй лавіць...

— Якія тут мышы, цётка,— кісла ўсміхнуўся Імполь.— Усё, што было, то ўсё сплыло.

— А Бубеля, каменданта, хібя не злавілі тут на мосце,— трохзубым і ржавым відэльцам стары Ладзімер дзюбнуў у скварку і не пацэліў, прамахнуўся.

— Халеру зловіш. Паліцыянты ў Літву чмыхнулі.

— Каб жа ж так...— скрывілася і ўзялася за шчаку, дзе балюча ныў зуб, Кайтаніха.

— Айдзе яны цяперя? — ужо насцярожыўся і расцягнуў за шырокім рэменем сваю суконную зеленаватую гімнасцёрку Сяміглазаў.

— Дзе? Вунь майго старога перапалохаў адзін.

— Ну, то ўжо...— падмахнуў рукою з відэльцам і прыжмурыў вока стары Ладзімер.

— А я і скажу,— у Кайтаніхі з чырвонага вывернутага вейка збегла сляза.

— Дзіва што, жыва не была б, каб не перагаварыла. Ого!

— Мяне гумаю чуць не захвастаў, а я маўчацьму.

— Дак хто гэта? — нецярпліва разбірала Імполя.

— Хтокала,— зіркнула на Імполя чырвоным балячым вокам Кайтаніха і, адвярнуўшыся, быдта сама сабе, ціха сказала: — Антоні Гура...

— Чаго-та яна бляе, як авечка? — унурыўся стары Ладзімер: пэўна, не хацеў і асцерагаўся, каб жонка не нагаварыла лішняга.

— Які ета Гура? — натапырыўся і прыпадняўся Сяміглазаў.

— Паліцыянтам быў. Лядачы, хай бог адносіць.

— А жывець тута?

— Дзень тут, а дзень, кажуць, у Ятвязі, у жончынай радзіны.

— А далёка адсюль?

— Мо вёрст пятнаццаць будзе,— сказаў Імполь, пазіраючы на ружаватае, нарэзанае тоўстымі скваркамі сала, і не стрываў, узяў адну.

— Айт, не турчы,— варухнуў плячом і прыжмурыўся Сяміглазаў,— дай паслухаць.

Кайтаніха, абапіраючыся абедзвюма рукамі аб шырокую дылю, падсунулася бліжэй да стала, радая, пэўна, што хочуць яе паслухаць.

Стары борзда падхапіўся, зачапіў галавою лямпу: у хаце, то расцягваючыся, то меншаючы, калыхнуліся сіняватыя цені; пад нагамі ў старога на няроўнай глінянай падлозе курчыўся яго — маленькі.

— Ці так бог даў, ці не, але баба ўсё плешча языком. І наплешча на сваю голаў — людзі цяперака помслівыя,— І падсеў да Імполя на прыстаўлены заслонік.— Гэта я тут і падсеў да Імполя на прыстаўлены заслонік.— Гэта я тут і пазнаў ды надыбаў поначы на аднаго. Але ці ўпоцемку пазнаеш?

— Не бойся, дзядзька, кажы,— асалавелы ад чаркі, расхрабрыўся ўжо Імполь.

Стары ўгнуўся, падрапаў лагчынку свайго лысаватага цемені і зіркнуў спадлоб'я на Імполя:

— А ты, бачу, усунуўся ажно з вушамі.

— Што? — Імполь знямеў ад праматы ды рэзкасці.

— А тое, што адно вока ў цябе таўчэ, а другое меле.
— Як гэта?
— А так. Прыйшоў у госці, так сядзі.
— Ты, дзядзька...
— Не надта дзядзькай, а скажы, чаго гэта з Верасава цябе прынясло ў Дварчаны.
— Выгналі,— чмыхнуў у нос Імполь.
Але да жартаў стары не прыймаўся, крывячыся і адкапыльваючы ніжнюю губу, пакруціў лысаватаю, пабялелаю каля скроняў галавою:
— Бачу, што і ты ўжо навучыўся на пень брахаць.
Але гэтую ні то гутарку, ні то ўжо сварбу перабіў Сяміглазаў:
— Пайдзём, людзям спаць пара!
— У карчэнь не гонім,— засмяяўся бяззубым ротам стары і прыгладзіў неўспадзеў свой рэдзенькі чубок.
— Ой, выспімся,— да парога за пабеленую перагародку, дзе ўжо адзяваліся Імполь з оперупаўнаважаным, сагнуўшыся і трымаючыся абедзвюма рукамі за крыж, прычыкіляла старая Кайтаніха.— Цяперашняя ночка, кажуць, мужу сарочка. І напрасці, і выткаць можна,— і павярнулася да Сяміглазава, яшчэ раз нагадала, ужо ціхавата, украдкавым шэптам, вырачыўшы сваё чырвона-слязлівае вока: — Папільнуйце, прыбягае ён сюды, усё ад рэчкі, з хвойніку, што за возерам, ідзе.

...Цяпер ад рэчкі, дзе з аднаго камля раслі, разыходзячыся ў розныя бакі, тры старыя з чорнымі шапкамі вароніных гнёздаў шурпатыя алешыны, затаіўся Імполь.
Тулячыся ад шапаткога, перамешанага з градам дажджу за тоўстыя камлі, уцягваў голаў у настаўлены каўнер, прыслухоўваўся да вострага, як шрот, граду, што сек па абледзянелай зямлі, і да звінючага, як шкло, шоргату разгойданых лап. Голыя без рукавіц рукі крэплі ад настылай ледзяной вінтоўкі.
Ад блізкай, што абрасла вербамі і мармытліва цурчэла пад вузлаватымі карчамі, нешырокай, у петлях лук, рэчкі сюды да алешын палахліва вілася і смутна блішчала аблітая галалёдам сцежка: крокаў за дваццаць ад чарады тоўстых алешын праз рэчку ляжала, звязаная з дзвюх неакораных сасновых жэрдкаў, гнуткая кладачка з гэткаю

самаю ненадзейна-слабенькаю парэнчаю. Каб не кружыць на чыгуначны мост і хадзіць наўпрасты, кладку зрабілі дварчанскія мяшчане.

Там, за чарнатою маладога алешніку, дзе схавалася возера, на грудку ў чэзлым хвойніку ў нейкім зморана-глухім сне стаіліся могілкі.

З правага боку на касагоры ў чорным пераплеценым галлі раскалыханых ветрам прысад адзінокімі вокнамі моргала мястэчка, брахалі перапуджаныя чужою хадою чуткія сабакі. На фоне жаўтлява-сіняватага, зацягнутага хмарамі неба падымаўся вострым бляшаным дахам з двума камінамі новы дом паліцыянта Гуры. З аднаго боку да яго шчыльна прыціснуліся пазарастаныя бэзам ды садкамі нізкія хаты, з другога — быў прагал.

Прыляпіўшыся да спаду грудка і выставіўшы высокі бляшаны комін з іголкаю громаадвода, за прагалам чмыхала чыгуначная вадакачка.

Да аднастайна-рытмічнага лопату і чмыхання Імполь неяк скора прывык, ніяк не могучы прывыкнуць да гэтага сціпнага булькату рэчкі — усё здавалася, нехта асцярожна крадзецца вадою, высока падымаючы ногі, каб не плюхаць, ідзе проці быстрага цячэння, прыгінаючыся за берагам.

Імполь нехаця і ўжо мімаволі настаўляў вуха туды, дзе нечакана, нібы спадцішка, плюхала і цурчэла вада.

Успаміналіся зарослыя дзікімі грушамі і збэрсаным маліннікам і брызглінаю недагледжаныя з пазелянелымі камянямі дварчанскія могілкі.

Яшчэ звечара, калі Імполь шаргануўся і затупаў пад шурпатымі алешынамі, з іхніх верхавін залапатала і з адчайным крыкам паляцела на могілкі порсткая невядомая пташка.

Цяпер Імполь, здаецца, чуў яе раптоўны і гэтакі самы вострапералуджаны крык. Але яго глушыла шапаткое тупаценне дажджу па каляным, аблітым галалёдам лісці і разгайданы шум з дробным, нібы шкляным, звонам абледзянелага, як нежывога галля.

Імполю здоўжылася. Ноч здалася ўжо годам.

Не зважаючы на перасцярогу Сяміглазава, Імполь памалу падступіўся да грудка, каб чуць, што робіцца каля Гуравага дома, але нечакана наткнуўся на калючы дрот невысокай, пэўна, ад чужых кароў, загарадзі, начэпленай на ўбітыя ў зямлю драўляныя слупкі.

Вострая, наўкос адрэзаная калючка ад драцяной шышкі ўпілася ў ногу вышай калена, і Імполь турзануўся назад. Дрот, густа сыпануўшы лускою галалёду, адчайна завінеў, трымаючы ўжо за калашыну портак.

Імполь са злосцю рвануў нагу і ўчуў, як ад кладкі нехта пудка затупаў, сіганууўшы што ёсць моцы назад.

Імполь падняў вінтоўку, але не стрэліў, раптам стрымаўшыся і падумаўшы, што наробіць дармавога лопату. Ды ўспомнілася і тое, што сказаў Сяміглазаў: «Ты глядзі, не панікуй».

Цяпер яны ўтрох і стаіліся там, як казаў Сяміглазаў, «кылы дому», каля весніцаў ды чужога плота, каб ужо ні з будынка, ні ў будынак ніхто не прашмыгнуў.

Другая група, таксама з чатырох чалавек, дзе быў Жэнік Рэпка, паехала фурманкаю ў далёкую Ятвязь, дзе жыла Гуравай жонкі радня і дзе на глухаватым прылесным хутары вольна раскашоўваў Гура. Там і спадзяваліся «злапаць», як падсмейваўся Жэнік Рэпка, тоўстага Гуру яшчэ цёпленькага і ў кароценькіх майтках проста з ложка.

Але цяперашні нечаканы і перапуджаны тупат упоцемку перайначыў Імполевы мыслі: у такую слізгату і цемень, калі звер і той шыецца ў які зацішак, ён, Гура, якраз і мог прыбегчы дахаты, спадзеючыся, што не вельмі трапіць на пільнае ды лішняе вока.

Імполь злаваўся і дакараў ужо сам сябе, што адышоўся, спытай чаго, ад гэтых трох алешын, якія хоць трохі засланялі ды сцераглі. Калі хто адважыцца стрэліць, і ад ліхое кулі. Ды найгоршая бяда, што празяваў, можа, і яго, якому чорту не вер, самога Гуру.

Трымаючы напагатове караткаваты, адабраны яшчэ ў местачковых стшэльцаў, французскі карабін і чуючы, як ужо зусім нямеюць пакрэплыя пальцы, Імполь прысеў, прыгледзеўся да чарнаты голага, асыпанага алешніку і нібы падлавіў у аднастайна-нудным шалпаценні і пляскаце імжыстага, ужо без граду, дажджу нейкае насцярожанае шархаценне мокрага лісця. Сюды бліснулі зеленавата-жоўтыя агеньчыкі.

Гэта быў — каб ён выдах! — сабака ці кот.

Імполь праваю рукою загроб каля сябе па гідка-слізкай і халоднай траве і, нічога больш не знайшоўшы, шпурнуў гэтаю збэрсанаю, як кудзеля, і наліплаю на пальцы травою. Сабака з віскам гэльцнуў са стромага

берага на кладку, закоўзаўся на звязаных жэрдках і, зашоргаўшы кіпцюрамі, скоранька перабег на другі бок рэчкі.

Як малое дзіця, Імполь зайшоўся ад нейкага раптоўнага, дурнаватага смеху. Апомніўшыся, душыў яго ў сабе, каб ніхто не чуў гэты дзікі звар'яцелы рогат.

Пасля нечаканай спатычкі ўсё сцішылася, парадзеў густы шэпт дажджу і ўжо нямоцна, ледзьве чуваць, шугаелі абвешаныя чорнымі сеткамі дробных, як дзікія недаспелыя грушкі, зялёных шышак крывыя, нібы скручаныя рэўматызмам, сухаверхія алешыны. І, здаецца, прыглухла, калі не слухаць, і не чмыхала пры грудку каля рэчкі зморaная помпа.

Над яе высокім комінам з іголкаю громаадвода ў сівых хмарах выяснялася неба, і ў мястэчку прымружыліся і згаслі стомленыя вокны.

Коўзаючыся па слізкай збуцвелай траве — пэўна, нескошанай, палёглай атаве,— Імполь вярнуўся пад старыя алешыны, пад мармытлівы булькат рэчкі і ўжо, чуючы, як дзервянеюць ад доўгага, адзінокага стаяння ногі, прыхіліўся да шурпатага алехавага камля, што пах гаркатою.

Як дажджавая вада знаходзіць латачыну ды ўпадзіну, так Імполевы думкі пабеглі і натрапілі на Хрысцю. Успомнілася нядаўняе, нечаканае спатканне з ёю, карыя з сінімі бялкамі прыгожыя вочы, ружовая гарачыня шчочак, спакуслівa-мяккія абветраныя губы і яе нечаканая злосць.

Няўжо бог не пераменіў на лепшае жыццё?

Дажджавая кропля гарачым холадам упала за карак, Імполь падняў каўнер і стуліўся яшчэ больш.

Няўжо прыйдзецца варочацца ў Верасава, бо збіраюцца арганізоўваць міліцыю і распускаць рабочую гвардыю. Імполю ўжо намякалі, каб ішоў вартаўніком на нафтабазу. Астанецца хіба Жэнік Рэпка — у яго ж, як хваліўся, шэсць класаў і нейкія на руках паперы, каб кантраляваць работу магазінаў.

Пакручваючы пальцам у вусе і паглядаючы рудым касаватым вокам, нават упікнуў Імполя: «Ты ж сам вечна нешта неперасяваеш — не ўнушаеш даверу. У багатырах хадзіў, садзей нічаў прыгнёту».— «У якіх багатырах?» — сцяўся душою і сумеўся Імполь. «У Мондрых. І наймічку браў»,— падкусіў вільготную губу Жэнік Рэпка. «І што з гэтага?» — Імполя ўсяго моцна калаціла. «А тое, што ты, як кажуць, эксплуататар».

Імполя разбірала дзіва, ад каго і дзе набраўся гэтых слоў Жэнік Рэпка, няўжо ад гэтага дробнага, таўстагубага і рудога, як і сам, Люцыяна Жамойдзіка, якога прывёў недзе з Панікартаў, з-пад Нёмана. Ці не сваяка?

Чаму ў Жэніка Рэпкі не аціхае раз'юшаная злосць? Адкуль і ад чаго яна? Няўжо ад зайздрасці, што яго не любіць Хрысця, што ніхто яго не ўважыў, не сказаў зычлівага слова, ці мо ад крыўды, што ніхто не хацеў з ім знацца, што маладое жыццё прайшло ўгоры і нэндзе. Сляпы шашаль гаркаты і злобы точыць яго душу, бо чаму ён дратуе і нішчыць усё, бо чаму помсціць кожнаму?

Востры хруст зломанай галіны ачуціў Імполя. Ён задыхнуўся і замёр у трывозе і толькі цяпер учуў, што перастаў чмыхаць і лапатаць паравік помпы, што брала для дварчанскай станцыі ваду.

На грэбні даху толькі паварочваўся цыбаты аднаногі флюгер, шукаючы стрэчнага ветру і раз'юшана фуркаючы вінтом.

Там за чорнымі голымі дрэвамі, недзе перад семафорам, будзячы сырую ветраную ноч, двойчы і расцяжна гукнуў паравоз.

Устрывожыў неадчэпную Імполеву спакусу: яму захацелася ехаць ізноў з ёю, з Хрысцяй, проці цёмнае ночы ў далёкі і неспазнаны свет.

Перастукваючы коламі, з цяжкім жалезным ляскатам цераз мост ляцеў, зліваючыся вагонамі ў адзін цёмны пас, доўгі таварняк, потым заскрыпеў тармазамі і залязгаў мяккім жалезам буфераў, аціхаючы далёка за вакзалам.

Імполь, прыслухоўваючыся да скрыгатлівага ляскату, зноў прыгадаў перадуманае сам-насам: ці не пара выбірацца на работу ў шахты. Кажуць, што ў Наваградку ў часовым упраўленні з'явіўся вярбоўшчык, запісвае людзей нат з сем'ямі.

Толькі як падгаварыць, падмовіць Хрысцю.

Там хоць не будуць ведаць, упікаць, дакараць абгаворамі. Бо ніхто так не зробіць злабы, як свой, ніхто так не падкусіць, як блізкі.

А дзіця? А сын? Задушлівая гарачыня шуганула па Імполю і адкацілася, як вада з пясчанага, ужо абмытага, тугаватага берага — нічога, будзе гадавацца, а падрасце — Імполь забярэ яго да сябе.

У няроўных прагалах калматых хмар холадам слязілі-

ся і раставалі мігатлівыя зоркі. Імполь глядзеў на іх, і душу вярэдзіла шалёная радасць, і неадчэпны страх сцінаў яе, што свет такі вялікі і такі цесны нават для аднаго чалавека. І нават для гэтых алешын, што пахнуць сырой гаркаватасцю, як пахне іхняе апалае тлустае лісце...

Колькі драмаў, Імполь не ведае. Моцны і нечаканы, з далёкім і нізкім рэхам стрэл развёў яго ліпкія, як у павучыне, вейкі.

Стралялі там, на грудку, да якога прыляпіўся блочным высокім падмуркам новы Гураў дом. Каля чарнаты схаваных у голае прысаддзе нізкіх хатак чуваць быў перапалоханы і хрыплаваты голас кабеты:

— Тут, яны тут!

Сырую цемнату ночы і густы нізкаваты шум ветру перарвала расцяжнае і ўжо грознае:

— Сто-о-й! Страляць буду!

Імполь адапхнуўся ад алешыны і закоўзаўся па слізкім збуцвелым лісці, падымаючы і беручы на ўзровень грудзей цяжкую вінтоўку.

Успомніўшы пра калючы загарад, у які ўбіўся надоечы, пайшоў вальней. Пільна цікуючы ў нізкі поцемак, заўважыў драўляныя слупкі і злавіў рукою калючы дрот, нагнуў яго і пералез у раскіслы, раздражджалы гарод — ногі пачалі чвякаць і грэзнуць у багнішчыградаў і чапляцца за тоўстае карэнне ссечанай капусты. Пахла макрыцай і саладжавым лічаннем.

Сюды, проста на Імполя, нехта цяжка блізіўся і на ўсе грудзі, як кавальскі мех, хрыпла і са свістам дыхаў пракуранымі лёгкімі.

Імполь прыгнуўся і ўбачыў асадзістага паўнаватага чалавека ў скуранай куртцы з футравым каўняром і пляскатай шырокай кепцы. Дый па росце можна было прызнаць, што бяжыць ён, Гура.

У Імполя ні то ад страху, ні то ад няжданасці скамянелі на вінтоўцы рукі. Палец знайшоў дзіравае вушка і загнутую дужку курка і нібы незнарок турзануўся.

Прыклад моцна і знянацку ўдарыў у плячо, і ад гуку, што вылецеў разам са сполахам агню, туга зазвінела ў вушах. Нічога не бачачы і асляпіны ад ружавата-залацістага полымя, што бліснула маланкаю са ствала, Імполь сціраў з вачэй балючы поцемак.

Але тупату і цяжкага дыхавічнага хрыпу, здаецца, ужо не было чуваць. Нешта толькі, як падалося Імполю, шар-

ганулася каля дашчанага плота, і ў гэты міг зноў затупалі ногі. Нехта бег сюды на Імполя. І дрыготкі ад нервовасці палец зноў націснуў халодны, загнуты пярсцёнкам спускавы кручок.

— Верамей, гэта ты? — упаўшы ў разору між градаў і не падымаючы галаў, спытаў Сяміглазаў.

— Я,— папярхнуўся сухасцю ў горле Імполь.

— Ядрёна вош, ты што?!

— Не пазнаў,— блытаўся ў макрыцы на раскіслай разоры Імполь.

— Упусціў! Ух, мащь тваю, ты ў міня!..— але Сяміглазава перабіў голас адтуль, з грудка:

— Вось ён, хлопцы! Во! У хату ўскочыў!

Сяміглазаў закоўзаўся, зашоргаў ботамі па высокіх бадылях нейкага змарнелага на градах насення, бегучы да шчытнага плота, да нізкіх хлевушкоў і хатаў, што стаялі з боку высокага прыгожага Гуравага дома.

Імполь, ужо асмялелы, кінуўся ўслед за ім.

У моцным плоце са скрыгатлівым упартым рыпам цвікоў вылецела адразу некалькі штакетаў.

Каб выперадзіць Гуру, што з густым ацяжэлым тупатам, як дзікі япрук, імчаў недзе за хлевушкі пад рэчку, Імполь прабег гразкім і слізкім ад макрыцы гародам, блытаючыся ў доўгіх і тоўстых вяроўках гарбузніку, нарэшце закінуў за галаў рэмень вінтоўкі і, чуючы, як яна б'е па грудзях, ухапіўся за слізкія частаколіны, ускараскаўся на жэрдку, прыўзняўся, натужыўся і — скочыў, нечакана знямеўшы ад невыносна-моцнага болю, што ўдарыў маланкаю ў нагу, а потым і пад сэрца.

Імполь пакаўзнуўся з нейкага затравелага, абвітага моцным шчытнікам пня, сілячыся ступіць зноў, але боль зноў гарачым агнём палыхнуў пад сэрца. Нага раптам пачала дзервянець і пакутна-тупа шчымець ад болю.

Млеючы ад страху, Імполь ужо крыкнуў:

— Хлопцы!..

— Што-о? Ранілі цябе? — недзе блізка ўпоцемку каля плота адазваўся Сяміглазаў.

— Я сам... Ногу во зламаў.

— Эх ты, дужа ж няпутны... Але паляжы, а то ўмкнець Гура,— Сяміглазаў, чвякаючы па мокрай разоры, прабег поруч і ўжо за хлевушком крыкнуў у густы поцемак. Тугі вільготны вецер збіваў, разрываючы, зносіў убок яго голас:

— Сто-о-й! Н-е уйдё-ё-ёшь!

# XI

Мінуўся страх, мінуўся голад, але душа яшчэ замірала ад трывогі і неспакою — а што ж там робіцца удома?

За два апошнія месяцы для Літавара так нечакана перавярнуўся свет, што ахапіць ды асягнуць усё розумам ён не мог,— пазаўчора, пераехаўшы Слонім, у вёсцы Молдавічы, ён расстаўся з Харошкам, з якім уцёк з-за калючага загараду, што выстраілі палонныя самі ўжо сабе ў фальварку пад Варшавай.

Адтуль, ужо дай божа ногі, ішлі нацянькі, абмінаючы людныя гасцінцы ды дарогі і не патыкаючыся ў вёскі, каб не насунуцца на немцаў. Малако ды хлеб выпрошвалі на хутарах — балазе людзі не скупіліся.

І каля Лукава на заможным, абсаджаным яблыневым садам хутары, які вартавалі два вялікія, як ваўкі, падгалыя сабакі, старэнькі гаспадар, раздобрыўшыся ды расплакаўшыся, вынес Літавару сваё паточанае моллю паліто. Уга, ужо было не бяды.

Запыніла іх, заступіўшы дарогу, немалая, да страхатлівасці цёмная, спярэшчаная рабымі хвалямі рэчка, абапал якой, на пясчаных плёсах ды крутых, падмытых берагах, разрасліся шчодрымі купамі жаўтлявыя лазнякі і адхіляліся, апчэрыўшы падмытае карэнне, старыя чорныя алешыны, ужо без лісця, абвешаныя толькі цёмна-карычневым роем шышак і таўкачыкаў.

У цяжка-адчайным смутку яны паглядзелі на патаемную плынь вады, прайшлі яшчэ ўздоўж берага да старых вербаў, там-сям ужо спілаваных бабрамі, і, учуўшы сцішнасць ад гэтых згрызеных вастраверхіх пнёў і паваленых роўна на рэчку дрэў, вярнуліся да чубатых стажкоў, што барадаўкамі рассыпаліся па рудым поплаве.

Каб нідзе не прасіцца нанач, тут і пераспалі, зашыўшыся ў стажку, у слізка-калючае сена, што напамінала пра спакой на свеце ды роднае гумно. Сівай і мжыстай раніцай на поплаве ўбачылі хлопца гадоў трынаццаці з чарадою віпнёвых і пярэстых кароў.

Ён і памог, збегаўшы ў недалёкую вёску і прыгнаўшы лодку, перабрацца на другі бераг, дзе ўжо іх счула вялікая і лютая аўчарка, за якой, трымаючыся за повад, прыспешваў салдат у доўгім шынялі і з зялёнай зоркаю на шлеме.

Спатажаны пагранічнік выстраліў угору і нарабіў нечаканага перапалоху, і сюды на чорных конях прыскакалі яшчэ двое.

Конныя салдаты і прыгналі Літавара з Харошкам на край мястэчка да белага касцёла з нізкай мураванай прыбудоўкай.

У настылай з павыбіванымі шыбамі прыбудоўцы, закутай на вокнах тоўстымі выкаванымі прантамі, яны правалелі ноч, покуль назаўтра пасля полудня аднаго за адным іх не прывялі ў чырвоны за касцёлам цагляны дамок — нядаўнюю плябанію, дзе за доўгім, прыгожа выштукаваным сталом сядзеў падстрыжаны «пад бобрык» чырвонаармеец у гімнасцёрцы з нагруднымі кішэнямі і зялёнымі пятліцамі на адкладным каўняры. Чорна-сінія валасы яго бліснулі ружаватасцю, калі ён павярнуў галаў напроці акна:

— Фамилия?

— Назвіска пытаеце? — не разабраўся па-руску Літавар.

— Да, назвиско.

Літавар назваў сваё прозвішча і яшчэ дадаў:

— Сын Антося і Зосі.

Угінаючы шырокі жаўтлявы твар, чырвонаармеец з калюча-натапыраным ёжыкам валасоў скоранька пашкроб растапыраным пяром на шорсткім лістку паперы, раз за разам дзеўбучы ў чарніліцу, што стаяла на белай у чорныя разводы мармуровай падстаўцы. Гэтакая ж, мармуровая з матавым абажурам, была і лямпа, што сеяла на паперу дрыготкае святло.

З простымі паперамі, якія выдалі ім тут, у гэтым невялікім мястэчку, яны з Харошкам дабіраліся дадому, то пеша, то на спадарожных фурманках, покуль ужо, упрасіўшыся на таварны поезд, у настылым вагоне, дзе пахла гноем і дзе, пэўна, перад гэтым вязлі коней, не даехалі да Ваўкавыска.

Там якраз і напаткалі абоз — фурманак восем, што для вайсковай часці прывозілі авёс якраз з-за Слоніма, з недалёкіх ад Харошкавай вёскі асадніцкіх фальваркаў.

Тут пачаліся ўжо цікавыя роспыты — фурманы ў іх, а яны ў фурманаў, што робіцца на той і на гэты бок граніцы. Да воза, дзе, уваліўшыся ў канюшыну, сядзелі асалавелыя ды здарожаныя Літавар з Харошкам, папусціўшы коней, падыходзілі ўсе мужчыны.

— Гэ-э, ведаю [redacted] германца, у чатырнаццатым пад Таненбергам у палон узялі,— прызнаўся вусаты ў суконнай з жоўтым, абцягнутым скурай брыльком круглай шапцы немаладэ фурман.— Тры гады, лічы, за парабка ў іх быў. Жывуць яны, халера на іх, добра. Будынкі ўсе мураваныя.

— Ну, скажаш,— патрубіўшы носам і абшмаргнуўшы яго з абодвух бакоў рукою, не паверыў худы, з паўпадпнымі і няголенымі шчокамі асадзісты мужчына,— і хлявы ўжо з цэглы ці з каменю?

— Чаму ж не?

— Прыдумляеш, чалавек.

— Спытай у яго, хай скажа,— ліловым сукавата-ялаўцовым пужальнем торкнуў у Літавара худы, няголены мужчына.

— Не былі мы ў Нямеччыне,— цвёрда за Літавара адказаў Харошка.— Якая Нямеччына, калі нашу дывізію кавалерыі гналі ажні да Мінска Мазавецкага. Ад самалётаў мы не ведалі дзе дзецца.

— Ну й з гэтага боку моц ішла. Столькі танкаў ды гармат. І канца свету ім не было,— сказаў няголены мужчына і подбегам, збягаючы з рудой травы на зялёную, трапяткую ад ветру рунь, пайшоў даганяць свайго каня.

— Няўжо не ўціхамірыцца? — памаўчаўшы, уздыхнуў фурман і, задзіраючы жоўты, абцягнуты скураю брылёк, паглядзеў на густую чараду голага, бела-карычневага бярэзніку.

— Я чуў — замірэнне ж ёсць,— павярнуўся да яго Літавар, знарок чакаючы, што адкажа на гэта хітры чалавек.

— Гэ, хлопцы,— скрывіў свае шыза-папяловыя губы фурман.— Ваяваць вам прыйдзецца яшчэ раз. Англія і Францыя не склалі бронь. А раз грыміць у адной старане, то хмара прыйдзе і сюды.

Абоз уцягнуўся ў лес — па аглоблях ды дугах, па плячах фурманаў запоргалі пруткія дубцы арэшніку ў карычневым дажджы таўкачыкаў. Фурман, прыжмурыўшы вочы, угнуў галаў і сказаў яшчэ:

— Вот папомніце мяне.

І калі выехалі на прагал да нізкай, зарослай багуном лагчынкі, дзе марнелі сярод багнішча рэдзенькія карлаватыя недарослыя хвойкі, фурман, закапашыўшыся пад сабою, выцягнуў завязаную тоўстым вузлом торбу з харчамі.

— Каму што баліць, той пра тое і гаманіць. Але ж і падсілкавацца трэба,— і фурман, цярушачы Літавару на голаў салому, высока патрос рудою ў тлустых плямах торбаю.

У яго знайшоўся і невялічкі з расхістаным лязом і драўлянымі тронкамі ножык.

Развязаўшы ды закасваючы торбу, фурман дастаў з яе кавал тоўстага жаўтлявага, трохі, можа, елкага зверху, але ружаватага, што ўсе аж пракаўтнулі цягучую сліну, леташняга сала.

У Харошкі, як на смех, якраз гідка на ўсю моц забурчаў галодны жывот, і фурман, націскаючы пальцам на расхістанае лязо, першаму яму і адрэзаў таўставатую скварку.

Хлеба было вобмаль — ці то падзяліўся з кім, ці то сухамя яго з'еў сам гаспадар, таму на трох выйшла па невялікім акрайчыку, сала — ужо на поўную губу.

Яно, спажытае пасля прогаладзі, і нарабіла бяды. Як на ліха, якраз тады і, каб на яго нарат, у тую ж хвілю, калі ўжо ад'ехаліся ад лесу, Літавара [redacted] Харошкам праняла вольнасць.

Балазе ў абозе не было кабет, і можна было, не тоячыся ўжо, прысесці ў канаве.

Але спуску не давалі і з'едлівыя мужчыны:

— Гы-ы, ну й лопат ідзе.

— Пэўна, ажно вунь на хутары чуваць.

— Не смейцеся, з голаду гэта.

— Хіба мы не знаем. Але ж і льецца з іх, як [redacted] бочкі ў Спірыдона, што чысціць слонімскія прыбіральні.

— Х-ха-ха, каб табе на гарод...

— О, тытунь рос бы!

— Дурні! Нябось, трэба было сала, каб так наесціся?

— Тут не з голаду, а проста так, свежыны калі ўмелеш, парсюка закалоўшы, то парткі заўсёды губляеш.

Ад бяды ды брыдкасці ўратавала ўжо далёкая, зацішная, [redacted] брукаванай вуліцай у цяньку і смутку старых кляноў і ліпаў Харошкава вёска ці, праўдзівей,— Харошкава маці. Яна скоранька прынясла са столкі закаркованую бутэльку, да палавіны насыпаную чорнымі карэньчыкамі ды ягадамі, і заміж прыветнае ды гасціннае чаркі спярша пачаставала іх уварам горкага, як атрута, зелля, якое трохі супакоіла агідна-пусты вуркат у жываце і сцішыла, зняло нечакана вострую, як вытрываць, рэзь.

— Балазе якой густой кашы ці гароху не з'елі,— бедавала і адначасна радавалася Харошкава маці, чарнявая кабета з прыгожым яшчэ, але ўжо бледнавата-зморшчаным, звялым тварам, з гладка зачасанымі пад зялёную ў чырвоныя кветачкі хустку густымі валасамі. У іх ужо халоднай намараззю бліскала сівізна.

— Няма лепшай рэчы, як на сваёй печы,— акрыяўшы ўжо, жартаваў Літавар.— Выхадзімся.

— А я начыста ж перапалохалася. Але во, дзякуй богу,— і яна круціла галавою, узіраючыся на сына, і на яе жаўтлявым твары мільгала выпакутаваная радасць.— Гэта ж у тую вайну Мікалаева Кацярына накарміла галоднага бежанца гарохам, а чалавек выйшаў з хаты, лёг на прызбе і канае. Во што з голаду можа прылучыцца.

— Ну, маці, гавары, ды смаж яешню,— махнуў навіслымі панурымі бровамі брыдкі з дзіўна шырокім прыплюсканым на пераноссі порыстым носам Харошкаў бацька.— Вада — не родны брат, трэба што-небудзь спарнейшае.

Старэйшы, гадоў трыццаці, Харошкаў брат — гэтакі шыраканосы, як і бацька і васпаватая, гладкая ў сцёгнах сястра, пасміхваючыся і не хаваючы нечаканай радасці, прыселі абапал Харошкі, абнялі яго і сядзелі, захлынуўшыся ад шчасця.

— Нібы з таго свету ўсталі,— Харошкаў брат паляпаў і Літавару па худым калене.— І зараслі во, як мядзведзі.

— Ці да галення ім было. Не ў сваты збіраліся.

— А я нат у руку сон прысніла,— сцішаным голасам трохі ў свой пабіты воспаю нос гаварыла Харошкава сястра.— Нібыта да нашых авечак чужы баран прыбіўся. Я так і думала, што Васіль дахаты прыб'ецца.

— Ой, сціхніце, пракрокі,— варухнуў навіслымі бровамі і першым палез за стол на покуць Харошкаў бацька.

Тут, у Харошкавай хаце, Літавар і заначаваў, прывечаны скупою чаркай, зычлівасцю ўсёй радзіны і добрым, разложыстым храпам старога.

Назаўтра Літавара за вёску на скрыжаванне з адзінокім, няшчадна выпаленым у камлі дубам падвёў радаснабянтэжаны Харошка, паказаў рукою, якія наперадзе будуць вёскі і як дайсці да паўстанка Міцькавічы, і ўздыхнуў:

— Няма ліха без дабра,— вочы ў яго павільгатнелі і заморгалі.— Во, мы дома. А я ж як сам не свой лез пад

той дрот. Усё чакаў, калі прашыюць з кулямёта, як прашылі палячка, помніш?

Яны абняліся, тройчы расцалаваліся на коўзкай дарозе, абапал якой зелянела палеткамі мокрая расістая рунь і чарнелі, скіданыя ў пашарак, кучы вывезенага на поле гною.

На мяжы, зарослай чорным быльнікам, свяцілася яшчэ не асыпаным, жоўта-бурачковым агністым лісцем дзікая груша. І мроіва балючай смутнай радасці плыло ад яе.

Літавар ішоў, а ў душы млела гэтая балючая радасць, успаміналася ржышча каля панскага маёнтка з белым домам пад чырвоным і цяжкім чарапічным дахам, тая вялікая, кучаравая, як воблака, груша, дзе гінулі пад голым небам на мокрым полі польскія палонныя салдаты.

І сэрца працаяла неадчэпная крыўда ці то віна, што ён уцёк адтуль, астаўся жывы і ідзе дадому, а там людзей грызе і заядае смутак па жонцы, родным полі, дзяўчыне, да якое, можа, адзін бог ведае, калі ты вернешся...

Думкі гэтыя заглушыў пуставаты, гулка скрыпучы вагон, у які Літавар сеў на абветраным паўстанку з адзінокім дамком, зацярушаным рудою кастрыцай ад вялікай заграпічнай елкі. Ды хіба проста сеў — упрасіўся ў круглатварай нізенькай правадніцы, на поўных грудзях якой не сыходзіўся чорны шынель з белымі бляшанымі гузікамі, каб злітавалася і ўпусціла ў вагон без білета, бо дзе ж у яго, польскага салдата, што варочаецца з палону, тыя грошы.

— Бачу, што салдат,— сказала па-руску правадніца, зухавата папраўляючы на гладка зачасанай галаве чорны берэцік, і пастаранілася ў прычыненых дзвярах тамбура,— таму і прапускаю — ідзі, садзіся.

Не дабіраючы вельмі месца, Літавар незнарок сеў напроці маладой дзяўчыны ў карычневым каптаніку, абшытым чорным барашкавым абшлагам на невысокім стаячым каўняры, на борціках і рукавах.

На плечы дзяўчыне з-пад бежавага капялюшыка з трыма залацістымі пярынкамі спадалі рыжаватыя пышнаагністыя валасы.

Каптанік з высокімі плечукамі шчытна аблягаў яе, адцяняючы прыгожую зграбную паставу і рослаcць.

Рукі з ажурнымі рукавічкамі трымалі на каленях абкладзеную газетай кніжку. І раптам загарнулі яе, калі поезд ядавіта і ломка заскрыгатаў на стрэлках, выбіраю-

чыся і паўстанка на высокі насып чыгункі, абапал якога паплыло, закружылася рыжаватае балотца з высокімі грывамі спалавелага гляджджаю ў чорных набрынялых таўкачах, там-сям пераспелых і раскалмачаных ветрам.

Дзяўчына падняла свой тонка-бялявы ў ледзь прыметным рабацінні тварок з прыгожым праменькім носам. У вачах яе затоенай пакутай стыла нейкая жальба ці смутак.

І дыхнула яна ціхім, трохі прытоеным голасам, азіраючыся на тамбур, дзе грукала ў жалезнай печцы лапаткаю ці качаргою нізенькая паўнагрудая правадніца.

— Пшэпрашэм, але вы часам не з фронту? Бачу, у вас вайсковая фуражэрка,— яна падняла вочы на суконную з прастрочаным брылём рагатыўку.

— А чаго перапрашаць,— Літавар угнуў галаў, сумеўшыся гэтага нечаканага запытання і зірку лупаватых вачэй з чыстымі сіняватымі бялкамі.— Быў, лічыце, на тым свеце. І фронт, і палон спазнаў. Сам не даю веры, што жывы астаўся.

Дзяўчына зноў азірнулася на тамбур з адкрытымі падзвярмі, дзе грукала правадніца, а потым на далёкіх пасажыраў, што недзе туліліся ў другім канцы вагона, і спытала, зноў ціха:

— То конец? Тэраз юж нігды не бэндзе Польскі! [1]

— Ці трэба так бедаваць? — Літавар няўзнак залюбаваўся прыгожым бялявым тварам.— Абы мы жывы асталіся, усё будзе...

— Не, прошэн пана, не.

— Покуль чалавек жывы, датуль і скупы. Я во ўсё шкадую свайго каштанавага валаха. У лесе напаткаў, такі разумны, ладны конь быў.

— Пан мае добрае сэрца.

— Пабойцеся бога, якое ўжо добрае. Столькі нагледзеўся, столькі ўжо бачыў... і смярцей, і магілак з свежымі крыжамі і салдацкімі хэлмамі [2] на іх, што сэрца ўжо скамянела.

— Даруйце, можа, я недалікатна гавару з вамі?

— Не, што вы,— Літавар спалохаўся, што дзяўчына змоўкне, і пачаў ужо роспыты сам: адкуль і куды яна едзе і чыя будзе?

---

[1] Гэта канец? Цяпер ужо ніколі не будзе Польшчы! *(польск.)*

[2] Хэлм — каска *(польск.)*.

Учуўшы, што яна Грабянкава сваячка і што цяпер жыве ў Дварчанах, Літавар, схаладзеўшы душою, успомніў зноў Хрысцю і ўжо, адыходзячы ад памяці і чакаючы раптоўнай, як грукат перуна, навіны, што так знянацку абязвечыць, спытаў, нават трохі адсоўваючыся на карычнева-яснай лаўцы.

— Там у Грабянкаў служыла Хрысця. За няньку пры дзіцяці, ці што, была...

— Крыстына? Ведаю...— дзяўчына крыху запнулася, і на бялявым тварку яе лёгенька затрапяталася сарамяжлівасць.— Была ў Грабянкаў, але мусялі яе звольніць, разлічыць яе... А чы то іхняя віна?..

— А што? — насцярожыўся Літавар, расшпільваючы ад гарачыні сваё паточанае моллю суконнае паліто, якое даў яму за Варшавай каля Лукава стары гаспадар-паляк на заможнай асадзе.

— Якжэсь така беда,— яна згарнула і сціснула рукамі кніжку, аж у яе забялелі ад напяцця вострыя пучкі.— Вы не чулі? — І схамянулася: — Вядома ж, не чулі, што я пытаю... Ойца і сына замардавалі.

— Хто?

— Кажуць, што з Верасава...

— Няўжо? — страпянуўся і паправіў зеленкаватую палявую рагатыўку зніякавелы Літавар.— Які ж гэта злыдзень мог быць?

— Нейкі Рапак.

— Хібя Рэпка? — зморшчыў загарэлы лоб і насупіўся Літавар.

— Хібя,— дзяўчына стуліла губкі, гледзячы недзе міма яго на зялёна-хмуры малады лясок, што пабег за вокнамі вагона. Яе вочы турзаліся, правёўшы адно і перабягаючы на другое дрэва, якія мінаў поезд.

У сіняватай далечыні за шчытным хвойнікам, строма падняўшы чырвоныя вежы, закруціўся гонкі касцёл. І, мусіць, узіраючыся на яго вострыя вежы, што падымаліся над далёкімі, прыхаванымі ад вачэй Дварчанамі, дзяўчына ўздыхнула.

— Але знам, то сень не можа добжэ скончыць...

— Якое ж тут дабро, вайна,— Літавар усё прыглядаўся да гэтага прыгожага, спахмурнелага ад патаемных думак тварка — нешта перажытае і адпакутаванае скамянела на ім — і раптам жахнуўся, успомніўшы зіму, асадніка Грабянку і яе ў вышываным кажушку і белым берэ-

ціку: яна падбегла да саней, калі ён прывёз у Грабянкаў двор цяля.

Дзяўчына змеціла гэты яго пільны зірк, перасмыкнула плячмі:

— Што вы так прыглядаецеся?

— Вы ўжо выбачайце,— ад грукату вагона ў Літавара задрыжаў голас.— Я стараўся ўспомніць, дзе бачыў вас.

— І дзе ж? — яна лёгенька падграбла рыжавата-агністыя валасы.

— У Грабянкаў, калі зімою прывозіў прадаваць цяля,— Літаваравы вочы хаваліся далёка пад прыгібаным, прастрочаным радкамі брылём зеленкаватай рагатыўкі.

— Цялятка я помню. Мы так яго шкадавалі...— яна сарамяжліва ўсміхнулася.

— Ці вам было да мяне. Там быў іншы,— рукою Літавар абцёр свой зморaны і схуднелы твар.

— А хто ж іншы? — вагон турзануўся, і яна пахіснулася да акна.

— Наш верасаўкі... Міця Корсак.

Яна, нібы не дачуўшы, безуважліва азірнулася на пасажыраў, што беглі ў тамбур.

На тутэйшым паўстанку, каля невялічкага дамка з прычолкам і вастраверхім чарапічным дахам, поезд стаяў хвіліну ці дзве. І неўзабаве ў вагон гэтак жа спешна ўбеглі трое вайсковых у доўгіх без пагонаў шынялях і шэрых шлемах з нашытымі малінавымі зоркамі.

Згледзеўшы Літавара ці, скарэй за ўсё, нязвыклую для іх зеленкаватую рагатыўку, яны нават на міг прыпыніліся, потым ужо касілі вачмі на маладую прывабную польку.

Ужо вечарэла. Няўзнак канчаўся кароткі, з нізкаю смугою, няветлы асенні дзень. Поцемак, што пагусцеў у кутках вагона, таемна ўжо аблытаў Чэсіны кучаравыя валасы. Яна, падбіўшы іх пад высокім з вузкімі палямі капялюшыкам, адвярнулася ад закурэлага акна і, трымаючы абедзвюма рукамі загорнутую кнігу, спытала нечакана ў Літавара:

— А вы з Верасава?

— Ага, адтуль,— страпянуўся ён.

— Далёка ісці,— нібы паспачувала яна.

— Вёрст пяць. Што гэта значыць. Як на крыллях палячу. Ці столькі я прайшоў.

— Вы былі там...— яна азірнулася на вайсковых, што ўвайшлі ў вагон, і, нібы пачухваючы скронь, а мусіць, знарок, закрываючыся кніжкаю, спытала ў Літавара: — Скажыце, няўжо там горш, як тут?

Літавар сумеўся, ён не спадзяваўся, што гэтая зграбная, далікатная і поўная пекнага хараства дзяўчына будзе так упарта і неадчэпна гаварыць пра палітыку.

— Вы думаеце, немцы там частуюць людзей ромам? — адазваўся Літавар, перасільваючы сваю зморанасць, і горкая ўсмешка перакрывіла яго твар.— Вы не бачылі, як нас секлі чорныя «юнкерсы» з кулямётаў, як шаткавалі і мясілі нашы разбітыя табары. Вы не дасце веры, а я бачыў, як салдату адсекла галаў, а ён бег...

— Гэта — фронт. А тут жа...

— Паненачка, там забіваюць не толькі салдат. Вайна нікога не шкадуе, ні да кога не мае літасці,— сказаў у поцемак Літавар, успомніўшы разбіты хутар і ледзьве жывы, нэндзны плач дзіцяці пад цэглай і друзам. На фоне сіняга акна Чэсін твар яму здаваўся яшчэ больш таямніча-прыгожым, загадкавым.

Вагоны скрыгатліва, ажно раздзірала душу, парыпвалі і калыхаліся на стрэлках — цягнік падыходзіў да Дварчанскай станцыі. Назад праплыў доўгі бляшаны дах пакгаўза. Пабеглі штабелі складзеных на платформе дроў, нейкія невядомыя, накрытыя брызентам машыны, скруткі дроту, горы скрыняў.

— Даруйце!..— яна паднялася і, трымаючыся за лаўкі, услед за Літаварам падышла да прычыненых дзвярэй тамбура, дзе ўжо стаялі трое салдат у доўгіх шарых шынялях і вастраверхіх з падкручанымі вушамі суконных шлемах.— Я столькі вам нагаварыла.

— Што вы,— Літавар нават падтрымаў яе за руку, учуўшы, як нешта радаснае, нязнанае дагэтуль паднялося ў душы да гэтай далікатна-прыгожай дзяўчыны.

Турзаючыся і лязгаючы буферамі, поезд рэзка пачаў зніжаць ход і нарэшце спыніўся.

У тамбур убегла і, праціснуўшыся між салдат, адчыніла цяжкія дзверы вагона рухавая правадніца. З перона ў чадны вагон дыхнула гаркаватай вільгаццю апалага лісця, сырою свежасцю ветру. І Літавар учуў у самлелай, трохі смутнай радасці, што ён дома, што ў сваіх Дварчанах, што нават не хацелася верыць, што за плячыма астаўся далёкі свет, балота за Млаваю, дзе польскіх салдат

няшчадна знішчалі нямецкія мінамёты, і той калючы загарад каля маёнтка пад Варшавай, дзе яны карчанелі і мерзлі ад холаду, і што нічога нібы не было, а ёсць свой выпакутаваны радзінны край. У Літавара на вачах задрыжалі, замроіліся слёзы. І задрыжалі ліхтары з бляшанымі абажурамі, што скупа свяцілі на жвірысты перон перад двухпавярховым будынкам вакзала з цёмна-чырвоным чарапічным дахам, з круглым акном на белым франтоне.

Няўзнак сцёршы гарачыя нечаканыя слёзы, Літавар з высокіх, на тры дошчачкі, сходаў скочыў на жвірысты рыпучы пясок і падаў Чэсі руку. Яна, ужо нібы адышоўшы ад той цяжкай нядаўняй гутаркі ў вагоне, абапіраючыся на цёплую і дужую Літавараву руку, борзда і лёгка ачуцілася каля яго, але, не ўстаяўшы на нагах, пахіснулася на Літавара. І ён, захмялеўшы ўжо ад гэтай раптоўнай дзявочай блізкасці, ад цёпла-густога паху невядомых яму духоў, раптам зусім пасмялеў:

— Цёмна, ці не баіцеся ісці адна дадому?

— А хіба відаць, што я баязлівая? — яна набычыла галаў, мусіць, асцерагаючыся, каб востры вецер, што дыхаў парывамі, не сарваў капялюшык.

— Дзе там,— Літавар таксама тужэй нацягнуў на галаў сваю рагатыўку.— Але каб часам не напаў во такі мядзведзь, як я...

— Нічога, ■ адным спаткалася, жыва асталася,— засмяялася яна, ідучы спіною проці ветру, што карабаціў над ліхтаром залацiста-трапяткую лужыну.

— Можа, я ўсё ж?..— Літавар паволі рушыў за ёю, глытаючы саладжавы вугальны дым, што віхрыўся ад паравоза.

— Не турбуйцеся, мяне на вакзале чакае мама,— яна адвярнулася ад яго і, угнуўшы галаў, пайшла пад жоўты, разгайданы пад ліхтаром круг святла.

Ён памалу і неяк міжволі падаўся за ёю і спыніўся, раптам схамянуўшыся, што не спытаў, як зваць яе і дзе яна жыве.

І з чэрствым шкадаваннем заспакоіў сябе — пэўна ж, у Грабянкаў. Але ўсё роўна ў душы ад гэтай выпадковай сустрэчы, гутаркі, ад гэтай халаднавата-мяккай рукі, калі ён трымаў яе, памагаючы выходзіць з вагона, асталася ўзнёсла-светлая радасць. І Літавар, бытта несучы поўнае вядро вады, каб не разліць яго, паволі завярнуў пад вы-

сока-белую вадакачку і там, упоцемку, спатыкаючыся на рэйках вузкай калейкі, выйшаў ужо на шашу.

Ад таго, што пад нагамі быў мутнаваты, abлiты далёкім косым святлом з нізкіх вокнаў мокры брук і спіщнасмутным нізкім вецем шумелі раскалыханыя бярэзіны, што была знаёмая да шчымлівага болю, не адзін раз пройдзеная дарога і што ў спіну падганяў вільготны вецер, і дрыжаў чырвоны агонь у ліхтары на пераездзе, што пахла кіслымі дашчанымі платамі, пазелянелым ад вільгаці старым бэзам, вугальным саладжава-чадным дымам з блізкай станцыі, Літавара нібы падняла пад пахі нейкая невядомая моц і панясла, і ён ужо ішоў подбегам, чуючы там наперадзе ў густым змроку сырога асенняга вечара блізкія і дальшыя грудкі, лагчыны, крыж перад вёскаю і сваю аселую ў цемрыве і адзічалую хату.

Ён нагнаў грукатлівую фурманку з вясёлым фурманам, што, крыкнуўшы моцна ў цемень вечара, паспагадаў Літавару:

— Го, чалавек! Сядзіся, чаго маеш біць ногі.

— Што праўда,— засмяяўся Літавар,— то праўда, адбіў іх нямала.

— А скуль жа ж ідзеш?

— Ды з-пад самае Варшавы.

— Што ты кажаш? — у палукашку зашапацела салома, фурман нават падняўся, не даючы веры таму, што чуе.— А сам скуль будзеш?

— Верасаўскі я.

— А я з Паланевіч. Шкода, што не падвязу, зварочваць во трэба.— Фурманка з высокага бруку, што звонка адбіваў раструшчаны ляскат калёс, скацілася на мяккую налявую дарогу і паплыла, натруджана нарыпваючы ў няроўных калдобінах. Чуючы блізенька вёску і хлеў, вясёла зафыркаў конь.

— Но-о, каб ты здароў быў! — падганяў яго фурман і ўжо адтуль, з чорнага, што слаўся пры зямлі, поцемку, крыкнуў Літавару: — Шчаслівa табе, браток!.. Во ўдома радыя будуць.

Літавар трохі змерк ад гэтых нечакана-вясёлых фурманавых слоў — успомніўся бацька, нябожчыца маці, сястра... Было трохі ніякавата і непамысна, што нават у лагеры, перабіраючы да драбніц усё верасаўскае жыццё, успамінаючы радню ды знаёмых, чамусьці не ўспамінаў ні разу яе, сястру...

Раз'юшаны шум сырога ветру, яго нудноватае, жалосна-цягучае падвыванне ў правадах, глухая, аселая каламуць ночы, цяжкія сівавата-жоўтыя хмары, што зацерушылі ліпкаю імжою, абнялі Літавара, і ён, ужо нават забыўшыся і пра здарожанасць, і пра абмуленыя, падбітыя ногі, пайшоў подбегам. Не заўважыў, як апынуўся на астатнім перад вёскаю высокім грудку.

Ледзьве відушчымі, жывымі агнямі вокнаў пераміргваліся далёкія Прылуцкія хутары, а наўпрасты пры шашы за разгайданым голым бярозавым веццем прымерклым, сатлелым жарам свяцілася Верасава.

Задыханы Літавар дайшоў да павароту ў вёску. Напроці каламутнага неба цямнеў, нямогла распасцёршы крыжавіны, ужо нахілены стары дубовы крыж. Літавару ўспомніўся сон, што прысніўся летам напярэдадні вайны, як маці вывернула крыж гэты і прынясла дадому, каб укапаць на сваім надворку. Успомнілася і яе ўжо жоўтая, падзёўбаная дажджомваспаватая магілка.

Стаіўшыся за голымі дрэвамі, доўгая ў адзін шар хата з вушатым каньком глядзела на Літавара двума санлівымі, цьмянаватымі вокнамі. І раптам нібы папаўзла насустрач яму, калі ён наўскасы пабег, спатыкаючыся ў разорах па няроўным, даўно не араным аблогу.

Дабегшы да весніц, доўга вырываў выкаваны, цяжкі, што глыбока запаў у прабоі, жалезны ■ шылаватым дзюбком крук.

За падвойнымі запацелымі вокнамі скупа гарэла ■ падкручаным кнотам лямпа: як і даўней, ашчаджаліся з газаю. Літавар ступіў на пляскаты камень. Сэрца страпянулася, занyла нячутным дагэтуль болем. Перавёў дых. Каля вугла пад застрэшкам растрапанаю саломаю шоргаў вецер. Які знаёмы, які звыклы быў гэты сцішны і сухі шэпт саламянага застрэшка.

Літавар злавіў клямку — сені былі не прысунутыя — і ступіў у іх мяккую густую цемень. Са столкі запахла падпаленаю ў млыне на камені свежаю мукою, кіславатавінным духам чэрствага хлеба, даўнасцю, дзяцінствам.

На грукат дзвярэй бацька зляknуўся і падняў лысаватую, на скронях бела-кучаравую галаў.

— Гэта я, тата,— на які міг Літавар спыніўся каля парога.

Бацька, як трымаў на каленях растрыбушаны хамут,

так і падняўся з ім, чапіўшы галавою нізкую на доўгім дроце лямпу.

— Броніська, няўжо ты?..

У Літавара, засланяючы свет, шчымліва запяклі, набярнуліся на вачах балючыя слёзы.

— Броніська, адзін я тут, як палец... Думаў, адзін і сканаю тут.

Літавар, не выціраючы вачэй і чуючы, як яны пякуць ад слёз, падышоў да бацькі і зладзіў яго шурпатую і яшчэ дужую руку, што прасунулася праз хамут.

Бацька памкнуўся цалавацца, але Літавар прыгарнуў яго да сябе разам з гэтым растрыбушаным хамутом, што пах скураю, лямцам, канём як пах і бацька — мужчынскім задаўненым і неадмытым потам, які Літавар чуў і помніў змалку.

# XII

Кожны раз, калі Хрысця заходзіла ў гэты цёмны закуточак калідора, ■ астатніх, з жоўтаю медзяною ручкаю дзвярэй, якія закрываліся яшчэ з сярэдзіны на невялічкую, таксама медзяную, закрутку, быў чуваць сіплаваты з гідкай усмешачкай здзеклівы голас:

— Шэроко ногі, кохана! Чэго сень встыдзіш? [1]

Гэта доктар Ясінскі пакрыквае на змучаных нясцерпным чаканнем ды страшна-балючымі прыступамі. Тут і без крыку душа сцінаецца, як той выкінуты з завоні слімачок.

Здэцца, і прыгожы чалавек, а чаго пайшоў акушэрам, каб усе людзі смяяліся. А як жа ж перад жонкаю? Божа мілы, хіба ж не брыдка? Ці ж для мужчыны кабечыя таямніцы? Як свет гэты — усё ж бабы прымалі дзяцей.

Хрысця скоранька мінае белыя, з чорнаю таблічкаю, патаемныя, што, здаецца, дыхаюць холадам, страхам, дзверы, за якімі зноў чуваць тое звыклае, бессаромна-недалікатнае і дзікае, ажно стыне душа:

— Оголіць! На почонтэк тшэба оголіць, докладне! [2]

Хрысця спыняецца ў закуточку, дзе яе каморка ■ вёдрамі, венікамі і анучкамі, хлоркай і новымі, учора пастаў-

---

[1] Шырэй ногі, каханая! Чаго саромеешся? *(польск.)*
[2] Агаліцца. Спачатку трэба добра агаліцца! *(польск.)*

ленымі белымі вагамі, і, цяжка ўздыхнуўшы ад нахлынутай злосці, пачынае распранацца, здымаючы падораны паняй Анцяй чорны коцікавы каптанік, некалі, ведама, прыгожы, а цяпер абшморганы на локцях, з шаравата-чорнымі плешынамі на баках, на закарвашах рукавоў, на каўняры, але ўсё роўна зводдаль прыгожы і, калі не браць пад увагу і не прымацца да ўсяго іншага,— цёплы і лёгенька-выгодны.

Хрысця вешае яго тут у сваёй каморцы, дзе ёсць на тры драўляныя зубкі вешалачка, і апранае вырудзелы ад частага мыцця, злінялы байкавы халат, вялікі і гаматны ёй. Украдкам занёсшы дадому, яна ўжо разам з цёткай Суляй уточвала і перашывала яго, але не падагнала па сабе і цяпер, выйшаўшы з каморкі, трохі засаромелася такога нязвыклага ўбранства. Тым больш што ішла ў тую кутную палату, дзе ляжаць маладзіцы, у каго нядобра выйшла [redacted] родамі — то перахадзілі, то скінулі раней часу дзіця, то прыкінулася, няхай бог сцеражэ, якая нязлечная хвароба — і дзе ўжо каля тыдня мучыцца маладзейшая за ўсіх парадзіх (дзевятнаццаты гадок пайшоў, гэтак, як і Хрысці), далікатная, бяляленькая з твару, [redacted] ганарыста-задзірыстым носікам Кася.

Яна ўжо год як замужам. Не верыцца, што русявы, [redacted] кучаравым падкручаным чубком хлопец, які, прыпёршыся плячом да камля шурпатай хвойкі, ледзьве не штодня стаіць пад бальнічным акном, гэта яе муж.

— Маладзенькі надта ж,— здзівілася Хрысця, першы раз убачыўшы яго пад гонкаю хвойкай на марасістым дажджы.

— Не такі ўжо й маладзенькі. З гэтае восені дваццаць шосты пойдзе,— варухнула звялымі, пасінелымі губамі Кася.

— Маленькая сучачка заўсёды шчаня,— нацягнула суконнае ў шырокія балонкі коўдра на свой вялікі, як гара, жывот паўнатварая з цяжкім падбародкам, языкатая ды старэйшая тут за іх усіх Юзэфа.— Ці ўгадаеш па малым чалавеку, колькі яму год. Сястрыца, убачыла б ты майго... Ёсць на што глянуць. А гэта — аршын з шапкаю. І трэба было перціся замуж... Сядзела б яшчэ ў мацеры за пазухаю.

— Кажуць, не кайся рана ўстаўшы і рана жаніўшыся,— зарыпела жалезным ложкам, што стаяў пры самым акне, застаўленым рознымі слоікамі, зблажэлая — адны

вялікія чорныя вочы на твары,— сціплая маладзіца, што радзіла ажно двое нежывых і са страхам чакала новых родаў.

— Нічога,— павярнула свой падпухлы, сонны твар Юзэфа.— Я за свайго Петрука ў дваццаць шэсць выйшла, лічы, перастаркаю. І во чатырох дзевак нарадзіла. Каб на іх нарад. Роўненька, просценька, як па кладцы адна за адною ішлі. А цяпер во — радзіць ніяк не магу, перахадзіла.

— То цяпер хлопцы будуць, казаў жа доктар Ясінскі.

— Сястрыца, ты яму яшчэ верыш? Што ён знаецца, прыставіўшы трубку да жывата. Тое самае, што і я.

Юзэфа не дае нікому і слова вымавіць. А Хрысціі хочацца пагаварыць з Касяю. Карціць усё распытаць. Ці праўда, што яна ўцякла з дому, выраклася нават сваіх бацькоў, калі яны сталі ўпоперак дарогі, каб не даць ёй выйсці замуж за гэтага тоненькага, як тычынка, з русявым чубком хлопца.

На калідор Кася не выходзіць, ёй загадалі ляжаць. Заўтра маецца прыехаць савецкі доктар. Ён ужо рошыць — рэзаць Касі жывот ці не, каб дастаць дзіця. Але кажуць, каб парадзіха не сплыла крывёю, то трэба рэзаць. Учора пра гэта, ні кропелькі не зважаючы на Касю, у палаце талкавалі бабы.

— Няма Галецкага, во быў доктар, над усімі дактарамі. Ён-то збадаў бы[1],— гаварыла Юзэфа, спатольваючы і п'ючы са слоіка жаўтлявы мядовы настой.

— А дзе ж ён дзеўся? — спытала Хрысця.

— Ці я ведаю, мая сястрыца, уцёк, і не знайся.

— Вы кажаце — уцёк? — слабым голасам загаварыла ад акна чарнявая маладзіца.— У Наваградку вунь з акна з высокага дома на брук выкінуўся.

— Чаго ж гэта?

— Віну, пэўна, нейкую меў.

— Ды, мусіць, раз на такое рашыўся,— сваім моцным грудным голасам аказалася Юзэфа.— Я во чула...

Але гэтай гутаркі Хрысця не даслухала, яе паклікала «салёва» — калідорная сястра пані Богна.

Хрысці трэба было ісці ў радзільны пакой, якога яна баіцца і вельмі ж не зносіць.

— Там нарадзіла адна, трэба прыбраць,— сказала

[1] Збадаць — абследаваць *(польск.)*.

цвёрда, нібы тоячы злосць на Хрысцю, калідорная сястра пані Богна, немаладая, але яшчэ прывабна-дагледжаная ды прыгожая ▪ устаўным зубком, які залаціста-радасна бліскае, калі яна смяецца.

Але смяецца яна рэдка, бо найбольш — маўклівая, надзьмутая, як сыч, і ганарыста-непадступная.

Кажуць, яна ўжо ўскорала выскачыць замуж ці проста так, не распісаўшыся, не беручы вянца, жыве ▪ нашмат маладзейшым за яе кватарантам-татарынам, што прыехаў з Расіі і будзе рабіць дзяжурным на станцыі.

Муж яе, Мяцельскі, рослы мужчына і, здаецца, здароўчы, што быў паштальёнам, у гэтае спякотнае лета раптоўна ўпаў на сходах свайго ганка і раптоўна памёр — у галаў яму злілася кроў. Дзяцей у іх не было. За дочку яны ўзялі малодшую сестрыну дзяўчынку.

Некалі яна, чарнява-лупаценькая, прывабная пані Богна, ласая на мужчын, падгульвала з маладым Грабянкам, а цяпер надзіва і смех усім пачала жыць са сваім кватарантам, бялявым хлопцам, не вельмі прызнаеш, што гэта татарын, хіба толькі па гутарцы ўлічыш, што часам гаворыць нешта не ў лад.

Пра гэта ўсё тут плешчуць парадзіхі. А Хрысця маўчыць, бо тоіць ласку да пані Богны, што тая ўважыла, узяла на работу, бо дзе б жыло б Хрысці падзецца, каб не гэтая бальніца.

Але ўчора, апратваючы радзільнае аддзяленне, Хрысця столькі перапакутавала, баючыся і брыдзячыся крові. Думала, не вытрывае і скажа непрыступнай пані Богне, што, мусіць, ніколі не прывыкне да гэтай бальніцы і будзе шукаць іншае месца. Няхай крые бог, каб яе так ванітавала, аж зялёным, пераварочваючы, ірвучы ўсё ўсярэдзіне.

І вечарам у Сулінай хаце, дзе яе наразе прывецілі, покуль знойдзе кватэру, завесілася ў вузенькай перагародцы і соладка, уволю ўжо наплакалася, успамінаючы спрытном усю злыбеду ды крыўду, якую толькі перацярпела: і татаву смерць, і верасаўскае жыццё, і гэтае невядомае, нейкае нялюдскае каханне з Алесіным Імполем. Ні муж, ні кавалер. Адзін бог знае, што з усяго гэтага будзе.

А ён удурбаў, убіў сабе ў галаў: «Едзьма, Хрысця, у Данбас. Вярбуюцца людзі. Вунь цэлымі сем'ямі едуць, нават з дзецьмі».

А хіба прытулішся, знойдзеш шчасце ў далёкай і чужой старане. У кожнага свая доля, якую бог наканаваў.

Сёння Хрысця, ідучы ў бальніцу, наравіла ды сцераглася, каб як не трапіць Імполю на вочы. Другою вуліцаю пабегшы, абышла круга тую мураванку пры рэчачцы з тоўстымі кованымі прантамі ў круглых падвальных вокнах. Кажуць, там, у цёмных сутарэннях, арыштаваных дзяржаць. Праўда, Хрысця ніколі не распытвала ў Імполя пра гэта. Аднаго разу ён нібы прызнаўся сам: «Не падыходжу да гэтай службы. Не той натуры я. Не цвёрды нораў маю».

Хрысці шкода Імполя — не шэнціць яму. Але ў каго складваецца ды сточваецца жыццё так, як ты хочаш? Ні ў кога, мусіць.

Моцны, натужны голас, што даносіцца з радзільнага пакоя і ажно разрывае сэрца, перабівае Хрысціны думкі, і яна спыняецца на міг: няўжо крычма крычыць Кася? Але енк нібы чужы, незнаёмы.

І Хрысця заварочвае ў вузенькі туалецік, адкрывае над белай бляшанай ракавінай кранік, налівае трохі больш як паўвядра вады і, расплюхваючы яе, ідзе ў тую крайнюю палату.

— Во, Хрысця наша,— паднімае галаў, расцягваючы сваё цяжкае падбароддзе, і выскаляецца Юзэфа.— Можа, ёй пажалімся.

— А што? — крышку здзівіўшыся, Хрысця ставіць вядро з прыходу палаты.

— Вісусы местачковыя ўчора цалюткі вечар віселі над вокнамі.— Вялікая пухлаватая ў ружаватым рабацінні Юзэфіна рука шыецца за пазуху і дастае градуснік.

— Каб хоць які калючы дрот начапілі,— адзываецца ад акна з расчырванелым, нібы гарачым ад тэмпературы тварам чарнявая маладзіца.

— Гэ, гэтая басота заглядвае вунь у радзільны пакой,— Юзэфа асцярожна кладзе свой градуснік на тумбачку.— Во прыйдзе Кася, раскажа...

І толькі цяпер, глянуўшы ўслед за Юзэфаю на кутні ложак, Хрысця прыкмячае, што ляжыць незасланая, збэрсаная пасцель.

— Смяешся ты, Юзя, ажні брыдка слухаць,— памаленьку, каб, мусіць, не зрушыць вельмі свой жывот, да сцяны адварочваецца чарнявая маладзіца з крышку гарбаценькім, але прыгожым носам і поўнымі губкамі, над якімі знаць чарнявы пушок.

— А што [redacted] ёю? — Хрысця, ужо чуючы бяду, падышла да ложка.

— Што, сястрыца? — злосна перапытала і паклала на свае вочы руку Юзэфа.— Крывёю вунь сышла.

— Ага, уночы...— ціхім голасам, не адварочваючыся ад сцяны, сказала чарнявая маладзіца.— І ратунку ніякага. Адзін доктар дзяжурыў, бегалі клікаць усіх што ні ёсць. Нават савецкага вайсковага прывялі.

— Ах, божачка,— Хрысця ўчула, як у нейкую глыбокую прорву паляцела, адарваўшыся, сэрца і аглух, сцямнеў свет.— Што ж будзе?

— Нічога, сястрыца, ужо не будзе,— на свае вялікія набрынялыя грудзі Юзэфа нацягнула жоўтае суконнае коўдра.— Яе выратуюць, пэўна. А дзіця вэнь без ножкі радзілася і нежывое. Касі покуль што не кажуць.

— Ах, божа ты мой мілы,— Хрысця вопрамеццю, забыўшыся ўжо пра ўсё, і пра сваю работу, і пра свой клопат, што было духу вылецела [redacted] палаты.

Завярнула ў той даўжэйшы калідор, дзе трохі зводдаль ад акна за белым столікам, поруч з якім стаяў высокі шкляны шкапчык, сядзела з новай, ганарыста ўзбітай прычоскай і ў жаўтлявай пышна-лёгенькай кофце, якая знарок выглядала з-пад халата, пані Богна. Твар яе, прыгожа-злосны, засяроджаны, перасмыкнуўся ад нейкіх непрыхавана-салодкіх думак, нерухомыя вочы глядзелі недзе ў сябе, бо пальцы з налакіраванымі ногцямі неўпапад, самі сабою перабіралі ў кардоннай каробачцы шчытна ўпакованыя пачкі парашкоў.

— Вы чулі, пані Богна? — Хрысця глядзела, як на ружаватай мочцы вуха, нібы скалка расы, блішчала, адліваючы ружаватасцю, пацерка-завушніца.

— О цо ходзі? [1]

Богна страсянула высока ўзбітаю прычоскаю, схаваўшы пад кудзеркамі валасоў перламутравую гарошыну завушніцы.

— З Касяю бяда,— сцішаным голасам сказала нядаўна чутую навасць Хрысця.

— Чэго ты мартвішся?

— Пані Богна...

— Я тэраз не Богна, [redacted] Багусла Іванаўна.

[1] Пра што? (*польск.*)

— Якая Іванаўна? — яшчэ ўсё нічога не разумела і не разбірала Хрысця.

— Так мяне трэба зваць цяпер.— І, каб перабіць Хрысціна шчодрае і наіўнае дзіва, загаварыла пра Касю.— А ей трудно было ўродзіць. Розвязано ёнь цэсарскім ціенцем. Кровоток в осьмом месёнцы ценжы [1].

— Што ж з дзіцем?

— Уродзіла сень дзевчынка. Але Касі не поведзем, жэ цурэчка ест без ножкі...[2]

— Як?

— Во так. Цэлую ноч стаялі за аперацыйным сталом, але дзецко не ўратавалі... Змарло.

— А Кася? — у Хрысці падгіналіся, дрыготка млелі ногі.

— У яе яшчэ — жултачка цянжова [3],— блíснула ружова-матавай гарошынай пані Богна.

— Памрэ? — ледзьве выдыхнула Хрысця.

— Не, будзе жыць... Але дзіця прыйдзецца браць чужое. Хоць вядома, кажда хцэ, жэбы оно вышло з ёй бжужа [4]. Інстынкт.

Хрысця хацела перапытаць, што значыць гэты «інстынкт», але слёзы здушылі горла, і яна марудна, няспешна пайшла, чуючы, як рыпяць пад нагамі дошкі чырвонай пафарбаванай падлогі, у кутнюю палату, дзе пакінула вядро і дзе яшчэ не апратала.

— Ну, што ты выхадзіла? — седзячы ўжо на ложку і спусціўшы ногі ў белых суконных шкарпэтках, спытала чарнявая маладзіца.

— Дзіця ў Касі памерла і сама ледзьве жыва,— Хрысця ўтаптала ў вядро анучу.— Жаўтачка ў яе нейкая.

— Вунь верасаўская Алеся на полі радзіла, ■ то ж дактарэ каб дзіця не ўратавалі,— чарнявая маладзіца падабрала ногі.

Накруціўшы на швабру мокрую анучу, Хрысця ўжо церла пад яе ложкам падлогу.

— Пані Богна кажа, Касі прыйдзецца чужое дзіця браць, бо сваіх ужо не мецьме,— прыкленчыўшы, Хрыс-

---

[1] А ёй і цяжка было радзіць. Рабілі ёй кесарава сячэнне. Крыватоқ на восьмым месяцы цяжарнасці *(польск.)*.

[2] Нарадзілася дзяўчынка. Але Касі не скажам, што дачка без ножкі *(польск.)*.

[3] Пасляродавая жаўтачка *(польск.)*.

[4] Кожная хоча, каб яно выйшла з яе жывата *(польск.)*.

ця зіркнула рудым лупаценькім вокам на Юзэфу, што моўчкі сапла ў прысадзісты, загарэлы нос.

— Чужых? А хто табе аддасць? Хіба во... Богушава дурная,— пад Юзэфай цяжка, скрыгатліва зарыпеў жалезны ложак.

— А ў яе дзеці ёсць? — чарнявая маладзіца падбіла сваю малую злямцаваную падушку.

— Мая сястрыца, трое вунь, адно пад адно... Забірацьмуць у прыют. Бо дзе ж ты бачыла, меншага хлопчыка ўзяла, вынесла з мокрымі пялюшкамі, палажыла на хлеўчыкаву стрэшку ды сушыць. А ўжо і марозік быў...

— Што вы кажаце?

— А тое, што чуеш, голае дзіця на мароз вынесла. Так, можа, яе байструкоў і раздавацьмуць.

— Хто ж іх будзе браць? Яна ж гэтакая слінкатая,— Хрысця абцерла мокры ад поту лоб, зняла са швабры анучу, выпаласкала яе ў вядры.

— Дзеці ў яе як лялькі, у каго толькі і ўдаліся.

— Калі я ўжо свайго не мецьму, то нашто мне чужое? — памаўчала і адазвалася, ачуняўшы ад сваіх думак, чарнявая маладзіца.

— Мая любка, у жыцці здараецца ўсяка. Адзін гадаванку бярэ, іншы, як наша Аблажэева Анюта, з староннім мужчынам дзіця нажыла, бо мужык пранцамі заразіўся...

— Няхай крые бог. Гэта ж нязлечная, кажуць, хвароба.— Хрысця здрыганулася, тужэй зацягваючы свой расхрыстаны халацік.

— Дзіва што. А ён, злыдзень ды бандык, зжыў са свету жонку.

— Ці ж ужо дараваць не мог?

— Ого-о... Каб на яго крываўка! Гарох праз рэчку насілі. Вада глыбокая паднялася. Маладзіца ледзьве не ўтапілася. З перапалоху сухоты дастала. Праз год памерла... А дочка ўжо на дзеўку бярэцца. Хараша, каб вы паглядзелі. Хлопцы і зрасці не дадуць,— махнула рукою Юзэфа, косячыся вялікімі рудаватымі вачмі на дзверы, што раптам адчыніліся.

Спатыкаючыся аб невысокі чырвоны парог, у палату ўвайшла сухарлявая, скамянелая ў твары з вырачанымі ад страху вачмі санітарка. На яе белым, падлапленым халаце каля абшытага матэрыяй гузіка шнурочкам пацерак прабегла свежая, але ўжо не адмыеш, іржа.

— Вой, ці не чулі, вунь двох мерцвякоў прывязлі.

— Кажы ты, дзеўка, ды не страш,— прыпаднялася на локцях Юзэфа.— А то разрашуся, радзіцьму.

— Твой пасажыр не прыехаў, яшчэ ў дарозе,— варухнула звялымі сіняватымі вуснамі чарнявая маладзіца.— А я з перапуду, праўда, дзіця скіну.

— Ай, не выдумляйце абы-чаго,— махнула абедзвюма рукамі санітарка і павярнулася да Хрысці: — Ты верасаўская будзеш?

— Жыла і там,— ужо цвёрда, нібы са злосцю, адказала Хрысця.— А сама ведравіцкая.

— Гэта ж адзін з Верасава, кажуць, а другі — з Гірыч.

— І якое ліха з ім прылучылася? — не стрывала, затрасла распушчанымі, збітымі ў лямцы валасамі Юзэфа.

— Адзін вунь хрэсьбіны спраўляў.

— Цяперака... у пост? — расцяжна перапытала Юзэфа.

— Ну, пэўна ж. Цяперачы з богам расквіталіся. Напіліся ды жарты строілі. Ехаў конна. Бабы ўпудзілі каня. Конь на дыбы. Ён і паляцеў пад капыты. Ды яшчэ, кажуць, повад на руку накруціў. Так конь і змясіў усе грудзі.

— А ты кажаш, з богам расквітаўся. Гэта бог з ім расквітаўся,— Юзэфа зграбла і закруціла ў тоўстую куклу свае валасы.

Хрысця перабірала ў памяці верасаўскіх маладзейшых мужчын — хто ж гэта мог быць? — і не дабрала хто. Недаверліва, спадлоб'я пазіраючы сваімі лупаватымі, бліШчаста-карычневымі, як каштан, вачмі, перапытала:

— Вы кажаце, ён з Верасава быў?

— Адчапіся, дзеўка, ці я так казала,— варухнула вострым худым плячом санітарка.— З Гірыч ён... А верасаўскага паліцыянт параніў. Ці выжыве — крывёю сплыў. Кажуць, ён з гвардыі, што на паліцыю ды асаднікаў палюе. Во й напаляваў.

У Хрысці гарачынёю перавярнулася страшная падазронасць.

Кінуўшы прыбіраць палату, борзда выскачыла на калідор і ўжо ветрам шуганула з радзільнага доміка ў шарую мураванку — Хургінаў гатэль, дзе была цяпер дварчанская бальніца. Праз тыльныя непрычыненыя дзверы ўзбегла на стракатыя з белымі каменьчыкамі цэментовыя ўсходцы і ткнулася ў вялікія філянговыя дзверы з меднаю да залацістага бляску абслізганай ручкаю. Але яны былі замкнёныя: у дзірачцы з адсунутым набок язычком бліш-

чаў кончык ключа. Хрысця смела і [redacted] усяе моцы груканула ў вялікія непрыступныя дзверы [redacted] меднай ручкай.

У дзірачцы зашчоўкаў, заскрыгатаў і перакруціўся ключ. За адчыненымі дзвярмі, не прапускаючы яе ў калідор, стаяў малады высокі доктар у белым каўпаку на чорна-кучаравай галаве. Шчокі яго былі ў дробных, пабітых вуграмі дзірачках. Доктар, нібы сумеўшыся насцярожнабыстрага зірку Хрысціных вачэй, спытаў, шчыльней прычыняючы дзверы:

— Вы куды? Тут хірургія.

— Я тэхнічка з радзільнага аддзялення.

— Не мае значэння. Няможна сюды,— дзверы зачыніліся, скрыпнуўшы нямазанымі завесамі.

Але Хрысця з усіх сіл тузанула да сябе медную ручку.

— Тут параненага прывезлі.

— Нету здесь раненых,— адазваліся за плячыма ў доктара, па-руску і жаночым голасам.

— Ёсць. Імполь Верамей,— крыкнула Хрысця ўжо той нябачнай за дзвярыма кабеце.

— А вы хто прыходзіцеся яму? — памякчэў голас у чарнявага маладога доктара.

— Сваячка я.

— Будзе жыць твой Верабей,— засмяяўся доктар, крывячы сваю вугравату шчаку.

— А што ў яго?

— Нагу ён зламаў,— дзверы зачыніліся, і ў іх зноў заскрыгатаў і шчоўкнуў ключ.

Акрыяўшы ды ачуняўшы душою, Хрысця выйшла на вільготны, засыпаны падапрэлым слізкім лісцем дзядзінец. На маладых, сіваватых, абвешаных карычневымі маністамі насення ясенях нядужа і квола ў нейкай сваёй радасці перакліталіся сініцы. Разарваўшы балючую, як іржавы калючы дрот, зашмаргу, Хрысця адчула, як у душы затлелася нешта зноў пяшчотнае ды ласкавае да Імполя; і з жахам раптам падумала: як жа ж была б без яго, яна ж яму, як брату, і выкажа ўсё, і перагарае разам.

— Дзе ты ходзіш? Працаваць трэба. Пакой прыбраць. Слышыш! — ужо ў дзвярах Хрысціна забыццё разарваў крык пані Богны.

Хрысця глядзела, як нечаканы скразняк калмаціў густа і прыгожа завітыя валасы пані Богны, як яна злавіла і грабла іх абедзвюма рукамі.

— Слышыш? До салі, до родзэння забралі пані Юзэфу. Слышыш? [1]

Хрысця яшчэ ўсё не скінула з сябе, як цяжкі і страшны сон, думкі пра Імполя, нібы глухая, стаяла ў дзвярах. Нарэшце ачуняла і сумелася, ужо разабраўшы і ўцяміўшы, што казала пані Богна, выскаляючыся і паказваючы сваю залатую каронку ў куточку рота:

— Чуень, жэ знову дзюравца ўродзіць [2].

— Якога дзюраўца? — перапытала Хрысця, прычыніўшы і трымаючы дзверы, якія вырываў апалелы скразняк.

— Ну, цурку.

— А-а,— Хрысця прыгрукнула дзвярмі.

— А ты чаго збеднілася, га? — пані Богна нарэшце падграбла і прыкалола на патыліцы свае пышныя валасы.— Ці не твайго там прывязлі?

Хрысця, нібы не дачуўшы, моўчкі завярнула ў калідор. Пад ёю суха і, здаецца, балюча рыпелі дошкі жоўтаяснай падлогі.

## XIII

Да шчымлівага болю ў душы, да пакутнай радасці Міця любіў адзіноту, прэсны холад першага прымаразку з дымнай шорсткай шэранню на дахах, на жвірыстым пяску вуліцы, на счарнелым апалым лісці.

Пад гэты нядужы і яшчэ не вельмі кусачы марозік лёгка ідзецца, а пад спорную хаду весела і молада думаецца.

Міця любіў першым за ўсіх прыйсці на работу, першым адамкнуць дзверы з хітра і прыгожа завітай на абедзвюх фортках меднаю рашоткай, што асцерагала мутнаватае рыфлёнае шкло.

У пакоях яшчэ не выветрыўся да гарчэчы атрутны тытунёвы дым, пакураны, звыкла, увечар, калі збіраліся нарады ці засядаў валасны камітэт, калі ішла перапалка і падымаўся голас, нерухома стаяла, як вада ў затоні, сінявататая цішыня і пахла сухім тынкам.

І Міця, чуючы крохкі, рыпучы водгалас крокаў ва ўсіх прытоеных пакоях за белымі дзвярмі, ішоў у свой — самы

---

[1] У радзільны пакой забралі пані Юзэфу. Чуеш? *(польск.)*
[2] Чую, што ізноў дзіравую народзіць *(польск.)*.

пырокі, з карычневай кафельнаю грубкай, з дзвюма прыгожа аздобленымі разьбою цёмна-ружаватымі шафамі, з зашклёнымі дзверцамі, прывезенымі з далёкай Ятвязі з маёнтка Кашыца, дзе жыла толькі аўдавелая пані, сын уцёк і, кажуць, туляўся недзе пад Львовам. Шафы прывязлі чамусьці разам з пяццю бурачковымі ў штапельным нераплёце тамамі Пілсудскага, з пухлым, абцягнутым тонкаю скураю фотаальбомам, гадавою падшыўкай «Нівы» і нейкімі таннымі, невялікага фармату кнігамі, надрукаванымі ў Кіеве ў друкарні Лявона Ідзікоўскага.

У адной з іх, на ніжняй паліцы з разнастайнымі гадавікамі чырвоных «ражанцаў», каляровых абразкоў, кніжачак для набажэнства з меднымі рамкамі і зашчапкамі, Міця агледзеў закурэлыя, з паржавелымі скрэпкамі, што ўеліся ў паперу, пасведчанні, асабовыя справы, даведкі нейкай Марыі Тарэсы Петрыкевіч, што прыехала сюды са Стрыю, скончыўшы там жаночую настаўніцкую семінарыю — пра што Міця вычытаў на галубенькім доўгім і складзеным у чатыры столкі «Swiadectwo»[1].

Пры многіх паперах былі прыколатыя гэтымі ж паржавелымі скрэпкамі картачкі круглаліцай, гадоў пад трыццаць, маладзіцы з караткавата, ніжай вуха, падстрыжанымі і прыколатымі каля скроні валасамі, крышку насатай, але з нейкай шчырай наіўнасцю ў вялікіх вачах, у смешнай сукенцы з белым вялікім каўняром, што нагадваў шалік.

Іншы раз, калі нікога не было ў валасным камітэце, Міця з нейкай патайной цікавасцю любіў перачытваць гэтыя разнастайныя пасведчанні, заявы школьнаму куратару ў Наваградку і «адпісы» ёй, пані научыцельцы публічнай школы повшэхнай[2] у вёсцы Садкава, ці разглядаць карычняватыя ў шарых кардонных вокладках фатаграфіі, прысланыя, як сведчыць штамп, з 85 авеню з Нью-Йорка, на якіх былі знятыя ганарыстыя з падкручанымі вусамі дзядзькі, што стаялі каля прыгожа выштукаваных падставак з белымі ажурнымі сурвэткамі, на якіх ляжалі тоўстыя кніжкі, і яны злёгку, толькі пучкамі пальцаў правай рукі, абапіраліся на іх.

Чаго разам з шафамі прывязлі гэтыя пухлаватыя з залацістымі кантамі і выціснутымі на скураных вокладках ценькімі ліецікамі фотаальбомы, гэтыя, ашчадна сабраныя

---

[1] Swiadectwo — пасведчанне *(польск.)*.
[2] Пані настаўніцы пачатковай публічнай школы *(польск.)*.

і акуратна сшытыя, гадавікі тонкіх «ражанцаў», перакладзеных каляровымі абразкамі, пасведчанні і асабовыя справы і нават школьныя спісаныя сшыткі, ніхто, пэўна, добра не ведаў.

І наогул чаго толькі не было пры валасным камітэце: у цеснаватым хлевушку нерваваўся і пудзіўся сыты дагледжаны конь, віселі жоўтыя вайсковыя сёдлы і кракаўскія дарагія хамуты, [redacted] пад навесам дрывотні, акрамя плеценага з ракітніку курносага вазка, стаяла лёгкая на рысорах брычка, [redacted] [redacted] кутка блішчала, адбіваючы скупое далёкае святло, лакіраванае ў разной аздобе, з двума фігурнымі меднымі падсвечнікамі карычневае піяніна, знявечанае, без ніжняй дошкі, з выбітымі клавішамі. Яго прывязлі [redacted] панскага двара і збіраліся перадаць школе.

Але самай цікавай рэччу для Міці была пішучая машынка «Рэмінгтон» і канфіскаваны ў некага [redacted] асаднікаў батарэйны радыёпрыёмнік з уманціраваным чатырохкутным прыгожым гадзіннікам. Прыёмнік стаяў на доўгім раскладным стале якраз у Міцевым кабінеце.

Каб паслухаць ранішнія навіны, а за адным разам каб раней вышмыгнуць з Царыкавай кватэры і не збрыдзець людзям, Міця прыходзіў у валасны камітэт на якое паўгадзіны раней, бывала, і больш, стараючыся апярэдзіць тэхнічку, што ўжо лішне грукала ды пазвоньвала вёдрамі.

Лаўрын Царык, трохі акрыялы і паспраўнелы на выгодзе, у цёмна-шэрым з карычневым нутрыевым каўняром і падбітым белым плісам футравым пальто, у каракулевым каўпаку, з чорна-густымі, падкуранымі вусамі, якія ён цяпер загадаваў, фанабэрыста, неяк на бок несучы галаў, прыходзіў роўна ў дзевяць. Даставаў сярэбраны на ланцужку гадзіннік, шчоўкаў аздобнай накрывачкай і, паглядаючы зводдаль на цыферблат, сыта і давольна пасмехваўся.

— Па мне можна звяраць часы нават у Парыжскай палаце мер і вагаў.

Тады паварочваўся ўжо, ішоў у свой кабінет, здымаў футравае паліто і вяртаўся назад, упарта грабучы расчоскаю і падгладжваючы свае чорныя, з холадам сівізны, густыя валасы.

— Ну, што там чуваць? Як вайна... Можа, аціхае? — і адказваў ужо сам: — У прыродзе спрадвеку ўсё ідзе такою ратаю: сеецца, рунее, красуе ды чэзне, каб пасеяцца зноў. Тое ж і ў чалавечым жыцці — адно пакаленне нара-

дзілася, папакутавала і адышло. А для новых людзей пачнецца ўсё спачатку: і мор, і град, і суш, і войны...

Прыспешваючы хаду і несучы ледзьве не пры самай зямлі свой плякаты, абшмарганы партфель, заўсёды пазніўся сакратар камітэта — Петрык Дудар. Яшчэ на наднорку крывілася яго рассечаная губа, ■ ў калідоры ён рагатаў на ўсю моц і ўваходзіў у кабінет з гэтым задушлівым рогатам і расказваў ужо, як з гадзіну прастаяў каля плота, прыцікаваўшы, як біліся, пэўна ж, за мужчыну, цягаючы адна адну за валасы, дзве кабеты, маладыя, ліха ім, дужыя, хоць запрагай.

Смех браў ужо не з тых дужых маладзіц, а ■ яго самога, калі, захлябнуўшыся рогатам, Дудар пачынаў шыпець, як гусак, і неяк падсвістваць, выпінаючы тоўстую спод-нюю губу. Учуўшы гэты свіст, Царык мяняўся, лагаднеў з твару, сцятыя яго сківіцы мякчэлі, і ён нехаця і горка пасмехваўся, закрываўся рукою, толькі потым ужо ўкрадкам скардзіўся Міцю: «Ну, што ты ад яго хочаш? Ну, як маленькі. Ну, удаўся характарам такі, ну, урадзіўся. Брыдка вот толькі перад староннімі людзьмі, бо зойдзеш да яго ў кабінет, ён сядзіць за сталом, як сугнет, а пад носам у яго дрыжыць кропля. Доўгая, ліха ёй, ■ верацяно. Я тады гляджу на яго і ажно душуся ад злосці: «Няўжо ты, чалавек, не чуеш?» За гэта і ў цямнейшы куточак яго пасадзіў. Думаю, усё ж чужыя людзі меней убачаць, меней і гідаваць будуць».

Сёння ў валасным камітэце нікога не было — ні вартаўніка, ні тэхнічкі,— у калідоры асталася толькі гулкая ды цеплаватая цішыня ад белых кафельных грубак, што пахлі чырванавата-сінім шлакам ад перагарэтага вугалю. Гарбаценькая сівая мыш, з бурачковым хвосцікам, шмыганула ў дзірачку пад ліштву, пакінуўшы Міцю з таемнай адзінотай зачыненых дзвярэй. Ён ужо з чуткай душою і радасным спакоем увайшоў у доўгі кабінет, дзе стаяла, модна, і лішняя тут ды раскошная, на спружынах, канапа, абабітая залаціста-жоўтай шчытнай матэрыяй, і дзе між вокан да белай сцяны прыткнуўся карычневы стол ■ адпаліраванай скрынкай радыёпрыёмніка, ад якога да шпугаванай, надшытай вузкімі дошчачкамі столі цягнуўся медны дроцік антэны з фарфоравым чаўначком.

Пакруціў за шурпатую галоўку чорнай ручкі, чакаючы, калі засвеціцца сіняе вочка над шкалою з чырвонымі рыскамі і ўслед за сухім трэскам і глухаватым пагрукваннем

прыплыве, як вада, спярша ціха, потым шырачыся і мацнеючы, далёкая музыка. Але заміж яе з невыразнага паўслова загаварыў хрыплаваты дыктар, потым пачулася глухавата-драўлянае трэнканне піяніна, і мужчына, гнусява, трохі ў нос, выкрыкнуў: «Раз-два. Шире взмах!»

Міця ўзяўся за другую, але гэтакую ж шурпатую, у рубчыках, кацёлку ручкі, каб пераключыць прыёмнік на іншую хвалю, і абарваў раптам гэты сіплаваты голас і ўчуў ужо за спіною старэчы і нядужы:

— Мне ён не перашкодзіць. Дзень добры, таварышок!

Міця азірнуўся: на парозе, прыадчыніўшы дзверы і зняўшы руды каўпак, стаяў высокі, лысаваты, з белымі абвіслымі вусамі ружовашчокі дзед. На белым лобе ў яго гарэў, націснуты каўпаком, чырвоны рубец.

— Я тут ужо заходзіў, ці помніце? — чалавек нячутна, у мяккіх валёнках з блішчастымі галёшамі, пераступіў парог.— Наконт брычкі.

— Якой брычкі? — патрэскванне і гуд у прыёмніку перабівалі гутарку.

— А той, што забралі ў лесніка. Гэта ж мая была.

Міця, крутнуўшы за крайнюю кацелку, выключыў прыёмнік.

— Як жа ж яна аказалася там?

— Пазычыў,— чалавек пацёр на лбе чырвоны рубец.— А забраў Крывеня...

Чалавек ціха, як увайшоў у пакой, так гэтак ціха і выйшаў.

Міця, уражаны, неўспадзеў збіты з тропу, з прытоенай трывогай і неразгаданай таямніцай пазіраў, як ішоў да шэрай драцяной сеткі плота з мураванымі шэрымі слупкамі і жалезнаю брамкаю гэты высокі, сухарлявы чалавек у жаўтлява-карычневым выцвілым каўпаку.

Толькі цяпер Міця схамянуўся, што не спытаў, хто і адкуль гэты высокі, з нейкай даўнейшай салдацкай выправай і выхілкамі, хударлявы чалавек.

Але жалезную брамку з іржавым рыпучым звонам адчыняла ўжо смуглявая, мілавідная з твару маладзіца ў бурачковай спадніцы з густым, прышытым да падола каснікам і цёмна-сіняй, накінутай на плечы і галаў, вялікай шарсцяной хустцы.

І Міця раптам пазнаў іхнюю верасаўскую Юстыну, Ікона Жытка старэйшую замужнюю дачку, і адчуў неса-

мавітасць, нейкую трохі прыкрасць, перамешаную з сарамяжлівасцю: з якою патрэбаю ідзе яна?

Заблудзіўшы ў калідоры і збіўшыся, пэўна, з панталыку, якія адчыняць дзверы, Юстына аж злякнулася, калі Міця адчыніў свае:

— Вой! Гэта ты, Змітрычак! — з-пад дзвюх хустак: адной суконнай, другой паркалёвай, ніжняй, насунутай на лоб,— уздрыгнулі чорныя густыя бровы.

На локці, пад доўгаю суконнаю хусткай, Юстына трымала лазовы кошык з плеценым вечкам.

— Вой, як рада, Змітрычак, што натрапіла на цябе,— яна адчыніла палавіну вечка і нязграбна, леваю рукою, закапашылася ў кошыку, скоса, адным вокам, зазіраючы ў яго. Нарэшце дастала жаўтлявую лошчаную паперу.

— Што гэта? — не ўтрываў Міця, каб даведацца, чаго ж нарэшце яна хоча.

— Змітрычак, родны, хто ж паможа, калі не ты?

— Ну, калі магчыму. А якая ж гэта помач? — адступіўся ён ад жаўтлявай лошчанай паперы, што дрыжала ў Юстынінай руцэ.

— Нашага Васіля з Нямеччыны з палона вярнуць.

— Тут валасны камітэт не ў сілах. Трэба падавацца вышэй.

— Згіне, прападзе ён у няволі. Ён такі неразбітны... Як дзіця.

— Я, можа, распытаю...

— Мы восьдзека паперу склалі, каб выпатрабаваць яго. Хворы ж ён. Табе аднаму скажу — на посік, на пухір змалку хварэў.

— Не ведаю, што і парадзіць,— Міця прабег вачмі спісаны дрыготкаю, але пісарскай рукою і даўнейшымі яцямі і падкручанымі, як гарбузовыя вусы, літарамі ліецік лошчанай, таксама нейкай даўнейшай паперы.

— Ты ж ці ведаеш, Бронік Літавар дадому прыйшоў.

— Калі?

— Надоечы во. І і Лезнявіч — як яго?.. Ладак Сінюта,— нарэшце ўспомніла яна.

— А Літавара што, пусцілі? — Міця паглядзеў у сінявятыя, налітыя слязьмі Юстыніны вочы.

— Дзе там, уцёк. Адважыўся ды ўцёк, а наш жа ж ніколі не парушыць закона,— Юстына зноў падняла палавінку плеценага вечка ў лазовым кошыку.

Міця, убачыўшы, што яна дастае ўкручаны ў вільгот-

ную кужэльную анучку жоўты кружок масла, узяўся рукою за стол, адступіў за яго востры край.

— Восьдзека з фунт сабрала. Хоць якое цяпер масла — горкне смятана. Але ўжо не прагневайся... Пасля каляд, як куры пачнуць нясціся, яечак яшчэ прынясу. Толькі заступіся, богам прашу, Змітрычак. Прападзе наш Васіль у той Нямеччыне, згіне, і не знайся.

Юстына азірнулася, пашукала вачмі, дзе дабраць іншае месца, але не знайшла, і палажыла ўкручаны ў вільготную анучку падзёўбаны дзюбком лыжкі кружок масла на паліраваны стол каля батарэйнага прыёмніка.

— Забяры! — крыкнуў, наліваючыся чырванню ад злосці і брыдкасці, збянтэжаны Міця.

— Не забяру, Змітрычак.

— Гэта ж подкуп! Судзіцьмуць...

— Выдумаў,— яе шырокая ў суконнай, накінутай на галаў хустцы спіна хавалася за дзвярыма.

— Я нічога не зраблю! — Міця прыгаршчамі загроб вільготны і настылы кружок масла.

— А хто паможа? Ты ж знакаміты чалавек,— яе скорая хада заглухла за дзвярыма калідорчыка.

Бегчы за ўпартаю кабетаю ці шпурляць услед за ёю гэты кружок масла было ўжо і смешна ды, можа, і не пасталаму брыдка. І Міця, зняверааны, стаяў у расчыненых дзвярах калідора, глядзеў, як сюды, панура звесіўшы галаў, ішоў конюх Андрэй Кармільчык — губа ў яго адвісла і чырванелі набрынялыя ад бяссонніцы ці хваробы тоўстыя цяжкія павекі, а ўслед за ім, неяк бокам абыходзячы Юстыну, разгарачаная ад скорае хады, з чырвонымі плямамі, у расслабленай каля шыі хустцы, з-пад якое раз'ехаліся слізка-бліскучыя, мусіць, надоечы вымытыя валасы, подбегам спяшалася Алеся.

Хаваючы сполах, што раптам пякуча кальнуў у сэрца, Міця выйшаў з цеснаты калідора.

Нейкая бяда дома. Астатнія часы Міцеву душу абліваў настылы лядовы скразняк трывогі, каб благога чаго не прылучылася з бацькам: асунуўся ён, зжоўк у твары, спахмурнеў і заткнуўся, хаваючы ад старонніх свае непраглядныя, як сыры зімовы туман, затлумленыя думкі.

— З бацькам што? — Міця нават спусціўся з ганка.

— Нічога з бацькам,— Алеся, убачыўшы, што ёй заступілі дарогу, падняла галаў і, цяжка дыхаючы, яшчэ больш расслабіла пад барадою канапляную хустку.

— А чаго ты?
— Яшчэ й пытае... Саўсім выракся нас.
— Алеся, што там? — ён узяў яе за рукаво ў цёплым ватнім каптаніку, памог падняцца па дашчаных, у шыракім цэментовым жолабе, сходах на ганак.
— А я ж во, не помнячыся, прыбегла спытаць, што робіцца тут,— нарэшце прызналася яна, ужо сеўшы на жоўтую, у гарбах ад пакрыўленых спружын, іржава-рыпучую канапу і трохі аддыхаўшыся.
— А нічога...
— Ён кажа — нічога,— яна рукавом выцерла змакрэлы, у чырвоных плямах гарачыні пукаты лоб і раптам прыпаднялася на канапе: вочы яе вырачыліся і збялелі.— Мой жа ж вунь пры смерці.
— Як? — Міця з дзівам глядзеў на Алесю, на яе зблажэлы твар, на якім пакутным, балючым страхам гарэлі шарыя вочы.— Я ж і не чуў.
— Падсунуў лабаціну. Кажуць, параніла ці забіла,— яна ледзьве варухнула звялымі сіняватымі губамі.— Паліцыянта лавілі.
— Во як... Але чаму ж сюды ў валасны камітэт ніхто не звоніць?
— Паціліфануй ты,— яна паглядзела на скрыначку апарата, што вісеў на сцяне, з ручкаю і дзвюма падвязанымі знізу батарэйкамі, падобнымі на толавыя шашкі.
— А куды ж?
— У шпіталю,— яна ўгнула і абхапіла абедзвюма рукамі голаў.— Тамака ён.
Міця падышоў да сцяны і, упіраючыся адною рукою ў замурзаную чорную пляму, другою пакруціў за жалезную, як у швейнай машыне, ручку. Скрыпучым, нібы з'іржавелым нутром загрукатаў стары апарат з двума нікеляванымі грыбкамі званкоў.
Міця зняў з дзюбатага кручка цяжкую на бардовым шнуры слухаўку:
— Бальніцу мне.
Лапічак скупой яснасці расплыўся каля яго рукі — узыходзіла позняе восеньскае сонца.
На густой лусцэ поту, што пачынаў слязіцца на шыбах, таксама затрапяталася, заззяла рэдзенькая ружовасць. Падхарашыла Алесін твар. І Алеся, асляпшы ад сонца, павярнулася туды, дзе каля тэлефоннага апарата стаяў Міця, нейкі пачужэлы і худы, не акрыялы пасля хваробы.

На ссутуленых плячах у яго ўжо гаматна і няшчытна сядзеў шарачковы пінжачок з шырокім на паясніцы хлясцікам і двума жоўтымі гузічкамі.

Ён адарваў руку ад тэлефона, прыгладзіў пяцярнёю ўпарта завіты цёмна-русявы чубок на белым лобе з сінявымі рэдзенькімі балячкамі ад вугроў.

— Бальніца? Гэта пытаюць з валаснога камітэта, як там маецца Імполь Верамей?

Вопрамеццю з канапы падхапілася Алеся і зграбла з галавы хустку, каб, мусіць, учуць, што гавораць у чорнай слухаўцы з бліпічастай, пабітай воспаю іржы рашоткай.

— Скора акрыяе... Нага, кажаце?.. Нічога страшнага. Будзе хадзіць. І сабакам не ўгоніш,— смеючыся, ужо ўслед за чужым голасам паўтарыў Міця і цераз плячо зіркнуў на Алесю: — Кажуць, што скора будзе бегаць і сабакам не угоніш.

— Табе смех.

— А што. Бяда ж невялікая.

— Трэба ісці і забраць дадому.— Алеся нацягнула на голаў цяжкую хустку і пачала падгладжваць пад яе слізкія, раз'еханыя валасы.

— Хто ж табе аддасць, покуль не вылечаць. Ды...— і Міця асекся, не сказаў таго, што мучыла ды цягнула сказаць: а нашто ж забіраць, раз не выйшла, не ўдалося з ім жыццё. Насліненая ды злепленая нітка ўсё роўна рвецца. Але не сказаў, адно са спагадаю і шкадаваннем паглядзеў на сястру.

— Ты думаеш, Змітрык, не аддадуць? — Алеся злавіла яго патайны зірк.

— Вядома.

І яна, ужо крывячы ў злосці мяккія сіняватыя вусны, злосна адсекла:

— Во праўда, каб узяў прывязаў да заслона ды намочанаю вяроўкаю, як Сцяпан Мар'яну, што пакрала грошы...— і ўздыхнула, і вочы пачалі макрэць ад слёз.

# XIV

У трэцюю, самую большую палату, дзе было пастаўлена шэсць на сетцы з кручкоў і кольцаў жалезных ложкаў — два пасярод, чатыры каля сцен,—

першага палажылі пана Свірака, вайсковага доктара, што быў ужо на пенсіі. Палажылі на выгоднае — пры кафельнай печцы — і зацішнейшае месца.

Пасівелы, ужо немалады чалавек, што меў нават унукаў, бачачы, як уцякалі ў невядомы свет, як у прорву, асаднікі, і таксама ашалеўшы ад страху і не ведаючы, якую даць сабе раду, знайшоў адно выйсце — падняцца на пажарную драўляную вежу і кінуцца стрымгалоў уніз. Балазе для адвагі ён выпіў спірту, а п'янаму, кажуць, бог падсцілае падушку, і пану Свіраку пашэнціла — ён упаў у кветнік і астаўся жывы, зламаўшы нагу і тры рабры. Каля месяца хварэў дома, а калі адкрылася бальніца, папрасіўся сюды ўжо сам.

Услед за ім прывязлі старога Якшука, што пагоднай раніцай пайшоў касіць атаву, зачаў пракос, а далей ужо не помніць, што з ім было і як ён ачуціўся тут у бальніцы.

Трэцім прыкульгаў лысаваты з вялікімі адтапыранымі вушамі дварчанскі сталяр Адам Семярнік. Убачыўшы ў кутку каля белай кафельнай грубкі доктара Свірака, прыгнуўся і трасянуў лысаватаю, з адтапыранымі вушамі галавою:

— Гэ-е, пане Свірэк? Дзень добры!

— Добры дзень,— нехаця адазваўся доктар і пачаў адварочвацца да сцяны.

— Прыйшоў во, каб каштылі направілі. З нагою нешта прылучылася. Сама праз сябе. Дошку хацеў на калена паставіць...

— А я касіў атаву... Ці не прапала яна ўжо тамака? — закапашыўся на ложку, каб падняцца, стары Якшук.

— Атава-а...— хмыкнуў Семярнік,— успомні, чалавек, яшчэ леташні снег.

— Ты выбачай,— ціха і панура папрасіў Свірак,— у яго з галавою.

— Ці ж я не бачу,— Семярнік акінуў позіркам яшчэ чатыры пустыя ложкі і выбраў таксама зацішны, каля сцяны. Сеў на яго, зарыпеўшы сеткамі, і палажыў каля сябе торбу з харчамі.

— Змарнуецца атава,— нарэшце падняўся з ложка і, трымаючыся за біла худымі рукамі, нямоцна стаяў на нагах стары Якшук; было шкода глядзець на яго, сутулавата-высокага, худога, у кароткай байкавай курткы, з-пад якой вылезла доўгая рудая замытая кашуля.

— Самая пара, дзядзька...

— Старая не ўправіцца з касьбою. Трэба ёй помач.

— Хіба паміраць пойдзеш? — Семярнік развязаў сваю торбу.

— Але ці дайду ўжо,— Якшук, трымаючыся за пусты ложак, нарэшце паволі доўгаю худою рукою хапіўся за вушак, адчыніў з рыпам цяжкія з ромбікам пасярэдзіне філянговыя дзверы, але ўжо ў калідоры пачуўся крык сястры:

— Якшук, вы куды?

— Дадому ж іду я.

— Яшчэ рана дадому, яшчэ не вылечыліся вы,— чарнявая і быстрымі, як жучкі, вочкамі сястра ўзяла Якшука за руку і прывяла да ложка.— Ляжаць вам трэба, ляжаць...

Семярнік, адарваўшыся ад торбы, скоса змераў яе вокам і правёў да дзвярэй, прыцмокнуўшы языком, калі яны ўжо зачыніліся:

— Халера, ад яе гэтыя слабенькія пружынкі і рассыпаліся б...

І ён гайдануўся на сваім рыпучым ложку.

— Я ж і кажу, атава змарнуецца,— адклікнуўся на яго голас стары Якшук.

— Ты лепш скажы, дзядзька, як кормяць тут?

— Пытаеш, як кормяць? — нібы трохі апрытомнеўшы, Якшук панура паглядзеў на Семярніка і махнуў худою рукою.— Даюць, пруць і па кавалку яшчэ валяецца.

— Тады гэтыя лекі не па мне,— Семярнік азірнуўся на дзверы — яны адчыніліся зноў, і ў палату ўехала высокая, з доўгімі жалезнымі ручкамі каляска.

Дзве санітаркі: адна — чарнявая, паўнаватая, другая — высокая, спрытная ў паставе і прыгожая з твару — накіроўвалі яе да пустога, засланага рыжаватай, запаранай у вашапрудках бялізнаю невысокага ложка. На калясцы ляжаў, накрыты да падбародка прасцінай, зжоўклы, няголены, з сіняватай адраслай шчацінай, Імполь Верамей.

— Сам, я — сам! — крыкнуў ён, калі санітаркі — адна пад плечы, другая пад ногі — падхапілі яго і неяк скоранька перанеслі на рыпучы ложак, што стаяў пасярэдзіне палаты ўпрытык да ложка старога Якшука.

Пасля ўжо, калі каляска, загрукаўшы на невысокім касяку парога, выкацілася з палаты, Семярнік пакруціў лысаватым качаном галавы:

— Цябе такія анёлачкі неслі, нібы з якога рая, ажні зайздрасць брала.

— Пападзеш на аперацыю, так панясуць і цябе,— крывячыся, перамагаючы нязносны боль уназе, аказаўся Імполь.

— Толькі невядома куды: у рай ці ў пекла,— варухнуў ніжняю зморшчанай губою доктар Свірак.

— А покуль не вынеслі, покуль суд ды дзела, падсілкуемся,— і Семярнік з палатнянай торбы дастаў укачаны ў хлебныя крошкі пахучы ад кмену кавалак жоўтага з'ялчалага сала і ножык з зялёнымі касцянымі тронкамі.

Усе сцішыліся, ловячы носам густы і зманлівы пах сала і чуючы раптоўны, цягучы і вуркатлівы голад у жываце. Толькі на ложку варушыўся і сіліўся ўстаць стары Якшук:

— Ляжу тут, як конь... Пара ісці.

— Пэўна ж, дзядзька, даўно пара,— здзекліва засмяяўся, угінаючыся над сваёю торбаю, Семярнік.

— Не гідуй, не зневажай старога,— не стрываў, учуўшы гэты няшчадна-здзеклівы смех, Імполь.

— Шкода чалавека, але ж паспаць ён нам не дасць,— падняў ад падушкі сваю кучаравую сівую галаў пан Свірак і падазрона варухнуў сіваватымі бровамі.

Праўда, не ляжалася Якшуку, хвораму, мусіць, яшчэ на посік, і сярод ночы. Можа, разы з чатыры, абмацваючы і абапіраючыся абедзвюма рукамі на ложак — спярша на свой, потым на Імполеў, ішоў ён да дзвярэй. І ўсе чатыры разы прачынаўся Імполь, прачынаўся ад гідка-халоднай, як у нябожчыка, Якшуковай рукі, што растапыранаю пяцярнёю лажылася яму на твар.

Вярнуўшыся ў палату, знайсці свой ложак Якшук ужо не мог.

— Пане Якшук, гэта я тут,— чуўся сцішаны голас доктара Свірака,— ваш ложак там, во — напроці.

І тады ўжо ўставаў выбіты са сну Семярнік і, мацюкаючыся, сілком браў старога бяспамятнага Якшука за руку і вёў да ложка.

— Не дасць выспацца, а ў мяне з самага ранку прыбягуць браць кроў,— бурчаў ужо і не даваў заснуць Семярнік.— З ім, як з бараною ў лесе.

— Хлопакі, веце цо?.. Трэба ціхенька ўпрасіць лекажа, абы адпэндзіў старога осла да іннэй салі,— па-польску ўжо зашаптаў доктар Свірак.

— Слухай, не пярдоль на бэльку,— не стрываў Імполь.— Ён жа ж такі чалавек, як і мы.

— І праўда, не будзьма такімі ўжо мудрымі. Невядома, што з намі яшчэ станецца,— пагадзіўся і Семярнік.— Бальніца ж...

Назаўтра ўжо, калі ў палату прывязлі беспрытомнага, гадоў сарака, мужчыну, якога падмяў пад сябе спуджаны конь, усе нібыта забыліся пра старога Якшука і з нейкім глухім страхам пачалі чакаць немінучае смерці гэтага ўжо чалавека.

Чакалі ціха, нічога нікому не кажучы. Пра гэтую смерць нібыта дагадваўся і стары Якшук і ўжо спакоіўся, менш уставаў з ложка, толькі бэрсаў на сабе выцвілае рыжаватае коўдра, ніяк не могучы накрыцца: то голымі былі худыя ў ліловых жылках і доўгія ногі, то расхрыстаныя сівыя грудзі.

— Ой, пане Якшук, бяда нам з вамі,— смяялася, памагаючы яму, бялявая спрытная сястра ў галубовай блузцы з белым нагруднікам, што праз хвілін колькі прыбягала глянуць, ці ідзе ў капельніцы кроў, як чуецца знявечаны канём мужчына.

У высокай і аднаногай, як вешалка, жалезнай капельніцы, дзе ў штырках сядзела рыльцам уніз бутэлька з крывёю, яна папраўляла заціск, прыглядалася, як з чырвонай гумавай трубкі ў шляную па кроплі капае густая кроў, мацала іголку, што ўпілася ў вену, і выходзіла з палаты. Трохі гордая і непрыступная.

Імполь, пазіраючы на яе прыгожы тварок, на рыжаватыя завіткі валасоў, што выбіваліся з-пад белага каўпачка з чырвоным вышытым крыжыкам, пачынаў успамінаць, дзе і калі бачыў гэтую дзяўчыну, і ніяк не мог успомніць.

Нечаканая здагадка, што бачыў яе ў Грабянкавым доме, калі шукалі паліцыянта Гуру і знайшлі прыхаваны батарэйны прыёмнік, нейкай ужо брыдкасцю і сарамяжнасцю апякла шчокі.

Імполь азірнуўся на мужчыну: той ляжаў ціха, з заплюшчаным вокам, другое наўскос закрывала шырокая паска бінту, што абвівала калматую галаў. У валасатай, закасанай вышай локця руцэ, што ляжала на цыратовай падушачцы, вострa, як піка, засела доўгая тоўстая іголка з чырвонай гумавай трубкай. У шкляной перамычцы стыў нерухомы слупок цёмнай крыві — яна перастала ўжо капаць.

Імполь убачыў, як на скурчаных, знямелых пальцах у мужчыны пачалі сінець ногці.

— Канае, ці што? — Імполь варухнуўся на ложку, учуўшы, як востры няшчадны боль аддаўся ў загіпсаванай назе, і сказаў ужо ўслых: — Гляньце, памірае чалавек.

— Гэ, не дурыся,— сеў на ложку Семярнік.

— Ногці сінія, бачыш!

— І праўда, мусіць, ужо богу душу аддаў.

— Паклічце сястру, чуеце,— заскрыгатаў ложкам і падняўся на локцях доктар Свірак.

— А што тут клікаць...— уздыхнуў Семярнік і кумельга, прыпадаючы на адну нагу, заспяшаў да дзвярэй і крыкнуў ужо ў калідор: — Слухай, душка, памёр чалавек!

Борздзенька і востра затупаўшы абцасікамі туфляў, у палату ўбегла яснавалосая, з белым нагруднікам сястра і нагнулася над мужчынам. Скоранька выцягнула іголку і, падхапіўшы капельніцу, выпмыгнула на калідор.

Няспешна і, здаецца, занадта спакойна ў палату ўвайшоў чарнявы малады доктар з падбрытымі вусікамі. Прыкленчыўшы каля ложка, падняў гэтую закасаную да локця руку з кроплямі жывой, яшчэ не запечанай крыві, хмурачы пакаты лоб, паслухаў пульс і па-латыні ўжо сказаў Свіраку:

— А яму ўжо gloria in excelsis [1].

— Так-так,— адазваўся Свірак,— et in terro pax [2].

Імполь, глянуўшы на мужчыну, на яго худаваты твар, што нечакана скамянеў, сцяўся, пакінуўшы ў куточках пасінелых губ нэндзна-кволую, прыхаваную ўсмешку, дагадаўся, пра што таямніча намякаў доктар.

Нешта халоднае падпаўзло Імполю да сэрца, што пасля ўчарашняе ночы мог бы сам застыць з гэткаю таямнічакрыўднаю ўхмылкаю.

Балазе Гура не страляў, хоць у яго быў браўнінг: агледзелі потым, калі ўзялі жыўцом ужо самога Гуру.

У палату ўбегла, трасучы набрынялымі грудзьмі, дзюбаносая, з акулярамі ў бліпчастай металічнай аправе медсястра, нясла перад сабою эмаліраваную ванначку, дзе на марлевай падушачцы ляжалі прыгатаваныя, ужо з лякарствам, шпрыцы.

Чарнявы доктар ціха падняўся з падлогі і лёгка, навотліў махнуў рукою:

— Не трэба, гэта ўжо не паможа.

---

[1] Хвала ў небе.
[2] А на зямлі спакой.

Нацягнуўшы на скамянелы, перавязаны наўскос бінтам мужчынаў твар рудаватую, замытую прасціну, ён нешта шапнуў дзюбаносай медсястры.

Калышучы цяжкімі грудзьмі, медсястра ціхенька выйшла з палаты, і неўзабаве сюды ўкацілася высокая каляска з доўгімі ручкамі.

Пхнула яе, падцінаючы мяккія прыгожыя губкі, яснавалосая ў белым нагрудніку і галубовай блузцы дзяўчына.

Імполь здрыгануўся, успомніўшы зноў Грабянкаву асаду, крык старое Грабянчыхі, якую трымала пад ручку гэтая дзяўчына, калі, занёсшы над галавою востра-страхатлівую шаблю, да збялелага, што стаяў на каленях, Грабянкі падскочыў Жэнік Рэпка.

Няўжо яна была там, гэтая прыгожая дзяўчына?

Імполю карцела спытаць, хто яна, гэтая яснавалосая медсястра, і ці не прыходзіцца Грабянку сваячкай, але ў палаце стаяла яшчэ амярцвелая цішыня — усе ўнурана маўчалі. На скрыгатлівым ложку заварушыўся, спрабуючы зноў устаць, стары Якшук. Нарэшце падняўся і, каб не ўпасці, злавіў худымі, жаўтлявымі рукамі біла.

— Яго павязлі, а мяне што — пакінулі.

— Што мінула, то не вернецца,— раптам аказаўся Семярнік, убачыўшы, як Імполь цікуе на яго.— Яму ўжо і святы бог не паможа. Няма на свеце праведнасці. Нягеглы стары жыве, а малады ляжыць, задраўшы бараду.

— Не вечныя і мы на зямлі.— Імполь зноў падумаў пра сябе, што ўчарашняй ноччу ён мог наткнуцца на смерць. Вось так непрыкметна і негадана, як гэты мужчына, якога забіў конь.

— Смерць іншы раз — ратунак,— з свайго зацішнага кутка з-за кафельнай грубкі загаварыў доктар Свірак.— Горш тады, калі смерць не бярэ. Во як мяне.

— Гэ, пане Свірак, гэтага ў бога не трэба прасіць,— скрывіў голаў і наставіў чырвонае вуха Семярнік.

— А я кажу так: я быў на фронце, пад снарадамі быў, галадаў і халадаў, а думалася жыць. А цяпер — замірае ўсё ў душы.

— Калі замірае звер, тады падымаецца чалавек,— ні з таго ні з сяго аказаўся Якшук, трымаючыся за біла і нямогла пахістваючыся.

Свірак азірнуўся на Якшука і падняў палец угору:

— А ён, дарэчы, праўду кажа. Звер цяпер у чалавеку сядзіць... Я адзіноты стаў баяцца. Памерла мая жонка.

І адмяніўся свет. Іншы зрабіўся. Нікому я не патрэбны цяпер. Глухавата кругом. Людзей шмат, а ты адзін, як палец, і ўжо ніхто не спытае: «Юзаф, ты снедаў ці не?»

Імполь, каб не слухаць гэтую нудную гутарку, адвярнуўся да сцяны. Ні то спаў, ні то мроіў. Ачнуўся ўжо ад таго, што над ім, злёгку тармосячы за плячо, стаяла бялявая медсястра — раздзімаючы цёмныя ноздры, варухнула пухлымі губкамі:

— Тут да вас рвалася жонка, але доктар не дазволіў.

— Чаму? — падхапіўся Імполь і асеў, адчуўшы моцны, што схапіў за сэрца, боль.

— Вы былі якраз у аперацыйнай,— і, прыціскаючы белую з востра адпрасаванымі фалдамі спаднічку, каб не чапляцца за ложкі, падышла да акна.— Але яна вунь на двары...

Імполь скаціўся з ложка на падлогу, перамагаючы боль, ужо на руках, абапіраючыся на здаровую нагу, ледзьве ўстаў.

— Вой, што робіце, я памагла б,— азірнулася і ўсплеснула рукамі медсястра.

— Кулу[1] яму падайце,— торкнуў сюды да Імполя сваім кастылём Свірак.

— І праўда што — чалавек не дойдзе дахаты, а можа, у яго таксама марнуецца атава,— закалываўся, трымаючыся за біла, знябожана, з нявыцертаю кropляю пад носам Якшук.

Абмінаючы яго, трасучы локцямі, на адной назе Імполь папрыскакаў да акна, хапіўся за выступ тоўстага белага падаконніка.

Пад маладою, апечанаю прымаразкамі яблыняй з цёмна-пажухлым скручаным лісцем, дзе свіціўся адзін крамяна-цвёрды, яшчэ не змерзлы яблык, стаяла Алеся, сціснуўшы на грудзях вялікую, што закрывала галаў і плечы, канапляную хустку.

Убачыўшы Імполя, спярша здумелася, змяніўшыся і збялеўшы з твару, а потым ужо заплакала, суха, без слёз, перакоўтваючы, мусіць, даўкі камяк у горле і кусаючы перакрыўленыя ў брыдкай міне губы.

— Ну чаго ты? — душачыся ад гарачага прыступу, што сціскаў за горла, спытаў Імполь. Спытаў для сябе, бо ведаў, што праз падвойныя вокны яго не чуваць.— Сын як?

[1] Кула — кастыль (*польск.*).

Закрыўшы рукою твар, яна ўздрыгвала ад глухога, цяжкага плачу. Гаварыць ужо, мусіць, не магла і нечакана завярнула ад яблыні. Нават не азірнулася. Пайшла раскіслым гародам, топячыся ў мяккай раллі, укрытай густазялёнай макрыцай.

Выйшла на сцежку, што ўлукаткі бегла між шарых камлёў тонкіх хвоек.

Раз'юшаны асенні вецер мякка гайдаў над ёю вілаватыя, выгнутыя, як растапыраная далонь, калматыя лапы.

Штось знябожанае, бабскае і ўжо немаладое было ў яе труднай хадзе. Халодны слізняк прапоўз праз Імполеву душу, што ён, пэўна, ніколі не любіў Алесю і не любіць.

Сполах адчаю і брыдкасці разрываў сэрца. Імполь даскакаў да ложка і, задзіраючы высока ўгору балючую нагу, упаў на яго.

Заплюшчыўшы вочы, доўга ляжаў — успаміналася яна, Хрысця. Думкі паплылі ў іншы свет, далёкі ад прапахлай едкім лякарствам, духатою палаты, восені, бальніцы. У тым, іншым, свеце яны былі з Хрысцяй.

...Уначы Імполю сніўся цяжкі сон: ён перацягваў па пяску, без рэек, гружаны вагон. І раптам пад колы, пад гэты вагон упаў Платон — яго брат.

Не чуючы свайго голасу, Імполь страшна і моцна ўскрыкнуў і прачнуўся ўвесь змакрэлы ад поту. Яшчэ не расплюшчваючы вачэй, учуў, як нейчая рука сцірае гэты халодны-ліпучы пот і ўсяго абвявае лёгкі свежы скразняк. Але сон не адыходзіў — усё бачыўся цяжкі чырвоны вагон з чорнымі, залітымі мазутам коламі, пад якімі сіліўся ўстаць, прыпадымаўся, як надзьмуты посік, іападаў задушаны Платон.

— Імполь, прачніся! Гэта я, чуеш? — нізка нагнуўшыся, над ім гаварыла Хрысця.

Ён нарэшце, вырываючыся з цемры страшнага сну, адкрыў вочы.

— Як ты цяжка стагнаў, божа мілы.

— Сон страшны прысніў,— ён ледзьве варухнуў перасохлымі губамі.

— А змакрэў як,— яна тыльным бокам далоні выцерла яму лоб.

Ён злавіў яе руку.

— Як ты тут?

— Во ўскочыла, покуль няма дактароў.

На ёй быў белы накрухмалены халацік.

— Нават пераадзелася, каб не вельмі прыкмячалі.

Рудаватыя вочы яе свяціліся, адбіваючы ў зрэнках яснасць акна, а рука трохі ўздрыгвала ад радасці і трывогі.

— Божа, як учула, што ў вашай палаце нехта памёр, так і злякнулася ад страху.

— Не, Хрысця, жыць буду. Раз ты прыйшла, то буду.

— Дзіва што будзеш.

— З табою, Хрысця...

Яе рука турзанулася.

— Яшчэ не паправіўся, а ўжо загадваеш уперад.

— І загадваю.

Яна азірнулася на ложкі, доўга прыглядалася да жаўтлявага, змучанага хваробаю Якшука і сказала:

— Ты бога хоць не выракайся.

— А чаму кажаш так?

— Кажу, бо бачыш, выракся чалавек бога, у пост гульбу зрабіў і загінуў.

— Я не прымаюся да гэтага, Хрысця.

— Перастань гаварыць,— і голас яшчэ больш сцішэў.— Учора твая прыходзіла...

— Ага, была тут пад акном.

— Дадому, кажуць, збіраецца цябе забраць.

— Не, Хрысця, не пайду я дадому.

— А дзе ж дзенешся?

— З табою ўжо як паміруся.

Хрысця, вырваўшы, паволі падняла сваю руку. На шчоках расплывалася, ірдзела чырвань сарамяжлівасці. Вочы звузіліся і глядзелі недзе ў сябе. І бачылі нешта сваё, патаемнае.

## XV

Мяняўся, перайначваўся і раз'юшаным мурашнікам кіпеў разварушаны свет, толькі паволі і затоена-сцішна, як абмялелая рэчка, плыло, сачылася жыццё Уласа Корсака.

Пасля таго як сышоў з дому Міця, Корсак ужо не ведаў, які знайсці ратунак ад нуды і адзіноты.

Днём, хмуры і ўнураны, цягнуўся да Алесі, прыглядзець за дзіцем, покуль яна ўправіцца з работаю — сабе ды часам яму, увечар ішоў да Літавараў, дзе збіраліся

мужчыны і хлопцы, паслухаць Броніка, што расказваў пра вайну і палон.

— Мо і выжыў я, што не баяўся смерці,— падымаючы свой даўгаваты, апушчаны да губы нос, гаварыў Бронік Літавар і прытупваў добрым вайсковым чаравікам.

— Ну, ты гавары, ды не загаварвайся, хто гэта не баіцца смерці,— перабіваў Броніка хто-небудзь з верасаўскіх мужчын, беручыся за лямпу і прыкурваючы над рыльцам закурэлага шкла тоўстую, скручаную з махоркі папяросу.

— А вот і не баяўся, хочаце верце, а хочаце не.

— Хваліся, хваліся,— махаў рукою недаверлівы верасавец, прыжмурваў вока і крывіўся ад едкай ухмылкі і тытунёвага дыму.

— Вот быў са мною адзін украінец — Жывакост. Усё пра смерць гаварыў...

— І што?

— Загінуў у першым баі,— Літавар пачухаў расхрыстанаю грудзіну і загаліў плячо.— А мне во толькі як гарачым бізуном... Яшчэ сіняк не сышоў. Пуляй ці асколкам ад міны.

Усе насцярожана-няспешна паглядалі на белае плячо з ліловай пісагай, на якой шалушылася карычневая балячка.

— А чаго тут не верыць, што чалавек чуе смерць,— Корсак сінімі ўпалымі вачмі зіркнуў здалёк на купку мужчын, што стаўкліся каля Броніка Літавара, каб паглядзець на рану, але сам не падняўся з лавы.— Мне некалі, едучы з Маўчадзі, з кірмашу, Саўка Ганчар кажа: «Чуеш, Улас, нешта ў мяне душа занывае, мусіць, скора памру».— «Ты што, смяюся, трэліш». Адно ж пайшоў ён разам з Сымонам Пташуком да асадніка Шумскага касіць, палажылі іх у нейкай адрыне спаць. Штось прыснілася Пташуку, ён падхапіўся і пачаў душыць Ганчара. Той з пераляку дастаў сухотаў і памёр. Праз год растаў, як свечка.— І Корсак уздыхнуў, успомніўшы, як не верыў і сваёй Караліне, але пра гэта ўжо не сказаў, толькі ў сябе перад вачыма махнуў рукою, нібы адганяючы цяжкія, смутныя думкі.— Чаго там, чуе чалавек смерць.

— А на вайне, мусі, так. Чуюць ці не чуюць, а сыплюцца, як мухі ўвосень,— сказаў і адвярнуўся, каб, пэўна, не паказаць сваіх слёз, Ікон Жыток: пасля таго, як уцёк з палону Бронік Літавар, ён жыў горкім і шчымлівым спадзяваннем, што прыйдзе дадому і яго сын. А калі

не сам, то хоць пісьмо з весцю, скупою і балючаю, як застрамка, весцю — жывы і здаровы.

І ўжо каторы раз Ікон Жыток спадцішка перапытваў у Броніка Літавара:

— Так ты кажаш, блізка ад цябе ваяваў?

— Мы на адзін бок Млавы, а яны — дваццатая наваградская брыгада кавалерыі — на другі.

— І дзе ён можа быць: ні пісьма, ні весці.

— Можа, дзе вырваліся ў Румынію,— з гэтага неразблытанага матка думак нехта знаходзіў нітачку надзеі.— Кажуць, шмат туды польскага войска перайшло.

— У палон яшчэ нічога, а калі на самы фронт, на першы агонь трапіў?..— сумняваўся нехта і гэтым яшчэ больш дадаваў жалю і бяды Ікону Жытку.

Корсак Улас слухаў гэтую староннюю гутарку пра чужую бяду, пра нязнаныя навіны, і трохі перабівалася свая гарката і адзінота. Куды ні азірніся — кругом клопат і гора. І пачынаў няўзнак аціхаць душою, што горка не толькі яму аднаму, што на гэтым свеце спакон веку як не было дабра і літасці, так, пэўна, не будзе. Не выбавіцца з нэндзы ды ліхаты чалавек.

У накуранай нізкай хаце, дзе віўся і пад столлю гусцеў сіняваты тытунёвы дым, ад якога ўжо мерк у шкляной пяцілінейнай лямпе нядужы язычок агню, гутарка перабягала ўжо ад вайны, ад польскага фронту да бежанцаў, што недзе з-пад Торуня прыбіліся сюды ў Дварчаны і жывуць цяпер калоніяй у драўляных будынках пустой надзіцячай санаторыі, то пра доктара Свірака, што хацеў накласці на сябе рукі, то нечакана пра тое, што ў бальніцы ляжыць падстрэлены ў сутычцы з паліцыянтам і Алесін прымак.

Пра Імполя мужчыны гаварылі трохі з асцярогай, азіраючыся на старога Корсака.

— Чакай дабра... Кожны смаркач начальнікам ці панам хоча быць. Лянуецца, ліха яму, рабіць,— раптам прачнуўся, а то нібы драмаў, звесіўшы нос каля печы, стары Літавар і падслепавата зіркнуў на Корсака.

— А спытай, чаго на мяне глядзіш? — страпянуўся, як уджалены, Корсак Улас.— Я тут — прышый, прысцягай кабыле хвост.

— Пра воўка памоўка, а мядзведзь і пацяху...— крыва расцягнуў рот і заплюшчыўся стары Літавар.— Сын твой ці лепшы? Чужыя ўжо гаспадаркі дзеліць.

— Пэўне, і не лепшы, як ты кажаш,— Корсак ужо ўчуў, як ад нечаканай дасады ў яго затурзалася левая шчака.— Але ж злабы, здаецца, нікому не робіць.

— Ну, ты ўжо чакаеш, каб дайшло да гэтага. Няхай бароніць бог,— Літавар падсунуўся на віднейшае і падняў свой худы, у зморшчаках і сівай шчаціне твар.

— А што ты мяне ўжо так свенціш? — упёршыся рукамі ў калені, Корсак падняўся з лавы і гэтак, не разгінаючыся, стаяў насцярожаны і згорблены, як каршун.

— Вы, дзядзька Улас, не прымайцеся, ці мала што ён плешча,— Бронік злым, нахмураным вокам кінуў на бацьку, і злосць перакасіла рот.

— Ат, маўчы і ты! — страсянуў галавою Корсак.— Калі ўжо хату праседзеў, то пайду. Але ён няхай спомніць, як прыбягаў да мяне шукаць ратунку, каб паклікаць цябе з войска. Забыўшыся ўжо. Розум кароткі?.. А мне сённячы не лепш, як яму тады было... Дак дзякуй і за гэта!..

Не разгінаючыся, увабраўшы голаў у плечы, Корсак падышоў да дзвярэй і з размаху адчыніў іх, уваліўшыся ў густы, прапахлы папрэлай, яшчэ не шаткаванай капустай поцемак.

Выскачыўшы ўслед за ім [redacted] хаты, стоячы недзе на пляскатым камені каля парога, гукаў Ікон Жыток:

— Улас, ці чуеш? Улас — дурны, вярніся!

Вецер, што дзьмуў [redacted] алешніку, [redacted] шоргатам гонячы апалае лісце, зносіў яго голас.

Спатыкаючыся ўпоцемку і не вельмі разбіраючы, дзе сцежка, Улас Корсак брыў у равок да дарогі.

У Алесіных, завешаных фіранкамі, вокнах нерухома тлеў жаўтлявы агонь.

«Не спіць»,— Корсак з жалем падумаў пра дачку і прыпыніўся напроці густой чарнаты яловага частаколу.

Вецер раз'юшана шоргаў па ім голым веццем вішанніку. Скрыпуча і ядавіта, як сашчэмленыя дрэвы, парыпвалі непрычыненыя весніцы.

І помслівая злосць забушавала, завірыла ў Корсакавай душы да Імполя: «Кавалак гультая. Праз яго падае на ўсіх нядобры знак».

А потым чорнаю хмараю аблажыла, абняла трывога, што пакутліва мучыла не раз: як усцерагчы ад ліхаты і прыгнаць дадому Змітрыка?

У хату вярнуўся няпомнячыся, як сам не свой. Разбушаваны агонь гневу не даў і заснуць. А потым ужо далё-

кай радасцю ўспомнілася лета, тое першае, яго і Караліны, гумно, густы ад зубровіцы пах сена ды яе маладая гарачыня... Як даўно тое было, нібы і не было. Як мала пажылі, так мала і нацешыліся. Не судзіў бог. Чаго ж тады ажно душацца ад зайздрасці верасаўцы?

Ганарысты, лішне гарачы і пунтовы Улас Корсак, можа, занадта прымаўся да чужых кпінаў і смеху. Але сёння яго даканалі саўсім, падцінаючы хто дзеля жарту, а хто дзеля помсты ўжо.

Яшчэ на шарай гадзіне, калі Корсак ад Сымонавага калодзеся, гнучыся пад шырокім, з двума вёдрамі вады, восілкам завярнуў на сваю вузкую, прыцярушаную крохкім, шаргатлівым градам сцежачку, яго нагнаў, здаецца, ужо адмаладзелы і шпаркі ў хадзе Язапат Змысла.

Забег наперад, пакаўзнуўся на стракатай ад дробнага граду сцежцы:

— На сход прыходзь, Улас. Наказваю ўсім.

— А пра што гаварыць будуць? — не прыпыніўся Корсак, ганяючы са сцежачкі Змыслу.

— Вярбоўшчык прыехаў.

— І што гэта за ён?

— На работу ў шахты вярбуе.

— Гэ-э,— хмыкнуў Корсак, асцярожна ступаючы па коўзкай і ліпкай гразі,— знайшоў ты работніка, самы раз.

— Як гаворыцца, [redacted] ж цябе запрашаю дзеля гонару.

— Ну, во яшчэ што.

Змысла, хітранька гледзячы рудымі і, як Корсаку здалося, трохі касаватымі вочкамі, зачмыхаў у чырванаватую вывернутую губу, з трапятлівай радасцю ў голасе прызнаўся:

— Я заміж Змітрыка цяперака, упалнамочаным буду. Камітэты скасуюць. Так што мы, лічы, ужо разам.

— Зраўняўся...— Корсак пахіснуўся пад вёдрамі.

— А што ж ты думаў,— паварушыў чырвонаю адвіслаю губою Язапат Змысла і ўжо, калі Корсак падыходзіў да хлява, зноў папрасіў: — Ты ўжо не гневайся, а на сход прыходзь.

— У каго ж будзе сход? Чуеш, упалнамочаны? — ужо смехам, адыходзячы ад злосці, адазваўся Корсак.

— У Аўдолі. У яе хата з падлогаю, не брыдка й людзям зайсці.

— Упраўлюся і зайду, чаго там.

І Корсак прыйшоў, ужо нашмат прыпазніўшыся, але і на самую перапалку, калі дробная нізенькая Матруна з Прылуцкіх хутароў, вырачыўшы свае белаватыя вочы, сварылася з высокай і ўжо не маладою Карусёвай Ганнай, што адною рукою махала, а другою закрывала шчарбаты рот. Карусь Сачык — руды і з тыдзень няголены, добра зарослы, з выспамі сівізны на падбародку, скоса, адным вокам, як насцярожаны певень, глядзеў на баб, трохі ўгінаўся ад сораму, але ў сварбу не лез.

За сталом у покуці сядзеў гладка прычасаны, дагледжаны, у шэранькім касцюме і гальштуку, завязаным шырокім вузлом, незнаёмы Корсаку маладжавы мужчына — пэўна, той самы вярбоўшчык — і, прыкрываючыся рукою, пасмехваўся з гэтага бабскага крыку.

Адступаючыся сюды да парога, дзе прыпыніўся, увайшоўшы ў хату Корсак, упрэлая ад злосці, развярэджаная Ганна расшпіліла вялікі гузік злінялага бурачковага каптана і махнула рукою да стала, дзе ў вузенькім крузе верасаўцаў стаяла Матруна.

— Ты маіх дачок не падтыкай, едзь сама!

— Дак я ўжо з'ездзіла.

— Ці я не ведаю. Нябось, нямала прывязла з той Францыі даляраў.

— А ты ўжо й палічыла.

— Нашто мне. Няхай вунь лічаць Саветы, колькі ты зямлі ў Карыцкім двары прыкупіла.

— Багаты — вядома ж, рагаты. А хто табе не даваў, мая дабрадзейка?

— Хто?! — Карусіха азірнулася, убачыла Корсака і зноў шырока махнула рукою.— А ўсё тыя ж! Як тады панавалі, так і цяпер пануюць.

Корсак, як спатажаны конь, турзануўся і цяжка, хрыпата закашляў, пракаўтнуўшы даўкі камяк.

— Век, мусіць, так было... Во, адзін Андрэй і паедзе ў той Данбас.— Карусіха, падымаючы худую, вастраватую бараду, паказала на курносага, пачырванелага ад сарамяжнасці мужчыну ў чубаватай, нацягнутай на патыліцу кепцы, што стаяў, трымаючыся за край стала: у руцэ ў яго дрыжаў лісток паперы — мусіць, заява ехаць на работу ў шахты.

Вярбоўшчык насцярожыўся, выцягнуўся, памыляў губамі, збіраючыся нешта сказаць, але яго ўжо апярэдзіў, заікнуўшыся ад гарачкі, Язапат Змысла:

— Ты ўжо, баба, гавары, ды азірайся.

— А што я маю азірацца,— махнула локцем Карусіха.

— А тое, што, як гаварыцца, за анцісавецкую агітацыю...

Але чый гэта голас быў, Корсак не разабраў: захлынаючыся ад злосці і гневу, павярнуўся да дзвярэй, злавіў халодную скобку клямкі.

Удома ўжо, не могучы астыць ад горкае крыўды, доўга сядзеў пры стале, не запальваючы лямпу і не распранаючыся, у суконным, як прыйшоў, паўшубку. Пыхкаў папяросай, зацягваючыся на поўныя грудзі смярдзюча-едкім махорачным дымам.

Балючы нарыў крыўды тузаў за сэрца, што Змітрыку на гэтай рабоце нездабраваць, што ўсунуўся, як у прорву, у новую бяду. Свет мяняецца, не паспяваеш нат згледзець. І бог святы ведае, што і як яшчэ павернецца. А людзі памслівыя: каб прымелі, то ў лыжцы вады ўтапілі б. Няма дабра ў душы, няма дабра і на свеце.

Няспрытнымі вузлаватымі пальцамі Корсак злавіў на грудзях у новым шорсткім паўшубку слізкія касцяныя гузікі і выкруціў з тугіх петляў.

Гарачыня і слабасць падступалі пад грудзі, і ад жалю заслязіліся вочы, што ён доўга ўжо, мусіць, не пажыве.

# XVI

Пасля першага прымаразку, што зашарэў на сухіх саламяных стрэхах і пасля якога ў гародчыках счахлі і, пачарнеўшы, апалі вяргіні, пасля пералётнай навальніцы, калі [redacted] каламутнага неба завірыў снег і нечакана адазваўся забыты ўжо [redacted] лета пярун, устрывожыўшы халодным перапалохам душу, што не на дабро гэта,— непрыкметна вярнуліся дні ціхага надвор'я, тужлівых, замярэжаных сінечай адкрытых даляў, чыстай святой яснасці ад жоўта-агністых дзікіх грушаў на калматых быльнікавых межах сярод зялёнага ўрунелага жыта.

У марным замшэлым хвойніку, якім абрасла нішчымная пясчаная града крутых пагоркаў, акрыялі і пачалі тачыцца з зямлі пахуча-крохкія зеляніцы, і дзеці, махаючы лёгкімі каранёвымі кошыкамі, бегалі збіраць іх.

Вярнулася пара бабінага лета.

Плыло і бэрсалася за пачарнелыя чачоткі крываўніку і спалавелай мятліцы, адліваючы сінявата-залацістым калючым праменьчыкам, белае павучынне.

Свет быў велічны і адначасна зморана-сцішны і замерлы. Яго будзіў, дадаючы смутку, высокі крык панурага і адзінокага крумкача.

Пераціраючы шапаткі пясок, па жоўтай дарозе плыла з поля ў вёску адзінокая фурманка. Звесіўшы босыя ногі, на возе, на пакладзенай драніцы, сядзеў малады мужчына — хаваў пад доўгім брылём ад нізкага асенняга сонца свае вочы.

Не чуючы лейцаў і пугі, марудна ішоў каштанавы з сівай храпай і сівым доўгім хвастом унураны конь.

Па-летняму над падагрэтым сыпкім пяском дарогі дрыжала і пералівалася вадзяністае мроіва. Няспешна, ужо без гарачкі і задухі, верасаўцы ўпраўляліся з астатняю асеннюю работаю — вывозілі на поле гной, абсыпалі ажно па самыя вокны свежаю пахучаю кастрыцаю дзіравыя, каб вецер не выстудзіў, хаты, перакрывалі ды латалі сатлелыя стрэхі ды важдаліся каля старых платоў...

Алеся сама, прыкалыхнуўшы ў хаце дзіця, ляскала малатком, папраўляючы раз'еханыя веснікі.

Убачыўшы няўдалую бабскую работу, дзе патрэбна была спрытная і цвёрдая мужчынская рука, спыніўся з фурманкаю і саскочыў з воза худы, не акрыялы пасля палону і яшчэ больш брыдкі ад свае худзізны, гарбаносы Бронік Літавар.

— Чаго мардуешся сама, а дзе ж гаспадар?

— Дзе? — Алеся прыстукнула яшчэ па цвіку цяжкім малатком і зіркнула на Літавара, не паверыўшы, што не чуў ужо і не ведае, дзе Імполь.— У больніцы ён.

— І што ж прылучылася?

— А што цяперашнім светам прылучыцца? Падсунуўся недзе, паліцыянтаў ловячы,— злуючыся, што Літавар абсэсам лезе з роспытамі, няпэўна адказала Алеся.

— Гэта праўда, цяпер людзі аж звяр'эюць, руж'я пабраўшы.

— Нібы ты не трымаў? — адсекла Алеся, падазраючы, што Літавар упікае яе за Імполя.

— Чаму ж не,— Літавар падняў свой па-крумкачы гарбаты і драпежны нос.— І яшчэ клічуць у вайсковы камісарыят.

— Чаго ж гэта?

— У войска хочуць узяць.
— Ці ж ты не набыўся там?
— У савецкім не служыў. На курсы бяруць, каб потым навабранцаў вучыў.
— І бацьку пакінеш аднаго?
— Сястра падыдзе калі.
— Сястрыца на волі, не ўздумае ніколі. Жаніўся б, а то і звякуеш адзін.— Алеся знарок апярэдзіла Літавара, ведаючы, што ён спыніўся, каб распытаць у яе пра Хрысцю.
— Сама ведаеш, быў сватаўся да адной.
— Ці свет клінам сышоўся...
Літавар азірнуўся на каня, турзануў за не выпушчаныя з рук лейцы:
— Яна, кажуць, лістам сцеле, маскуецца ўсё да твайго.
Ад гарачыні, ад нечаканасці ў Алесі ў скронях застукала кроў, перад вачыма чорным дымам засланіўся свет: успомнілася бальніца, Імполь і ўчарашняя нечаканая, страшная чутка, што ў бальніцы робіць яна, Хрысця.
Хаваючыся за плот, каб не было відаць, што дрыжаць рукі, прызналася:
— Гэта мой не помнячыся ляцеў за ёю. А яна пра цябе закідвае...
— Няўжо перамянілася? — не верачы ні сабе, ні таму, што скажа Алеся, спытаў ён.
— Дзіва што,— яна выпрасталася і адказала ўжо з цвёрдасцю.— Раз думаеш пра яе ды любіш, то трэба браць.
— На чужую балячку кожны доктар,— Літавар адступіўся за шары, рана згалелы на халодную ды раннюю зіму вішаннік.
— Не дурыся... Ды чаго варт ужо кавалер, што дзеўчыну не ўлагодзіць,— Алеся чула, што гаворыць ды радзіць не тое, але ў душы жыло, гарэла даўняе не раз перадуманае жаданне выбавіцца ад Хрысці.— Тут хітрыкаю, лёшчаткамі трэба...
— Каб гэта чалавек ведаў, дзе ўпадзеш, то сеў бы. Але паслухаю цябе,— у яго малых, вузка пасаджаных абапал доўгага носа сіняватых вачах затлелася чужая для Алесі дабрата.
Шаркаючы па сухім, насыпаным каля плота лісці, ён падышоў да воза, сеў бокам на драніцу і чмыхнуў у свой доўгі нос, пасмехваючыся зноў з Алесінай работы:

— Шула згніло. Што тут ужо мастаколіць. Імполь вернецца ды направіць.

— Чакай Пятра — сыр з'ясі. Во як напраўлю, так і напраўлена будзе,— яна падступілася бліжай да плота і, аблёгшы на яго, зіркнула то ў адзін, то ў другі канец вуліцы: ці не відаць каго, і зашаптала глухавата-здушным, сухім голасам: — Кажуць, яна напытвала, ці не вярнуўся ты.

Змахлявала і закрылася рукою, збэрсваючы з броў начэпленую ліпкую павучыну.

— Ці верыць ужо? Стольні пісьмаў напісаў... Не адказала. За стольні часу не знайшла калі,— Літавар турзануўся на возе — конь, якому абрыдла стаяць на пустой пясчанай вуліцы, пацягнуўся да палеглай каля плота, ужо няўежнай травы.— Выдумляюць, пэўна.

— Кажу табе — распытвала,— Алеся павярнулася і прыслухалася, настаўляючы вуха ў бок хаты, дзе, чуваць было, плакала дзіця, і борзда заспяшалася да ганка, сказала адтуль: — Я да Сулі зайду. Яна падкажа. Хрысця там...

Літавар прытрымаў лейцамі каня і ўжо ў нейкай пэўнай згодзе махнуў зеленкаватай рагатаю канфедэраткай:

— Зайдзі. І калі на добрае павернецца — скажаш.

— Дзіва што,— Алеся плячмі папхнула не прычыненыя на клямку дзверы.

У калысцы, відаць, падпарыўшыся, заходзілася ад плачу мокрае дзіця. Алеся падняла яго, палажыла на ложак, не ўтрывалася, зіркнула ў акно: за высокім асцём частаколін махаў галавою ленаваты конь, плыла зеленкаватая рагатыўка, хаваючыся памаленьку ў глыбокім, вымытым паводкаю раўку, за якім на крутаватым касагоры шарэлі Літаваравы будынкі — высокае, стаўбунаватае гумно і нізкая з тыльным аконцам хата. Над ёю ў рэдкім пазалочаным лісці гнуліся беластволыя маладыя бярэзіны і жаўцеў усяго адною шырокаю галінаю і падмахваў ёю асыпаны вілаваты клён.

Нечаканая злая радасць забіла Алесі дых, што яна разлучыць, развядзе Імполя з Хрысцяй. Яна падгаворыць, падмане Сулю...

На двары вецер прыгрукнуў веснікамі, абудзіўшы ў намяці зноў той дзень, той горкі міг, калі яна заступала Імполю дарогу і ён, ашалелы ад ганьбы перад староннімі людзьмі, турзануў гэтыя трухлявыя веснікі і, ломячы і перакошваючы іх, выскачыў на вуліцу, каб бегчы ў Двар-

чаны, і нядужае, кволае спадзяванне, што дажджэцца, прычакае яго адтуль дадому, апала, згарнулася ў душы, як зялёны ліст на пякучым агні.

Мігатлівыя гарачыя слёзы набягалі на вочы: няўжо во так, у глухой адзіноце, у гэтай Мондравай ненавіснай хаце, як у цёмнай турме, і звякуе адна? Ды чаму адна? Падрасце ён, хлопчык, яе Стасік.

Яна перапавіла дзіця, пакарміла грудзьмі і асцярожна, трымаючы за галоўку, падняла яго, прытуліла да сябе і, чуючы жывое яго цяпло, зноў падышла да акна: хлопчык, згледзеўшы трапяткі, апалены да чырвані лісток, што адзінока свіціўся за шыбаю на блізкай вішні, стаў ірвацца туды, у невядомы для яго свет, тузаў спавітыя ручкі, варушыў яшчэ нямоглымі, неакрэплымі і кароткімі ножкамі.

І Алесін бяспамятны страх нечакана заліла халодная ўпартасць і адвага, што трэба ісці ў Дварчаны і пагаварыць ужо з Хрысцяй, каб не зманвала Імполя, бо жыць ці будзе, а так пазабаўляецца сабе на ўцеху ды на ганьбу ёй, Алесі.

Да гэтай страшнай, што дадасць толькі жальбы, можа, неабняславіць, гутаркі Алеся рыхтавалася астатнія дні, перабіраючы ў памяці ўсё: і сваё жыццё, і сваю пакуту, і свой нязносна вялікі, неадкупны грэх за смерць свекрыві і залувіцы.

Падабрала і не раз пераказала сама сабе нат тыя словы, што скажа Хрысці і чым адкажа на яе злосць, сварбу і знявагу.

Але што ўжо не будзе, што не ўчыніць — яна не адступіць, не аддасць Імполя. Грэх — адзін, большага не будзе. А можа, збегаць да цёткі Сцяпані, паслухаць яе раду.

Алеся падышла да жэрдачкі, што вісела на двух прывязаных да бэлькі драцінах,— там сохла сіняе ў белыя кветкі дзіцячае коўдрачка,— сцягнула яго, укруціла дзіця і, апрануўшы самы цяплейшы ватні каптанік, выйшла на ганак, нечакана і радасна аблашчаны невысокім асеннім сонцам.

Стаяла, жмурачы вочы і чуючы гаркаваты пах прэлага лісця і назбіраных яшчэ да прымаразкаў пераспелых антонаў — два поўныя кошыкі іх бялелі ў кутку сяней.

Пагодная, з горкім пахам апалага лісця і сакаўных яблык, пара восені, блізкі да вечара і пацішэлы дзень хмяліў галаў.

Хітрая сучачка, счуўшы, што гаспадыня выбралася з дому, першаю шмыгнула ў весніцы.

— Ну, бяжы. І куды ты пойдзеш? — Алеся спынілася, усміхаючыся і гледзячы на быструю сучачку, што звярнула на жвірыстую ружаватую сцежку, пераплеценую спарышнікам, да бацькавага гумна.

— Ага, не ўгадала, а я да цёткі Сцяпані,— Алеся наўпрасты, каля замшэлага плота, пайшла вуліцаю. Пад нагамі туга паскрыпваў сыраваты пясок.

У траве ўздыхала нагнанае ветрам курынае пер'е. Чорна-бліскучыя і жоўта-чырванаватыя, падлінялыя куры з кудахтаннем уцякалі, хаваліся ў двары ад лапавухае сучачкі, што, дагнаўшы Алесю, бегла наперадзе яе, скоранька перабіраючы каротка-крывенькімі лапамі.

Толькі вялікі рабы з сярэбрана-жоўтай шыяй певень, кудахнуўшы з пярэпалаху, раптам угнуў галаў, натапырыўся і з моцным лопатам крылля падскочыў да сучачкі.

Спуджаная нечаканасцю, яна піскліва дзяўгнула і вільнула ўбок, зводдаль пагрозліва ўжо загыркала.

— Вой, што гэта за пятух? — Алеся, адварочваючы і тулячы за сябе дзіця, таксама адышлася ад Шайбаковага двара.

Але певень не пабег за ёю, ганарыста стаяў і, схіліўшы набок галаў, глядзеў адным вокам, на якім моргала сінявататая плевачка.

— Я ж і чую — людзей ужо б'е, каб ён выдах,— з-за вугла хаты, несучы перад сабою бярэмя дроў, выйшла старая Шайбачыха, сыпнула ружовыя алехавыя палены каля падрубы, знайшла там гнуткае ялаўцовае пужальне і подбегам пусцілася на вуліцу.— І чаго б'ешся, бадай ты ўдушыўся! — Яна махнула пужальнем і, завярнуўшы пеўня ў надворак, яшчэ пагразілася, калі ён з вострым крыкам, палохаючы курэй, схаваўся ў гародчыку за акораным частаколам.— Я ж табе шлёгну па гарбе. Разбэсціўся наўнэт, ліха тваёй галаве.

І, падышоўшы да Алесі, зажмурылася проці нізкага сонца:

— Гэта ж стары мой дапетрыў — навучыў петуха біцца. Цяперака рады няма. Абы-хто да парога, дак ён — на плечы. Ледзьве надоечы Ваўчкову Вольгу не задзёўб.

— Ён, можа, і не шкодзіць... Менш па чужых хатах лётаць будзе,— засмяялася Алеся.

— Не, чортапалоху прасіла. Дзіця пакурыць хоча. Пярэпалахі паганяць.

— А сама ўжо й назбіраць не магла.

— Пэўна ж,— старая падняла свой жаўтлявы зморшчаны твар на Алесю, у выцвілых рудых вачах свяцілася таямнічае здзіўленне.— Пра твайго Імполя расказвала...

— Каб яна ды не перагаварыла, жыва не будзе.

— Кажа, паліцыянт яго хацеў застрэліць... Во як. Мо і няпраўду казала?

— Няўжо ж. Ногу мой зламаў.

— Няхай бог ратуе ды адносіць. Балазе жывы...

— Жывы, цётка.

— А то дзіцятка асіраціў бы.

— Кажуць, як бацька памрэ, то дзіця — паўсіраціны, а як маці — то цэлая сіраціна.

— Ай, не кажы так. Ёсцека на гэта боска воля,— звялы, зрысованы глыбокімі шнарамі твар у старое Шайбачыхі скрывіўся ў брыдкай міне, і ■ прыплюшчаных чырванаватых вачэй высачыліся слёзы.— Як мая Кася там, у Латвіі? Во, ні слуху ні духу.

— Ай, замуж выйдзе, гэтакая відная дзяўчына,— вясёла ўсміхнулася Алеся і ўчула за свой непатрэбны ды мо здзеклівы смех брыдкасць.

— Што ты, мае дзеткі, насміхаешся. Хто пагоніцца на парабчанку,— закашлялася і махнула доўгім пужальнем Шайбачыха.— Чужая-чужаніца яна тамака.

— Німа ліха без дабра, можа, на лепшае павернецца,— Алеся прыціснула цёплы камячок дзіцяці, што, прыгрэўшыся на ласкавым цяпле невысокага сонца, пачынала драмаць.

— Хацела пісьмо напісаць, ды не ведаю, як дайсці ў тыя Дварчаны да Змітрыка вашага.

— Хіба ж тудака не знойдзецца хто? А Вайтовічава дзяўчына? — памаленьку адыходзячыся, азірнулася Алеся.

— Не,— пакруціла галавою Шайбачыха,— да іх не пайду. Няправедны ён чалавек быў. Ці не помніш, як шапкі ў гміну насіў, калі сервітут у нашай вёскі адбіралі.

— Не, не помню, цётка.

— Думаеш, дарма яго арыштавалі? Людзей удаваў ён, людзей. Столькі злабы нарабіў. І грошы ў мяне ўзяў, каб ён іх на знахарэ паддаваў.

Алеся, каб не слухаць ужо гэтай сварбы ды праклёну, прыспешыла крок. Прабегла скоранька не вельмі доўгую верасаўскую вуліцу і за гумнамі выйшла да абкладзенай кастрыцаю з белым антынкованым шчытом хаты.

А ў вушах яшчэ ўсё стаялі Шайбачысіны словы: у іх была помслівая злосць, нейкая страшная нянавісць. І Алесі падумалася, што людзі пачужэлі адзін да аднаго і радыя, мусіць, чужой бядзе, няшчасцю і вялікаму чужому гору; што чалавек чалавеку не зычыць дабра.

Тупаваты грукат ачуціў яе ад гарачых трывожна-неадчэпных думак.

У гародчыку каля тонкіх маладых, пэўна, днямі ўкопаных прышчэпаў убіваў акораныя ружаватыя алехавыя калкі сам гаспадар — высокі, з сівымі пушыстымі вусамі дзядзька Сымон.

Счуўшы сучачку, ад буды да брамы рвануўся вялікі калматы сабака.

— Во, бачыш, як ляціць да дзеўкі,— засмяяўся, ідучы бліжай да брамы і ловячы за ланцуг сабаку, дзядзька Сымон.

Алеся адчыніла брамку і прыстукнула ёю — не пусціла сюды хітра-ленаватую, нібы абыякавую да ўсяго сучачку.

— Ці ж удома цётка Сцяпаня? — Алеся абышла калодзесь ружовых алехавых дроў, што запахлі даўнім і знаёмым пахам сухаватай, што зводзіць у роце, гаркаты.

— Ды ляжыць во.

— Што вы кажаце, дзядзька,— трымаючы дзіця, Алеся асцярожна ступіла на пляскаты камень.

Блудзячы ў сенях, заваленых галоўкамі капусты, нарэшце знайшла клямку і ўсунулася ў хату, задыхнуўшыся ад спёртага цяжкага духу.

— Вой, які госць? — на ложку падняла чарнява-сівую галаў з парадзелымі, прыліплымі да цемя валасамі цётка Сцяпаня.

— Ды не адзін,— Алеся гушкнула на руках укручанае ў цёплае коўдрачка дзіця.

— Я ж і бачу.

— Прыйшлі адведаць бабу.

— Дзякуй, мая дачушка,— старая, спусціўшы ногі ў шарых суконных панчохах, села на дашчаным, сточаным шашалем ложку.— Ледзьве ўжо дыхаю. Ногі як палкі, не ступіць. А галава калі схопіць, няхай бог адносіць.

— Мо да дохтара ў Дварчаны?

— Дахтарэ мне дабра не дадуць. Адзін знохар і лечыць... Каўтун я запусціла.

— Які каўтун?

— Во ідзі глянь,— старая павярнулася спіною і развя-

зала не тоўстую хвічку валасоў. Распусціўшы іх, выграбла кароткую, завязаную на макаўцы, касу.— Бачыш, каўтун. Мне знахар завязаў.

— Што вы, цётка Сцяпаня, робіце?

— Нябось, трохі палягчала, выцягвае боль з усіх суставаў і члункаў,— старая ссунулася з ложка.— Ды што я пра хваробы... Паказвай сынка.

Алеся павярнула дзіцятка, яно застрыгла вялікімі перапалоханымі вачмі і, мусіць, палохаючыся, пачало плакаць.

— Цьфу, цьфу,— суха сплюнула старая.— Добры хлопчык. Рыхтык ты. На цябе падобны. Хай расце ды гадуецца здаровы.

— Будзе расці, гэты бязбацькавіч, дзе дзенецца,— Алеся распусціла цяжкае коўдра, і хлопчык, учуўшы свабоду, перастаў плакаць.

— Во разумны, слухае, што мы гаворымо,— старая прысела на лаву, куды свяціў з акна невысокі слупок сонца, падставіла, скрыжаваўшы на каленях, пад яго свае зморшчаныя, паўсыханыя ад старасці рукі. Пацяпло глядзела на іх, з жалем паскардзілася.— Начыста я ўжо высахла...— І папрасіла з ледкім ужо, слабенькім спадзяваннем: — Каб я з год пажыла, паглядзела б, што будзе далей на свеце рабіцца...

— Няма дабра, цётка Сцяпаня.

— А дзе ж тое дабро будзе, калі поўны свет брыды нарасло.

— А мне што рабіць, цётка Сцяпаня? Якую ж даць раду?

Усхліпваючы і выціраючы слёзы, Алеся пераказала ўсё, што ведала, што чула пра Імполя і Хрысцяй. Старая сядзела смутная і няўважная, з нейкім дзіўным спакоем пазіраючы на Алесю, і ў яе выцвілых зеленаватых вачах таілася, пэўна, свая глыбокая думка пра блізкую смерць.

І калі Алеся скончыла, цяжка ўздыхнуўшы і падцінаючы мякка-пухлыя губы, што дрыжалі ад болю і пакуты, якая падступіла пад грудзі, старая раптам страпянулася, махнула ў сябе перад вачыма рукою, нібыта адганяючы які сон, сказала, як не чуючы Алесю, як пра другое:

— Далася ты паўпэт, зблажэла саўсім.

Алеся ўздыхнула, адвярнулася, каб схаваць пякучыя слёзы.

— Мая ты дачушка, а хто ж за цябе заступіцца, калі не сама за сябе.

— Як жа ж, цётка Сцяпаня, заступіцца? — Алеся лёгенька падкалыхнула на руках спавітае дзіця.

— Ісці забіраць яго дадому.

— Брыдка ж ужо.

Старая Сцяпаня нібы збянтэжылася, змоўкла, падумала і перапытала:

— Брыдка, кажаш?

— Перад людзьмі дый перад сабою ўжо.

— А перад ім, перад дзіцем, не брыдка, што без бацькі расціме?

— Выгадуецца.

— Не, дачушка мая, пойдзеш. І забярэш, і жыцьмеш! — і худая, халодная, змярцвелая рука злавіла Алесіну руку, сціснула ў нейкім балючым адчаі, і Алесіна душа зледзянела, нелітасцівы боль кальнуў у сэрца, што цётка Сцяпаня нібы развітваецца з ёю, што яна папраўдзе доўга не пажыве.

— Ты маладая, жыць табе трэба. Паслухай ужо мяне.

— Паслухаю.

— Не давай, каб зарастала мая магілка.

— Што вы, цётка Сцяпаня.

— Дай пацалую цябе,— і худыя, нямоглыя рукі абнялі Алесю з дзіцем.

## XVII

Чэся доўга не магла ачуняць ад раптоўнай бацькавай смерці. Зыркі, ясны свет маладой радасці, смеху, дзявочых залётаў нечакана змерк, як меркне ён ад шыза-папяловай градавай хмары, што цяжкай сцяною закрыла сонца, моцна дыхнула прэсным і халодным ветрам.

Яна яшчэ не паспела перажыць гідкі, ліслівы падман доктара Ежы, адпакутаваць знявечанае каханне, як нагла прыйшла гэтая смерць, прыглушыўшы і зацьміўшы ўсё.

І Чэся не так пасталела, як панікла і зніякавела душою, ачарсцвела сэрцам, зрабіўшыся раптам несправядліва помслівою да ўсіх. Гэта яна чула і ведала сама, але перамагчы нядобрае і злое ў сабе не мела ўжо сіл.

Нібы жывы, мігатліва-агністы вугольчык у ачахлым попеле, глыбока ў душы тлела прыхаваная, сцішная любасць ды адчужанае каханне да Міці Корсака. Чэся асцерагалася

і душыла ў сваім чуткім сэрцы ледкія пачуцці да гэтага сарамяжліва-нясмелага хлопца, каб зноў горка і адчайна не абкалоцца аб востры асот глухое абыякавасці, не натрапіць сваёй шчырасцю на чужое махлярства ды падман.

Вайна. Нечаканыя пярэбары, пераезд з грукатлівых, аглушаных працяжнымі і смутнымі гудкамі паравозаў і прапахлых саладжава-чадным вугальным дымам нязносных Баранавіч, на якія ўжо ўпалі першыя бомбы, у зацішныя Дварчаны, дзе Чэсіна мама ды сама Чэся думалі акрыяць ад бацькавай смерці ды перачакаць трывожна-неспакойны час, негадана перавярнулі жыццё, прыносячы новую бяду.

У той страшны дзень, калі засеклі Француся, калі не вытрываў гэтага стары Гравянка, Чэся з мамаю і Анцяй былі якраз тут у Дварчанах. Як чуючы бяду, яны не пайшлі ў асаду.

Ды як жа сядзець у такі помслівы час на адзінокім глухім хутары, дзе няма поруч ніводнай жывой душы, дзе ніхто не пачуе ні твайго енку, ні плачу, дзе можна ўкрадкам убіцца ў дом, схапіць і павесці цябе ў сырую ноч, у невядомасць, як павялі пана Чэрніка. Гэта здарылася яшчэ, здаецца, першага верасня. Сярод ночы ў акно да пана Чэрніка пастукаў яго фурман, закрычаўшы знадворку, што нехта са стайні пакраў коней, і, калі пан Чэрнік на гэты крык адамкнуў дзверы, у сенцы ўскочылі невядомыя людзі...

Пану Чэрніку, як расказвала, прыбегшы яшчэ зацемна да Грабянкаў, сплаканая з гора жонка, далі толькі лёгенька адзецца і вывелі з дому ў ветраную ноч, у чорны садок, дзе свяціліся буйныя яблыкі, але не застрэлілі, павялі далей. З гэтае нямое восеньскае ночы, ад гэтых невядомых людзей пан Чэрнік так і не вярнуўся. Пані Чэрнічыха паказвала мужаву фотакартку, прасіла глянуць на яе і рвала на сабе валасы.

Пасля гэтай нечаканай балючай весці, ад якое заходзілася і мярцвела сэрца, хіба можна было патыкацца на глухую асаду, якую акружылі і сцераглі толькі старавечныя прысады — гузаватыя ясені з дуплявымі клёнамі і ліпамі.

Яны, тры кабеты, і цяпер чуюць сваю віну, што пусцілі туды Франака.

А як яго было не пусціць, калі ён, п'янавата-непаслушны, здзекліва пасмехваўся з іх:

— Хіба я каго застрэліў?

— А пан Чэрнік, што...— асцярожна і перапалохана спытала тады Чэся.

— Што? — ён кісла ўсміхнуўся.— Застрэліў грузчыка, што спазніўся на пагрузку лесу.

— Маўчы, дурань! — прыкрыкнула на яго Анця.— Зноў напіўся...

— А табе што, абыходзіць?

— Едзь! Цяперашнім светам разбірацца не будуць...

— Страш,— ён крутнуўся і схаваўся ў кухні, зноў загрукаўшы накрыўкаю пограба і спускаючыся, пэўна, па настойку, якую смактаў і ўдзень і ўночы. І ад гэтага ўжо не было ніякага ратунку.

— Хай ідзе, хай не разрывае маё сэрца,— сястра тады ў горкім плачу схавалася з дзіцем у сваім пакоі.

Не стрываўшы гаркаты, крыўды, уцякла і мама.

А Франак, бліскаючы вільготна-асалавелымі вачмі, высунуўся з кухні яшчэ больш ап'янелы і ўжо на ганку, убачыўшы, што засталася Чэся адна, дыхнуў перагарам і нечакана абняў яе за плечы; рукі яго па слізкай кофце папаўзлі да грудзей і брыдка і балюча сціснулі:

— Едзь, Чэся, са мною. Будзем жыць. Я выганю яе.

Яна, шалеючы ад агіды і сораму, крута рванулася і штосілы пхнула ад сябе Франака.

— Ну, як сабе хочаш. Кожны туды ўпадзе, куды пахіліцца,— ён аблізаў на губах кіслую, п'яную ўхмылку.

Аб гэтым гідкім здарэнні Чэся ўжо не сказала ні сястры, ні маме. Ды нашто было. У той дзень, п'яны, здурэлы саўсім, ён паехаў — як толькі сеў? — на веласіпедзе ў асаду, каб болей адтуль не вярнуцца.

Усё тое несусветна-дзікае, што ўчынілася там, цяжкай глыбай абвалілася на ўсіх: і на Анцю, і на маці, і на Чэсю, але наймацней вялікае нечуванае гора прыбіла старую Грабянчыху.

Перанесці засаб смерць сына і мужа яна ўжо не здужала — пачала адыходзіць ад памяці, рабіцца як сама не свая, уцякаць з дому, а потым нібы ачуняла.

Памерла яна лёгка і нечакана, збавіўшы ўсіх ад страхатлівай пакуты, цяжкіх мук, што трэба яшчэ няньчыцца з ёю.

Усё мянялася так неспадзявана-страшна, што разабрацца ва ўсім Чэся ўжо не ведала як. Але тое атрутнае і горкае жыццё, што пухкай бросняй цвіло ў Грабянкаў, гэты горкі плач і вечная сварба Анці са злым і да паскуд-

ства атупелым і нязносным ад свайго п'янства Франакам, гэтае сарамяжае адчуванне, што яны [redacted] мамай лішнія тут, сплыло, як цёмная хмара, з Чэсінай душы.

Свет нібы праясніўся, але наперадзе зноў неадольнаю крутою гарою падымалася няпэўнасць, паўзлі чуткі, што холадам аблівалі сэрца...

Гэтыя чуткі прыносіў доктар Длубак, прыходзячы праведаць Чэсіну маму і прыносячы з сабою яшчэ польскія, недзе назапашаныя лякарствы.Мама яшчэ ўсё не магла без соннага спаць і страшна мучылася, асабліва пад ранідцу, ад галоднага болю — у яе ці не адкрылася язва страўніка.

І калі ўжо за гэтую добрую ласку яго запрашалі на кухню выпіць шклянку гарбаты, ён далікатна дзякаваў, аднекваўся, трасучы чарнява-кучараваю галавою, але сёння нарэшце згадзіўся, пытаючы, дзе тут умывальнік.

— Чэся, будзь ласкава, завядзі пана Вальдэмара,— крыкнула Анця, знарок падаўшы чысты ломка-накрухмалены ручнік і знарок выпраўляючы ў глухія сенцы малодшую незамужнюю сястру.

Вальдэмар Длубак — нежанаты трыццацігадовы рэнтгенолаг, што з'явіўся тут у Дварчанах аднекуль з Вільні, што адыходзіла, кажуць, пад Літву,— не даваў і без гэтага праходу Чэсі. А маці з Анцяй пачалі нават патураць яму і кожны раз сцішком наравілі пакінуць яго сам-насам [redacted] Чэсяй.

Павесіўшы на абслізганы бліскуча-медны кручок, прыбіты над зялёным эмаліраваным рукамыйнікам, чысты, што пах свежым ветрам, ручнічок, Чэся завярнула [redacted] сяней, але яе ўжо сваім хітра-ліслівым запытаннем перапыніў Длубак:

— Пані Чэся бачыла хоць адзін савецкі фільм?

— Чаму ж не,— яна зірнула на белаватую плешынку, што яснела на макаўцы ў пана Вальдэмара — ён прыгнуўся каля рукамыйніка,— і дагадвалася, што зараз, напэўна, будзе запрашаць у кіно.

— А які? — у мокрыя далоні чорна-валасатых рук пан Вальдэмар набраў вады.

— «Весолэ рэбяты».

— Знаю-знаю, «Веселые ребята»,— паправіў ён яе.— Я глядзеў яго яшчэ па-польску. Ён называўся «Смех на цалы сьвят».

— Хіба ён ішоў за польскім часам? — не паверыла Чэся.

— Так-так, праўда,— з брылька рукамыйніка ён зняў ружовы брусок мыла.— А сёння ў агніску каляёвым паказваюць фільм пра трактарыстаў.

— Хіба цікава?

— Бягуць усе... Можа, пані Чэся мае ахвоту. У мяне аж два білеты.— Ён заступіў ёй дарогу, раздзімаючы вялікія чорныя ноздры.

— У мяне сёння начное дзяжурства ў шпіталі.

— Ты ж ведаеш, я скажу, і цябе падменяць... Пойдзем, Чэся.

Яе маўчанне было нібы згодай.

...Усё было па-даўнейшаму: і клуб у тым самым шырокім і доўгім, як стадола, атынкованым белым будынку з чорным насмоленым дахам, дзе было агніста каляёва, і вечары, і танцы пад тую самую аркестру пажарнай стражы, якую цяпер падмяняў хіба са сваім французскім баянам, перабіраючы на перламутравых гузічках «кацюшу», здатны гарманіст Ігнат Тулейка, і кіно, толькі цяпер найбольш дармавое.

У клуб хлынулі ўсе, нават з далёкіх вёсак, асабліва ўсюды даходлівыя хлопцы і дзяўчаты. Невысокі з нізкаватай столлю будынак, у якім ужо насцеж раскрывалі ўсе вокны і дзверы, пацеў і задушліва млеў, трашчаў і распіраўся ад бясконцага віру людзей, што напорыстаю, неўтаймаванаю паводкаю пацяклі сюды.

...Пераступіўшы парог, Чэся задыхнулася ад спёртага, саладжава-прытарнага духу, што астаўся і не выветрыўся добра ад папярэдняга сеанса. Пан Длубак запыніўся каля мардаценькае нізенькае кантралёршы ў чорным чыгуначным шынялі, што, стоячы ў адчыненых на адну фортку дзвярах, правярала тоненькія, як з папяроснай паперы, білеты.

Клуб, набіты бітком, гуў рахмана-прыглушанымі неразборлівымі галасамі, рыпеў настаўленымі ў радкі, складнымі, збітымі з лясак крэсламі. Той-сёй, шукаючы вольнае месца, ціснуўся бокам між гэтых цесных радоў, тручыся аб чужыя вострыя калені і наступаючы на ногі. Бліжай да сцэны з рассунутым чырвонааксамітным занавесам і белым квадратам палатна на тыльнай сцяне рагатала і дзеразавалася дварчанская басата.

Чэся стаяла, чуючы на сабе нейчы пільны позірк, што змушаў і спакушаў азірнуцца, але не паварочвалася, глядзела туды, дзе дурэлі, папіхаючы адзін аднаго, дварчанскія падшыванцы.

Асцярожная, аднак і па-гаспадарску моцная, настойліва-ўладная рука падштурхнула Чэсю:

— Пойдзем туды, на сярэдзіну... Там пан Ліцьвінскі беражэ нам месца.

Спатыкаючыся на няроўнай, стоптанай да гузаватых сукоў падлозе, Чэся незнарок павярнула галаў туды, адкуль чула на сабе гэты неадчэпны, што магнэзам цягнуў азірнуцца, насцярожаны позірк, і ўбачыла Міцеў твар. Міця, знарок закрываючыся рукамі, стаў падгладжваць над вушамі густыя, упарта-кучаравыя валасы.

Чэся збянтэжана і паспешна села, млеючы ад гарачага сораму, што згадзілася пайсці з панам Длубакам сюды ў гэты задушлівы клуб.

З-за спіны з недалёкага аконца застракатаў кінаапарат, і над людскімі галовамі закалыхаўся сінявата-белы з роем залацістага пылу слупок святла, стараючыся пацэліць у палатно.

Патухлі электрычныя лямпачкі. Скупа свяцілася адна — у дзвярах над кантралёршай. І нехта, павярнуўшы галаў у даўгадзюбай кепцы, груба крыкнуў:

— Згась святло! Згась, слышыш!

Пабеглі кадры. Спярша — белыя, з чорнымі штрыхамі ўжо старой сцёртай плёнкі і раптам спыніліся на цітрах дакументальнага фільма. Зашуршэла, залускала плёнка, і зноў на палатне засвяціўся сляпучай яснасцю белы квадрат.

— Гэй, партач! — крыкнуў зноў той самы тоўсты голас.— Што робіш?

— Заткні горла! Бачыш, у кіншчыка нястача газу.

— Ідзі ты, ведаеш?..

— Ну, куды я пайду?! — з грозьбаю спыталі з далёкага кутка.

— До дупы спеваць.

Пан Длубак лёгенька падшыўся сваёю рукою Чэсі пад паху, хмыкнуў каля вуха:

— І праўда, лепш было сядзець дома, чым слухаць гэты хамскі гвіз і крык.

— Можа, пойдзем,— злавіла яго на слове Чэся.

— Не, пачакаем, пэўна ж, направяць,— і яго пальцы гідка-пяшчотна знайшлі Чэсіну руку і [redacted] бессаромнай далікатнасцю сціснулі.

І Чэсі ўспомнілася леташняя выцечка[1] на Палессе, тая за старымі разложыстымі і магутна-каржакаватымі дубамі адзінокая асада, рэчка ў чорных сухаверхіх алешынах, росны вечар [redacted] лётам ціхага кажана і рука, што працягнулася ў адкрытае акно... І доктар Ежы. І Чэся ўчула, як ад даўняй, ужо трохі забытай і загоенай раны турзанулася сэрца.

Яна ўпарта і цвёрда ссунула [redacted] свае скамянелае рукі гарачую руку пана Длубака.

Ён, адчуваючы яе адчужанасць і маўклівую злосць, насцярожана пачаў касіць бялком вока, хілячыся ўжо да лабатага з цяжкім носам і падцятаю споднюю губою пана Ліцьвінскага, даўнейшага дварчанскага дантыста, што цяпер таксама рабіў у новым савецкім шпіталі, і Чэся незнарок учула здушаны шэпт:

— Чуў?..

Засоп у свой цяжкі нос пан Ліцьвінскі.

— Калі? — палахліва-стоена спытаў Длубак.

— Сёння раніцай.

— Гэй, ты,— азваліся недзе ззаду,— доўбню сваю пахілі. Нічога не відаць.

Крычалі на пана Длубака, пачынаўся фільм, але Чэся бачыла не тое, што замільгала, заварушылася і пабегла на белым палатне экрана, [redacted] ўсё яго, Міцю. Магнэзам цягнула азірнуцца, і яна не стрывала, паглядзела назад, але нейчая высока задзёртая галава [redacted] мярцвяным, як у нябожчыка, тварам закрыла ўсё. Да гэтага твару прыхіліўся другі, кабечы, абсыпаны кудзеркамі валасоў. На ім, адбіваючы святло экрана, свяціліся спалохана-нерухомыя вялікія вочы. Яны, мусіць, вытрашчыліся ад таго дзіўнага, нязвыклага, што рабілася на экране.

— Вот жа ж, ты скажы, не ўседзяць,— нараспеў, танклява-старэчым голасам пажаліліся ўжо на Чэсю, і яна прыціхла, пазіраючы таксама на шпаркі трактар з вялікімі шыпаватымі коламі, што бег па ржышчы: за ім на жалезным плужку тры касаватыя лемяхі пераварочвалі бліскуча-тлустыя скібы зямлі.

На шырокім, падстаўленым, як далонь, сядзенні, пад-

---

[1] Выцечка — экскурсія, паездка (*польск.*).

кручваючы абедзвюма рукамі руль, сядзела і ўсміхалася шыракатварая дзяўчына: густыя, высока падрэзаныя валасы перахапіла лёгкая, завязаная ражкамі на патыліцы, хустка.

— Ірэна, глянь, дзеўка трактарам кіруе! — здзівіўся ўголас мужчына, што сядзеў за спіною ў Чэсі.

— Бачу, чаго ты крычыш,— сцішным, здушаным шэптам супакойвала яго жонка.

— Не, ты глянь, што робіцца ў Расіі!.. А ехаць не хочаш.

— Вот перастань.

— На трактары рабіцьмеш.

— Ну, сціхні, людзі чуюць.

— Хай чуюць! Бачыш, ажні тры плугі цягне.

Яго перабіў густы басавіты голас:

— Добры конь гэтыя тры плужке таксама пацягнуў бы.

— Гэ, пакажы ты мне такога каня.

— Ліхаты на вас няма, дайце паслухаць,— павярнуўшыся і зарыпеўшы крэслам, закрычала ўжо кабета, што сядзела каля Чэсі.

— І ты язык уткнула,— стрымліваючы злосць, упікнуў яе муж.— Жыва не будзеш.

— Не! Бо чаго яны дзвэнкаюць.

Пад гэты несціханы крык, перагукванне і рогат ішоў увесь фільм. Пан Длубак, чуючы Чэсіну раздражнёнасць, трохі зводдаль, не прытуляючыся ўжо да яе, бясконца бубніў:

— Хамы, што зробіш. Адны хамы назбіраліся.

На нечакана цёмным і ветраным двары, з халодным скразняком, куды, заторыўшыся ў дзвярах, выплывалі людзі, пан Длубак зноў узяў Чэсю пад руку:

— У гэтай глухамані, я гляджу, некаторыя першы раз прыйшлі ў кіно.

— Як, напрыклад, я,— засмяялася і павесялела Чэся, чуючы, як з натоўпу за ёю цікуюць Міцевы вочы.

Зірк гэтых вачэй разам з шоргатам ног па чуйным, шапаткім лісці яна чула і каля свайго дому, калі пан Длубак памкнуўся яе абняць.

Яны прыпыніліся перад брамкаю каля асыпаных калючых кустоў акацыі. За мігатлівым, разгойданым ветрам галлём, што шоргала па вузкіх штакетах плота, глыбокім белаватым святлом за фіранкамі свяціўся нізкі куток акна: гарэла тая прыгожая, з вялікім матавым абажурам, на-

стольная лямпа. Не спала, мусіць, Анця, як заўсёды перад сном, закалыхаўшы дзіця і ўпурыўшыся ў кніжку.

— Я адзінокі,— ад нервовасці ў Длубака задрыжала вялікая цёплая рука.— Пані Чэся, няўжо вам не шкода мяне?

— Ніколечкі,— Чэся вызвалілася ад гэтай вялікай дрыготкай рукі.

— Няўжо вы не раздзеліце маю адзіноту,— голас у Длубака перасмяг.— Чы ў вас ест тэн ктось інны? [1]

— Ест, але мне юж не коха [2],— Чэсю чамусьці разбіраў смех ад гэтай гутаркі і ад таго, што недзе блізенька за рогам плота, як яна адчувала, стаіўся Міця Корсак.

— Выходзьце за мяне замуж. Мы выедзем у Львоў.

— Чаму ў Львоў? — Чэся схавала ў цёплую муфту свае рукі.

— Там лягчэй, там шмат палякаў...

— А мама, а сястра? — Чэся адступілася ад Длубака, бачачы, як упоцемку блішчаць яго вочы.

— Не ўсё жыццё быць пры маме.

— Але ж у мяне тут,— Чэся адкінула зашчапку ў не прымкнутай яшчэ фортцы,— бардзо ладны хлопак, чарны, высокі і млодшы од вас.

Чэся чакала, што гэта раззлуе і няшчадна абязвечыць пана Длубака, але — не, ён упарта падыходзіў да форткі, за якой ужо стаілася Чэся.

— Я маю ў руках фах, я — рэнтгенолаг, а з такой прафесіяй усюды можна пражыць... Я магу зарабіць грошы. Мы забяром і маму. Падумайце, Чэся.

Яна прыстукнула форткай, закрываючы яе на заскак, моўчкі пайшла да падсвечанага белаватым мяккім святлом акна, чуючы, што там за форткай стаіць ён, хітра-лісліві Длубак, і недзе стыне Міця... А можа, гэта не Міця, а нехта іншы для пацехі падцікоўвае за імі.

— Чэся, ходзь, мушэн ці цось паведзець,[3]— за брамкай зноў адгукнуўся пан Длубак.

— Позна ўжо,— яна нават не азірнулася.

— На цо се спешыць?.. Погадай сама ■ сабон, ■ цо я мувэн [4].

Яна, нібы не чуючы яго і спатыкаючыся на кветніку,

---

[1] Ці ў вас ёсць хто іншы? *(польск.)*
[2] Ёсць, але мяне ўжо не любіць *(польск.)*.
[3] Чэся, падыдзі, хачу табе нешта сказаць *(польск.)*.
[4] Нашто спяшацца? Падумай пра тое, што кажу *(польск.)*.

далезла да сцяны, пастукала ў раму падсвечанага белаватай мяккай яснасцю кутняга акна.

На фіранцы калыхнуўся поцемак, і да шкла прыткнулася падвітая ўжо і туга абкручаная касынкай галава Анці.

Чэся махнула ёй рукою і паднялася на ганак. Прыслухалася да сыраватай і ветранай цемнаты вечара. Аб плот дзяркача шоргалася калючае галлё акацый, а над домам, сыплючы на бляшаны дах шапаткім дажджом кастрыцу, сцішна і густа шумелі, асвяжаючы мяккаю дабратою душу, старыя калматыя хвойкі.

— Міця! — [redacted] трывогай і спадзяваннем загукала ў гэтую цемнату Чэся.

Але ніхто не адазваўся. Толькі недзе праз дзяркаты шоргат акацый пачуўся разарваны ветрам скавытлівы брэх раз'юшанага сабакі, што, мусіць, не прапускаў каля свайго плота чужога чалавека — ці яго, Міцю, ці рэнтгенолага Длубака.

— Вой, вецер, скарэй ідзі ў хату,— выскачыўшы ў адной споднявй кашульцы на ганак і закалаціўшыся ад холаду, крыкнула з поцемку Анця і ўжо ў цёплым калідоры, калі Чэся наткнулася на яе, задыхнулася ад злосці: — Ты зноў з ім, [redacted] гэтым Міцькам? Ага, выходзь за яго. Бэньдзеш цалэ жыце в гувнах гжэбаць [1].

— Вядома ж, за яго.

— Падумай пра нас [redacted] мамай!

— А хіба я не думаю?

— Не! — Анця пстрыкнула выключальнікам, і ад зыркай матавай лямпачкі балюча рэзнула святло.

— Гавары ціха, разбудзіш дзіця,— зажмурылася ад злосці Чэся.

— Ён пристойны чалавек...

— Хто? — знарок перапытала Чэся.

— Пан Длубак! — І Анця, абхапіўшы ружавата-белыя, прыкрытыя карункамі ад блакітнай начной кашулі плечы, раптам схамянулася.— А ты, можа, кохаш тэго?..

— Ну, ну, дагаворвай.

— Помысль [redacted] вас вшысткіх [2]. Ты ўжо апяклася раз...

Чэся ўчула, як у яе здранцвелі ад нечаканасці рукі, на адной з іх усё яшчэ вісела цёплая з маланкавым замочкам

[1] Будзеш усё жыццё ў смецці грэбціся (*польск.*).
[2] Падумай пра нас (*польск.*).

муфта. Яна машынальна сарвала яе з рукі шуганула ў пакой, з грукатам адчыніўшы адну палавіну цяжкіх, з вузкімі балонкамі, зашклёных дзвярэй і разбудзіўшы маці.

— Што там учынілася, што? — калатлівая ад нервовасці рука выцерла жаўтлява-схуднелы заспаны твар. Адну палавіну яго закрывалі доўгімі сівымі пасмамі парадзелыя валасы, што спадалі на чырвона-бліскучую атласную падушку.— Я пытаю, што зрабілася?

— Нічога, мама, спі,— зазірнула сюды ў цяжкую ад духаты і вузенькую спальню Анця.

— Як — не? — глуха, ледзьве вымаўляючы, перапытала Чэся.— Яна хоча, каб болей я сюды не варочалася, каб ішла нанач да пана Длубака.

— О божа,— худая рука зноў адкінула з вачэй рэдзенькую пасму пасівелых валасоў.— Дайце мі умжэць! [1]

— Мама! — крыкнула і ўбегла ў спальню Анця.

— Так, дайце мне спакойна памерці. Дайце!

Чэся маўчала, як абязвечаная: усё было страшнае — і гэты блізкі да смерці матчын крык, і Анцін напамінак пра тое горкае, абпаленае брыдкасцю і сорамам каханне да доктара Ежы.

# XVIII

Абышоўшы далёкія вёскі, Міця вярнуўся ў Дварчаны, добра выгаладаўшыся і зноў падбіўшы свае яшчэ не акрыялыя ногі. Запрасіць за стол здагадаліся толькі ў адной хаце, і то для прыліку, калі яны з доктарам-практыкантам натрапілі якраз на полудзень. Дзябёлая гладкая гаспадыня, наліваючы проста з чыгуна ў глыбокую гліняную міску разваранага крупніку з фасоляй — за сталом сціснулася вялікая сям'я: пяцёра дзяцей і хударлявы лысы гаспадар з фанабэрыстымі вусамі,— кіўнула і на Міцю з доктарам-практыкантам, але тут жа махнула пустым чыгуном:

— Вой дурная, запрашаю, але ці ж будуць людзі есці нашае? Пэўна ж — не, гарадскія.

І Міця з практыкантам, каўтнуўшы слінку, сесці за стол ужо не адважыліся — сорам. А там у лад, як па ма-

---

[1] Дайце мне памерці! *(польск.)*

лацьбе цапамі, замалацілі па місе і засёрбалі з драўляных лыжак падбелены крупнік.

Потым ужо, варочаючыся зацемна пад нудны росны дождж у Дварчаны, абодва рагаталі з сябе і дакаралі за лішнюю далікатнасць.

Доктар-практыкант, тоненькі, як жэрдачка, трапяткі хлопец з нейкім трохі смешным прозвішчам Лапуць, з'явіўся сюды з групаю студэнтаў пятага курса, якіх прыслалі з Мінска, як ён казаў, на «падворны абход», гэта значыцца зайсці ў кожную хату, каб выявіць заразныя хваробы, каросту, вашывасць, а заодно і памагчы тутэйшым лекарам зрабіць прывіўку ад воспы.

У Дварчаны прыехалі трое: гэты тоненькі, як жэрдачка, хлопец і дзве маладзенькія яўрэечкі: адна вогненна-рыжая, прывабная з твару, другая — чарнявая, з густым пушком на губе і паўнявая.

З яўрэечкамі Царык адправіў сакратара воласці, а ■ гэтым лішне гаваркім і надаедлівым хлопцам яго, Міцю.

— Трэба людзям памагчы,— выйшаўшы разам з імі на ганак, загаварыў Царык і важна падняў і пахіліў набок свой гарбаты нос.— Што край, то абычай. Ці ж ведаць ім наш люд ды нашы дарогі. Можа, і во і ровары ўзялі б?

— Што гэта? — перапытаў практыкант.

— Веласіпеды,— засмяяўся Міця.— Вунь у хлеўчыку стаяць. У паліцыі канфіскавалі.

— Але я такі ўдалы,— усміхнуўся і пачырванеў практыкант,— што ездзіць на іх не ўмею.

— Што тут умець... Закінуў нагу ды паехаў,— і Царык загрукаў па дашчаным ганку, спяшаючыся да тэлефона, што званіў у яго кабінеце.

І яны мусілі пайсці пешшу, выбраўшы далёкія вёскі ў бок Слоніма; бліжай ад Дварчан, у тым ліку ў Верасава, падаліся сакратар з яўрэечкамі. Міця не вельмі хацеў пападацца дадому, каб хадзіць па верасаўскіх хатах, набірацца, як кусачых блох, лішне брыдкіх абгавораў ды ўедлівых плётак.

Быў галашчок — ужо дужы мароз, што прыхоплівае і добра куе не заснежаную зямлю,— і хрумсткай, з высушанымі лужынамі сцежкай з краю шашы ішлося лёгка. Балазе ў спіну падганяў тугі сіверны вецер. Яны прыспешвалі ў самую дальшую і самую большую ў воласці вёску — вялікую, на двароў сто, і не выселеную на хутары Ельніцу.

Дарогаю хітра-ліслівы практыкант разгаварыўся, распытваючы ў Міці, як яны тут жылі, і ці праўда, што нават у ваяводскім горадзе Наваградку, у які яны, студэнты-медыкі, маюцца яшчэ паехаць, няма электрычнасці і ніводнай радыёкропкі.

— Нехта ўжо над вамі пашуткаваў,— сумеўся Міця, слухаючы практыканта.— Наваградак — гэта ж не вёска, дзе можна сустрэць лучыну. Электрычнасць там ёсць, ёсць, вядома, і радыё. Пэўна ж, не ў кожнага.

— Гэта я начытаўся розных апавяданняў,— хітра засмяяўся практыкант.— Галеча тут у вас была, што людзі не ў чаравіках, нават не ў лыкавых лапцях, а ў плеценых каробачках хадзілі.

— Галечы, як вы кажаце, і бядоты тут шмат. Але самае горшае, што вучыцца не давалі.

— А колькі ты кончыў класаў? — неўспадзеў перабіў Міцю практыкант.

— Паўшэхную школу.

— Што гэта значыць?

— Сямігодку, па-вашаму.

— Малавата...— пакруціў скураною кепачкаю практыкант.

І калі Міця яму расказаў пра турму, пра тое, што спрабаваў пісаць вершы, практыкант нават збіўся з хады, злавіў Міцю за рукаво і задыхнуўся ад нечаканасці:

— Слухай, а ты Ясеніна чуў?

— Трохі,— прызнаўся Міця, гледзячы на расчырванелы з шызавата-перасохлымі, абветранымі губамі твар практыканта.

— Хочаш, прачытаю? — практыкант паставіў на шарую закурэлую сцежку свой скураны саквояж і ўзмахнуў абедзвюма рукамі, пачаўшы неяк нараспеў:

— Не-е жа-лею, не-е за-ву, не-е пла-чу...

Міця спыніўся таксама. Затаіўшыся, слухаў. Лапуць чытаў усё гэтак урасцяжку, нібы спяваў, нават заплюшчыўшы вочы і задзіраючы галаў. Нарэшце, нібы змораны, выдыхнуў:

— Ну, як?

— Па-мойму — слаўна.

— Слаўна-то слаўна,— і маленькія сіняватыя вочкі падазрона зіркнулі на Міцю.— Але гэта кулацкая паэзія, яна, браце, нам не падыходзіць. Нам давай Маякоўскага.— Лапуць падняў свой скураны кантовы, як куфэрак, сак-

ваяж, абшмаргнуў спадыспаду наліплы пясок і, хаваючы вочы, загаварыў зноў: — Вершы, як песня, толькі для дурны, а табе жыць трэба. Вучыся ды паступай да нас у медыцынскі інстытут. А [illegible] вершаў, як і з хараства, вады не нап'ешся...

— Ты мяне палохаеш, як палохаў паліцыянт,— раптоўны смех і злосць разабралі Міцю.

— Значыць, не дурны ён быў,— спакойна адказаў Лапуць.

— Як у воду глядзеў. Я і ў цюрму трапіў.

Міця ледзьве трываў, каб не перасварыцца ўжо зусім, але выратавала падвода, што нагнала іх. Каня падганяў маладжавы мужчына ў чорным каптане, і Міця, махнуўшы рукою, падбег да яе, сказаў, што вядзе савецкага доктара аж у далёкую Ельніцу, і, здзіўлены гэтай навіною, фурман паказаў галавою на воз з жоўтай ячнай саломай.

Яны паспелі абысці толькі дзве вёскі, і кароткі асенні дзень схіліўся на вечар. У трэцюю прыйшлі, каб толькі знайсці старшыню сялянскага камітэта ды папрасіць падводу. Падазрона пануры і злы гаспадар, не шкадуючы і падганяючы рухавага каня, і падкінуў іх ужо ў Дварчаны.

Ліслівы Лапуць, нібы забыўшыся на сваю гутарку з Міцем, раптам папрасіў:

— Слухай, у мяне ў Мінску дзяўчына ёсць. Можа, ты якога паркалю расстараўся б. Сам ведаеш...

— А што, у краме няма?

— Зайшоў да яўрэя, а ён кажа: прадаў.

— Ведаю. Герцык гэта.

— Ты пайдзі заўтра са мною, падкажы...

— Не магу, не ў маёй натуры. Ды падумаюць што.

— Ну й незгаворлівы ты чалавек,— пакруціў галавою і адвярнуў свой прышчаваты твар раззлаваны і пакрыўджаны ўжо Лапуць.— Ой, цяжка табе прыйдзецца ў жыцці.

— Нялёгка і дагэтуль было. Прывык.

— Паслухай. У нас таксама не любяць фанабэрыстых ды вострых. Глядзі...

— Страшыш ты нешта.

— Не страшу, а спрыяю. Разумны ты хлопец, і хачу, каб не падсунуў галавы. Наш век такі...

— Не разбяруся ў тваім намяканні.

Ад пераезда, дзе іх ссадзіў унураны фурман, Міця скіраваў на галоўную вуліцу.

— Цяпер зашмат помслівых ды зайздрослівых развялося,— прыспешыў крок і практыкант.

— Калі іх не было,— Міця, злы, раздражнёны ад гэтай гутаркі, абмінуў нецярплівую чаргу каля белай мураванкі — людзі на падводы цягалі нялёгкія мяшкі солі.

— Што гэта яны? — здзівіўся практыкант.

— Соль бяруць.

— Няўжо?

— Была дарагая яна ў нас, як і мыла. За дзесяць кілаграмаў солі — дваццаць шэсць жыта.

— Ого, колькі валакуць. Відаць, яшчэ не спадзяюцца, што ўтрымаецца Савецкая ўласць. Помніш, што казала маладзіца?

— Не,— Міця прыпыніўся насупраць драўлянага дамка на высокім падмурку з заломленым застрэшкам, што прыкрываў шчыт,— даўнейшай ашчаднай касы, дзе цяпер адкрылі невялікую, на шэсць пакояў, гасцініцу.

— Кажа, сёння кепска быць вучоным. Як уласць зменіцца, яго першага расстраляюць.

Міця абапёрся аб шурпаты цэментовы слупок, на якім была начэплена драцяная сетка, чапіў яе пальцамі, яна з ціхім звонам зашамацела.

— Я веру ў лепшае. Мы столькі чакалі вас...

— Ці я не ведаю... Вунь і верш у нейкай газеце вычытаў.

— Галасней крычыць той, хто менш спазнаў гора. Так бывае заўсёды.

— Але паслухай мяне: не лезь на ражон,— і ўкалоў Міцю сваімі рудаватымі вачмі: адно, як прыкмеціў Міця, коса забягала за верхняе павека. І неўзабаве выслізнула адтуль: — А матэрыю купіць усё ж памажы.

— Падыдзі заўтра во сюды,— Міця паказаў на недалёкі з двума прыбудоўкамі Сулін дом.— Я папрашу, хоць лезці мне ў гэтую справу няма як. Сам выкрываю спекулянтаў.

— Ну, дзякуй,— практыкант доўга не выпускаў Міцевай рукі.

Каб нарэшце збавіцца ад гэтага трохі ўжо дакучлівага практыканта, Міця паспешна сігануў у блізкі завулак, знячэўку наткнуўшыся на ўчарашняга Чэсінага кавалера, якога разам з ёю бачыў у клубе. Помслівая злосць і рэўнасць салодкай спакусай падбівала заступіць яму да-

рогу і ўзяць загрудкі. Міця, ледзьве перамогшы сябе, звярнуў убок.

Балючая гідкасць перавярнулася ў душы. Ужо злы і пануры вяртаўся да Царыка на кватэру. За вячэраю ў цеснай, абклеенай сінімі шпалерамі кухні на Царыкавы роспыты, дзе былі, што бачылі, не хочучы і глуха адказваў, покуль той не перакінуў гутарку на кнігі і не запрасіў у свой пакой. З рыпам адчыніў зашклёныя дзверцы ў шырокай прысадзістай шафе, застаўленай да адказу кніжкамі, і дастаў адну, абклееную мармуровай паперай, з чорным скураным карашком, пахваліўся:

— На, паглядзі.

Міця ўзяў у рукі прыгожы томік, учуўшы тое даўняе цяпло, якое чуў заўсёды ад новай кніжкі. На чорна-лакіраваным скураным карашку золатам адсвечвалі літары: «Записки археологического общества».

Царык махнуў галавою, скідаючы з лоба густую расспаную стрэшку пасівелых валасоў:

— З Пад'явара, з маёнтка прывёз. На падлозе валяліся. Перагарэць не мог. Як было не ўзяць? — прыжмурыў стомленыя слепаватыя вочы: — Наш чалавек да кніжак не прывучаны. Кавалак жалеза, шрубку якую дадому прынясе. Нават трэску падыме, а кніжку пераступіць. І яшчэ гонар мае ад гэтага. Але ты спытай, чаго я там быў?

— Ці не наконт калгаса? — Міця перастаў гартаць кніжку.

— Ага,— угневаны Царык страсянуў Міцю за плячо.— Але паслухай. Калгас там ужо быў. Дванаццаць заяў на тым тыдні... Нават коней у супольную стайню прывялі. А як пачалі падагульваць азіміну, тут адна ўдава і падняла гвалт. Забрала каня ды плуг.

— І чым скончылася?

— А тым,— Царык адступіўся да шафы і зноў адапхнуўся ад яе рукою,— што перапала мне. Перуноў гразіўся нават пад суд аддаць, чаму я, як старшыня воласці, своечасова не даклаў. А ці ж я ведаў...

— А што за Перуноў?

— Ды новы старшыня часовага ўпраўлення ці, як цяпер будзе называцца, райвыканкома. Ды я ж і кажу, мы ўжо ў катух,— крыкнуў і азірнуўся на праём у перагародцы: у ім стаяла, адкінуўшы рукою занавеску, зморанай і зжоўклая ў твары ад нейкіх сваіх хвароб Царыкава жонка.

— Ізноў хлопцу не дае спакою. Досіць ужо трэліць!
— Вот ідзі, баба.
— Я табе пайду!.. Бачыш, ад твае гутаркі асалавеў хлопец, звяў, як селядзец,— і ўжо да Міці: — Ідзі, Змітрычак, спаць, бо саладзіць ён будзе да поўначы.

Міця, узяўшы кніжку, паслушна пайшоў у той вузенькі пакойчык, дзе стаяў прыгожа выштукаваны драўляны ложак, дзе на тыльнай сцяне вісеў зялёны аксамітавы дыван з ружова-белымі, падсвечанымі ранішнім ці вечаровым сонцам горамі, з сінім азярцом і рагатымі насцярожанымі аленямі, што ўспуджана падымалі галаў, і ўключыў слепаватую лямпачку пад эмаліраванай талерачкай-абажурам.

На швейную нажную машыну, што служыла заміж століка, паклаў кніжку (лежачы, як іншыя, Міця чытаць не мог) і асцярожна, каб не нарабіць лішняга гуку і не ўстрывожыць гаспадыню, падставіў сабе крэсла.

Але ўважная, пільная Царычыха, перад тым, як улегчыся, усё парадкавала ў хаце сама, сама і бегла зірнуць, ці замкнутыя ў сенях дзверы і ці выключана ўсюды электрыка. Бо аднаго разу, добра нахадзіўшыся з агітатарамі па вёсках і ўтаміўшыся як належыць, Міця прылёг на ложак, паспеўшы толькі падумаць, што трэба выключыць лямпачку, але не паспеў, прачнуўшыся ўжо ад таго, што ў пакоі загаварыла Царычыха:

— Цалюткую ноч гарыць. Ці не можна згасіць, каб хто спытаў?

Не забыўшыся пра свой клопат і не спадзеючыся на Міцю, прыбегла зірнуць і сёння. Спярша зашкрабала рукою па дзвярах, а потым адчыніла іх.

— І гэты не спіць,— яе даўгавіды твар вызіраў з-за белага вушака, шчаку і вока закрывалі апушчаныя валасы.— Абое роўныя: і малы, і стары.— І ўжо з цвёрдасцю ў голасе загадала: — Лажыся, хлопец, спаць! Якавы ты. Начыста зблажэў. Высушылі гэтыя кнігі. Дастанеш праз іх хвароб, як і мой стары шлупацень.

І, не адыходзячыся, чакала, покуль Міця не выключыць электрычную нязыркую лямпачку пад эмаліраванаю талерачкаю, і, мусіць, каб апраўдаць сваё залішне доўгае чаканне, спытала:

— Чаму гэта ў клуб не ходзіш? Там гэтакія, кажуць, танцы, аж будынак разлягаецца. Ці мо па дзеўцы сохнеш, што пакінуў удома?

— Дзеўка знойдзецца і тут,— Міця, ужо ведаючы, што Царычыха не адступіцца, загарнуў кнігу.

— У Дварчанах распуста ды навалач адна. Якія цяпе-рака дзеўкі. Учора гляджу, а нашага суседа меншая, яшчэ да школы ходзіць, а ўжо [redacted] салдатамі каля плота шчабеча. Чакай дабра.

— А чаму і не пажартаваць,— усміхнуўся Міця.

— Ага. Як кажуць, катку жарты — мышцы смерць. У Барысевіча тры дачкі і ў дзвюх ужо па байструку. Бу-дзе і меншай.

— А бацька дзе?

— Бацька? Упыр нейкі. Маўчыць усё. Не трымаецца ні да чаго. Але — дабранач, спаць трэба,— сказала яна [redacted] цемнаты, з другога пакойчыка, і прыстукнула тонкімі да-шчанымі дзвярмі.

Чуючы, як едка і ўвярэдліва парыпвае ў яе пад нага-мі падгніўшая падлога, Міця распрануўся, пакруціў язы-чок на фарфоравым уключальніку і, аслепшы ад цемна-ты, навобмацак знайшоў гэты драўляны [redacted] гарбатым і мул-кім матрацам ложак.

Спаць ужо не мог. Царычышына гутарка вярнула па-заўчарашні вечар, тое ўсё зняважлівае, брыдкае і сарам-ліва-агіднае. Лежачы на спіне і чуючы гарбылі крывых, раз'еханых спружын, ён думаў пра Чэсю; успаміналася нечакана-страшнае, што не мог пераварыць, што зрабілася з ім у чыгуначным клубе, калі ўбачыў яе з чужым, ужо сталым хлопцам, высокім, трохі гарбаносым, з акуратна ўкладзенымі і зачэсанымі на прабор валасамі, далікатна-ўважлівым да Чэсі.

І Міця не помніць, як ён утрываў, як выседзеў у цём-най, поўнай людзей зале, што гаманіла, раўла і на ўсю моц рагатала, задраўшы галовы і не скідаючы шапак, глядзе-ла на белае палатно экрана, на які [redacted] тыльнага аконца, падрыгваючы і мільгаючы, падаў сіняваты пучок святла і на якім варушыліся, хадзілі, бегалі, спявалі і радаваліся людзі, але Міця не бачыў іх. Бачыў толькі Чэсіну белую, прыгожа, як павучынка, звязаную пуховую хустку і вы-сокую з кучаравым чубам голаў, што хілілася ўсё бліжай да Чэсінай... Чэся, здаецца, азіралася на заднія рады, дзе сядзеў ён. І дзікая страшная рэўнасць, як чорны і глыбо-кі вір, раптам забушавала ў ім, падняла Міцю з рыпучага крэсла і вынесла да зачыненых на цяжкі крук дзвярэй. Злая, устрывожаная кантралёрша, што прымасцілася на

табурэціку, нехаця паднялася, нехаця са злым бубненнем адчыніла дзверы.

І Міця, як сам не свой, кінуўся ў сырую, невідушчую глухату асенняй ночы і, натыкаючыся на сустрэчных людзей, збіваючыся на каменне, спатыкаючыся, як п'яны, на якіх дзе выбоінах і ямах, ляцеў да Грабянкавага дома, каб затаіцца недалёка ад веснiцаў і заплакаць ад гаркаты, зняваґі і страшнай адзіноты. І чакаў, стаіўшыся каля плота, што горка пах сырою цвіллю, гэтага гарбаносага кавалера.

Цяпер гадка і брыдка ўспамінаць, што ён гэта зрабіў, дачакаўшыся іх і ўчуўшы ў нізкай цемнаце, перамешанай з шумам дрэў і шапаценнем апалага, сырога лісця, Чэсін смех... Помста, злосць, нянавісць нечакана і раптоўна перакінулася на яе.

Усё тое страшнае, што ён думаў зрабіць са сталым ужо, невядомым яму і чужым доктарам, раптам прыгасла, атупела, занялася ўжо новым палымем пакутнага, нязнанага агню, што гэта, пэўна, яе баранавіцкі кавалер, пра якога, трымаючы місу сырой бялізны, сказала мецівая з панурым мужчынскім тварам і мужчынскімі выхілкамі кабета, калі Міця, варочаючыся з турмы, забег у Баранавічы і завітаў у чырвоны цагляны дом, дзе кватаравала да вайны Чэсіна сям'я. Але тады Міця думаў, што ўсё зласлівае, помслівае і зняважлівае сказалі яму ад падкалоднай зайздрасці да Чэсінага хараства, да яе гонару і непадступнасці, што яна не зналася і старанілася тае лысаватай, абвешанай кудзеркамі рэдзенькіх завітых валасоў, языкатай бабы. Ва ўчарашні халодны вечар з сыраватым раз'юшаным ветрам ён з адчаем і страхам падумаў, што нязграбная з мужчынскімі выхілкамі кабета сказала праўду.

І, пачуўшы вясёлы прыглушаны Чэсін смех і неразборлівую гутарку гэтага сталага кавалера, убачыўшы, як яны, зліваючыся з мігатлівай цемнатою, паволі, мусіць, пад ручку, ідуць да Грабянкавых веснікаў, як спыняюцца, топчучы нагамі шапаткое, назмятанае ветрам лісце, Міця што было моцы рвануў ад плота, ад ясеня з чуйна-звінючымі, шалпатлівымі ахапкамі насення, за якім стаяў, падцікоўваючы іх... Бег, сам не ведаючы куды, у гэтую сырую ноч, па глухіх вуліцах з рэдкімі галасамі хлопцаў і дзяўчат у зацішку каля брамаў, з прастудным і асіплым брэхам растрывожаных сабак, не ведаючы, як утаймаваць

свой шал брыдкасці, крыўды і злосці, думаў нават уцячыць Чэсю. Ён дабег быў нават да пераезда, але здзічалы жаночы енк, што чуўся ■ сіняватай, невідушчай чарнаты з-пад агароджанага высокімі шпаламі вугальнага склада, дзе запраўляліся паравозы, з-пад старых, ужо чэзлых рабін, раптам вярнуў Міцю назад.

— Людцы, ратуйце, людцы!..

Міця прыслухаўся да гэтага вострага, аж хрыплаватага з перапуду кабечага голасу.

— Вой, людзі!..

Міця подбегам рушыў на гэты крык і, падыходзячы бліжай, прысеў, убачыўшы каля рога высокага плота, на фоне шыза-нізкіх хмар, мужчыну з дробнай жанчынай у аб'еханай, растрапанай хустцы, проставалосую. Жанчына з глухім, ужо змораным стогнам ірвалася з дужых, што злосна і чэпка абнялі яе, мужчынскіх рук.

Услед за Міцем, няспешна і з асцярогаю, пасвечваючы перад сабою ліхтаром, ■ пераезнай будкі падышоў і вартаўнік.

— Што такое? — хрыплавата кашлянуў ён, свецячы на зніякавелую, аслепленую ад гэтага святла, растрапаную маладзіцу і да чырвані распаранага, п'янаватага з вялікімі белавата-апалелымі вачмі мужчыну ў зеленаватым паўшубку.

— Ну, чаго вы збегліся? Ну, чаго? — мужчына выцер рукою мокрыя, у накіпе сліны, таўстава-вывернутыя губы.

Жанчына, слепавата жмурачыся і адвярнуўшыся ад яркага святла з карбіднага смуродлівага ліхтара, хавала свой твар і наравіла затуліцца за мужчыну.

— Цьфу ты, брыды кусок! — плюнуў вартаўнік і, аблліваючы дрыготкім святлом гладкае каменне на шашы, пайшоў да пераезнай будкі.

Услед за ім, ужо трохі ачахлы ад крыўды, забыўшыся на які міг пра Чэсю, пра таго сталага кавалера, заняты здарэннем, адышоўся ад вугальнага склада і Міця.

— Дурні,— крыкнуў з цемнаты п'янавата-сухім надтрэснутым голасам мужчына.— Калі сучка не захоча...

— Пусці, кажу! — зноў пачынала прасіцца жанчына.

— Маўчы, ціха ты,— соп п'яны і здурэлы ад гарэлкі мужчына.

— І праўда, што сучка,— махнуў ліхтаром пераезны вартаўнік.— Гэта ж Лявона Клімца жонка. Склешчылася з нейкім во Мурзічам. Пазнаў я. І чаго яны тут стаяць, каб яны вочы паўстаўлялі.

Вартаўнік, гакнуўшы ад злосці дзвярмі, аж затрымцелі ў невялікім аконцы шыбы, схаваўся ў будцы і бубніў яшчэ там сваім тоўста-сіпаватым голасам, а Міця ціха пабрыў, чуючы тугі моцны вецер, пасярод пустой брукаванай вуліцы. З шоргатам у нізкім поцемку пры зямлі лядела выдранае з рыштокаў невідушчае сухое лісце.

Мільгаючы за частаколам платоў, за агалелым прысаддзем, прыхаванай радасцю свіціліся глыбокія шчыліны. За вокнамі млела ласкавая заціш, цяпло, нешта чалавечашчаслівае і добрае, а ў Міці ўсё пераварочвалася, цямнеў і тупеў свет, калі ён зноў пачынаў думаць пра Чэсю, здавалася, што ўсё непаўторна-яснае і шчаслівае, што ён перадумаў сам-насам пра яе, так неўспадзеў раскалолася, як бывае лусне нечакана і расколецца шыба. І нешта млосна-балючае і бязлітасна-страшнае, што ён не вытрымае, нешта з сабою зробіць, так пакутна мучыла яго. І ад ветру, і ад гэтай пакуты і крыўды на вочы набягалі слёзы і тупы боль падступаў пад горла.

Як бяспамятны, ён вярнуўся да Царыка на кватэру. Адчыняючы яму дзверы і жмурачыся ў калідоры ад нізкай на вушаку лямпачкі, Царычыха стуліла абедзвюма рукамі расхрыстаны на абвіслых грудзях паласаты халат і перапалым голасам спытала:

— Што з табою, хлопец?

— Жанчыну хацелі пабіць, так мусіў заступацца.

— Было за каго заступацца,— яна злосна зашаркала брудна-стоптанымі, без заднікаў ужо, тапкамі.— Добрая дзеўка ў такую пору швэндацца не будзе. А хто не шануецца, той і ходзіць.

Яна ўпікнула ўжо і Міцю.

Успамінаючы ўчарашняе і ўжо каючыся, што як добры дурань пабег пільнаваць Чэсю, ён ляжаў на ложку, слухаў, як мякка шумяць і парыпваюць, недзе злосна пераціраючы адна адной сашчэмленыя лапы, выносныя хвойкі, як з неакітаванага, недагледжанага акна без падвойных, яшчэ не ўстаўленых рам дзьме лядовы, што пахне ветранінай, холад.

Зноў спадцішка пачынала гарэць неачахлая і пякучая, як прысак, злосць на Чэсю, турзаў і аддаваўся ў сэрцы

боль, што не трэба больш знацца з ёю, каб не ведаць гэтага пакутнага і цяжкага шчасця любіць яе. Неміласэрна, як падбітая пташка, ападалі Міцевы думкі. Як жа ж жыць, як бачыць увесь неабсяжны свет без Чэсі?..

Назаўтра яны сустрэліся нечакана. Не, гэта толькі здавалася Міцю, гэта ён толькі цешыў гэтым падманам, шчымліва-балючай хітрасцю сябе, што сустрэў Чэсю выпадкам, пайшоўшы нібы незнарок, нібы сам насуперак сабе ціхаю, яшчэ не забрукаванаю вуліцаю ў канцы мястэчка, дзе стаялі не дакончаныя, з выбітымі вокнамі і не заглушаныя цеснымі прысадамі дамкі і дзе на рагу вуліц, займаючы шырокі пляц, па-купецку ганарыста рассеўся прыгожа выштукаваны будынак з блішчастым, як слюда, цынкавым дахам і двума вялікімі вокнамі ў шчыце.

За польскім часам у гэтым новым двухпавярховым доме разваротлівы яўрэй Хургін адкрыў гатэль. Цяпер у ім была бальніца, а ў ашалёваным стаўбунаватым, на гуральскі фасон будынку, што адсунуўся ў глыб двара і належаў Бубелю, каменданту паліцыі, што ўцёк і недзе туляўся з сям'ёю, зрабілі радзільнае аддзяленне.

Цяпер ад гэтых двух дамоў пахла едкім, трохі нейкім як атрутным пахам карболкі. Зводдаль брамы стаяла фурманка з унураным у торбу канём. Каля яе варушылася накрытая суконнаю ў шырокія балонкі хусткаю з перапалоханым скамянелым тварам смуглявая маладзіца. Высокі, з цёмнымі, падкручанымі вусамі мужчына асцярожна пад плечы і ногі ўзяў звялую, закручаную ў зрэбную старэнькую радзюжку смяртэльна белую ў твары дзяўчынку і борзда панёс да адчыненай форткі дзвярэй.

З бальнічнага шырокага венскага акна, уткнуўшыся лобам у шыбу, выглядаў немалады кабечы твар, на якім моргалі перапалоханыя вочы.

— Раман, не трасі ты яе,— ззаду вусатага мужчыны бегла, скідаючы з галавы вялікую хустку, мілавідная смуглявая маладзіца.

— Знайшла да чаго прычапіцца,— азірнуўся не на жонку, а на Міцю мужчына.

— Ледзьве дыхае, ці данясеш? Божа мілы, што з дзіцем сталася. Гарыць, памірае на вачах,— загаварыла да Міці і кабета.

Міця, тулячыся і ад ветру, і ад пачутага, прыспешыў

крок, пайшоў вузкім, выкладзеным у дзве цэментовыя плітачкі тратуарам. На дзённую змену спяшалі і спатыкаліся, азіраючыся на Міцю, маладыя, рагатлівыя санітаркі і медсёстры. Трымаючы над сабою чорны парасон, ішоў паважны з рыжай бародкай доктар. Пачынаў накрапваць дробны дожджык — на шарых плітах густым рабаціннем зацямнеліся плямы. З-за вугла моцны скразняк ірваў на вяршках маладых ліпаў астатняе рэдкае лісце, круціў і падымаў угору, а потым шпурляў на шары, як попел, і перацёрты вазамі пясок вуліцы, закручваў вужом, збіраючы ў горбу. Шапаткое, яно яшчэ ўсё падымалася і жыва дыхала.

Каля цёмных вокнаў ружавата-смалістага дома адзываліся сініцы — знак, што блізка холад. Хоць за рэдкім і нізкім штакетнікам яшчэ гарэлі астатнім халодным агнём вялікія, як шапкі ў маладога сланечніку, кветкі чырвона-белых ацяжэлых астраў. І Міцю міжволі ўспомнілася тая раніца, калі яны вырваліся на волю з турмы, густы волкі туман, усланая ачасаным чорным каменнем вуліца і гэтакія самыя абапал яе астры. Успомнілася тая трудная дарога ў Баранавічы, калі ён бег насустрач нечуванаму, аж да глухаты ў вушах, лязгату танкаў, калі ён бег насустрач ёй, Чэсі.

І цяпер, адарваўшы вочы ад ацяжэлых астраў, не паверыў і знямеў, убачыўшы, што на вузенькім, як толькі размінуцца, тратуары стаіць яна, у сваёй карычняватай прыталенай ясёнцы з вялікімі гузікамі, пасаджаным набакір капялюшыку, што закрываў правае вока, з сумачкаю пад пахаю, з схаванымі ў рукавы ад холаду рукамі. У чорных і новых, з банцікамі, туфельках. І нешта прытоена-шчаслівае было ў яе прыгожым твары. Яна ўсміхнулася і ласкава, і даверліва:

— Міцек, вой, як рада, што ўбачыла цябе!

Ён нахмурыўся, не ведаючы, ці радавацца, што бачыць яе, ці злавацць: перад вачыма стаяў учарашні вечар. Ён ледзьве перасіліў сябе, каб не спытаць: «З кім ты ўчора была?» І яна, як здагадаўшыся, што ў яго наўме, працягнула сваю халодную ў чорнай шоўкавай пальчатцы руку, сціснула яму локаць і сказала па-польску:

— Мільч лепей!

— Чаму маўчаць? — ён паглядзеў у яе шарыя вочы.

— Я рада, што бачу цябе. А ты? — у яе на бровах блішчала, свяцілася раса ад дажджу.

— І я,— ён ледзьве вымавіў перасіленым цяжкім голасам.

— Ты, мусіць, слухаеш гаданне людское? Не трэба... Я хачу пагаварыць з табою.

— Гавары...

— Не злуй, Міцек... Калі мы ўбачымся?

— Я сёння іду ў вячэрнюю школу.

— І я з табою. Можна, Міцек? — вочы яе завільгатнелі ад слёз, і голас трэснуў, перасох: — Каб ты ведаў, як мне цяжка. Як мне...

— Чэся, а што ў цябе?

— Я скажу вечарам. Дзе толькі ўбачымся?

— У школе. Добра?

Яна кіўнула галавою, і губы яе маўкліва сцяліся. Яна закрыла рукамі твар і скоранька абышла Міцю, дыхнуўшы на яго лёгкім і знаёмым пахам духоў.

## XIX

За шклом падвойнага акна на пухка-белай ваце, усыпанай лускою, рознакалёрнымі блёсткамі ад цукерачнай фольгі растапыранымі гармонікамі надзьмуліся тры чырвоныя папяровыя кветкі.

Учора, калі ў дварчанскай бальніцы, гатуючыся да зімы, устаўлялі дубэльты, у чацвёртую палату, дзе ляжаў Імполь, прыбегла Хрысця.

Бліскаючы на ўсіх рудавата-лупаценькімі вачмі, яна трымала перад сабою пухкі, нібы жывая лёгкая хмарка, пук ваты і гэтыя надзьмутыя і растапыраныя гармонікі папяровых кветак.

— Во, уквечу акно,— сказала і азірнулася на Імполеў ложак.

Імполь, заклаўшы за галаў рукі, ляжаў паверх шарабелага ў вялікія балонкі коца; балячая яго нага ў тоўстым гіпсе, з якога, нібы з дзіравага валёнка, вызіралі пальцы, старчма ўзнялася на біла. Памогшы рукамі, ён асцярожна спусціў яе на падлогу і прысеў на нізкаватым, гнутым з паласнога жалеза ложку.

— Яшчэ што выдумай. Ці мы збіраемся тудака зімаваць?

— Ай, колькі ні будзеця, а на акно ўсё ж міла глянуць.

— Каб быў ад гэтага мільшы свет,— павярнуўся на яе голас і памаргаў цяжкімі ў бародаўках павекамі смутны Якшук.— Надоечы аднаго ўжо вынеслі. У нас дзень — век.

— Гэ, ты ўжо, дзядзька, не вельмі страш,— расшчаміў на грудзях пабітыя рабаціннем рукі і падняў булаватую з адтапыранымі вушамі галаў з'едлівы Семярнік.— Нам з Імполем жыць трэба. Нам пара дадому.

— Вам пара, а я ж ці выберуся адсюль. Бывала, за дзень да Слоніма збегаеш, па сорак вёрст туды й назад, а сённячы да адхожага мейсца ледзьве дойдзеш,— у Якшуковым нядужым голасе дрыжала жальба і плач.

— Во і будзеце ляжаць і на кветачкі дзівіцца,— нелітасціва і злосна асек Якшука з'едліва-ўрэдны Семярнік.

— Паспачуваў,— звяў у горкай крыўдзе Якшук.

— Лекаж лечы, буг уздраве [1],— нарэшце аказаўся сваім тоўстым хрыпатым голасам і, абапёршыся рукою аб падлогу, скаціўся [redacted] свайго нізкага ложка адутлаваты пан Свірак.— Няхай і ў нас будуць кветкі. Пекныя, хоць і не пахнуць.

І прапусціў Хрысцю да акна, адсунуўшы лёгкую фанерную тумбачку.

Памыўшы шыбы і выцершы іх да невідушчай лёгкай чысціні, Хрысця выслала на падаконніку вату, уквеціла яе гэтымі надзьмутымі папяровымі гармонікамі і паклікала сталяра, што прынёс нялёгкую дубальтовую раму. Спаласнула вадою, выцерла яшчэ і яе.

— Дзякуй, Хрысця! — захмялеўшы ад радасці і ўжо [redacted] макраватымі вачмі, сказаў Імполь і, каб не выдаць сябе, абхапіў за калена балячую нагу, нібы не стрываў ад болю.

— Мучышся ўсё? — яна сумелася, убачыўшы гэтыя нечаканыя слёзы.— Калі ж дахаты?

— Хірург скажа.

Яна азірнулася, ці не вельмі цікуюць і прыслухваюцца да іх мужчыны, нагнулася над яго ложкам і мяккім, цёплым шэптам папытала:

— Ізноў у Верасава, да яе, на смех і ганьбу?

— Не ведаю, Хрысця, што і рабіць.

— Во як, не ведаеш?..

— А ці ж знае чалавек, што з ім прылучыцца.

— Тады я скажу: кватэру табе шукацьму.

---

[1] Доктар лечыць, бог выздараўляе *(польск.)*.

Яна борзда, згробшы з вока аб'еханую пасму рудавата-чорных валасоў, вышмыгнула з палаты, пакінуўшы ў Імполевай душы нейкую няпэўную і балючую радасць.

Нечаканая Хрысціна спагада другі дзень ужо цяжкім, нудным болем мучыла Імполя, перабіваючы сон і асцярожныя, як напуджаная птушка, яго думкі. З нецярплівым і напятым, як струна, спадзяваннем ён чакаў доктара, каб загаварыць пра выпіску.

А марудлівы і знакаміты ў Дварчанах яшчэ польскі фельчар, прысадзісты і крышку пануры з порыста-чырванаватым носам пан Пятроўскі прыйшоў на свой ранішні абход добра прыпазніўшыся. Прысеў на адным, што быў тут у палаце, расхістаным, з прарэзанай дужкаю, каб спрытней было пераносіць, шырокім табурэце і заміж звыклага «Ну, як маемся?» кіўнуў лысаватаю галавою на акно і папытаў у Імполя:

— І хто гэта пастараўся?

Шара-карычневыя фельчаравы вочкі падазрона блішчалі, ад яго нясло свежым духам нядаўна і патаемна перакуленага кілішачка гарэліцы.

Імполь, нечакана зачырванеўшыся, трохі замарудзіў, не ведаючы, што сказаць.

— Знайшлася тудака адна,— адказаў за Імполя рыжы, рабацяністы Семярнік. Смешна адтапыраныя вушы яго свяціліся яснай чырванню напроці акна.

— Можа, для яго старалася? — пазіраючы на прасвечаныя Семярнікові вушы, абыякава перапытаў фельчар.

— Анёж для каго,— засмяяўся, паказваючы дзве чорныя шчарбіны ў зубах, драбнатвары, курносы Якшук.

— І што за паненка такая?

— Вашая тут.

— Няўжо?

— Досіць смяяцца з хлопца,— падняў ад падушкі сваю лысаватую голаў пан Сміpак.— Бардзо ладна панна, тылько носік задужо задарты [1].

— Ды, мусіць, раз забіла яму клін у лоб,— фельчар грузна падняўся, узяў за выразаную дужку табурэт, паставіўшы каля Якшуковага ложка, спытаў адтуль: — А нага не баліць?

— Ды ўродзі не.

— Паварушы пальцамі.

---

[1] Ладная дзяўчына, толькі носік занадта задзёрты *(польск.)*.

Імполь варухнуў белаватымі, як абсыпанымі мукою, пальцамі, што выглядвалі з гіпсу, са злосцю пацвердзіў:

— Нідзе болю і не чую.

— Дзіва што, на маладым зажывае, як на сабаку,— не ўтрымаў і аказаўся Якшук.

— Гіпс пара здымаць,— прыўстаў на локцях Імполь.

— Будзе хірург — здымем. Куды спяшаць. Паляжы, на здароўе пойдзе.

— Не, пане доктар, больніца не ўсім спрыяе,— Якшук расшпіліў шара-злінялы з сінімі закарвашамі капанік і загаліў рудаватую, мытую толькі ў папяловым лузе, сваю палатняную кашулю, паказваючы худы, жаўтлява-ўпалы жывот.— Горай мне. Дзе здароўе дзелася? Саўсім ужо звяў, як чарвівы лупяк пад хвойкаю.

У палату зазірнула, уткнуўшы свой малады і расчырванела-прыгожы тварок, Хрысця, але змеціла фельчара, выпнула губкі і борздзенька схавалася за дзверы.

— Можа, яна? — ад бязгучнага смяшку ў Пятроўскага скрывілася верхняя губа, паказваючы залаты блішчасты зуб.

— Гэта пташачка.

— Дык нічога сабе,— фельчар растапыранымі пальцамі прыціснуў Якшуку жывот.

— Ён і сам хлопец — хоць на выставу вядзі.

— Кажаце, хлопец, а я думаў — жанаты?

На ложку, зарыпеўшы спружынамі, перавярнуўся Семярнік, каб, мусіць, схаваць свой здушаны смех.

Нечаканая гарачыня адчаю, сораму, злосці абліла Імполя. І ён, абхапіўшы голаў рукамі і заціскаючы вушы, каб не чуць здзеклівай гутаркі, знарок абыякава глядзеў у карычнева-жоўтую, шпугованую вузенькімі дошчачкамі столь з белым кручаным шнуром праводкі, што цягнуўся да эмаліраванай талерачкі — абажура. Зачапіўшыся за белы шнур, сюды, на Імполя, па невідушчай павуцінцы спускаўся чорны дробны павучок — нёс нейкую навасць.

Імполь не надта зважаў на знакі ды чары, але гэты раз нават сумеўся, убачыўшы, што прыкмета спраўдзілася. Не ўскораў, скончыўшы свой абход, выйсці з палаты пагрузны і не вельмі паспешлівы фельчар, як у парозе, пабліскваючы залацістымі гузікамі новай цёмна-сіняй міліцэйскай формы, што не вельмі яшчэ і пасавала да яго, стаяў з ганарыста задзёртай галавою, як задзіраюць неда-

рослыя людзі, Жэнік Рэпка. Знятую кубанку ён асцярожна трымаў пры боку, а правай рукою прыгладжваў дрыготкі, натапыраны ёжык цёмна-русых валасоў. Гэта ўжо сапраўды была праява.

— Каго шукаеце? — зарыпеў сваім ложкам і прысеў на ім цікаўны Семярнік.

— Мяне, пэўна...— Імполь, памагаючы абедзвюма рукамі, памалу зняў з біла выпрастаную і задзёртую дышлем нагу.

— Добрую забаўку маеш,— усміхнуўся Рэпка, падыходзячы і падаючы Імполю халодную, настылую на дварэ руку.

— Трэці тыдзень цацкаюся.

— Ого, як час бяжыць!

— Абрыдзела ўжо тут марнавацца.

— Так мо скора выпусцяць?

— Не на тое йдзе. Нешта маўчаць. А тут годам мне стала. Ды ты прысядзь,— Імполь кіўнуў на табурэт.— Ды раскажы, што тамака ў нас чуваць.

— І праўда, хай прысядзе чалавек,— Семярнік падапхнуў шырокі карычневы табурэт.

— Нічога, пастаю, мне падрасці трэба,— пажартаваў Рэпка, але на табурэт сеў, адзеў на вострае калена кубанку і ганарыста зіркнуў на Імполя.— Пытаеш, што ў нас? — І пахваліўся: — Прымячай па мне.

— Ды бачу, форму далі.

— Перапрашаю,— не ўцярпеў пан Свірак,— але скажэця, чый гэта ўбор?

— Савецкай міліцыі.

— Праява, а я думаў, казацкае ўбранне.

— А з гвардыяй што рабіцьмуць? — падняў чарнявакучаравую голаў Імполь. Упарты завіток валасоў віўся каля густога натапыранага брыва.

— Распускаюць. Міліцыянты будуць.

— А нас куды?

— Таго-сяго ў міліцыю, астатнім дадому.

— Што, адваявалі, выходзіць?

— За цябе я заступіўся,— задзёр свой малы чырванаваты нос Рэпка.— Сказаў, што ты з парабкоў.

— Якое ліхаты ты мяне ў парабкі запісаў? — Імполь прысеў на ложку і выпрастаў, спусціў з яго балячую ногу.

— Каб давер больш быў. Цяпер павага да трудзяшчага чалавека.

— А гультаёў і ніколі не паважалі,— стараўся ўмяшацца ў чужую гутарку падкі на слова і ліпкі стары Якшук.— Некалі яшчэ за паншчынаю ў нашага чалавека, што ленаваўся рабіць, пан зямлю адбіраў.

— Што было, то сплыло, чаго маем пра паноў гаварыць,— не паварочваючыся, адсек Якшуку трохі ўжо недавольны і раззлаваны Жэнік Рэпка.

Пан Свірак, унурыўшыся ў тоўстую, абкладзеную квяцістаю ад шпалераў папераю кнігу, нібыта чытаў. Не аказваўся, маўчаў і з'едлівы, урэдны Семярнік, скрывіўшы набок галаў, а адтапыранымі вушамі, што свіціліся гарачай чырванню проці акна, насцярожліва слухаў.

— Ачуняеш,— Жэнік Рэпка ўстаў з рыпучага табурэта, расправіў пад брызентовым рэменем цёмна-сінюю, сабраную складкамі гімнасцёрку,— і заяўленне падавай.

— Падумаю.

— Думай, ды не марудзь.

— Граматнасці не хватае, лічы — цёмны я, тры класы кончыў.

— Як на сённяшні дзень, і праўда, што малавата,— прыжмурыўся, пакруціў галавою Рэпка і тут жа пахваліўся: — А я аж цэлых шэсць.

— Ну во...

— На свеце, можа, й бяда,— зноў умяшаўся ў гутарку Якшук,— што вучоных зашмат развялося.

— Сакочаш, дзядзька, абы-што,— папярхнуўся кашлем Рэпка і, хілячы з сабою табурэт, нагнуўся да Імполя, украдкам, нібыта тоячыся, спытаў: — Праўда ці не, кажуць, Хрысця тут у бальніцы. Санітаркаю, ці што?

Імполь знямеў і, чуючы, як раптоўны, млосны боль падкочваецца і бярэ за сэрца, адказаў не адразу. Мусіць, змеціўшы гэтую збянтэжанасць, Рэпка ўжо асмялеў сам:

— Кажуць, знаешся тут з ёю?

— Ты што, дзеля гэтага прыходзіў?

— Выбачай, але раз прыйшлося да слова, то скажу,— і Жэнік Рэпка, аблізваючы кончыкам языка верхнюю губу, скоса і падазрона зіркнуў на палату.— Але тут не з рукі, хадзем у калідор.

Імполь выпрастаўся, задзёр галаў, шукаючы вачмі круга ложка свой кастыль, але не знайшоў: ён ляжаў на падлозе каля загнутых, як лапкі ў ката, жалезных ножак пры сцяне.

— Гамар во,— нагнуўся, падняў абкручаны бінтам, каб не муляў пад пахаю, шары драўляны кастыль залішне цікаўны і хітры Семярнік.

Імполь, трымаючы пры сваім клубе выцягнутаю доўгаю рукою рыпучы кастыль і налягаючы на яго, заскакаў на левай назе ў адчыненыя дзверы. Прыпадняўшы, нёс перад сабою забінтаваную, аблітую гіпсам правую ногу.

Ачуціўшыся на калідоры, пэўна ўжо, каб не чула лішняе вуха, Жэнік Рэпка шчыльна прычыніў фортку высокіх дзвярэй ■ зафарбаванымі шклянымі шыбкамі. Адышоўся ад іх, прыпёрся плячмі да карычневай кафельнай грубкі.

— Так гавары,— млеў на адной назе нецярплівы і ўжо разгарачаны Імполь.

— Герцык ■ Дынкаю мануфактуру прыхавалі і цяпер тайком шпікулююць.

— А прышый-прысцябай, Хрысця тут пры чом?

— У том-то й рэч, што пры том,— Жэнік Рэпка нахіліў голаў, зіркнуў уздоўж калідора: там у канцы яго, каля шафкі з лякарствамі, валтузілася дзяжурная медсястра — на густой кучаравай капе валасоў ганарыста тырчаў задзёрты, адкінуты трохі на патыліцу белы каўпачок.

— І што яна?..— пад Імполем зарыпеў кастыль.

— Суля бярэ ў Дынкі, а Хрысця перапрадае адрэзы на касцюмы ды сукенкі.

— А хто табе намыліў, нагаварыў?

— Хтокала...— Жэнік Рэпка надзьмуўся, наліваючыся чырванню.— Скажы, каб прыпынілася.

— Бо што?..

— Арыштую.

— Слухай,— Імполь адступіўся, выхапіў з-пад пахі кастыль.— Не віжуй! Бо бачыш, расквашу мазгаўню,— ён замахнуўся і, нечакана пахіснуўшыся, закруціўся на месцы, загрукаў кастылём, зашоргаў ім па чырвонай фарбаванай і слізкай падлозе.

Успуджаная грукатам, ад шафкі з лякарствамі адарвалася медсястра, зашуршаўшы новым накрухмаленым халацікам, подбегам падышла сюды.

— Товарищ больной, проша да палаты! — мяшаючы рускія і польскія словы, нязлосна прыкрыкнула яна.— Цо за шум? Не галасуйце тутай!

— Ды мы паціхутку,— убачыўшы і пазнаўшы Чэсю, перапуджаны Жэнік Рэпка збялеў яшчэ больш.

Здранцвела і падцяла злосна губы, мусіць, прыгадаўшы тое здарэнне ў Грабянкавай асадзе, Чэся. Ці мо здалося Імполю. І ён, чуючы на сабе помслівы зірк Чэсіных вачэй, яе маўклівую агіду ці зняважлівую абыякавасць, скоранька заскакаў да палатных дзвярэй, цяжка тупаючы адною нагою.

— А ты на дыбы не падымайся, паслухай, што кажу,— расцяжна крыкнуў і махнуў сваёю кубанкай у адчыненую палавінку зашклёных дзвярэй Жэнік Рэпка, але Імполь моўчкі, аднак з усяго размаху пацягнуў да сябе нікеляваную ручку. Цяжкія дзверы моцна, ажно здрыгануліся сцены, прыгрукнулі. З маўклівай, але не прыхаванай на пахмурных бровах злосцю азірнуліся Якшук і Семярнік. Адняўшы ад твару абкладзеную шпалернай паперай кніжку, азваўся толькі пан Свірак:

— Ой-ё-ёй іх маць хамска. І што да цябе мае гэты недавярак?

— Нічога,— Імполь прысеў на ложак.

— Цо бэндзе далей? По цо то война, по цо то вшысткo? — пад Свіракам парыпвалі дошкі падлогі. Ён падышоў да Імполя, папрасіў: — Дай папяросу.

Імполь знайшоў у кішэньцы байкавага сіне-злінялага і караткаватага яму пінжачка пачак папярос.

Свірак, пстрыкнуўшы ногцем спадыспаду пачка, падбіў угору папяросы, дастаў адну і выйшаў з палаты.

— Ён пытае, нашто вайна? — падняў свае рыжаватыя бровы і, плюшчачы вочы, паварушыў імі лапавухі Семярнік.— Кажды мае свой рахунак. Што, не праўду кажу? — і ўставіўся на Імполя.

Аглушаны нечаканаю і страхатліваю навіною, Імполь не аказваўся, у задушлівай млявай гарачыні турзалася сэрца, што папраўдзе ўтварыла Хрысця. І чаго наведаўся Жэнік Рэпка?

Падстрашыць Імполя, адпомсціць за Хрысцю? Перадумваючы ўсё, не чуў, як у палату з падносам, засланым белаю сурвэткаю, на якой стаялі шкляныя — шырокія зверху і вузкія спадыспаду — кілішачкі з мікстурай і ляжалі горбачкі рознакаляровых таблетачак, увайшла Чэся. Ад яе дыхнула лёгкім чаромхавым холадам пахучай вады.

— Пане Верамей, вам у перавязачную. Чакае хірург,— сказала яна, мінаючы Імполеў ложак і дабіраючыся да самай далёкай тумбачкі старога Якшука.

Імполь борзда схапіў прыстаўлены да жалезнага біла кастыль. Аблягаючы на яго пахаю і зашчаміўшы ў дужай руцэ круглую, як насуканая цэўка, папярочку, загрукаў да парога. Адстаўленаю нагою з скамянелым гіпсам папхнуў непрычыненыя дзверы. Яны стукнуліся ў пана Свірака, і там на калідоры чуваць быў яго злосна-перапуджаны крык:

— Лецон, як на зламане карку! [1]

— Маеш шчасце, што не пацэліў у лоб,— з'едліва азваўся Семярнік.

— Во якая далікатнасць,— пакруціў галавою пан Свірак, уваходзячы ў адчыненыя дзверы і трымаючы пад пахаю згорнутую газету.

На калідоры рыпеў і грукаў Імполеў кастыль...

Узмакрэлы ад радасці, у палату Імполь вярнуўся без гіпсу на назе. Твар яго чырванеў, вочы бліпічалі, а губы крывіліся і ўздрыгвалі ад прытоенага давольнага смяшку. На балячую ногу, што здавалася ўжо чужою і занадта лёгкай, па нядаўняй звычцы ступаў далікатна і, каб расхадзіцца, апіраўся яшчэ на драўляны кастыль.

— Дадому, пэўна? — з жальбою і зайздрасцю спытаў, падымаючы свой дробны з аблупленым чырвоным носам твар, стары Якшук.

— Навучуся толькі хадзіць.

— А ты што, дзіця?

— Ды хочуць праверыць, як зраслася косць.

— Хіба што.

Ужо бачачы і адчуваючы блізкі дзень, калі будзе на волі, Імполь паглядзеў за акно: на нізкай раскідзістай яблыні, што закрывала свет, вецер варушыў абпаленае першымі замаразкамі, пажухлае лісце. Між яго свяціўся наліты спеласцю крамяны яблык. І чырванню ядроных ягад гарэла нахіленая на адзін бок рабіна каля жоўтага, атынкованага дома з бляшаным цёмна-карычневым дахам. Там цэлай зграяй віліся даўгахвостыя дразды, чапляліся на тэлефонны дрот, на чорную загнутую трубку з папярочкаю і белымі фарфоравымі ізалятарамі. Некаторыя спускаліся на рабіну, дзяўблі, глытаючы цалкам чырвона-гарачыя ягады.

Імполь пастаяў, узіраючыся, як апаломлены, на гэтую ніколі не бачаную праяву, і ціха прылёг на ложак. А ў

---

[1] Ляцяць, як на злом галавы! *(польск.)*

памяці выплыла нешта даўняе, невыразна-цьмянае, успомнілася акно з падвойнымі рамамі і на белай ваце чачоткі пякучых рабін. Успомнілася маленства з крыўдаю да некага. А потым перад вачмі ўваскрэс блізкі верасень, той дзень, як яны ўтрох з Аўсянікам і Жэнікам Рэпкам беглі ў Грабянкаву асаду праз доўгую вёску, а ў дварах гэтак густа і зраджайна — кажуць, на снежную зіму — чырванелі між пажоўклага лісця, свіціліся, аблашчаныя нізкім асеннім сонцам, чачоткі ядроных рабін.

Успомніўся задушлівы, што разрываў грудзі, кашаль хворага на сухоты Саўкі Аўсяніка... Імполю і да сённяшняга дня не верыцца, што гэты справядлівы, далікатны чалавек, мяккага нораву і, як казалі яшчэ, «культурны» мог аказацца прадаўцом. Кажуць, што яны, трое вязняў навагрудскай турмы, вырваўшыся ўжо на волю, дарогаю паспрачаліся. Паспрачаліся заядла, бо дайшло нават да бойкі. А потым ужо ад помслівай злосці гэтыя двое Аўсяніка і падкусілі... Як падкусвае яго, Імполя, ненавідзячы недзе ў глыбі душы за Хрысцю, хціўы і зайздросны Жэнік Рэпка. Іначай чаго швэндаўся [redacted] па бальніцы?

Усхваляваны, растрывожаны сваімі думкамі, Імполь прыпадняўся на ложку, міжволі прыслухаўся да мужчынскай гутаркі.

— Чуеце, хлопакі,— трос газетаю пан Свірак.— Што бальшавікі пра свае аўтамабілі пішуць.— Ён, адстаўляючы ад прымружаных вачэй газету, зашамацеў ёю і прачытаў: — «Если во второй пятилетке было выпущено пятьсот пятьдесят тысяч автомобилей, то только в сорок втором году должно быть выпущено четыреста тысяч автомашин».

— Гэта праўда, да сорак другога трэба дажыць,— засмяяўся і пакруціў сваім задзірыстым чырвоным носам Якшук.

— Перабіла свіння пацеры, так хай сама і гаворыць,— злосна чмыхнуў Семярнік.— Не дасць чалавеку прачытаць.

— Но власьне,— зноў аднёс ад сваіх вачэй разгорнутую газету пан Свірак.— Слухай далей.— І пан Свірак зноў нараспеў і на ломанай смешнай гутарцы прачытаў: — «Значительно должен быть улучшен легковой автомобиль «М-1»... Он может развивать скорость до ста двадцати километров в час. На базе его организуется производство изящной открытой машины — фаэтона».

— І што гэта за фаятон выпускаць будуць? — не ўтрываў, перапытаў Якшук.— Гэтакі, як у пана Ёдкі быў? Я помню — на шасцерыку...

— Ну й саўгак ты, дзядзька,— зарагатаў і падняўся на сваім ложку Семярнік.— Як што скажаш...

— Ты вот ляжы, не падскоквай, а то зноў косць ушкодзіш і будзе, як нашаму Паўлючку. З ганка ўпаўшы, у клубе косць зламаў. Ногу свідравалі. Два тыдні паляжаў і памёр.

— Але крыку ў нас, хлопцы, як у яўрэйскай школе,— усміхнуўся ўжо Імполь, трохі ачахлы ад сваіх думак, і раптам здумеўся: з-за прычыненых дзвярэй у палату зірала рудое, з вільготным бляскам, лупаценькае вока — там за дзвярыма стаяла Хрысця. На смуглявай шчацэ ад прытоенай нецярплівасці іграла гарачая чырвань. Лупаценькае вока раптам прыжмурылася, і чарнявая галоўка з падстрыжанымі караткаватымі валасамі хіснулася, клічучы Імполя ў калідор.

Ён, падхапіўшы кастыль, падняўся з ложка, азірнуўся на мужчын — тыя, вычытаўшы, што ў Фінляндыі ўводзяцца харчовыя карткі, талкавалі, стараліся ўжо разабрацца ў гэтым — і выйшаў скоранька на калідор.

— Вой і гвалт тамака ў вас.

— Я ж ім казаў — як у яўрэйскай школе.

— І пра што яны гэта? — Хрысця распытвала пра мужчынскую гутарку, а Імполь бачыў па ёй усёй — трапяткой, нецярплівай,— што думае і дбае пра іншае.

— Ды пра нейкія картачкі, што ўводзяць на харч,— сказаў ён, чакаючы ад яе нязвыклай навасці, што перайначыць сваёю важнасцю свет.

— А я не чула нешта... І што за яны?

— Ці я знаю. Ды не ў нас, а вунь у Фінляндзіі.

— Ай, такой бяды,— і пацягнула яго за рукаво шарай шпітальнай курткі з сінімі закарвашамі.— Хадзем, нештачка маю табе сказаць.

Ён закульгаў за ёю.

Яна, не аказваючыся, моўчкі ішла да нізенькай, нікім не занятай кушэткі, што стаяла ў кутку калідора каля белых шпітальных вагаў. Не азіраючыся на медсястру, якая парадкавала ў шкляной шафцы з лякарствамі, Хрысця падняла вочы на Імполя, спытала, ці ведае ён, хто там стаіць.

Імполь крадком азірнуўся за плячо:

— Міласэрная сястра.
— Змітрыка Корсака паненка.
— Няўжо?.. Што ты кажаш?
— Кажу...
— Спрытная дзеўка.
— Змітрык аж падае за ёю. У Дварчаны перабраўся.
Імполь, яшчэ, мусіць, не верачы, падазрона зіркнуў на Хрысцю. Яна, падгладжваючы сіні халацік, паверсе якога быў завязаны белы, абшыты карункамі фартушок, прысела на кушэтку, сказала ўжо з нейкай цвёрдасцю ў голасе, каб Імполь не перапытваў:
— У камітэце робіць. Мне нават паспрыяў...
— Чым? — Імполь асцярожна, абапіраючыся абедзвюма рукамі, прысеў на кушэтку.
— Кватэрку даў.
— Уга,— махнуў сваім чорным, завітым на вока чубком Імполь.— У чыім жа ж доме?
— У паліцыянтавым. І з шафаю нават.
— Угаджае сваячцы.
— Не смейся... Сам жыцьмеш.
У Імполя перахапіла, пераняло дых. Тупы боль адгукнуўся ў скронях.
— А ты?
— Як-небудзь перагораю. У Сулі перабуду які час.
— Чаго ж там марнавацца? — Імполь нечакана ўспомніў усё тое, што казаў Жэнік Рэпка.
— Пакуль твая не прыйдзе,— Хрысця ўгнула галаў, рукі то падымалі, то апускалі белы, абшыты карункамі фартушок.
— Не ўздумае...
— Не ўздумае?.. Убачыш, што яшчэ будзе.
— Жыцьмем разам з табою,— Імполь злавіў дрыготкую Хрысціну руку.
— Не дасць яна, Імполька.
— Выдумляеш.
— Чуе маё сэрца,— гэтая дрыготкая рука вырвалася з Імполевай далоні.— Завідная яна. Каб прымела — у ложцы вады ўтапіла б.
— А на ліхату яна нам.
— І праўда ж — на ліхату,— Хрысця адвярнулася ад Імполя, пазірала недзе ў канец калідора на далёкае акно, напроці якога мільгала высокая, спрытная постаць Чэсі.

Сказала ўжо надарваным ад плачу голасам: — Доля ў нас такая. Разлучыць яна нас...

Імполь, анямелы ад нечаканай навіны гэтых прыкра-балючых Хрысціных слоў, ад таго, што яна даверліва і блізка сядзела тут, учуў нейкі невядомы, нязнаны жаль да сябе. І адначасна ў душы заяснела радасць, глыбокая і чыстая, як над восень неба, што ён пойдзе ў тую кватэрку да Хрысці, дзе не будзе сварбы, крыку і Алесінай нясцерпнай злабы, што прыйдзе ў душу і абдыме ўсё іншы свет.

Але нечаканая абложная хмара засланіла гэты ясны свет — успомнілася тая надоечы грозлівая перасцярога Жэніка Рэпкі: «Скажы, каб прыпынілася!»

Імполь абвёў позіркам Хрысцю — проці яснасці акна чырванню адлівалі яе рудыя, што выбіліся з-пад хусткі, валасы, на шыі за белым каўнерыкам чарнела малюсенькая бародавачка.

Цяжкаю гарачынёю Імполь дыхнуў на яе:

— А чаго ён, Рэпка, страшыць цябе?

— Хіба не знаеш? Помсціць. Балазе Змітрык заступіўся, [redacted] то рады не было.

— [redacted] яму сённячы таксама...

— Ай, не чапайся,— сказала яна ціха і прыгнулася яшчэ ніжэй.— Досіць адной звягі.

— Чаго нам усяго баяцца,— Імполь падсунуўся і злавіў яе за цёпла-круглае, што палахліва турзанулася, плячо і павярнуў да сябе.— Можа, досіць, і так каторая пара ўсяго баімося.

Яна заківала галавою, нічога не гаворачы, і ў мокрых вачах яе свяцілася і ззяла патайная глыбокая радасць.

## XX

Як кожная бяда, такое здарылася нагле і неспадзявана.

Корсак толькі помніць, што падняўся з ложка, борзда ступіў у каламутны поцемак хаты і, учуўшы звінючы шум у галаве, мякка паляцеў у чорную прорву. Падаў, здаецца, бясконца, як на той свет. Балазе не трапіў патыліцаю на пліту, на цагляны кант. Яшчэ бог сцярог. Прыйшоў да памяці і ачуціўся ўжо на падлозе. Нават здзівіўся, што за праява, чаму ляжыць тут, чаму кружыцца,

як у п'янага, галава, нудна, па-камарынаму, звініць у вушах?

Якую хвілю ляжаў абыякавы і нават не чуючы халоднага страху, што мог памерці, што было б па ўсім — клопату, гараванні, крыўдзе. Брала ізноў дзіва, што ён раўнадушны і не прымаецца душою да неспадзявана горкага свайго канца.

У вушах стаяў, не сціхаючы, густы нудны звон. Аглушаны ім, асалавелы і яшчэ не ачуялы, Корсак памалу, ловячы рукамі тоўстую ножку драўлянага ложка і халодны кант пліты, падняўся з падлогі.

Прылёг на ложак, чуючы, як гідка, аж да ванітаў, кружыцца галава і не аціхае, точыцца ў вушах танюткі звон. І толькі цяпер азызлым смаўжом пад сэрца падпоўз страх, што так неспадзявана на адзіноце, нікім не аплаканы, не адгараваны, і памрэ.

Але спалохаўся не смерці, а таго страшнага, што будзе ляжаць у хаце скарчанелы, як праляжала леташняй зімою на глухім хутары ў Лудзічах адзінокая кабета. Разам з двухгадовай унучкаю, якую прынясла на хутар дачка. Дзіцятка ўжо зайшлося ў астылай хаце ад холаду ды плачу. Яго знайшлі ў кутку пад сталом — яно трымала ў спруцянелай ручцы сыры бурачок. Ела з голаду.

Успомніўшы пра смерць маленькага дзіцяці, Корсак нібы ачуняў і з гарачкі падняў галаў, але перад вачыма зноў з абрыдлым звонам закружыўся, паплыў шары поцемак хаты.

Млеючы сэрцам, што прыйшла, неўспадзеў падкралася немінучая смерць, ён у пакорнай зморнасці апусціўся на падушку. У скроні стукаў тупаваты боль, перад вачыма беглі, кружыліся, як на снуйніцы, чорныя маткі, і, здаецца, сам ён кружыўся і ляцеў у бясконца чорную пустэльню. І спадцішка падкрадваўся нейкі млявы, нядужы спакой, і глыбокай цёмнай вадою абдымала халодная абыякавасць. І яму ўбачыліся сцішныя ў замшэлым хвойніку могілкі, дзе пад дубовым пацямнелым крыжам ляжала Караліна, блізка якога апаў, зарос і зраўняўся з зямлёю недагледжаны капец старой Альжбеты, якую пахавалі праз тыдні два пасля Караліінай смерці.

Нямоглая, змучаная хваробаю, з белым, як папера, тварам, Альжбета яшчэ прыходзіла на пахаванне, каб пажаліцца ўжо яму, Корсаку: «Мяне, Уласка, і смерць не бярэ, а тудака паміраюць гэтакія маладыя». І разжальбі-

ла яго больш за іншых. І ён тады, стоячы на надворку і чуючы смяртэльны ўжо холад яе рукі, што астаўся на яго руцэ, заплакаў наўзрыд. Спачувалі яму ўсе — хто шчыра, хто не, а той-сёй нават дакараў: «Сціхні, жывым у зямлю не ляжаш. Што ты рукі заламаў? Свет абновіш?» Ад гэтага зласлівага спачування ў Корсака заходзілася пякучым болем і дрыжала сэрца. Хіба можна было перагараць, што Караліна памерла ў сорак адзін, а яму без двух было пяцьдзесят. Той мужчынскі век, калі ні жаніцца нанова пры дарослых дзецях, ні аставацца ўдаўцом.

Сам ён і не хварэў да сёлетняга года. Каб не тая прышчака з канём, якога неўспадзееў укусіў шалёны сабака, каб не Змітрыкава палітыканства, што нарэшце-такі заагнала, упякло яго ў турму, то ён, Корсак, пэўна, і не асунуўся б гэтак са здароўем, як надрэчны стромы бераг, падмыты вадою. Так неспадзявана і так ціхенька.

Змітрыка, як сабаку да рэзні, пацягнула ў Дварчаны. І помачы ад яго як не было, так і няма. А тут памірай ці не памірай, а трэба рабіць. А спытай, чаго ён туды бяжыць, на ліхату яму гэтая палітыка — мала адной турмы? Але, кажуць, там улягае за нейкаю паненкаю. Няўжо дзевак у вёсцы няма? Ці ўжо свет клінам сышоўся? А можа, і так: некалі ж сам, апроч Караліны, нікога не бачыў.

І Корсак схамянуўся, што думае пра жывое, значыць — жывы і сам.

З прытоенай асцярогай прыслухаўся да сябе: у вушах аціх той вялікі і страшны, як паводка, шум, што заліў і заглушыў усё. У хаце стаяла чуйная, шапаткая ціш і душыўся густы змрок позняй асенняй раніцы. Глухавата ў абкладзеных сухім картаплянікам і кастрыцаю курніках, расцяжна, наперабой спявалі пеўні. Галасней і бліжай за ўсіх хрыплавата адклікаўся свой — маладзы. Старому Корсак адсек на калодцы галаў тады, калі з турмы вярнуўся хворы і нядэшлы Змітрык, каб зварыць яму булён ды адходваць і падняць на ногі.

Як учора зарэзаў худога, што збегаўся за чужымі авечкамі, барана. Адзін ледзьве адужаў падвесіць у сенях за бэльку, каб злупіць аўчыну. Усюды адзін, як палец. Ні загаварыць да каго, ні пажаліцца. А аднаму, як кажуць, нават у гаршку няспорна. І з кім жа есці тую скварку?

Лапатку занёс Алесі. А яна замест таго, каб дзякуй сказаць, дакарала: «Тата, а Змітрыку трэба». І ён ужо не стрываў, нат заліўся ад крыўды ды жалю слязьмі: «Няў-

жо ж Змітрык за стольki дзён не дабярэ, не знойдзе часу, каб адведаць бацьку? Няўжо? Жарты табе, пайшоў з дому і — не знайся».

Успомніўшы пра Міцю, Корсак успомніў пра сваю дасаду на яго, вышакутаваную, перадуманую не раз у доўгія і сырыя асеннія ночы, калі стыне душа ад шорхату шчодрага граду па тыльнай, глухой сцяне хаты, ад моцнага вятрыскі, што нудна падсвіствае за вугламі і гне страхатліва-трапяткую бярэзіну. Марудна, паволі Корсак падняўся на ложку, учуўшы неўгаданую ўжо моц у сабе, і нават зарадаваўся, што трохі акрыяў, бо пара паліць у печы і даваць скаціне.

Неакрэплыя яшчэ мяккія ногі гнуліся і дрыжалі. Асцерагаючыся, каб не ўпасці, і ловячы рукамі пліту і лаўку, Корсак памалу дайшоў да дзвярэй. Свежы, вільготны холад настылых сяней дыхнуў на яго, ачуціў ад соннай зморанасці.

На дварэ стыла прыхопленая прымаразкам позняя раніца. Хрыплаватым маладым голасам у курніку душыўся неацiхлы заядлы певень.

За пруткім чорным галлём прысадаў тлела жоўтае далёкае акно.

— Гэтыя не заспяць,— калючы клубок ні то злосці, ні то зайздрасці перавярнуўся ў Корсакавых грудзях.

Свяцілася акно ў Мікітавых — нізенькай, не павярнуцца, хатцы з вялікай, як пчаліны рой, сям'ёй. Чатыры сталыя дачкі, якім не шанцавала на замуства, сядзелі пры бацьку. Старэйшая з іх цяпер рабіла на сушні, што была пры тартаку, і раненька бегла ў Дварчаны. Днямі Корсак, перастрэўшы яе на вуліцы з дзяружкай пачарнелых яблык і лупін, што нясла карове, спытаў, здаецца, і занадта далікатна, ці не бачыла Змітрыка, а яна як бзыкне:

— Ці я знаюся з вашым Змітрыкам. Ён — начальнік. Цяпер голай фігай носа яму не дастанеш.

— Ну й я свінні не таварыш,— адсек Корсак, а ў самога ў сэрца нібы ўпілася страмяка крыўды і прыкрасці.

Цэлы вечар учора не мог перагараць гэтай гутаркі.

Цяпер, прыпыніўшыся на вострым сырым ветры і пазіраючы на жоўтыя слепаватыя вокны, завешаныя рваною, варухлівай сеткай пераплеценага галля, учуў, што яго зноў разбірае ўчарашняя крыўда і злосць.

Ужо трохі акрыялы, падужэлы ад гэтай злосці, стаў забывацца пра смерць і думаць пра гэтае ўпіканне.

Дзіва бярэ, але чалавеку ніколі і нічым не ўнаровіш. Што ж благое зрабіў Змітрык тым рыжым, насатым і састарэлым Мікітавым дочкам? Нічога! Як нічым не правіўся перад ім і сам Корсак. А бачыш ты, і яна ўжо начальствам папікае і пра роўнасць гаворыць.

Корсак захліснуўся ад моцнага скразняку, што дзьмуў з-за гумнаў. Пад застрэшкам палахліва шамацела салома, і ўпоцемку на зямлі шорхала, затоена шкраблося, як мыш, невідушчае, падварушанае ветрам апалае лісце.

Адтуль з-за гумна густы расшуганы вецер раптам данёс і зноў сарваў і заглушыў невыразны мужчынскі голас.

Слізгаватаю, тлустаю сцежкаю, незнарок натыкаючыся на калючы дрот каля паграбка і ўголас кленучы яго, Корсак няспешна пайшоў туды.

Прыстакнуў, аддыхаўся ў зацішку за гумном і рушыў паволі на вуліцу да Мондравых будынкаў, што танулі ў шарым, ужо трохі разведзеным сіняватасцю позняга дня настылым поцемку. І раптам здумеўся і перапудзіўся ад здушанага ні то плачу, ні то голасу. Ногі пацяжэлі, наліліся млявасцю.

— Гэта ж во чула, Аляксандрачка? — пытаўся нібы стары Літавар.— Цалюткую ноч не далі спаць.

— Што вы кажаце, дзядзька Антось, няхай бароніць бог!

— Мае дзеткі, няхай крые і не дапускае.

Абамлелымі, непаслушнымі нагамі Корсак закоўзаўся на раскіслай сцежцы, што, абагнуўшы крутою лукою гумно, выбягала да вуліцы.

Каля шчытнага плота, зліваючыся з яго чарнатою, стаяла некалькі кабет — над восцем частаколін вытыркаліся чубкі іхніх суконных хустак, а над імі ўзвышалася галава ў нахіленым набок каўпаку. Яна то ўцягвалася ў сутулыя, гарбатыя плечы, то падымалася зноў — расказваючы нейкую страшную навасць, ■ бабамі стыў на ветры стары сугнет Антось Літавар.

Забыўшыся пра тое, што кружыцца ў галаве, што адымаюцца ногі, Улас Корсак падышоў да ўстрывожанай грамадкі верасаўцаў, чуйна наставіў вушы.

За весніцамі бялела тварам ледка, у адным сачыку, адзетая Алеся.

Яна, першаю згледзеўшы бацьку, асцярожліва, каб, мусіць, не перапалохаць яго, спытала:

— Тата, мусіць, не чуў?

— Гэ, калі ж ён ускораў? — падмахнуў абедзвюма рукамі і павярнуўся да Корсака стары Літавар.

— Ігнат Сёмуха памёр.

— Чаго ж гэта? — адступіўся ад купкі верасаўцаў і зноў падышоў Улас Корсак; ад скорай хады ў яго спацеў, змакрэў лоб.

— П'яны быў і захліснуўся ў раўчаку каля Грабянкавай стайні,— шмаргнуў рукавом пад сваім змерзлым носам Літавар.

— Цяпер жа пачалі піць, няхай бог адносіць,— абазвалася ні то санлівым, ні то прастудным голасам Ваўчкова Вольга.

— Балазе гарэлка танная, чаму ж не піць.

— А асадніцкае збожжа дарагое...— засмяялася і скурчылася ад холаду Іконава Алена.

— Няўжо прадаюць?

— Канюшыну вэньдзека... Насенне. А яно ў цане,— падняла галаў і заплюшчыла лупаватыя вочы Ваўчкова Вольга.

— Усё вы падцікуеце, усё знаеце,— уздыхнуў Корсак, ужо ачахлы ад гэтай прыкрай навасці пра брыдкую, нечалавечую смерць Ігната Сёмухі.

— А што тут ужо знаць? — выцягнуў з сутулых плячэй сваю галаў Антось Літавар.— Кожны дзень прыходзіў, як мурза набраўшыся гароху. Анюту сваю ледзьве не захвастаў. Не раз з плачам прыбягала сярод ночы, прасіла майго Броніка, каб прыйшоў ды звязаў яго. Рады не было.

— І мой памагаў,— не ўтрывала, каб не ўткнуць свой язык, Ваўчкова Вольга.

— Чаго ж гэта я нічога не ведаю,— Корсак пахіснуўся на плот, схапіўшыся рукою за слізкую, азызлую частакаліну: перад вачыма зноў закружыўся, пабег шары, прарэджаны ранішняй сінечай свет.

— Надоечы во... Пяцёра мужчын ледзьве далі рады, ледзьве збарукалі,— сказала прысадзістая, з шырокім тварам і задзірыстым, трохі пляскатым носам не вельмі гаваркая Алена і схавала ў рукавы ватняга каптаніка пакрэплыя ад холаду рукі.

— Дзіва што. У дурнога ды п'янага ўтройваецца сіла.

— Няхай крые бог!

— І праўда, любка, хай не дапускае. Па вёсцы, як ашалелы, лятаў.

— Мяне ж начыста перапалохаў.— Алеся тужэй сціснула на грудзях расхрыстаны сачык, уздрыгваючы і ад золкага холаду, і ад таго, мусіць, нядаўняга здарэння.— Як загрукаў у дзверы.

— Было б ужо грашно, каб да цябе сярод ночы не прыйшоў,— прыскаліў адно вока і скрывіў рот, з'едліва ўсміхаючыся, шчарбаты Літавар.

— Чаму ж гэта, дзядзька? — сцялася ў злосці і скамянела трохі Алеся: успомніла, як стукаў у акно яго Бронік.

— Пытае — чаму, мужыка свайго ў салдаты аддаўшы.

— І праўда што,— зарагаталі бабы, раптам забыўшыся пра чужую бяду ды гора.

— Знайшлі калі жарты строіць. Але ж іншаму чужое не баліць,— Корсак адапхнуўся ад плота. На вачах кру-ціліся слёзы ад злосці, што і пажаліцца няма каму. Не раскажаш тут на вуліцы, што таксама хацеў памерці.

— Тата, куды ж ты? — Алесін голас сарваўся, ахрып.— Зайшоў бы ў хату.

— Ат! — ён навотліў махнуў рукою.

— Тата, чуеш? — яна, чвякаючы на раскіслай сцежцы, дагнала яго пад гумном, заступіла дарогу.— Ты нейкі як сам не свой.

— Будзеш тут сваім ці чужым. Ледзьве не памёр.

— Матка святая, калі ж гэта?

— Надоечы во... Без памяці на падлозе ляжаў.

— Вой, так у хату зайдзі, я пашукаю якое рады.

— Грэх слухаць, ад смерці яна хоча раду знайсці.

— Ваўчка мо паклічам?..

— Хіба для смехаты. Напытала доктара,— не падымаючы галавы, Корсак абмінуў Алесю і паслізнуўся на мокрай траве.

— Я зараз падбягу,— гукнула яму ў спіну Алеся.— Дзіця толькі пагляджу... Спіць выкупанае.

— Вот яшчэ што выдумала... Пільнуй дзіця,— абярнуўся ён, бачачы, як Алеся варочаецца да купкі верасаўцаў, што стылі каля плота, не думаючы разыходзіцца і абгаворваючы наглую бяду, што прыйшла ў вёску разам са смерцю Ігната Сёмухі.

Корсак нават распазнаў высокі, трохі гугнявы, як у нос, Вользін голас:

— Некаторага дня грошы на газеты збіраў. Казаў, што выпісваць будзем вобшча.

— Кінь журыцца, перагарaеш без газет. Пашкадуй чалавека,— перабіўшы яе, расцягваў словы Літавар.

— Што яго, дзяцей шкода.

— Старая хвалілася,— зласліва аказалася Іконава Алена,— што Ігнат на цэлае жыццё ўсяго нанасіў...

— Гэ-э, нехта хітры казаў, што не збірай дзецям пасагу, а збірай розум,— шапялявячы шчарбатым ротам, сказаў і засмяяўся Антось Літавар.— На чужом не разжывешся. Хай не думаюць...

Корсаку здалося, што Літавар упікаў яго, і пякучы агонь помсты палыхнуў у душы; можа, і Змітрыка гэтак абмаўляюць ды бэсцяць. Сёння аднаго, заўтра іншага. Верасаўцам абы памянціць языком. Але пра такую смерць брыдка і гаварыць. Хто не нарадзіўся, той не памрэ, але каб гэтак...

І Корсак трохі ачах, падумаўшы пра сябе. А хіба знае чалавек, што прылучыцца з ім? Але не дапускай, божа, памерці так, як жывіна...

Корсак дайшоў да паграбка, абгароджанага калючым дротам, пастаяў, няўцямна пазіраючы, як свіцяцца дрыгатлівыя набрынялыя кропкі на вострых, наўскос зрэзаных калючках, і душу абняла гарката, што на свеце няма роўнасці — ні ў жыцці, ні ў смерці.

Бо за што, за якую правіннасць гэтакая бяда ўпала на Ігната і чаму так рана і неміласціва абарваўся век яго Каралiны?

Выяснiваўся волкі і сыры асенні дзень, з блізкага коміна пахла гаркаватым дымам ад алехавых дроў — нехта напальваў печ, каб, мусіць, пячы хлеб. У хляве рыкала нядоеная ды някормленая карова. Корсак дайшоў да хлява і збоку яго, дзе прыляпіўся курнік, адшчапіў дзверы.

Слепаватыя пасля ночы куры з сонным лопатам вылята лі з цёмнай праймы дзвярэй. Астатнім выйшаў чырвоны, з залацістай шыяй, певень.

Абмацваючы ў кішэнях кованы з пляскатым абслізганым язычком ключ і нарэшце ўспомніўшы, што не замыкаў хаты, Корсак падышоў да парога і здранцвеў, застыў ад цікаўнасці і дзіва: каля вугла пад страхою, упіраючыся хвастом у дзеравіну, сядзеў і малаціў дзюбаю ў глыбокі ўжо жалабок стракаты, з чырвоным запатылкам дзяцел.

Праява! Корсак першы раз бачыў, каб сцяну дзёўб дзяцел. І чаму з ляску прыляцеў сюды, няўжо там не знайшоў змарнелай сухой хвойкі ці шышак?.. Цуд, ды ўсё!

І, падступаючыся асцярожна да дзятла, падумаў з маркотаю, што аджыў век не толькі сам, а нават хата. Бачыш, як спарахнела, развяла шашаля, што нават дзяцел сеў, як на мёртвую сухастоіну. Няўжо надышоў, настаў канец усяму, нават хаце?

Дзяцел азірнуўся, потым дзеўбануў разы са два шылаватым дзюбком у трухлявую, сточаную шашалем дзеравіну і пырхнуў за вугол хаты, прарэзліва і палахліва піскнуўшы там.

А Корсак, задраўшы галаў, яшчэ глядзеў на неглыбокі, выдзеўблены ў дзеравіне жалабок, і горкая маркота смактала душу, што, можа, гэта нядобры знак: нешта прыняслa, нешта ж указала пташка.

І ў галаву зноў хлынуў густы звінючы шум. Перад вачыма паплыў застрэшак і жоўтаю, не выгаралаю на сонцы саломаю і тоўстымі канцамі крокваў.

Злавіўшы рукою шурпатую дзеравіну і заплюшчыўшы вочы, Корсак нерухома застыў каля сцяны. У вушах зноў ныў, то мацнеючы, то заціхаючы, той самы танюткі, абрыдлы і нясцерпны звон. І моцна, як вытрываць, балела галава.

З здранцвення ачуціў ляскат калёс, цяжкі глухаваты тупат разагнанага каня і звон вупражы.

— Тыр-р-р! — голас фурмана нападобе быў як знаёмы.

Корсак адкрыў вочы і памалу, наровячы ўжо не ўпасці, павярнуўся на грукат фурманкі.

Дагледжаны, цёмна-сівы, у яблыкі, конь, задзіраючы падцятую мштукамі храпу, спыніўся каля адсырэлай жардзяной брамы.

З брычкі, закіданай сырой, цёмна-зялёнай, мусіць, прымерзлай серадэляй, саскочыў, каб адчыніць браму, ён — Міця. Корсак аж заікнуўся, вымаўляючы гэтае кароткае:

— Змітрык?

— Я, тата,— хрыплаватым, трохі пачужэлым голасам адазваўся Міця. Пачужэлы і нездароўчы быў ён і сам, твар зблажэў, завастрыўся, шчокі паўпадалі.

Чуючы, як раптоўна жалем шчыміць сэрца, Корсак нямогла ступіў да брамы, падаў Міцю сваю шурпатую, як тарка, і халодную руку. Папытаў, азіраючыся на брычку:

— З кім жа ж прыехаў?

Там на лаўцы, трымаючыся за фігурную скобку, сядзеў чырвонавуграваты, са зросшымі чорнымі бровамі, чужы незнаёмы хлопец, адзеты ў не тутэйшага фасону паў-

шубак, падпяразаны шырокай вайсковай папругай. На меднай спражцы блішчала начышчаная зорка.

— Гэта следчы з Наваградка.

— А чаго ж ён тут?

Міця павярнуўся да жардзяной брамы, адшчапіў яе і, адносячы да плота, сказаў ужо адтуль:

— Па справе Ігната Сёмухі прыехаў.

— А ты як?

— Ды так во,— Міця ўзяў за вобруць дагледжанага сівага каня, асцярожна, каб не зачапіцца колам за шула, выкіраваў яго ў двор.

Саскочыўшы з брычкі, сюды, пад Корсакаву хату, пільна аглядаючы ўсё з-пад шырокага брыля выцвілай кепачкі, ішоў асадзісты мужчына.

— Ты ж не ўсунься хоць,— Корсак адступіўся да сцяны і сказаў Міцю ўслед.— Тут ужо столькі плётак з гэтай смерцю.

— А што кажуць?

— А тое, што й было. Да гарэлкі ён быў мэт. Ды і рукі трохі пагрэў на асадніцкім збожжы.

— Прыкладаюць больш. Бо яшчэ невядома, якою смерцю ён памёр. Маглі і ўткнуць у тую жыжку.

— Глядзі ды шануй сябе,— Корсак падазрона зіркнуў на следчага, але не ўтрываў, сказаў, што думалася.— Цяперака так. Хоць, можа, век было. Галавою пад корч, а потым спачувацьмуць.— І перабіў сябе, зазіраючы пад капеж і паказваючы туды рукою:— А тут праява во. Я стаяў, як маленькі, ды дзівіўся, бо век зжываю, а такога не бачыў...

— Што ж там? — Міця хапіў з брычкі бярэмя серадэлі і, цярушачы яе на брук, кінуў каню.

— Дзяцел сцяну падзёўб.

— Неужто он? — задзёр свой шырокі брыль чарнабровы асадзісты следчы.

— Толькі што пырхнуў адсюль.

— Ты, бацька, пэўна, паснедаў,— засмяяўся Міця,— таму і на дзятла пазіраеш, а мы як з галоднага краю.

— Ды я бачу — з'ехаў наўнэт. Саўсім ачах. Барана я ўчора зарэзаў, то мо возьмеш лапатку?

— Чаму ж не вазьму... А цяпер пакармі чым.

Міця, прытупнуўшы чаравікамі на ружовым камені перад парогам, адчыніў сенечныя дзверы і галавою паклікаў следчага.

— Булён, калі не скіс, учарашні стаіць. А сённячы нічога не варыў,— Корсак ступіў да парога і зноў самлеў ад цяжкай і раптоўнай задухі ў грудзях.

— І не снедаў? — ужо ў хаце спытаў Міця.

— Дзе там, нават печы не запальваў.

— Як? — здзівіўся Міця, вешаючы свой прапахлы ветранінай каптан на доўгі зубок драўлянай, прыбітай між вокнаў вешалкі.

— Паміраў усю раніцу,— Корсак учуў, як у яго змяніўся і задрыжаў голас.— Без памяці вуньдзека ка падлозе ляжаў.

— Што ты кажаш, тата? Няўжо?

— А тое і кажу, сынку, што было.

Асадзісты, з чорнымі, што зрасліся на пераноссі, бровамі і гэтакімі ж чорнымі, ажно сіняватымі, валасамі — калі ён скінуў шапку,— следчы маўчаў, ■ пільнай увагай і інтарэсам паглядаючы на ўсё тутэйшае ў хаце: на абраз у покуці, на нікеляваны крыжык на трохкутніку, на рамкі з карткамі. Нарэшце павярнуўся да Міці, лёгенька штурхануў яго локцем:

— Слушай, а может, в больницу папашу надо бы?

— Тата, і праўда, можа, у бальніцу цябе адвязці? — трохі асцярожна і няпэўна спытаўся Міця, стоячы над бацькам, што зняможана прысеў на лаве, трымаючыся за яе абедзвюма рукамі. У яго паставе было нешта смутнае, і Міця жахнуўся і схаладзеў, падумаўшы, здаецца, першы раз пра тое нечаканае і страшнае, пра што ніколі яшчэ не думаў — бацька доўга не пажыве.

— Тата, можа, праўда... у бальніцу.

— Не,— пакруціў галавою Корсак.— Ніколі не хадзіў да дахтароў і не пайду.

— А што тут выседзіш?

— Што ўжо бог укажа,— Корсак памалу ссунуўся з лавы, пайшоў, як п'янаваты, за пліту да ложка.

Задаўненая ўжо крыўда і гарката на сына, што марнее, прападае і гіне яго маладосць, што ўжо адбіўся ад рук, ад дому, завірыла кіпнем у душы. На вачах замільгацелі, засланяючы свет, пякучыя слёзы. І ўсяго агарнула жальба да сябе, што ён памрэ тут адзінокі і нікому не патрэбны. Але ці вінаваціць толькі яго, сына. Так ужо склалася, так ужо ідзе жыццё. Так было з веку і так ёсць! Але гэтая крыўда, здаецца, ужо вырвалася сама з грудзей:

— А ты чаму пра мяне забыўся? Жарты, за столькі

дзён ні разу не праведаў? Не знайшоў калі? А я думаў, у мяне сын ёсць...

— Тата, даруй,— Міця рвануўся туды, за пліту.

Бацька, падклаўшы пад галаў рукі, ляжаў на ложку. У куточках заплюшчаных вачэй насачыліся і стаялі слёзы маркоты і крыўды.

# XXI

У самых Дварчанах, ужо за грукатлівым, высланым дошкамі пераездам, у развілках брукаванай шашы, дзе, распасцёршы крыжавіну, падымаўся высокі, в дзеразовым вянком крыж, Алеся нагнала «чырвоны абоз». З'ехаўшы з ружаватага, прыцярушанага ячнай саломай бруку, ад якога пераварочвалася ўсё ўсярэдзіне, на мяккую абсівераную абочыну, яна падагнала каня — воз без груку ўжо, нават зашапацеўшы пяском, пакаціўся ўздоўж высакаватага насыпу шашы, абганяючы ўбраныя ў папяровыя кветкі і стужкі марудныя фурманкі. На пярэдняй, прыбіты за дрэўка да шырокай дугі, лапатаў і трапятаўся на сіверным тугім ветры чырвоны паркалёвы флаг. У раскалмачанай конскай грыве чырванню гарэлі паўпляцаныя каснікі.

На белых, гладкіх, нібы япрукі, насыпаных пад завязку палатняных мяхах па-гаспадарску важна сядзелі сталыя мужчыны і выскаляліся, трохі асалавелыя ад прыгубленай чаркі, маладыя хлопцы ў зухавата падбітых набакір кепках.

На другім возе, крута нахіліўшы галаў і прыплюшчыўшы адно вока, рыпаў на зялёна-перламутравай гармоні мардаты, з бурачковым ад перапою тварам гарманіст.

— Урэж польку! — гукнулі, каб перакрычаць нудны хрыпата-басавіты голас гармоні і сухі рыпучы грукат гружаных вазоў, падпітыя хлопцы.— А то ўсё цягнеш ногу на дарогу.

— І праўда, рыкае, як тры дні не еўшы.

— Зайграй мне, што нічога няма ў гумне! — подбегам пайшоў, каб дагнаць падводу з музыкантам, малады з быстрымі вачмі хлопец.

— Чаму табе?

— А каму ж? — падсеў на музыкантаў воз чарнявы, нечым падобны да Імполя хлопец.

— Можа, маладзіцы? — павярнуўся да Алесі і выскаліўся музыкант.— Бачыш, спраўная: і дзіця ў руках, і лейцы. І конь з раўком на крыжы. Пародзісты.

— Ды ўжо не такі гарбаты, як у цябе,— не ўтрывала Алеся, хоць ведала, што гэтая гутарка лішняя, тым больш з п'янаватымі мужчынамі.

— А конь і праўда хоць на выставу вядзі.

— Няўжо сама дагледзела? — спытаў з першага воза мужчына з ганарыста падкручанымі вусамі.

— То хто ж.

— А мужык дзе?

— У войску,— не прызналася Алеся, дзе Імполь.

— Тады і я прыйду, аўса ўсыплю,— прыскаліў адно вока чарнявы хлопец.

— Аказаўся. Там ёсць каму сыпаць,— гарманіст расцягнуў гармонію — яна задыхнулася, засапла — і за пераборамі зайграў польку.

Сустрэчная прыгорбленая кабета, што сукаватым кійком мацала дарогу, адышлася да высокага, пазелянелага ад доўгай сырой восені дашчанага плота і крыкнула Алесі, паказваючы шчарбаты рот:

— О, вясёла!

— Дзіва што! — Алеся лейцамі паварушыла каня, каб выперадзіць абоз.

— Як на вяселле ляцяць. Моглы і нямоглы — усе бягуць і едуць,— адазвалася зноў з-пад плота баба з сукаватым ялаўцовым кійком.— Каб да касцёла так беглі.

— Кончыўся касцёл, цётка, настала кіно,— крыкнулі ёй з воза.

— Ды ўжо ж выракліся ўсяго.

Алесі пад сэрцам зашчымела раптоўная і гарачая брыдкасць: колькі ж сама не была ні ў споведзі, ні на малітве святочнай. Забылася нават і пацеры перад сном згаварыць. Грашно прызнацца каму — здзічала саўсім.

Чорна-шарая, перамешаная тут з вугальным шнурам і зацярушаная сіваватым, як накачаны ворс, снегам бакавая дарога выбегла на шашу. На вялікім глыжаватым каменні воз затрасло, разбудзіўшы ўкручанае ў ватняе коўдра дзіця. Хлопчык закугакаў, перапудзіўшыся, пэўна, гэтага нечаканага грукату колаў.

Алеся адкінула ражок коўдра — хлопчык крывіў тварок, круціў ім, шукаючы выслізнутае з ратка сусла.

— Не спіш,— загаварыла, пазіраючы на цёмна-сінія шчылінкі вачэй. Хлопчык, учуўшы голас, павярнуў дробны з задзірыстым носам тварок, зіркнуў насцярожліва гэтымі сінімі запухлымі вочкамі.— Да бацькі паедзем, чуеш?

Сінія вочкі застрыглі, нібы разумеючы ўсё, глядзелі на Алесю.

— Пакажам, які ты вырас.

Хлопчык натужліва надзьмуўся і кракгануў, ловячы шчакою сусла.

— Уга, ці пазнае цябе.— Вочкі быстра маргнулі.— А можа, ужо не прызнае нас. Другое гняздо завіў.— Дзіця слухала, раскрыўшы трохкутнік бяззубага роціка. Потым яго вочкі прымружыліся, забегалі ў дрымоце. З куточка рота турзануўся, пабег на шчаку смяшок.— Табе смех,— Алеся закінула ражок ватняга ў белай похве коўдрачка, падсунулася вышай на шапаткой канюшыне. Дагнаўшы воз, у плечы гарачаю парай дыхаў сіва-цёмны сыты конь з чырвоным, прыбітым да шырокай пафарбаванай дугі флагам.

Нагружаны збожжам абоз сыпаў з-пад колаў на гладкім утрамбаваным камені раструшчаны звонка-кароткі ляскат. У завулках, між местачковых дамоў з цаглянымі ад пажару тыльнымі сценамі, пругкім высокім водгаласам адбівалася рэха, глух рып старое неналаджанай гармоні.

Расхрыстаныя, спешна адзетыя мяшчане, накінуўшы наапашкі незашпіленыя капцанікі і польты, выбягалі з дамоў, выцікоўвалі з-за высокіх брамаў.

Згледзеўшы цікаўных мяшчан, каля воза пусціліся ўпрысядкі, б'ючы нагамі па ўмерзлай, закурэлай абочыне і прытрымліваючы кепкі, два п'янаватыя абознікі. Разгарачоны гарманіст, нервова затурзаўшы гармонь, утнуў вясёлую «барыню».

Алеся азірнулася на гэты нечаканы галас абознікаў.

Падсвіснуў і, трымаючы абедзвюма рукамі за полы цёмна-карычневага бурноса, пачаў раскідваць ногі, то прысядаючы, то падымаючыся, мажны, з ганарыста падкручанымі вусамі мужчына. Твар яго чырванеў ад натугі і ліпняга старання.

Падвяселены танцам гарманіст нахіліў вуха да стракатых чорна-зялёных мяхоў з жалезнымі паўкруглымі кантамі.

— Сып, дзядзька, сабе намалоціш! — крыкнуў ён,

плюшчачы ад ярасці вочы і перакрывіўшы ў брыдкай міне твар.

Паволі ідучы каля гарманіста, узмахвалі рукамі і падляскалі ў далоні ўмакрэлыя і ўжо зmораныя хлопцы.

— Ну-ну, Трахім, не паддавайся! Падатры нос гэтым смаркачам.

— Падатры, дам тры!

— Ого! — крычалі, падахвочваючы сапраўды дужага, што, мусіць, не даваў спуску ў танцах, дзябёлага спраўна і чыста адзетага мужчыну.

Ад задняга воза рванулася сюды чырвона-рудаватая, паўнашчокая маладзіца ў клятчатай махрыстай хустцы. Прытупнула чорнымі з высокімі халяўкамі чаравікамі і, падымаючы каля ружаватага камення сухі, перамешаны з нацярушаным снегам пыл, заспявала, расцяжна і звонка:

Чаму, мілы, не прыйшоў,
Як я цябе клікала?
Усю ночку на палочку,
Як цялушка, мыкала.

Пад суха-шапаткімі, што не асыпалі ўсё сваё лісце, жоўтымі бярэзінамі, цяжка парыпваючы, перавальваліся і падрогвалі вазы. Натужваліся, траслі доўгімі, неастрыжанымі грывамі коні. Хрыплаваты, пракураны мужчынскі голас памагаў кабеце:

Адзін састаў
Тапарышчам стаў.

Алеся адвярнулася, суха плюнула, падагнала каня, за белым цагляным домам завярнула на бочную вуліцу.

Учуўшы расцяжна-глухаваты рып гармоні, прысвіст і дужы рогат, асіплы — на ўсё горла — спеў, людзі прыспешвалі крок, каб скарэй выйсці з глухаватага, прыцярушанага сівым пухам снегу вузкага завулка на брукаваную вуліцу.

— Што ж гэта тамака? — падняла на Алесю свой кругляві курносы твар з-пад вялікай, накінутай на плечы хусткі васпаватая маладзіца.

— Чырвоны абоз,— усміхнулася Алеся.

— Збожжа для Краснай Арміі вязуць,— гукнуў з другога боку вуліцы руды мужчына ў белым нядубленым кажушку з караткаватымі рукавамі.

— Разумны такі. А чаго спяваюць?

— Вясёла людзям, а табе што — не?

— Адхрысціся, чалавек.

— На такіх, як ты, мусіць, трэба чырвоную гвардыю, каб яна патрасла твае засекі.

— Поп людзей карае, а сам бабу валяе,— засмяялася маладзіца.— А сам ці здаў хоць пудок?

Алеся ўжо не чула болей сварбы. Свет засланіў нечаканы напамінак пра чырвоную гвардыю. Успомніўся Імполь, злая вясковая гутарка, перамовы ды плёткі. І халодная змярцвелая рука цёткі Сцяпані, што, злавіўшы, сціскала Алесіну руку, і той балючы адчай, з якім цётка Сцяпаня сказала: «Не, дачушка мая, пойдзеш, забярэш і жыцьмеш!»

Гэта пра Імполя, калі Алеся прызналася, што брыдка перад людзьмі ды перад сабою ісці ды клікаць яго дадому.

«А не брыдка, што дзіця без бацькі расціме?» — спытала яна ў нейкай ужо раз'ятранай злосці і гневе.

Алеся пасля гэтай гутаркі ўсю ноч вачэй не магла звясці, перадумаўшы ды перабраўшы сваё жыццё, і нагараваўшыся, і наплакаўшыся сам-насам.

Нарэшце рашылася, што́ ўжо ні будзе, што ні ўчыніцца, а ехаць у Дварчаны ды забіраць Імполя.

Бо ці такі ён разважны ды разбітны, каб да чаго добрага дайшоў сам. Жыве ўсё чужым розумам. Спытай, нашто, схапіўшы шаблю, пабег у Ґрабянкаў двор?

Дурная і сама была, што не прыпыніла.

Мусіць, праўду кажа цётка Сцяпаня — трэба забіраць дадому і лячыць.

Ды як дзіцяці гадавацца без бацькі? Як?

Алеся прыгарнула да сябе лёгкі, укручаны ў мяккае ватняе коўдрачка жывы камячок, што заварушыўся, недзе вырываючы з тугога, накрыж на пялёнках перавітага пояса свае яшчэ нядужыя ручкі. Дзіця было, пэўна, ужо мокрае.

«Глядзі, які далікатны»,— Алеся пагушкала гэтую лёгкую і мяккую пампушку.

Чуючы папушчаныя, не тугія лейцы, конь паволі ступаў па пясчанай небрукаванай вуліцы, покуль не спыніўся каля жаўтлява-смалістага дома з белымі аканіцамі. Мусіць, зажадаў піць. За плотам пакалыхвалася расхістаная калодзежная стрэшка. З сухім натужлівым рыпам абслізганую корбу круціла драбнявая маладзіца ў лёгенькім капаніку і шарай канаплянцы. Згледзеўшы краем вока буланага каня, яна абярнулася і знямела ад нечаканага

дзіва — смуглявы твар яе выцягнуўся і перакрывіўся, а цёмна-карычневыя вочы вырачыліся ад нечаканасці і страху.

Халодны, балючы жах скалануў Алесю: з-за плота, вытрашчыўшы свае лупатыя вочы, пазірала Хрысця. На яе скамянелым, застылым твары ад раптоўнага дзіва турзануўся дурнаваты смех.

Алеся скоранька, падграбаючы адною рукою бліжай да сябе мяккі пакуначак са сцішаным дзіцем, другою, пашукаўшы і з гарачкі не знайшоўшы стусінавую пугу, злосна замахала на каня, каб скарэй мінуць гэтую дагледжаную хату ■ расхрыстанымі белымі аканіцамі, гэты калодзесь са стрэшкаю і гэты ненавісны, дурнаваты Хрысцін смех.

Дужы вайсковы конь ірвануў неяк знянацку і з усяе моцы. Па ўмерзлай, вывернутай тоўстымі губамі зямлі закалываўся і злосна заскрыпеў воз.

Бачачы перад сабою гэты здзеклівы, дурнаваты Хрысцін смех, Алеся даехала да зацішнай вуліцы, абапал якой пад гонкімі хвойкамі хаваліся прыгожа выштукаваныя і накрытыя мутнавата-бліпічастай цынкавай бляхай новыя дамы з заломленым дахам і двума круглымі і прадаўгаватымі, як яйцо, вокнамі ў шчыце.

У канцы вуліцы за шырокім пляцам, зацярушаным дрыготкім, як тапалёвы пух, сухім, што рэдзенька насыпаўся ўчарашняй ноччу, снегам, стаяў шара-цэментовы дом з усечаным вуглом. Далей за ім, выставіўшы чубок лускавата-гонтавага даху, хаваўся драўляны, з чорнай прааліфленай сцяною.

У дварчанскім гатэлі, які за польскім часам трымаў Моўша Хургін, цяпер была бальніца.

З трох будынкаў, што выстраіў хітры, смякалісты яўрэй — гаспадар дварчанскага тартака, ■ пры ім і невялікай сушні на яблыкі,— два канфіскавалі, а цагляная мураванка, што тулілася за крамамі каля рынечнага пляца, асталася гаспадару. Там жыў Хургін з двума жанатымі сынамі, адзін з якіх — старэйшы, што скончыў варшаўскую палітэхніку,— рабіў цяпер намеснікам дырэктара ў тартаку.

Аб гэтым ішла пагудка ў Верасаве. Учора нат пры калодзесі выскаляўся Язапат Змысла:

— Цяпер надышло іхняе панаванне...

— Няўжо? — хітра пытала ў Змыслы старая Сцяпаня, падморгваючы бабам, што збіліся ў чарзе каля калодзеся,—

А як ужо нашага Ікона звацьмеш? Няўжо назвіска яму прыйдзецца мяняць?

— Чаму? — падбіваў свой каўпак Язапат Змысла.

— Ён жа ж — Жыток.

— Ха-ха! Што будзя? — трасліся ад рогату бабы.

— Выскаляйцеся,— у Змыслы таксама крывілася і дрыжала ад смеху перасохлая, патрэсканая да крыві губа.— А Хургін як быў гаспадаром у тартаку, так і астаўся. Вот і пасмейся.

Насустрач Алесі плыў гэты шары, з усечаным вуглом, двухпавярховы дом, і сэрца яе раптоўна заныла і зайшлося ад болю: як стрэне Імполь. Мусіць, не так сабе душылася ад дурнаватага смеху Хрысця?

Быць не можа, каб нешта зноў не ўчвэрыла гэтая нямытая сучка. А ён ліпне да яе, як да малісы пчала. Ды яна сама прынаджвае ды прывячае яго. Каб на яе ліха ды нарат — умее.

Конь памалу дайшоў да драцяной, нацягнутай, нібы невад, на цэментовыя слупкі сіваватай сеткі з вялікімі вочкамі і стаў каля брамы.

Застрыгшы вушамі, трохі насцярожыўся. За драцяною сеткаю ў двары паднялася прыцішана-трывожная беганіна і гоман. Тулячыся ад холаду і сціскаючы на грудзях шарыя, аб'етыя хлёркай байкавыя халаты, на ганак выходзілі, налягаючы адзін другому на плечы, не акрыялыя ад хваробы, звялыя ў тварах кабеты і мужчыны.

Гэтакія ж нездаровыя твары сунуліся ў вокны і, расплюскваючы насы, ліплі лбамі да сухога сіняватага шкла.

Алеся павярнула каня, каб убачыць, што рабілася там, на шпітальным двары, і здумела ад жаху. З бакавога ганачка з адчыненых насцеж дзвярэй чацвёра смуглых кучаравых цыганоў, трымаючы пад днішча рукамі, выносілі сасновую ў ружаватых разводах сукоў адкрытую труну, у ёй быў відаць мярцвяна-жжоўклы твар нябожчыка з гарбавата-вострым носам. Каля трох табурэтаў, што стаялі сярод двара, знябожана застылі цыганкі ў доўгіх і густымі махрамі і вялікімі чырвонымі ружамі хустках. І жмеяю лавіў і турзаў акладзістую сівую бараду стары цыган.

На гэтыя карычневыя табурэты і няслі жоўтую сасновую труну з маладым, гадоў трыццаці, нябожчыкам, што сцяў у вясёла-кіслай, балючай міне сінія тонкія губы.

Сплятаючы над галавою рукі, немаладая з шырокім тварам і адвіслым падбароддзем цыганка адчайна заенчы-

ла, завяла высокім, мякка-хрыпаватым голасам. І ёй па-магла маладая, чарнява-лупаценькая ў доўгай з вялікімі фалдамі спадніцы.

Мужчына — мусіць, самы важны тут,— сіва-кучаравы, з залатою завушніцаю ў вуху, раптам шырока махнуў ру-камі, купа расступілася, і жоўтая труна з маладым нябож-чыкам, што нечакана і жудасна скалыхнуўся, лягла на табурэты.

Цыган з завушніцай у вуху дастаў з кішэні паўтарак [redacted] цёмна-чырвоным віном.

Алеся, захліснуўшыся ад страху, павярнула галаў на ганак, дзе збіліся ў зліпялых халатах і куртках хворыя мужчыны, але Імполя сярод іх не было. І яна пільна-ўваж-лівым позіркам абвяла вокны: сюды на цыганоў цікавалі гэтаксама чужыя твары.

І нечакана перад Алесінымі вачамі паўстаў, мільгануў той калодзесь са стрэшкай і ўчуўся перапалохана-здзіўле-ны Хрысцін смех. Штось апала, адарвалася ў душы. Сха-ладзелая ад сваіх трывожных, цяжкіх мысляў, Алеся ўжо бачыла і не бачыла, што рабілася за драцяным плотам. А там, пастаўшы абапал труны, з аднаго боку мужчыны, а з другога — кабеты, цыганы пілі [redacted] бутэлек віно, льючы недапіткі на нябожчыка і сыплючы на яго грошы.

Стары, кучаравы, сівавалосы завадатар з завушніцай у вуху, прыгожы і загарэлы ў твары, клаў у труну поўныя бутэлькі.

Бальніца — хто ўсунуўшыся ў вокны, хто выбегшы на ганак — дранцвела і дзічэла ад страху.

Зразумець, уцяміць усяго гэтага, што чынілася на шпі-тальным пляцы, ніхто не мог.

«Дзе ж ён, Імполь»,— тупы боль стукаў у скронях, сціскаў, як абручом, голаў.

Алеся памаленьку ссунулася з воза, адною рукою тры-маючы дзіця, другою — лейцы, падышла да драцяной, там-сям ужо абвіслай сеткі і, убачыўшы блізенька ад сябе каля ганачных сходаў драбнатварага, нечым лагоднага і, як па-далося, зычлівага, не ганарыстага чалавека, прыклікала, махаючы рукою яго да сябе.

— Скажыце, а Імполя Верам'я тут нямашука?

— Што ты, маладзіца,— трохі збянтэжыўся і адступіў-ся чалавек.— Німа. Дома ён...

— Як дома? — задыхнулася Алеся, і ногі ў яе саслабе-лі і адняліся.

— Можа, вы не пра таго пытаеце?

— З нагою ён ляжаў,— Алеся падалася да сеткі, асцерагаючыся ўжо, каб не ўпасці і не выпусціць з рук сваё дзіця.

— Маладзіца, ці я ўжо галавы не маю. Яго забралі дадому.

— Каго пытаюць? — абярнула сюды свой жаўтлявы звялы твар нізкая, з худымі, прыгорбленымі плячмі цікаўная кабета.

— Імполя Верам'я, што з паломанаю нагою ляжаў,— ціха і скоранька адказаў дробны з твару мужчына.

— Во, мая ты любка,— тоўстым хрыпатым голасам аказалася цікаўная кабета.— Бальнічная санітарка яго забрала. А ты ці не жонка прыходзішся?.. Га?..

«Прыходжуся»,— хацела сказаць Алеся, але ўжо не змагла — жаль, крыўда і горкі боль сціснулі горла. У мроіве слёз задрыжала ўсё — і шары мураваны дом са здвоенымі шырокімі вокнамі, і двор, і цыганы з нябожчыкам, і жаўтлявая нездароўчая маладзіца.

— Пытаеш, садовая твая галава, хібя не бачыш? — не стрываў, прыкрыкнуў ужо той спагадліва-мілы мужчына.

— Чаму не. Цяпер свет шалёны. Малая, ліха ёй, а ў гэтакай віднай маладзіцы мужыка з-пад носа павяла...

— Гэ-э, скажаш,— хмыкнуў мужчына,— купіна малая, а вялікі воз пераварочвае.

Алеся, каб ужо не чуць чужой, ■ абмовамі ды злым пасмехваннем лішняй гутаркі, скоранька адвярнулася, пайшла, нямоцна ступаючы на зямлю, што багнішчам загайдалася пад нагамі.

Ад'ехаўшыся ад бальніцы і трохі апомніўшыся, ужо з развагай падумала, а ці не падшуткавалі часам над ёю... І надрыўны, з расцяжным стогнам голас вырваўся з грудзей: «Не-е!»

Воз, уз'ехаўшы на камень, заскрыгатаў і нахіліўся набок. Алеся міжволі прыгарнула да сябе дзіця, і свет нібы адсланіўся, і яна ўжо ўгадала, што едзе па той самай пясчанай вуліцы, дзе стаіць жаўтлява-смалісты, нядаўна збудаваны дом з белымі аканіцамі, дзе з-за плота вызірае чубатай стрэшкай калодзесь, дзе, пэўна, жыве ці кватаруе яна, Хрысця. А цяпер ужо і ён... Імполь.

Дзіця крактапула, падало нядужы голас, нібы хацела ачуціць Алесю ад трывожна-пеадчэпных і страшных думак. Алеся затуліла пройму ў расслабленай коўдры.

З шырокай пясчанай вуліцы, што зарасла зрудзелым спарышнікам, які любяць дзяўбці вераб'і і куры, дыхала ўжо лядовым, блізкім холадам зімы.

Абапал вуліцы,назіраючы нерухома-цёмнымі вокнамі, сціншыліся драўляныя, зрубленыя пад нямецкі вугал новыя хаты. Шырокія, ■ заломленым брыльком гонтавыя дахі там-сям абсыпаў лёгкім пухам сівы, яшчэ не змецены ветрам снег.

Нейкім здурэлым, радасна-дзяркатым крыкам, згледзеўшы ката ці сабаку, душылася варона. Глухім водгаласам зноў аддавалася расцяжнае, з дробнымі пераборамі, граннне, мусіць, той самай, ■ зялёна-перламутравымі планкамі гармоні. Чырвоны абоз, здаўшы збожжа, пэўна, варочаўся назад, выязджаў да крамаў, каб прычасціцца, дабавіць у чубе зноў.

Алеся памкнулася спыніць каня, але бязвольнасць і млявасць абнялі яе. Горкая крыўда шчымела ў сэрцы. Не, не было ў яе шчасця, няма і не будзе. Так ужо рассудзіла доля.

З-за доўгага ашалёванага будынка, з драўляным балконам і эліпсавымі ў шчыце вокнамі, паказаўся той смалісты дом ■ чубатай стрэшкай калодзеся за шарым дашчаным плотам і пацямнелым, яшчэ не асыпаным кустом бэзу.

Як некалі на чыгунку пад поезд, так цяпер сюды, да гэтага жаўтлява-смалістага дамка, магнэзам пацягнула Алесю. У душы цёмным бяздонным вірам закіпела і паднялося нешта ўжо да шаленства неразважлівае, помслівае і злое.

Як чуючы бяду, у распаранай і задушлівай гарачыні завітых шырокім суконным поясам пялёнак закугакала, закрактала, прачнуўшыся, дзіця.

«Не бойся, сынок, не бойся,— Алеся пакалыхала на руках велікаваты, звіты з коўдра пакунак.— Па бацьку едзем. Каторая пара цябе не бачыў. Свет яму засланіла гэтая галадамерка».

І слязлівая жальба да сябе, як зацьменне, надышло на Алесю, адабрала розум, раз'ятрыўшы даўнюю крыўду і боль. З усёй сілы яна ўжо турзанула да сябе лейцы, спыняючы свайго, не вельмі і паслушнага ў бабскіх руках вайсковага, выមененага на старую адзежу ў польскіх пагранічнікаў, буланага каня.

Паклала на ўтоптаную салому раскугаканае дзіця,

што натужліва выпрышчвалася з мокрых пялёнак, і пералезла высокія драбінкі воза.

Прымружваючы вочы, паўзіралася на шары плот, за якім падымалася дашчаная стрэшка. Каля яго за чарадою нізкіх сліў, здаецца, стыла расхрыстаная, з перакошанай на адно вока, як у дзіцяці, хусткай, устрапёная з тым дурнаватым смехам Хрысця. Не, гэта падалося. Не, не было яе.

Да веснікаў, да непрычыненай форткі, бегла з вуліцы і душылася між нізкіх дубовых шульцаў шырокая сцежка. Абапал яе апалі, пачарнеўшы ад марозу, вяргіні з ружаватымі прымеркла-абвялымі кветкамі.

Алеся, выкіраваўшы каня бліжай да плота, накруціла на дубовае шульца сырамятныя лейцы і падхапіла з ячнай саломы расплаканае дзіця. Каленам папхнула рыпучую фортку.

Млелі ногі, калаціліся рукі. Усю трасло, біла нейкая ліхаманка. Раз'ятранай сухой гарачынёю гарэлі, пяклі шчокі. Тахкала, ажно дрыжала дзіця, растрывожанае сэрца.

«Чаго ты, не бойся»,— падымаючыся на ганак да белых філянговых дзвярэй, угаворвала і супакойвала сябе.

Прыгожа выштукаваныя дзверы з жалезнай, выплеценай кругамі, нібы павучына, рашоткай, што асцерагала шкло, былі, здаецца, замкнутыя.

Алеся патурзала за медную, вытачаную, нібы верацяно з галоўкай, настылую ручку.

На яе грукат нехта мільгануў за мутным, васпаватым ад узору шклом. Іржава заскрыгатаў ключ. У шчыліне скупавата адчыненых дзвярэй паказаўся здароўча-чырвоны, з быстрымі калючымі вочкамі паўнявы твар.

— Вам каго? — спытала, зіркаючы гэтымі калюча-сінімі вочкамі з-пад чорных насупленых броў, порсткае, год шаснаццаці дзяўча.

— Імполя мне.

— Ипполит, что ли?

— Ён ужо тут і называцца па-гарадскому стаў,— ухмыльнулася Алеся, пагойдваючы на руках дзіця і настырна, без спросу ўжо заходзячы ў прапахлы квашанай капустай калідорчык.

— Там они. Я позову,— збянтэжылася смуглявае дзяўча.

— Ты мне пакажы дзверы, я ўжо сама,— азіраючы калідорчык, застаўлены шафай, шкапчыкамі, вялікай плеценай карзінай, місамі і завешаны старой адзежай.

— Там они,— ніякатава адступілася дзяўча, паказваючы на зялёныя занавескі, што падазрона пакалыхваліся з прыходу калідора.

Алеся адкінула лёгкую, сабраную ў фалды полку, здрыгануўшыся ад нечаканасці: пры акне за невялікім столікам, засланым аблупчанаю цыратаю, сядзеў Імполь. З-за кафельнай печы, з нязвыклым, заломаным да сцяны комінам, вызірнула, трымаючы ў руках чыгунок, і здумелася Хрысця.

На левай руцэ ў Алесі натужліва закрактала дзіця. На гэты крэкт Імполь падняў набычаную галаў і нядобра з-пад нахмураных броў зіркнуў у парог. Худы і зблажэлы яго твар перасмыкнуўся ў злосці.

Алеся ступіла самлелымі нагамі на сярэдзіну вузкай кухні і нібы спатыкнулася:

— Твая велічнасць, сядзіш тут, як у бога за пазухай.

— У цябе не пытаю,— Імполь паклаў на край гліняной міскі счарнелую драўляную лыжку.

— Дзіва што. Ужо гэтая рудая сучка куды цябе папхне, туды й пойдзеш.

Хрысця, сцішаная, як пташаня, насцярожана глядзела, чакаючы, покуль яе зачэпяць. Паставіла на прыпек чыгунок і ўжо злосна і бязлітасна папытала ў Алесі:

— А цябе якое ліха сюды прынясло? Дзе ты, там і бяда.

— А да цябе не п'юць і не кажы на здароўе,— Алеся нават не зірнула за кафельную печ, падкалыхваючы расплаканае дзіця.— Я ў яго, гэтага недаверка, пытаю: чаго сядзіць тут трутнем?

— Ты раві ці не раві, а ён астанецца жыць тут,— Хрысця выйшла з-за печы і прысела на лёгенькае, збітае з лясцаў складное крэсла, што стаяла поруч каля Імполя.— Досіць. Наслухаўся ды нагледзеўся ўсяго.

— Мяне не выстрашыш,— Алеся на абедзвюх руках падняла, шуганула туды да стала дзіця.— Я пакладу яму во на стол сына, а сама пайду малаціць. Хай даглядае.

— А чаго там, і вазьму,— Імполь, абапёршыся дзвюма рукамі аб стол, нават прыпадняўся з скрыпучага табурэта.

— І праўда, даглядацьмем,— падтакнула яму Хрысця, бліснуўшы на Алесю чорнымі вырачанымі вачмі.

— Хваліся, галадамерка.

— Ты нат слова добрага не скажаш, усё злое,— страсянула каротка падстрыжанымі валасамі Хрысця.

— Добрае ці благое, якое прыйдзецца, але бажуся: зграю вашу разганю.

— Страшыш... А ці спытала пра здароўе яго, што яму баліць.

— Няўдаламу рукі не баляць. Во сядзіць кавалак гультая, а дома работа жджэ.

— Задушыся ты там са сваёю работаю,— Імполь адвярнуўся, глядзеў у акно, за якім на гонкім вяршку згалелай ліпы дзяркатала-радасна крычала і пагойдвалася ў такт свайму крыку сівая варона ■ чорнай дзюбатай галавою. І здавалася Алеся ■ гэтай накінутай на плечы занавескай падобнай да вароны.

— Святым духам будзеш жыць,— пакруціла галавою Алеся і скінула ■ плячэй лёгкую занавеску, выходзячы з кухні.— Але на тваё не выйдзе. Не!!!

— І на тваё таксама,— паднялася з складнога крэсла прыгорбленая, нібы абязвечаная Хрысця.— А ўсё тое, што было, усё сплыло. Багатых цяпер раскулачваць будуць.

— Ды бачу, што работа вам не да галавы.— Алеся падышла да шкапчыка, што стаяў пры сцяне, і паклала на яго ўкручанае ў ватняе коўдра дзіця.

Абамлеўшы душою, утрупянелая Хрысця з-за занавескі пазірала, як Алеся раскручвае ватняе коўдра, і скоранька махнула рукою, падзываючы Імполя.

Сумеўся і мярцвяна збялеў ён — няўжо пакідае дзіця.

Алеся азірнулася і ўжо, убачыўшы Імполя, ціха, з дабратою і без злосці, нібы нічога не было, папрасіла:

— Ідзі хоць глянь, які сын вырас.

Імполь памалу, накульгваючы на хворую нагу, рушыў да шкапчыка, дзе ляжаў ружовенькі, распавіты, з падкурчанымі ножкамі, галавасты хлопчык.

# XXII

Неўпрыцям Міца стаў прыкмячаць, як увачавідкі паспраўнеў, разбыўся худы, сутулаваты Лаўрын Царык. Разгладзіўся і пакруглеў яго даўгавіды, сцягнуты хваробаю ды нэндзаю твар. Павесялелі і заблішчалі прыжмурнай цікавасцю да кабет карыя, выцвілыя да

зеленкаватасці вочы. Нечаканы лішні гонар і пыха рабілі яго па-начальніцку непадступным і самавіта-важным.

І ўжо саўсім збянтэжыўся Міця, калі аднога разу ён па-мужчынску адкрыта і нават да гідкасці цынічна, не зважаючы на розніцу ў гадах, прызнаўся: «Слухай, да маладых цягне».

Міця доўга не мог забыцца і пераварыць гэтую Царыкаву споведзь. А потым паціху ўжо смяяўся, заўважаючы, як Царык падграбае сіваватую, раз'ехаwую і непакорную стрэшку валасоў і бяжыць, нязграбна чапляючыся за свой шырокі [redacted] зялёным сукном стол ці за стоптаны да белых нітак бурачковы ходнік, каб слугаваць перад маладзіцамі, што прыходзілі ў валасны камітэт, адчыняць перад імі дзверы, наровячы кожны раз цягнуцца рукою каля іхняга сцягна.

Гэтае ўхажорства не ўпусціла са свайго пільнага і трохі злога вока даўганосая, схуднелая, [redacted] паднятымі шырокімі плячамі сама Царычыха.

Прыцікаваўшы і ў дадатак, пэўна, наслухаўшыся чужых перамоў ды абгавораў, дзе і калі ён ходзіць крывою цямровай дарогай, сёння ўжо мсціва і з'едліва ўпікнула:

— Глядзі, Змітрык, кавалера [redacted] сябе строіць.

— Чаму ж не,— закінуў назад галаў і шырока разявіў рот, сілячыся засмяяцца, не вельмі збянтэжаны Лаўрын Царык.

— Да Анці ўсё забягае. Можа, у сваты сабраўся?

— А што, маладзіца яна вабная. Ды я не стоптаны лапаць.

— Тая рожа, ды не тая кожа. Анця на цябе нават не сікне.

— Не цвяліся, маці,— надрыўна і сухавата закашляў Царык.— Не бэсць і не лай кабету.

— Ідзі вунь электрыку ў сенях папраў, заступнік! — абарвала лішнюю ды прыкрую для сябе гутарку Царычыха, адчыняючы ў калідорчык хатнія дзверы.

— Не ўмею я. Манцёра паклічаш.

— Дзіва што, гультай — вечны калека,— адказала ўжо з поцемку сяней Царычыха і з усяе моцы прыгрукнула дзвярмі.

— Загневалася — бушуе,— пакруціў галавою Царык і, ківаючы абкураным пальцам, паклікаў Міцю ў свой пакойчык, таямніча шапнуў: — А мы пераб'ем з табою гэтую гэрч.

І адкрыў рыпучую шафу з кнігамі, адсунуў іх і выняў трохі ўжо надпітую бутэльку. Там стаяла і шыракаватая, як кубелец, увітая вяночкамі з ліеця і кветак, прыгожая сіняватая чарка.

— Яўрэйская, брат, кашэрная. Гэта яны на шабас з яе віно п'юць,— і, пакручваючы чарку ў пальцах, паказаў на тры невядомыя для Міці літары, акаймаваныя шнуркам пацерак.— А шабас у іх пачынаецца на шарай гадзіне, як толькі пакажацца першая зорка. Так што і нам пара прычасціцца.

— Не магу я,— махнуў кучаравым чубком Міця.

— Як гэта? Тут у мяне й яблычкі знойдуцца,— і з ніжэйшай паліцы ён дастаў цёмна-бурачковыя, ■ тлуставатай скурай, вялікія і пляскатыя, як рэпа, чарнагузы, пабітыя з сярэдзіны светлымі кропкамі.

— Не-не-не,— Міця, не знайшоўшы куды, паставіў на алехавую калоду з выразаным краснаюдкам шурпатую ад кветачак, стаўбунаватую чарку.— У школу вячэрнюю збіраюся.

— Тады іншая рэч,— і Царык, нібы схамянуўшыся, падняў гэтую поўную чарку, вухам усё ловячы, дзе паварочваецца яна, жонка.— Я і сам усё мергаваў ісці, не ісці, калі пачуў, што маюцца адкрываць вячэрнія школы.

— А чаму ж?

Разліваючы на пальцы гарэлку, Царык перакуліў чарку, зморшчыўся, кракТануў і з хрумстам адкусіў яблык.

— Не ■ рукі ўжо мне. Стары. А ты — вучыся, не ўпускай час. Мы як-небудзь з Петрыкам справімся. Гэтая ўлада высока падымае чалавека,— у Царыка раптам павільгатнелі, з хмелю заіскрыліся вочы.— Але калі і апусціць, бывае, то аж зубы забрашчаць. Я пра сябе кажу...

— А што? — насцярожыўся Міця.

— Я ж сёння ў Навагрудку на нарадзе быў... Там і дзюбнулі па кілішку, спаткаўшыся праз шэсць год з адным слаўным хлопцам. Некалі ў гімназіі вучыліся разам. Разам і паплаціліся за беларускасць... А цяпер, бачыш, граматнасці бракуе... А дзе ж яе ўзяць? Нашу граматнасць, як і здароўе, цюрмы адабралі. Раманюк цэлых пяць год адгрукаў. Мы з ім граніцу пераходзілі.— Царык зноў узяўся за бутэльку, зноў па крайку, каб не булькаць, наліваў у сінюю чарачку вышэй завітых кветачак, гледзячы недзе ў сябе нерухомымі вачмі, маўчаў.

Міця, улучыўшы момант, спытаў:

— Здаецца, вы пра гэта не расказвалі.

— А што расказваць. Трох нас было. Я, Цімох Раманюк ды Анцін мужык — Іван Сцяпура. Мы абое нежанатыя, а ў Сцяпуры ўжо й дзіця знайшлося.

— А ён — тутэйшы?

— Ага, дварчанскі,— ап'янелы Царык азірнуўся на нізкую ружаватую калоду з выразаным барадатым красналюдкам, што дужымі рукамі абхапіў яе, і паволі прысеў.— Але ты паслухай.— Царык тыльным бокам рукі выцер мокрыя крываватыя губы.— Уцякалі ў Расію мы акраз увесну. Даехалі аўтобусам да Вілейкі, а адтуль пеша на Даўгінава. Помню, і ноч захапіла ў дарозе. Надраўшы леташняй сухое асакі, начавалі пры балотцы пад лазовым кустом. Змерзлі, як цюцькі. Прачнуліся яшчэ зацемна. І [redacted] усіх чатырох ног пусціліся бегчы. Можа, вёрст пяць ці сем увабралі. Ажні да нейкай глыбакаватае рэчачкі. Мокрыя былі, хоць выкручвай. Затое нагрэліся... Кладку доўга шукалі. За ёю ў хмызняку ў кіслым балотцы граніцу перайшлі. Там ужо ў Расіі, каля вёскі — добра помню, як называлася: Ізбішча — на хутары нанач папрасіліся. Селі на лаву, паглядаем на печ, дзе трапечацца агонь, спадзеючыся, што гаспадыня хоць паранай картопляй пачастуе. Бачым, дзяўча накінула на сябе каптанік і шмыг [redacted] хаты. Не пазнячыся, тут ужо як стой, двое вайсковых у хату заходзяць... І рукі ўгору, і раздзявайся...

— Тут у хаце адразу і пачалі вобыск?

— Не-е,— кісла і недавольна заплюшчыўся Царык.— На заставе, на кантрольным пункце. Адным словам, патрымалі нас дзён тры, распытваючы, куды і чаго мы ідзём. У мяне было пісямцо. Я і сказаў, што кліча таварыш на Урал, на завод, дома ж няма работы. А ў Сцяпуры знайшлі зашытую манету. Залатую. Пяць, здаецца, даляраў... Паўлінава вока, як казалі.

Яго чамусьці пачалі выклікаць на допыт з таго халоднага, як лядоўня, хляўка, дзе мы сядзелі, усё больш ды больш... І Сцяпура, як штось прадчуваючы, кажа: «Хлопцы, калі што якое, не кіньце ў бядзе жонку з дзіцем».

— А што было з ім? — прыспешваў Міця Царыка, трохі ўжо нервуючыся, што позніцца ў вячэрнюю школу.

— А хто знае? На трэці дзень нас па адным прапусцілі праз граніцу. Мяне першага... А ўслед за мною Раманюка. Мы ў канцы лесу адзін аднаго знайшлі. Чакалі Сцяпуру. Паўдня. Нават перасвістваліся... Ды, баючыся,

каб не напароцца на польскую пагранічную стражу, рушылі нарэшце далей ад таго месца... А Анці ўжо і не ведалі, што сказаць. Я нават думаў жаніцца... Ды, можа, узяў бы... Але ў яе, у дурное, укралася падазронасць, што Сцяпуру ў дарозе мы забілі ці прадалі.

— А польская пагранічная стража не магла яго пераняць? — збіты з панталыку ад чутага, папытаў Міця.

— Пэўна ж магла,— Царык раптам падняў галаў, заморгаў, выціснуўшы з вачэй набрынялыя слёзы.— Халера, мы так і жывём з Раманюком, носячы на сабе гэты выдуманы грэх... І мая Іванаўна ўсё наравіцца, усё прадчувае, нібы я да Сцяпуравай Анці падходжваю.

— Ды, можа, смяецца яна,— Міця ўжо не ведаў, як супакоіць расчуленага ды раскіслага — бо плакаў ужо не ён, а гарэлка — Лаўрына Царыка.

— Смяецца, кажаш?..— Царык злавіў Міцеву руку, з яго помаччу падняўся з алехавай калоды і цяжкім гарэлачным духам засоп Міцю ў твар: — А я любіў Анцю...— ён пахіснуўся і сеў, зарыпеўшы спружынамі, на чорную, абцягнутую цыратаю канапу з высокай спінкай, вяла падгроб рассыпаны застрэшак сваіх сіваватых валасоў.— Але які мужчына не пашкадуе адзінокай кабеты, га?

— Што ты там ўсё трэліш? — нечакана з кухні ўжо аказалася чуткая Царычыха.

Міця бегма ўжо, каб не чуць далей сварбы, вышмыгнуў праз залу ў свой вузенькі пакойчык з адным акном, застаўленым высокім лапушыстым вазонам, што цвіў белымі, трохі ліловымі і падобнымі да мыльніку кветкамі. Яго штодня палівала Царычыха, не даючы нават у нядзелю, трохі на выгодзе, не дбаючы пра работу, выспацца Міцю.

Цяпер яна, шугануўшы, як агонь, бушавала ў Царыкавым пакоі:

— Памалу, галавы не рассадзі! Целяпаешся, як круцілаўскі Зэлік.

На швейнай, засланай вышыванай сурвэткай зінгераўскай нажной машыне Міця ўбачыў свой белы, добра падношаны і ўжо зацыраваны на локцях, вязаны Алесяй год пяць назад свэтар з трохкутным прарэзікам на грудзіне — для гальштука. Нацягнуў яго на сябе і зняў з нікеляванага, прыбітага на дашчанай перагародцы крука карычневы, у клетачку, з накладнымі кішэнямі і шырокім на паясні-

цы хлясцікам, яшчэ новы, падораны пазаўчора Лаўрынам Царыкам суконны фрэнч.

Міця, падазрона і скоса пазіраючы на яго — ці не асадніцкі? — не хацеў і браць.

Царык, улавіўшы гэтую асцярогу ды падазронасць, хітра ўхмыльнуўся:

— Гэта мой, хай скажа Люба.

— Летась яму шылі,— страсянула сваімі рэдкімі, аблезлымі, але завітымі на стужкі валасамі Царычыха.— Праўда... З англійскага сукна. Памерайце.

І калі Міця надзеў гэты зляжалы, прапахлы нафталінам фрэнч, Царычыха, павярнуўшы Міцю за плячо і аглядзеўшы з усіх бакоў, гукнула, падмахваючы сінявымі голымі рукамі:

— Уга, як пасуе.

— Як на цябе і шылі. Бяры, дзякуй скажаш,— падгроб сваю рассыпаную стрэшку Лаўрын Царык.

— Задарма? — збянтэжыўся Міця.

— Калі-небудзь мне падможаш,— засмяяўся Царык, паказваючы шчарбаты з абодвух кутоў рот.— Хто кіне за сабою, знойдзе перад сабою.

— Бярэце, раз дае,— сказала Царычыха, зноў павярнуўшы Міцю за плечы.— Сядзіць фрэнч як уліты.

Міця прыпыніўся ў затхлай, ■ застоеным паветрам, святліцы і наўгад намацаў уключальнік. Калі з-пад шырокага, як рэшата, абажура з дрыготкімі фрэнзлямі гарлачыкам пырснула электрыка, ён асцярожна падышоў да круглага ў драўлянай чорнай аправе люстэрка, наровячыся, паглядзеў на сябе. Карычневы ■ зеленкаватымі, ледзьве прыкметнымі клеткамі фрэнч і праўда пасаваў яму. Ды, зрэшты, хоць ёсць нейкая абнова. Бо як абрыд гэты стары з рудым цялячым каўняром даматканы паўшубак ды кажушок. А сёння ж дакляравала ды абяцала, трохі прытворна пасмехваючыся, прыйсці ў школу Чэся.

Міця памкнуўся ў пакой да Лаўрына Царыка, каб сказаць, што можа сёння забавіцца, прыйдзе пазней, але злы, задушлівы голас за перагародкай перапыніў яго:

— Не зяхай, а кладзіся спаць!

— Лягу, не дзвэнгай,— вяла бараніўся і пакрыкваў на жонку Царык.

— Асалавеў, звяў... А на якое ліха ціць? Распавядаўся там, пэўна. Яны ж цябе і падаткнуць, што ты ўдаў Сцяпуру, каб да жонкі яго бегаць.

— Можа, і твая праўда,— мармытаў Царык.— Бог шчырых любіць, ды долі не дае.

Міця завярнуў у цёмны калідор, выцягнуўшы перад сабою рукі, навобмацак знайшоў дзверы на двор.

Зямлю падцінаў сухі марозік. Горка пахла дымам. Над нізкаю хмаркаю, дзе схавалася сонца, дагарала бурая палоска. Выслезілася і калюча моргала першая зорка.

Міця збег з ганка. Пазабоку вуліцы пад плотам накачаўся, набэрсаўся шызым пылам пухкі сняжок. Сіваватая цемната, як паводка, расплывалася над шарай, умерзлай вуліцай.

Чуючы пад нагамі цвердую, укамянелую зямлю, Міця ішоў подбегам.

З галавы яшчэ не выходзіла тое, што расказваў пра нейкага Сцяпуру і яго жонку Лаўрын Царык. Няўжо вось так, пад страшнай падазронасцю, і ходзіць нявінны чалавек? А можа, ёсць у іх з Раманюком якая віна перад гэтаю кабетаю? І Міця раптам убачыў камеру з закручанаю сіняй паперай электрычнаю лямпачкай пад высокай у шалушыстых плямах падцёкаў столлю і босага, замурзанага, прыгнанага проста з поля, дзе ён капаў картоплі, сутулага Мазуру, і тую ноч, калі з іхняй камеры, выбіраючы на расстрэл, выцягнулі, схапіўшы за рукі, збітага да непрытомнасці нейкага Жылінскага... Цяпер зноў да пякучага, страшнага і выразнага болю прыпомніўся той міг, калі, наліваючыся шаленствам, камендант каравульнай роты назваў яго: «Корсак! Змітры!» і на картавы голас заварушыўся на сенніку, перамогшы сябе, даўганосы з цяжкімі кавальскімі рукамі Мазура.

Міця ўчуў нават радасць збаўлення і ратунак, калі ўбачыў, што Мазура, адпіхаючы ад сябе стражнікаў, рушыў з камеры насустрач сляпучаму ліхтарыку, што вісеў на грудзях у некага са стражнікаў...

Даўні, пякучы холад прабег у Міці па спіне.

«Няўжо мы ўсе, знарок ці незнарок, робім на свеце зло? — з вострым, балючым жалем падумаў Міця.— Няўжо мы беражом, апчаджаем толькі сваё жыццё? І нават шукаем апраўданне перад сабою і пераконваем сябе, што мы самыя праведныя і сумленныя. Няўжо ва ўсім мы абманваем не толькі іншых, а нават і самі сябе? Хіба чалавек створаны так, каб таіцца і хаваць сваё благое перад сабою? А дзе ж тады свет яго дабра? Справядлівасці? Няўжо няма?!»

Ад вострага марозу ў Міці шчымелі рукі. Ён схаваў іх у кішэні, варушачы ўжо там пакрэплымі пальцамі, прыспешыў крок. Пад нагамі гулка адазвалася тугая зямля.

На шкле жоўтых, падсвечаных з сярэдзіны вокнаў пералівалася сінявата-ружовай лускаю шурпатая наледзь. У шырокай шыбе паверх гэтай наледзі павярнулася знаёмая кучаравая галава з упартым завіткам на брыво.

Міця нават прыпыніўся, знянацку ўражаны, што бачыць у акне Імполя, і збіты з тропу — чаго ён тут? І раптам халадком каля сэрца казытнуўся страх: тут кватаруе яна, Хрысця. У гэтым новым з фанабэрыста заломленым дахам і крытым драніцаю доме былога настаўніка гімнастыкі тыдні два назад сялілі савецкіх дактароў, Міця ўмаліў ледзьве не на каленях даць хоць які прытулак Хрысці — яна ж таксама робіць у бальніцы. І ёй неспадзявана выдзелілі нават неблагі кутні пакой з двума вокнамі, што глядзелі сюды, у гародчык перад вуліцай, на крупку нізкіх згалелых слівак.

«І няўжо яна жыве тут з Імполем? — нешта балючае і гарачае зноў ударыла ў Міцева сэрца.— Зрабіў дабро... А што ёй, сваёй роднай сястры? Зло! Выходзіць — так. Спрыяў, каб Хрысця нарэшце сышлася з Імполем».

Міця цяжка, як не сваімі нагамі, рушыў далей па шэрай пясчанай вуліцы, якую ў міг вока завешваў пранізлівы марозам ды туга напятай трапяткою цішынёю мігатлівы поцемак. Недзе з другога канца вуліцы быў чуваць асіплы брэх сабакі.

Каля чубатага дамка з высокімі сходцамі, абапал якіх аж да парога падымаліся дзве жэрдачкі слабенькіх хісткіх поручняў, Міця завярнуў на Паштовую вуліцу. Шчымлівы новы страх палыхнуў у душы: ці ж дома Чэся?

Учора, калі Міця падпільнаваў яе пры бальніцы, папярэдне пазваніўшы і даведаўшыся, на якой яна змене, Чэся доўга смяялася з яго, што ён ледзь не спазніўся, бо тут яе звычайна стараўся перастрэць ціха-ўгодлівы ўхажор — доктар Длубак.

Міця трохі нахмурыўся, тоячы гаркату рэўнасці і злосці.

— Ты гневаешся, нябось?..— яна сама ўзяла яго пад руку.

Ад яе пахла лякарствамі, бальніцай, як падалося Міцю, густым, цёплым і хмельна-горкім валяр'янам, калі ён

цвіце ў парным зацішы алешніку каля рэчкі ў маладое чэрвеньскае лета.

Яна, хаваючы свой тварок у падняты каўнер карычневага прыталенага паліто, прыгарнулася бокам да Міці, і ён павесялеў, акрыяў душою. Сказаў з асцярогаю, каб не растраціць гэтай радасці, што агарнула яго пейкай мяккай, зырка-белай хмаркай:

— Я заўтра іду ў школу.

— У бальшавіцкую?

— Не смейся.

— А ты думаеш, мяне возьмуць?

— Выдумляеш нешта. Нам трэба вучыцца...

— А якая ўжо карысць?

— Ты магчымеш пастуміць на медычны факультэт.

Яе ўчарашнія злыя жарты, здзеклівае, калючае пасмехванне збівалі Міцю з тропу, адзываючыся і сёння трапяткой трывогай і балючым, адчайным неспакоем: ці пойдзе Чэся ў школу?

Хоць учора было нешта і іншае — нечакана-шчаслівае. Калі яны спыніліся каля брамкі, яна падала, дастаўшы з муфты, неспадзявана цёплую, так жадана, так блізенька-пакорную руку. Захлынуўшыся ад радасці, шчасця, дрыготкі ўвесь, Міця не выпускаў яе мякенька-жывыя, чуткія пальцы... Яна замерла, трымаючы ў яго руцэ сваю руку.

А потым, таксама неспадзявана, лёгенька, але ўпарта вырвала яе, цяжка ўздыхнула:

— Мне пара...

І стрымгалоў схавалася за форткаю, прышчапіўшы яе і не пускаючы ўжо Міцю.

— Ты пакліч мяне заўтра,— сказала, не абарочваючыся і скоранька ідучы да ганка, горда несучы сваю галоўку ў вязаным, трохі пасаджаным набакір берэціку.

Здумелы ад радасці, Міця стаяў за нізкім плотам, за густа-шапаткою, абсыпанаю маністамі карычневых стручкоў высокай акацыяй, чакаў, покуль за Чэсяю не зачыніцца цяжкая фортка філянговых бальнічных дзвярэй.

І цяпер, падыходзячы да зграбнага з ганарыста-чубатым дахам Грабянкавага дома, што асцярожна адступіўся пад бязверхія і нахіленыя, быдта старыя грыбы, хвойкі, убачыў, як у дальным кутнім акне, абліваючы скупой яснасцю перавязаныя стужкай гардзіны, гарэла настольная лямпа з матавым абажурам.

У душы кволым нядужым пташаняткам праклюнула-

ся ўчарашняя радасць. Насустрач, здаецца, паплыў і рассунуў старыя круглаверхія хвойкі ганарысты, з вострым дахам Грабянкаў дом.

Міця адчыніў брамку, узбіўшыся на абкладзены цэглямі кветнік і зашамацеўшы высокімі стрымбулямі ломка-сухіх, хрусткіх кветак, падышоў да акна, чутка застыў і пучкамі пальцаў пастукаў у тугую звінючую раму.

На гардзінах мільгануўся цень ад ускалмачана-непрычасанай чужой галавы. І скора ядавіта-гідкім, іржавым рыпам завішчалі дзверы — падтрасаючы локцямі на плечы вялікую хустку і сутулячыся, на двор выйшла Чэсіна мама. Зажмурылася ад слабенькай лямпачкі, што гарэла над ганкам, рассыпаючы на шарыя цэментовыя сходы рэдкае святло.

— Не трывожце нас. Прошэн бардзо. Добжэ, а!..[1]

Гарачыня абліла, апарыла Міцю.

— Чэся не прыйдзе... Ты і так зламаў ёй жыццё.

Камяк дасады здушыў Міцева горла. Ломячы хрусткашапаткія бадылі пасохлых кветак, нібы моцна і нечакана выцяты, Міця рвануўся да брамкі. За спіною яшчэ чуў ценькі, як у дзіцяці, і расцяжны, нядужы голас:

— Венц прошэн пшыняць до ласкавай вядомосьці [2].

На вуліцы перад вачыма паплыла, закружылася шарая цемень, працятая вострым падужэлым марозікам. І было чуваць, як у гэтую вечаровую сляпую цемень крычала [redacted] ганка натужліва-тонкім голасам Чэсіна маці:

— Пшэцеш нех пан ве, жэ ніц го [redacted] Чэсён не лончы! [3]

# XXIII

У Міцевай душы, заняўшыся вялікім пякельным агнём, гарэла злосць і крыўда на сябе, на Чэсю, што выправіла знарок ці незнарок на ганак маці. «Трэба ўжо зусім не мець гонару, каб хадзіць сюды ў гэты ненавісны Грабянкаў дом». Міця не мог сабе даравацъ, што забег па Чэсю, што пастукаў у кутняе, завешанае цяжкімі гардзінамі акно. Сэрца разрывала атрута нянавісці і страшнага адчаю, што ён разлучыцца з Чэсяй. Міця не заўважыў, як прабег глухаватую, спярэшчаную касымі

[1] Прашу вельмі. Добра, га!.. *(польск.)*
[2] Надалей прашу прыняць да ічырага ведама *(польск.)*.
[3] Няхай пан ведае, што нічога з Чэсяю не лучыць! *(польск.)*

слупкамі святла, што падала з вокнаў, небрукаваную вуліцу. У канцы яе, дзе некалі быў дансінг, а цяпер стаяла, дзён колькі назад прыбыўшы ў Дварчаны, вайсковая часць, уздымалася дружна-маладая, новая для ўсіх песня:

Белоруссия родная,
Украина золотая,
Ваше счастье молодое
Мы штыками,
Штыками оградим.

Міця разабраў, чуючы не раз, толькі гэты прыпеў. Думкі трохі ачахлі, адплылі ад Грабянкавага дома, ад Чэсі. І нібы павесялеў, ачуціўся сонны, шараваты вечар, разбуджаны і раскалыханы гэтай стогалосай песняй. Сарвалася, аж, здаецца, зашалясцела, падаючы коса ўніз і пакідаючы след, дробная, ледзьве відушчая зорка. Міцю апярэдзілі, спяшаючы туды, на гэтую песню, задыханыя, вясёла-ўстрывожаныя падлеткі.

Адлягла ад сэрца і растала ўжо цяжкая адчайная злосць, калі Міця ўспомніў, як учора, нагледзеўшыся на калону салдат у шэрых і доўгіх шынялях, у зеленкаватых абмотках і нязвыклых, [redacted] вострымі пупамі і малінавымі зоркамі, шапках, усплясквала рукамі радасна-ашалелая Царычыха і, паглядаючы то на Царыка, то на Міцю, уздыхнула:

— Вы ж не чулі, вой як хораша спявалі салдаты.

— Што ж яны спявалі? — хітра пад'язджаючы са сваімі жартамі, пасмехваўся Царык.

— Не дзеразуйся. А рускія песні надта ж спеўныя. У мяне ажні сэрца замірала, калі Буднікавыя дочкі, што вярнуліся [redacted] бежанства, у два галасы, бывала, спявалі ў гародчыку каля шыпшыны.— І Царычыха раптам завяла грудным, маладым і прыгожым голасам:

Хас-Булат удалой, бедна сакля твоя.
Золотою казной я осыплю тебя.
Дам коня, дам кинжал, дам винтовку свою,
А за это за все ты отдай мне жену

— А ты, маці, малайчына,— засмяяўся Царык, паказваючы кутнюю глыбокую шчарбіну.— Мы яшчэ ў клубе на выбары з табою заспяваем ды прытупнем.

— Дзіва што.

Прыслухваючыся да салдацкай песні, што ўздымалася над мястэчкам і ўскалыхвала ціш вечара, і ўспамінаючы гэтую вясёлую, са смехам ды жартамі гутарку ня括клад-

най, з высока паднятымі мужчынскімі плячыма Царычыхі са сваім Лаўрынам, Міця ўжо акрыяў і паспакойнеў душою. Ачахла тупавата-нязносная, пакутная, ад якой, здаецца, і не было ратунку, злосць на Чэсю. Бо праўда, чаго ж яна вінавата, што на ганак выбегла маці. Ім хочацца прывеціць таго сталага кавалера-рэнтгенолага. Яны, адзінокія, збедаваныя кабеты, дбаюць больш пра тое, каб у доме была якая-небудзь помач ды апека, зрэшты, каб хоць імі кіравала сталая мужчынская рука. А чым заманеш ды прывадзіш таго доктара, калі не Чэсяй: яна ж маладая ды прыгожая.

І нешта гарачае і раўнівае зноў балюча і востра паласнула Міцю па сэрцы. Ён, аглушаны гэтым няшчадным болем, раптам спыніўся, як абязвечаны. Нібы сам не свой стаяў якую хвіліну, не помнячыся і не ведаючы, дзе і чаго ён стаіць. Покуль не падняў вочы і не ўбачыў на рагу Касцельнай вуліцы той ясна-жоўты ад пакосту, трохі прымерклы, пацямнелы ў вечаровым змроку дом, дзе некалі кватаравала Чэся. Як даўно, здаецца, усё было. Няма ўжо і Касцельнай, ёсць Вераснёвая, няма і разложыстага кусціку язміну, што рос пры брамцы ў гародчыку, а ў высокім ад вуліцы акне, каля якога Міця любіў спыніцца і, захлынаючыся ад радасці, бясконца-замілавана пазіраць у яго, замiж тугой шыбы ўздулася фанера.

Успомнілася Чэсіна маці, тая даўнейшая, маладая і прыгожая, што частавала Міцю агністым, са зморшчанымі ягадамі, вішнёвым варэннем тут, у гэтым доме, у светлым пакоі з блакітнымі ў серабрыстыя пасачкі шпалерамі, з вазонам-каляднікам, што смешна рос — лісцік з лісціка — і цвіў таксама кветкамі з лісцікаў, і сённяшняя — зблажэлая, з паўпаданымі шчокамі, з цёмнымі правааламі вачэй, калі выбегла на ганак пад мігатліва-калючае, што адлівала вясёлкай, святло лямпачкі, што сядзела ў нахіленым фарфоравым патроне.

Міця паволі адарваў ад зямлі ногі. Сухая, падмерзлая з рэдзенькім сіваватым пухам першага снегу Касцельная вуліца ўпіралася ў высокую драўляную браму з дашчаным трохкутнікам. За ёю ў доўгім прысадзістым будынку з бляшаным дахам, устаўленым, як копамі, цаглянымі камінамі, нейкай блізкай, свойскай і знаёмай яснасцю свяціліся шырокія венскія вокны.

Каля чубатага дашчанага ганка ружовым агнём успыхвалі і паволі гаслі папяросы.

Міцева душа зашчымела і ажыла ад трапяткой і нечаканай радасці. Як ён даўно не заходзіў на абліты дрыготкім святлом з вокнаў школьны двор. Не бачыў ашалёванага дошчачкамі з вострым драўляным шпяньком калодзеся, нізкага, у дзве жэрдачкі, плоціка, за якім чарнеў пакутым вокам у расніцах сухіх стрымбулёў вялікі кветнік.

Колькі ж год ён не ішоў міма гэтай, ужо разрослай пры ганку лаўравішні, што напрадвесні, яшчэ не выпусціўшы лісця, густа абсыпалася дробнымі ружовымі кветкамі, як даўно не падымаўся на шурпатыя цэментовыя сходцы...

— Го-о! Ці не Змітрык Корсак?!

Міця сумеўся, учуўшы тоўсты, хрыплаваты голас з купкі курцоў, што збіліся тут на ганку.

— Не прызнаеш,га? — Міцеву руку злавіла мяккавата-дужая, халодная рука.— Камашыла я.— І моцна сціснула.— Костак.

У гулкім ад людскіх галасоў і цьмяным ад слабых электрычных лямпачак калідоры Міця агледзеў, азіраючы тоўстага ў пляскатай, насунутай на вочы кепачцы і клятчатай ясёнцы нездароўча-адутлаватага хлопца і не мог даць веры, што гэтак разбыўся, папаўнеў Костак Камашыла — танклявы, рослы і некалі прыгожы хлопец.

— Не прыцікоўвайся... Помніш, я быў во,— і Камашыла падняў руку, паказваючы крываваты, сагнуты мезенец.— А стаў — во,— і ён, перакруціўшы кулак, падняў вялікі ружаваты палец.

— І праўда, адмяніўся ты, не пазнаць.

— На язву хварэў, быў худы, як трэска. Меліся нават рабіць аперацыю. Ды знахарка адна... сваімі лекамі... А ты — ані знаку.

— Гэта ў турме, як кажуць, на выгодзе...

— А мяне яшчэ бог сцярог. Але не будзем заракацца,— Камашыла сыта зарагатаў і задраў голаў з цяжкім падбародздзем.

Яны прайшлі калідорам, мінаючы вясёла-гаваркія, дзе з прыглушаным рогатам, купкі хлопцаў і дзяўчат, найбольш вясковых. Міця скарэй пазнаваў тых, хто вучыўся за яго на клас ці на два вышэй. Старэйшыя за цябе людзі помняцца больш, чым нават равеснікі. Насустрач ім касалапа ступаў, несучы бярэма наколатых дроў, каб кінуць іх на бляшанае днішча пры дзверцах кафельнай пліты,

той самы таўстагубы, з цяжкім, даўгавідым тварам, заўсёды насуплены Антак, што за польскім часам старажаваў у школе, во гэтаксама напальваючы галандкі і званячы ў цяжкаваты з драўлянай ручкай званок.

Абмінаючы маруднага з бярэмам дроў Антака, насустрач Міцю з Камашылам спяшалася, падмахваючы сабе бурачковаю сумачкаю з металічным бліпчастым вочапкам, папрыгажэлая ад жаноцкае паўнаты Гэля Прыгоцкая. Смяялася, схаваўшы адно вока пад ганарыста ссунутую на правае вуха капялюшыкам.

— Я гляджу сабе, што гэта за ладны хлопец,— сказала і коса зіркнула прыхаваным вокам з-пад чорнага, з сіняватай перынай капялюшыка.— Ажно ж Змітрок Корсак.

— Не, каб мяне пахваліла,— скрывіў свой таўсматы твар Камашыла.

— Цябе німа за што.

— А ў чым жа яго вялічнасць?

— Ён начальнік у нас.

— Уга! Няўжо?

— У валасным камітэце. Як гэта яму ўлісціць?

— Сцяліся лісцікам ці не сцяліся, а на трудаўчасціе трэба ісці, праўда, Змітрык,— выпнуў тоўстую парэпаную губу Камашыла.

— Вот табе не шкодзіла б парабіць, выгадаваў чэрава,— навотліў рукою Прыгоцкая стукнула па выпучаным Камашылавым жываце і сказала ўжо, разгневаўшыся і са злосцю: — У мяне ж бацька бязногі. На той вайне адарвала... Ці дадуць хоць якую эмэратуру?

— Мы нарыхтавалі дакументы,— сказаў Міця, заглядзеўшыся на ружаваты і прыгожы твар.— Пенсіі будуць даваць.

— Толькі ўжо не далярамі,— з'едліва ўсміхнуўся і прыплюшчыў адно вока Камашыла,— як палучалі вы.

— Даліся ж вам у знакі гэтыя даляры,— раптам залілася чырванню і пакруціла чорным ■ сіняватай перынай капялюшыкам трохі ўжо раззлаваная Гэля Прыгоцкая і павярнулася да курносага, дробненькага хлопца, што скрывіў у непрыгожай міне твар, убачыўшы яе.

— Ну во, асарамаціў дзяўчыну,— бездапаможна развёў рукамі Міця, упікаючы Камашылу.

Але той ганарыста адвярнуў голаў, са смешачкай кракнуў:

— Гэ-э, яна яшчэ не дасць табе праходу з гэтай інвалідскай пенсіяй. На яе толькі зважай.

У другім канцы калідора, дзе, як і даўней, была прафесарская, заглэнгаў, збіўшыся з рытму, медны званок, якім званіў, панура ўгнуўшы галаў, стары Антак.

Міця нават прыпадняўся на пальчыкі, выцікоўваючы ў варухлівым віры людзей Чэсю. Са споду душы сачылася спадзяванне, што Чэся не ўтрывае і прыйдзе ў школу.

— Ты ў які клас запісаўся? — штырхануўшы, Міцю ачуціў ад разбэрсаных, трывожна-неадчэпных, гнятлівых думак Камашыла.

— У восьмы пайду,— рэзка адрэзаў Міця, злы ўжо ад таго, што не бачыў ні карычневага Чэсінага палітца, ні берэта.

— Заварочвай аглоблі да нас, у дзесяты. Нашто марнаваць два гады? У нас ці не ■ пятага сядзяць. Такія, брат, трутні.

— А як ■ матэматыкай? Не пацягну і буду сядзець, як баран.

— Нагоніш. Пайшоў бы, а там бог бацька, там будзе відаць.

— Не, Костак.

— Ну, добра, тады і я зайду ў твой восьмы. Хачу пагаварыць ■ табою. Ці ж ведаеш, што беларускую гімназію з Вільні пераводзяць у Наваградак? Педвучылішча будзе.

— А вас? — Міця чакаў, покуль не апусцее калідор: у душы не ачах трапяткі агоньчык надзеі.

— І нас, гімназістаў, пераводзяць у Наваградак.

Восьмы быў у бакавым астатнім пакоі, дарэчы, самым светлым, ■ прыгожай доўгай і самай лепшай у школе зялёнай дошкай, на якой лёгка і прыемна пісалася і якую, прыходзячы ў іхні сёмы клас і трымаючы пад пахаю вялікі драўляны цыркуль, хваліў худы з упалымі шчокамі і пукатымі, у пазалочанай аправе, акулярамі пан Шкудлярык.

І Міця задыхнуўся ад нейкай шалёнай радасці, убачыўшы зноў яе, зялёную дошку, і тыя шырокія, адно пры адным, тры акны з медзянымі закруткамі і бакавымі кручкамі.

Здаецца, асталася і тая лаўка, трэцяя ў другім ад вокнаў радзе, дзе сядзела яна, Чэся, першы раз і так шчасліва ўбачаная, з незнарок заломленай спаднічкай і заголеным каленцам у карычневай панчосе ■ белым гузічкам.

Цяпер там умасціўся чорны, вуграваты і незнаёмы Міцю мужчына, прыкрываючы локцем нязграбна выразанае чужое імя.

Не было толькі той драўлянай вешалкі з палічкай для шапак, што стаяла ў кутку за кафельнай грубкай, і цяпер, распранаючыся, усе клалі адзежу на астатнія свабодныя лаўкі.

Міця, паслухаўшы Камашылу, сеў ледзьве не ў самым канцы класа, куды ўжо ледзь дасягала скупое святло слабенькай, на ват сорак, лямпачкі.

— Тут жа цёмна, як у с...

— Наўрад ці сёння будзем пісаць,— умошчваўся ў нізкую і цесную лаўку Камашыла.

— А што сядзець склаўшы рукі?

— Мы тут больш дыскутуем. Асабліва [redacted] прывабнай настаўнічкай, што выкладае беларускую мову і літаратуру... Але чакай,— і Камашыла, падняўшы локаць, штурхануў Міцю.— Во, здаецца, яна ідзе.

Але ў клас ускочыла разагрэтая з пякучай чырванню на шчоках Гэля Прыгоцкая, а ўслед за ёю ўвайшоў, трымаючы пад пахай чорна-плямістую канторскую кніжку, худы Шкудлярык у карычневым клятчатым касцюме і ў карычняватым з белымі вочкамі гальштуку.

— Здравствуйте,— расцяжна павітаўся ён нечакана паруску, трохі схіляючы сваю лысаватую [redacted] рэдзенькімі, набок зачэсанымі валасамі галаў і кладучы на стол чорную ў сініх разводах і з белай наклейкай на вокладцы канторскую кніжку.

— Ты глядзі, як скора вывучыўся,— Камашыла моцна, па-мядзведжы наступіў на Міцеву нагу.

Шкудлярык, заўважыўшы Камашылу, усміхнуўся, зняў пазалочаныя акуляры, пакружыў хустачкай па шкельцах і, чапляючы іх на свой трохі гарбаваты тонкі нос, здзівіўся:

— А хто ж вас, таварыш Камашыла, адсадзіў [redacted] дзесятага ў восьмы?

— Ды сам... Даўно не бачыліся во... з Корсакам. Я з вашага дазволу тут пасяджу.

— А што, і Корсак тут? — акуляры, адбіваючы на шкельцах раздвоеную лямпачку, суха бліснулі сюды ў кут.— Я рады, што тут ёсць добрыя вучні. Я помню Корсака,— нейкім, здаецца, прытворным голасам сказаў Шкудлярык і павярнуўся да прадаўгаватай зялёнай дошкі, свецячы плешынай, заляскаў крэйдай, малюючы вялікі

круг з дзвюма пункцірнымі арбітамі і трыма кружочкамі. Зноў павярнуўся да класа і свабоднаю леваю рукою паправіў на пераноссі акуляры:

— У 1911 годзе англійскі фізік Рэзерфорд на падставе навуковых даследаванняў збудаваў мадэль атама і прадставіў яго не меней не болей, як сонечную сістэму, у якой дадатнае ядро становіцца сонцам,— худы сіняваты палец ткнуўся ў белую тлустую кропку пасярэдзіне двух пункцірных кружочкаў,— ■ вакол яго бягуць па акрэсленых шляхах электроны-планеты.

Міця стаіўся і знямеў ад цікавасці, толькі Камашыла турзаўся на лаўцы і горача соп у Міцева вуха:

— Бачыш, як стараецца.

— Дай паслухаць,— Міця злосна абсек Камашылу, не зводзячы вачэй з разгарачанага Шкудлярыка, што ўжо калаціўся ўвесь і, упэцкаўшы ў мел свой новы, шчытна падагнаны гарнітур, захлёбваўся ад паспешнае гутаркі. Забыўшыся, ён гаварыў ужо нават па-польску:

— Словам, матэрыя жые, распада сень, пжэтважа сень, умера...[1]

Міця, заслухаўшыся, нечакана падумаў, чаму гэтага не чуе Чэся.

Шкудлярык падмахнуў сабе худымі рукамі і стаяў гэтак, трымаючы іх угары: на белым адкладным манжэце бліскала прадаўгаватая, як прусачок, залацістая запонка.

— Пытанні ёсць? — Шкудлярык выцер хустачкаю змакрэлы лоб.

— Ёсць,— зарыпеўшы лаўкаю, паднялася Прыгоцкая.

— Прашу сядзець. Вы дарослыя, вы не дзеці.

— Я пастаю. Скажэце, а дзе настаўнік гімнастыкі?

— Я не ведаю... Пытайце, калі ласка, пра будову атама.

— Скажэце,— падымаючы ў вузкай лаўцы створку, каб было як умасціцца, зноў спытала Прыгоцкая,— а дзе вы так добра навучыліся гаварыць па-руску?

— Я нарадзіўся ў Расіі,— усміхнуўся Шкудлярык.— Але ласкава прашу яшчэ раз, пытайце пра будову атама.

— Бачыш ты яго,— на лаўцы зноў затурзаўся Камашыла.

— Ціха, быдла! — чмыхнуў у злыя ноздры і цяжка павярнуў лысаватую з пукатым лобам голаў сталы мужчына.

---

[1] Словам, матэрыя жыве, распадаецца, пераўтвараецца, памірае... *(польск.)*

Камашыла наліўся крывёю, але змоўк. Забурчэў ужо, злы і раз'ятраны, пасля званка, калі разам з Міцем выходзіў у калідор:

— Там у вас, пэўна, адны асаднікі. Пагаварыць усё роўна не дадуць. Пайду ў свой дзесяты. Хоць які свой?..— Ён падняў густыя бровы і сказаў Міцю: — Я ж, як гаворыцца, тут праездам.

— А чаго так? — абыякава спытаў Міця, зноў азіраючыся на вірлівы, людны і гаваркі калідор і шукаючы вачмі Чэсю.

— Ты што — бяспамятны? Я ж казаў, што нашу гімназію пераводзяць у Навагрудак.

— Казаў...

— Так што праз тыдзень-другі паеду туды.

— Шанцуе табе,— Міця ўспомніў, як некалі, зайздросцячы Камашылу, што едзе ў Віленскую гімназію, заплакаў на абветранай пустой шашы. Ад нейкага нечаканага і пякучага болю сэрца зашчымела і цяпер.

— А ты не бядуй,— Камашыла сціснуў Міцеў локаць, нібы счуўшы пра гэтую балючую крыўду і зайздрасць.— Скончыш восьмы клас, падавайся да нас.

— Лёгка казаць.

— Чаго збедніўся? — Камашыла зноў схапіў за локаць, але Міця раптам вырваў яго, знямелы ад радасці: абапіраючыся рукамі аб падаконнік, плячыма да акна стаяла Чэся ў сваім прыталеным капцініку са стаячым каўнерыкам і аблямоўкаю на грудзіне і тым мілым і нейкім ужо родным для Міці берэціку, што закрываў левае вушка і з-пад якога ўпарта лезлі кудзеркі рыжавата-залацістых валасоў. Аднак твар яе быў насцярожана-пакутны, вочы чырванелі ад нявысахлых слёз. Міця, распіхваючы купку дзяўчат і ледзьве не збіўшы з ног надушаную цёплымі духамі тоненькую яўрэечку ў цяжкіх акулярах, ірвануўся да Чэсі:

— Што з табою?

— Міцек, даруй, што так выйшла. Не будзь мсцівы. Матка... Ты яе ведаеш. Але не яна толькі вінавата...

— А чаму ты заплаканая?

Яна ўгнула галаў, але ён бачыў, як у кутках вачэй яе зноў насочваліся дрыготкія слёзы:

— Хадзем адсюль, я раскажу ўсё...

Міця азірнуўся на купку дзяўчат, што раптоўна зарагаталі — да іх падыходзіў, распасцёршы рукі і стараючыся

абняць усіх, Тадэк Пясэцкі, нечакана палыселы, з рэдзенькім чубком на высокім лобе.

Злавіўшы пільны Міцеў зірк, ён насцярожыўся, а потым крыкнуў, задзіраючы вострую бараду над галовамі дзяўчат:

— Чаго вырачыўся? Ідзі замальдуй, данясі! Але глядзі, на мяне нават муха баіцца сесці...

І ўжо даўнейшая, яшчэ не астылая злаба і помста, крыўда і агіда падняліся, гарачынёю забушавала ў Міцевай душы. Да болю, да хрусту ў касцях сцяліся кулакі. Але яго злавіла за плячо і павярнула да сябе Чэся:

— Пойдзем. Хачу, каб ты быў цэлы вечар са мною,— і збілася, ужо з нейкім гаркаватым смехам загаварыла па-польску:— Абысь был тылько моім панам [1].

— Пачакай, [redacted] толькі адзенуся,— ён яшчэ як сам не свой, збіты з тропу гэтай нечаканай сустрэчай [redacted] Пясэцкім, убег у клас, схапіў [redacted] лаўкі сваю марынатку і выйшаў зніякавелы і непрытомны, быдта пасля цяжкага сну.

— О тож ведзь, жэ я хцэ твоей верносці [2],— губы ў яе дрыжалі, вочы, убіраючы святло далёкай лямпакі, раз'ятрана гарэлі.— Там у нас пан Длубак. Пшынёс «Cherry Brandy» ў плоскай бутэльцы з глован бялэго недзьведзя на этыкеце. Ведаў, што вудка з домовым соком мі смаковала [3].

— І ты піла?

— Міця, што ты,— яна пакутна ўсміхнулася і ўзяла яго ўжо за руку.— Выдзьмы... Мушэн юж ісць. Поразмовямы по дродзе [4].

Твар яе здрыгануўся, і нешта нядобрае, злое загарэлася ў яе шараватых прыжмураных вачах.

Міця, чуючы на сабе нейчы злы і цікаўны позірк, выйшаў услед за ёю на цёмны дашчаны ганак.

Моцна грукнуўшы, цяжкія са спружынай дзверы заглушылі залівісты і дурнаваты рогат на калідоры.

Угнуўшыся, сціскаючы пад барадою свой невысокі падняты каўнер, яна панура ішла да брамы. Ногі яе ў блішча-

---

[1] Каб быў толькі маім *(польск.)*.

[2] Бо ведай, што я хачу тваёй вернасці *(польск.)*.

[3] Прынёс «Чэры брэндзі» ў плоскай бутэльцы з галавою белага мядзведзя на этыкетцы. Ведаў, што я люблю гарэлку з сокам *(польск.)*.

[4] Выйдзем... Я павінна ўжо ісці. Пагаворым па дарозе *(польск.)*.

стых гумовых снягоўцах блыталіся ў рэдзенькім жоўтым святле, што коса падала з шырокіх вокнаў.

Міця ішоў моўчкі, заміраючы ад нечаканага страху, трывогі і неспакою, не ведаючы і пакутуючы, што ўчынілася і што хоча сказаць яму Чэся.

За брамаю ў чарнаце прамерзлай і прапахлай вострым, прэсным марозам вуліцы яна раптам спынілася, сказала, не абарочваючыся, стоячы да яго спіною:

— Вазьмі мяне пад ручку.

Ён лёгенька, нібы баючыся, узяў яе за локаць і шчасліва-трывожна замёр, чакаючы таго няждана-страшнага і балючага, што скажа яна.

— Ты маеш нешта сказаць?

Яна цяжка ўздыхнула і папытала, здзівіўшыся:

— Можэ, лепей не мувіць? Можэ, не тшэба? [1]

— Не мув,— ён быў рады, што яна не будзе гаварыць пра рэнтгенолага, не будзе вярэдзіць Міцеву рэўнасць, і аддана сціснуў яе руку, чуючы, як яна нямоцна і таксама шчасліва паварушвае локцем і прыціскае яго руку.

Яны, нічога не кажучы, завярнулі на даўнейшую Дачную вуліцу, дзе пад чуткімі гонкімі хвоямі прытаіліся новыя дамы, што пахлі яшчэ смалінаю, пакостам і свежым кітам.

Над вуліцай цёмна-сіняй дарогай плыло, усыпанае ядранымі і мігатліва-калючымі зоркамі, нізкае неба. На захадзе, заблытаўшыся ў калючым і калматым галлі хвоек, нік, чырванеў вузенькі пярсцёнак маладзіка.

Чэся спынілася, паглядзела на яго, прытуліўшыся да Міці, спытала:

— А ты помніш тую ноч?

— У Баранавічах?

— Не, на Світазі. А я ўспамінаю,— яна шчакою цярнулася аб яго плячо і зазірнула яму ў твар.— Тэй ноцы квітнела зеле свентояньске [2]. Ты помніш? Мы шукалі яго...

— І не знайшлі,— ён хацеў развесяліць яе.

— А можа, сёння пойдзем шукаць яго, тое шчаслівае зелле?

Міця, здумелы, збянтэжаны і збіты з панталыку тым загадкава-незразумелым, што гаварыла яна, радасна і шчасліва маўчаў.

---

[1] Можа, лепш не гаварыць? Можа, не трэба? *(польск.)*

[2] У тую ноч цвіла папараць *(польск.)*.

— Я вем, тэраз юж напэўна вем, жэ цень кохам [1],— яна знайшла Міцеву руку і сціснула сваёю, у лёгкай шорсткай рукавічцы.— Ты не ведаеш, як я чытала твае пісьмы. Бо нікт не пісал до мне такіх лістув, як ты [2]. Яны білі па мне, як навальніца. Божа, як плакала я, перачытваючы іх. А ты ж не ведаеш — і цяпер перачытваю. Нават сёння.

Чэся падняла свой збялелы ўпоцемку твар, і вочы яе патаемна і глыбока заблішчалі і магнэзам цягнулі да сябе.

Міця нахіліўся, прытуліў Чэсю і, задыхаючыся ад яе пакорнай блізкасці, пацалаваў у мякка-сухаватыя вусны. Але яна не адказала на яго пацалунак, толькі зноў пакорна прыўзняла бледнавата-мілы твар з гэтым патаемным святлом у вачах. І Міця, ужо хмялеючы ад шчасця і баючыся гэтай Чэсінай нечаканай адданасці і гэтага незразумелага і патаемнага, нібы злога, прызнання, зноў абняў і з усяе моцы прытуліў яе да сябе.

— Чэся!!!

— Бондзь ласкув, мільч [3].

— Чэся.

— Прэшэн ці [4].— Яна, схапіўшы за голаў, не адпускала яго.

— Чэся, што з табою?..

— Не бойся. Я кахаю цябе. Я здурэла ад шчасця... Але пойдзем...

— Куды?

— Чэкаен на мне...[5]

— Хто чакае? — сумеўся Міця, зноў мярцвеючы ад страху.

— Он,— Чэся выслабаніла руку і раптам узлавалася.— Ест на дворцу колеёвым. Чэка на размовэн [6].

Міця стаяў, нічога не разумеючы, што робіцца з Чэсяй.

— Ходзьмы юж [7]. Там усе Дварчаны... Сёння вязуць студэнтаў з Вільні.

— Якіх студэнтаў? Куды?

---

[1] Я ведаю, цяпер напэўна ведаю, што люблю цябе *(польск.)*.
[2] Бо ніхто не пісаў мне такіх пісем, як ты *(польск.)*.
[3] Будзь ласкавы, маўчы *(польск.)*.
[4] Прашу цябе *(польск.)*.
[5] Чакаюць мяне... *(польск.)*
[6] Ён на чыгуначным вакзале. Чакае размовы *(польск.)*.
[7] Хадзем ужо *(польск.)*.

— Не роб такіх вочы. Не вем ешчэ дакладно... але, пэўна, не ўздровіско [1].

Хмельны і трывожна-радасны ад нечаканага Чэсінага прызнання, Міця ішоў, ніяк не могучы разабрацца, куды і чаго яна вядзе, што гаворыць:

— Міцек, я сёння ўцякла ад свайго шчасця... Я прагнала з дому пана рэнтгенолага. А матка любі го, чэнсто розмавян з нім і хцэ жэбы я...[2]

Насустрач варушыліся два цёмныя калматыя цені. Яны блізіліся.

Была чуваць галосная, крыху гартанная гутарка.

— У нас так: где безделица, там вино. А здесь все молятся.

— Да неужто?

— Смотри, какие кресты стоят у дорог.

Шахкаючы доўгімі шынялямі і суха парыпваючы скуранымі партупеямі, двое вайскоўцаў абыходзілі высокі, абгароджаны дашчаным плоцікам крыж, што стаяў у развілцы шашы перад пераездам.

— І цо то ў іх за чапкі? Таке смешны,— спытала Чэся, калі вайскоўцы мінулі іх.

— Гэтакія, кажуць, даўней насілі рускія воіны.

— А-а, рыцэжы? — зажмурылася Чэся ад лямпачак, што гарэлі на шарых, падзёўбаных «кошкамі» слупах абапал пераезда.

Міця толькі цяпер схамянуўся, што яны ідуць на чыгуначны вакзал.

Ад дашчанай будкі нясло чадным вуглёвым дымам. Вартаўнік, высокі сутулы мужчына, круціў корбу, паволі апускаючы паласаты шлагбаум са звінючым бляшаным ліхтаром.

— Скарэй, скарэй! — сярдзіта мармытнуў вартаўнік.

У нізкім поцемку за мостам, на далекаватым закругленні, гарэў двума зялёнымі агнямі высокі светафор. Працяжна, залівіста і, здаецца, зласнавата гукнуў паравоз. Перадзе яго па наструнёных рэйках затахкаў і з неразвоенам пабег цяжкі грукат.

Міця, трымаючы Чэсю за руку і прыгінаючы пад нецярпліва нахіленым шлагбаумам, мінуў недагледжаны з

---

[1] Не рабі такіх вачэй. Не ведаю яшчэ дакладна... але, пэўна, не ў санаторый *(польск.)*.

[2] А маці любіць яго, часта гаворыць з ім і хоча, каб я... *(польск.)*

патрушчанымі падасланымі дошкамі пераезд, на другі бок яго чмыхала і дрыжала радыятарам грузавая невялікая машына, свецячы лупавата-рачынымі, прыцемненымі фарамі на непадступнага, насупленага вартаўніка.

У кузаве, махаючы крыж-накрыж рукамі і ляпаючы сабе па плячах, грэліся байцы.

Раз, два, три — калина,
Чернявая дивчина
В саду ягоду брала.
Маруся!..—

падспеўваў сабе малады вясёлы голас.

— Ім яшчэ жартачкі,— Чэся спатыкнулася на высокіх грудах тлустай, перамешанай фурманкамі ды машынамі і замерзлай гразі.

— А чаму ж не. Маладым хлопцам.

Яны завярнулі за рог шчыльна абгароджанага пастаўленымі на стаяка шпаламі вугальнага складу. За ім задушліва адсопваўся і чмыхаў нядужы паравозік вузкакалейкі. У блочным дэпо з прасветам вялікіх расчыненых дзвярэй блішчалі жоўтыя і ружаватыя агні. Там звонка ляпала жалеза.

Чэся, тузануўшы за сабою Міцю, ірванулася ўбок, да прысадзістага з выгнутым, як у японскім будынку, дахам пагкауза.

— Куды мы? — насцярожыўся Міця.

Ззаду за імі нехта бег, і асіплы, задыханы голас некага клікаў:

— Не сюды трэба! Яны на той бок вакзала.

Міця ўладна і моцна трымаў Чэсю пад ручку. Яна, спатыкаючыся, пераступала нізкія на жалезных шпалах рэйкі вузкай каляі. І нечакана спынілася, штырханула плячом Міцю і задрыжала, як у гарачцы.

Недзе з-за пакгауза настылы скразняк прынёс і разарваў прыглушаную і трохі жаласліва-нядружную песню.

Маўкліва-насцярожаная, перапалоханая і ўражаная, Чэся прытулілася да Міці, і ён, трымаючы яе за локаць, чуў, як дробна, ні то ад холаду, ні то ад страху, яна дрыжала і калацілася ўся.

— Ты слышыш? — Чэся зноў задыхнулася глухаватым шэптам.— Гэта спяваюць стшэльцы.

Міця ўзіраўся туды, дзе за рампай, застаўленай вялікімі скрынямі, што пахлі сырымі асовымі дошкамі, упіраліся адзін у адзін пакатыя дахі таварных вагонаў. Каля

крайняга, абцярушанага сінявата-скупым святлом ад далёкага ліхтара, выбліскваў холадам сталі востры трохгранны штык. То паказваючыся на рэдкую скупую яснасць, то хаваючыся ўпоцемку, там хадзіў у доўгім шынялі рослы чырвонаармеец.

Міця глядзеў на яго, але бачыў ужо блізкую верасНёвую раніцу, калі сюды да пакгауза ў ланцужку арыштантаў паліцыянты гналі і яго, гналі праз тлум людзей, што непрыступнай сцяною абступіў хрусткую ад шпуру сцежку, і сярод спакутаваных, зжоўклых ад бяссоннай ночы, ад доўгага, нязноснага чакання твараў кабет і мужчын ён убачыў бацькаў твар і сярод жаласнага плачу і крыку распазнаў бацькаў голас:

— Змі-тры-ык!

Ён на міг прыпыніўся і ўбачыў, як абедзвюма рукамі бацька закрыў вочы. Плечы яго ўздрыгвалі — ён, мусіць, плакаў.

Але, ударыўшы ў спіну прыкладам, Гура не даў больш азірнуцца.

Як нядаўна гэта было! Як перамяніўся, перайначыўся свет і як астаўся вечным.

Не асмельваючыся ўжо гаварыць пра тое, што так выразна і ясна ўспомнілася, Міця асцярожна крануў, адарваў з месца здранцвелую Чэсю:

— Пойдзем.

Яны рушылі рыпучаю, засыпанаю перапаленым вугалем сцежкаю да белай высокай вадакачкі. Тут за ёю, у зацішку і цяньку пад чэзлаватымі старымі хвойкамі, прытоена туліліся, збіўшыся ў невялікія купкі, пудкія людзі.

Узіраючыся пільна на хлопца, што стаяў, уцяўшы голаў у плечы, і зnative знябожаную дзяўчыну, што прыперлася плечуком да хвойкі, Міця схаладзеў і заныў душою, пазнаючы Вайтовічаву Яніну і трохі з аблічча нейкага далёкага іхняга сваяка. Тут каля іх, бліскаючы агеньчыкамі вачэй, угінаў голаў і з перапалоху круціўся неспакойны, чуткі сабака.

Яніна борзда адсланілася ад хвойкі і, трымаючы перад сабою ўвязаную ў ручнік міску, падышла да Міці, нават задыхнулася ад радасці.

— Вой, Змітрык, ты?

— А ты чаго тут? — здумеўся і ён.

— Татуся прывезлі з Наваградка. Ён там, у малых вагончыках. Зараз калейка прыедзе сюды. Іх будуць пера-

ганяць у вялікі поезд,— яна ледзьве дагаварыла сухім, што перасядаў у горле, і ломкім голасам і ўсхліпнула носам.

— Ціха, не плач,— Чэся прытулілася да яе і абняла за плечы.

— Я ўжо ўсе слёзы выплакала, я не плачу,— яна нават з гонарам выпрасталася, у нейкай ціхай пакорнасці і пакутным чаканні — пазіраючы на састаў за рампаю, на таварныя вагоны з зачыненымі дзвярмі, на якіх варухліва-сіняватым пылам церусілася святло лямпачкі пад бляшанаю талеркаю на высокім слупе.

Нядужы вецер калыхаў талерку, і шырокі сноп святла хіснуўся і пабег, раптам бліснуўшы на пякучым вастрыі трохграннага штыка. Рослы баец, падбіваючы полы доўгага шыняля, ішоў уздоўж таварняка, састаўленага з кароткіх васемнаццацітонных вагонаў.

Мігатлівы бляск на яго штыку зноў вярнуў Міцю ў росную, шчымліва-халодную раніцу, калі іхнюю, абкружаную паліцыянтамі, калону прыгналі сюды, толькі не ў таварныя, а ў брудна-ліпучыя, нямытыя і непадмеценыя пасажырскія вагоны... Міця зноў учуў той даўні, той моцны ўдар прыкладам, што збіў яго з ног. І Міця тады, падаючы, выцяўся рэпкай аб жалезную падкладку на шпале і падняцца ўжо не мог. Падхапіўшы пад пахі, устаць памаглі арыштаваныя — двое вясковых незнаёмых мужчын.

Немагчыма было дабраць у галаве і спасцігнуць цяпер, чаму гэтак помсліва, нават з нейкай адкрытай слодыччу біўся Гура. Можа, проста, што звык біць іншых, што гэтага ўжо прагла і жадала яго душа, што ў гэтым ён чуў свой люты смак.

Завірылі і заблыталіся Міцевы думкі: няўжо свет быў і стаўся для чалавека такі патаемны, злы і нелітасцівы? Няўжо ў ім спакон веку нязводна жыве толькі нянавісць, хцівасць, злосць, помста?

Але дзе ж яго дабро? Няўжо толькі ў маёй душы? А ў іншых?.. А хіба няма дабра ў яе, у Чэсі, у знябожанай, спакутаванай ад гора Яніны? Дык адкуль зло на зямлі?..

Міця ўчуў, як па калашыне, прызнаючы яго, забіў калматым хвастом Вайтовічаў сабака. Ад яго пахла ветранінай.

— Сколькі ні ганяла ад сябе, не магла адагнацца. Унурыўся і бег за намі ў мястэчка,— Яніна павяла локцем,

трымаючы на ім увязаную ў ручнік міску, пэўна, з грэцкімі ці пшоннымі аладкамі.

Засвяціўшы трыма сляпуча-яснымі фарамі і паскрыпваючы на стрэлках, з-за прысадзістага дэпо высунуўся дадўгалычы з высокім комінам паравозік. Адзін у адзін падстуквалі буферамі і пахістваліся тры невялікія вагончыкі з белымі прыцярушанымі снегам дахамі — недзе ў Наваградку добра схаладала і нават заснежыла.

Людзі, што дрыготка туліліся ў купках пад хвойкамі зводдаль вадакачкі, з глухім, трывожным тупатам сыпнулі да рампы. Адлучыўшыся ад простай веткі, туды, мутнавата адсвечваючы, выкіроўваліся рэйкі вузкай калейкі, там за пакгаузам стаяў таварны эшалон.

Паравозік, мінуўшы рампу, спыніўся, для перасцярогі прысвіснуў зноў і, цяжка чмыхаючы параю, пачаў здаваць назад, на касую ветку, дзе каля стрэлак, саскочыўшы з тамбура, ужо стаяў і памахваў сцяжком счэпшчык.

Туды цяжка ўздыхнуўшы і ўжо ўсхліпнуўшы, ірванулася Яніна і за ёю гэльцнуў, паляцеў, як ашалелы, чорны сабака. І ў нейкай пакутнай трывозе, прыгнуўшыся, па адным, па двое адлучаліся ад тоўстых і крывых камлёў хвоек ужо старыя, нямоглыя людзі. Міця пазнаў худую, выпетраную, з акулярамі на гарбатым носе і тонкімі, як кіёчкі, нядужымі нагамі мацеру дырэктара школы пана Табеша. За ёю, перавальваючыся, як качка, мусіць, перахварэўшы ангелькаю, подбегам ішла цешча паліцыянта Гуры, несучы пад пахаю суконны паўшубак. Нешта нядобрае, помслівае і нешта горка-крыўднае і разам з тым жаласнае да гэтай калекай кабеты закіпела ў Міцевай душы.

Ён ускораў схапіць Чэсю за руку, каб не пусціць туды да вагонаў і не ісці самому.

— Мы не пойдзем, Чэся.

— Чаму? — не здагадалася яна.

— Я не хачу глядзець на Гуру.

Падбіваючы доўгія полы цёмнага шыняля, туды да вагончыкаў вузкакалейкі беглі падлетак-гімназіст і нізенькая распэтланая маладзіца з дзіцем на руках.

Чэся павярнулася і дзіўна вырачыла вочы; жоўтымі косымі кропкамі ў іх бліснуў і змерк агонь ліхтара:

— Бачыш, туды бягуць усе людзі. Там будзе, кажуць, татусеў калега — пан Чыжэўскі, што быў начальнікам дварчанскай станцыі. Падыдзем...

— Не, Чэся, я не пайду...

— Чаму ты такі злы?

— Я не злы, але я адпакутаваў з добрай ласкі тых, што стаяць у тых вагончыках. Няўжо я павінен ім даравацъ? — Міця трымаў, не адпускаў ад сябе Чэсю.— Скажы хоць ты, Чэся.

— Не будзь помслівы. Падыдзем.

— Нас блізка не падпусцяць.

Міця жахнуўся, азіраючыся на Чэсю, яна, выцягваючы голаў і прыкусваючы верхнюю губку, пільнымі вачмі шукала некага ў пройме вагончыка. Адтуль таксама з прагай і надзеяй блішчалі, адбіваючы святло ліхтара, глыбокія, упалыя вочы.

Пазнаўшы дачку, рукою махнуў Янка Вайтовіч. І да чырвоных, прыцярушаных снегам вузкакалейных вагончыкаў, трымаючы за тоўсты вузёл ручнік з укручанаю талеркаю, борзда, подбегам пайшла Яніна. Нібы ўкрадкам, выперадзіўшы яе, пабег туды і чорны калматы сабака. Але, згледзеўшы рослага салдата, рантам спыніўся і, перапуджана падціскаючы хвост, паслізнуўся, закоўзаўся на прыцярушаным снегам лядку і адбегся назад, пад крывыя, чэзлыя хвойкі, дзе стаялі Міця і Чэсяй. Ціха прысеў на заднія лапы, задраў угору сваю аблавухую голаў і працяжна, вусцішна завыў.

Усе пачалі з жахам азірацца. А ў чорнай пройме вагона, дзе на сырую папярочную дошку абляглі мужчыны, нехта па-мужчынску цяжка і наўзрыд заплакаў.

— Міцек, ідзьмо,— Чэся ўздрыганулася і моцна сціснула Міцеў локаць.— Мне не па сабе, калі вые сабака.

— Ён чуе гаспадара.

— Не толькі. Ён чуе, мусіць, смерць... Я помню, як у Баранавічах каля новага дома, на які праз тыдзень упала бомба, гэтаксама страшна выў сабака.

— Свет такі няпэўны. Невядома, а каму пашчасліціць у жыцці,— лёгка трымаючы, каб Чэся не пакаўзнулася на лапічку прысыпанага намараззю лядку, Міця павёў яе міма гэтай рэдзенька асветленай рампы, міма гэтых трох вагончыкаў вузкакалейкі...

Да глухога з зачыненымі аканіцамі Грабянкавага дома яны варочаліся змарнелыя і змучаныя, больш сам-насам думаючы пра тое, што ўбачылі. Чэся ішла, як адрошаная ад усяго, як сама не свая.

Ачуцілася ўжо каля брамкі, злавіўшы Міцю сваімі зле-

дзянелымі, халоднымі рукамі, і ціха, зазіраючы яму ў вочы, спытала:

— Што мне рабіць? Няўжо праўда ехаць у Львоў?

— Чэся, што ты? — Міця ўчуў, як у яго змяніўся голас, як нейкая даўкая сухата сціснула за горла.

— Міцек,— яе вялікія вочы задумліва глядзелі ў сябе, твар здаваўся змучаным, сцята-трывожным.

— Чэся, што сталася?

— Юж сень стало,— зноў сціснула яго рукі.— Я люблю цябе, Міцек.

Ён нагнуўся, тонучы ў зірку яе вачэй, сваімі вуснамі знайшоў яе цёплыя, сухаватыя вусны.

Яна адкінула галаў і ўся пакорна-трапяткая пацягнулася да яго. Потым, ужо астыўшы ад пацалунка, зрабілася зноў трывожна-задумлівай. І гэтак стаяла, абапёршыся рукамі на плот, у нейкай глыбокай, пакорнай утрапёнасці. Пахучы, натапыраны яе берэцік ссунуўся трохі на патыліцу, адкрываючы глыбока яе кучаравыя, зблытаныя з поцемкам валасы. Ноч пачужыла яе круглявы твар, прыцямніла падпухлыя вусны. Толькі вочы адсвечвалі таемным бляскам:

— Міцек, цо сень стало? Міцек? [1] — і яе рукі зноў шчымліва і аддана сціснулі Міцеву руку.

# XXIV

Хрысця, вядома ж, чакала ўсяго — і крыку, і гразьбы,— толькі не гэтага патайнога, як глыбокі і страхатлівы вір, спакою, калі Алеся, паклаўшы на нізкі шкапчык і борзда раскруціўшы з пялёнак сына, паклікала Імполя, каб падышоў ды зірнуў, ці вялікі вырас. Паклікала з ласкаю ды падманліваю дабратою, нібыта не было перад гэтым кляцьбы і сваркі, нібыта водле іх не было ўжо Хрысці. І па тым, як унураны Імполь адышоў, ачахнуў ад злосці і занадта лёгка ды паслушна рушыў да дзіцяці, як змяніўся і памякчэў ад радасці яго твар, Хрысця, нямеючы ад страху, прадчула, што не ўседзіць ён у Дварчанах, не ўтрывае, вернецца дадому.

І для Хрысці як нечакана заднеўся, так нечакана змерк і збрыдзеў свет, на душу каламутам аселі толькі сорам ды

---

[1] Міця, што сталася? Міця? *(польск.)*

ганьба. У ім як не было дабра ды праведнасці, так і няма! Але ж, пэўна, сама вінавата — завіла гняздо на чужой бядзе ды горы. Вядома, думала ды спадзявалася на лепшае. І любілі ж адно аднаго. А колькі ж радасці мелі, нават залішне, у гэтым цесным пакойчыку, дзе ад даўнейшага гаспадара асталася плеценая, з жалезным замочкам, карзіна, што ўжо служыла за куфэрак, нізкі расхістаны заслончык, жалезны з размаітымі завіткамі ложак ды неразбіты, ацалелы на старой этажэрцы ў покуці фарфоравы пан Езус. Падушку ды паліваны з чырвонай макавай кветкай збаночак, насыпаўшы ў яго круп, дала на разжытак спагадлівая Суля.

Імполь прынёс, знайшоўшы ў хлевушку, некалькі негаблёваных цалёвак — сасновых дошак,— каб пакласці іх на дзіравы без матраца ложак і збіць стол.

І Хрысця нават сама сабе не верыла, што на свеце ёсць шчасце. Суцяшаў Імполь — вясёлы ды акрыялы пасля бальніцы. Можа, занадта ганарысты зрабіўся і нібы разважны.

— Будзем жыць,— шаптаў ён, ахмялелы ад першай радасці, абдымаючы дужымі маладымі рукамі сарамліва-трапяткую, гарачую Хрысцю.

— Маўчы, Імполька, не ўрачы,— яна папраўдзе баялася, каб не спалохаць ды не адбіць, як птушку ад наседжанага гнязда, сваю выпакутаваную ды прыжданую долю.

Зняверылася, што можа быць і ў яе шчасце. Не судзіў бог.

І як у ваду глядзела: прыехала Алеся, і пачужэў, астыў да Хрысці Імполь. Адчужаны і задумлівы рабіўся. Перапуджаная, абамлелая Хрысця ў горкай пакуце пачала ўжо грызці і дакараць сябе, што рашылася на брыдкае ды страшнае, узяўшы да сябе Імполя. Чула ж душою, што хітрая, як лісіца, і куслівая, як падкалодная змяя, помслівая Алеся не папусціцца, не аддасць Імполя. Цяпер толькі сцеражыся ды чакай бяды. Але каб задні розум ды наперад.

Ападаючы сэрцам, Хрысця знала, што жыцця з Імполем не будзе. І яе ўжо разрывала ды пад'юшчвала спакуслівая злосць, як адпомсціць, зрабіць нешта страшнае і балючае ненавіснай Алесі. І гэтая помста расла, большала і пякучай атрутай раз'ядала душу.

Затлеўся і паволі пачаў гарэць агонь нянавісці і помсты да Імполя. А знарок ці не знарок падсыпаў гэтага агню Бронік Літавар.

Надоечы, перастрэўшы яе ў Дварчанах на вуліцы, ён чапіў рукою сваю зеленкаватую з баразёнкамі прастрочаных кругоў на брылі рагатыўку, знянацку ўжо, без ніякага смеху сказаў:

— Хрысця, гляджу во на цябе і думаю: харошая мы з табою была б пара. Глянь!

Ён нават узяў яе пад руку.

— Вой, што гэта выдумаў,— яна выкруцілася, зіркнуўшы на яго гарбаты, спушчаны да губы нос, і падумала, што каб ён адзін на свеце быў і то не пайшла б, але сказала іншае, дзеля жарту ўпікнуўшы:

— Кепска стараўся.

— Не грашы. Дзе ні быў, цябе на прымеце меў.

— О-ой, мусіць, благія твае прыметы ды знакі.

— Ды, пэўна ж, я нічога няварт, раз ты Алесінага прымака прывеціла.

— А табе што, завідна?

— Можа, й так. Але з хараства вады не нап'ешся, а ў горы жыць...

— Чаму ж у горы? Каб сёння, рукі меўшы, чалавек прапаў?

— Гультай ён, не выцерабішся з нэндзы.

— Не заракайся, можа, і сам з торбаю пойдзеш,— яна злосна падняла вочы, азіраючы зноў яго, паспраўнелага і пакруглелага ў твары за гэтага паўгода, як яны не бачыліся, ён і праўда адмяніўся ды вылюднеў, і яму пасаваў вайсковы суконны фрэнч з нагруднымі кішэнямі, што пічытна, як уліты, сядзеў на ім.

Ён адшпіліў медны начышчаны гузік нагруднай кішэні і суха зашархацеў васковаю ломкаю паперао:

— З курсаў вярнуўся... Навабранцаў абвучваць буду.

— Ого, які велькі начальнік.

— Ды трохі большы за твайго.

— Імполя не чапай! — коратка і злосна адсекла яна.

— Ды што ён мне, я табе во хачу сказаць,— ён зайшоў ёй наперад, перагарадзіўшы вузенькі, у дзве цэментовыя пліты, тратуар.

— Не заступ дарогі, чуеш? — яна сыпла на выбоісты, зацярушаны жоўтай, перацёртай саломай брук.

— Памагчы табе хачу.

— Пра якую помач ты кажаш? — яна на міг прыпынілася.

— Якое жыццё ў цябе з ім?..

— Якое ні ёсць — жыццё. І хай завідныя падушацца! — Яна рванулася гэтым няроўным і непадмеценым брукам.

Суха парыпваючы новымі вайсковымі чаравікамі, ён таксама прыспешыў крок, раптам гэты сухі і крохкі, як на марозе, скрып чаравікаў сцішэў.

— У мяне хата, як звон, гаспадарка...

Хрысця нават пайшла подбегам і не азірнулася.

— Пачакай, паслухай,— зноў востра і пякуча зарыпелі яго чаравікі.

— І не хачу! — задыхнулася яна, але ён, пэўна, не пачуў.

— Прыходзь да мяне, жыць будзеш, як пані.

— Ого, пані на ўсе сані,— ужо не стрываўшы, зарагатала Хрысця.— Можа, і фаэтон купіш?

— Брычка ды курносы вазок ёсць.

— Глядзі, цяпер багатых...

— Покуль, кажуць, ▪ багатага пух, то ▪ беднага — дух,— і ён, дагнаўшы яе, сказаў тое, пра што яна сціха, употайкі думала сама: — Сцеражыся ты Алесі, саступі ▪ дарогі.

— Не страш,— крыкнула ўжо ад злосці, а ў самое на вачах замакрэліся, запяклі слёзы, засланіўшы свет.

Уцякаючы ад Літавара, на бягу ўжо думала, што, можа, і праўда, на злабу ды помсту ўсім, пайсці да яго. І ад гэтых чужых, страшных думак мутнела, разломвалася галава. Паспакайнела і апомнілася Хрысця ўжо каля бальніцы, калі ў вузкай жалезнай брамцы разміналіся з Суліным мужыком. Ён нават сваёю бамбукавай кацубою перагарадзіў ёй дарогу.

— Слухайце,— задраўшы худы, сцягнуты жоўтаю скураю твар і гледзячы слепаватымі, глыбока ўпалымі вочкамі, ён ціха паўтарыў: — Слухайце, маю вялікі інтарэс да вас.

Нарэшце яна схамянулася, што гавораць да яе.

— Слухайце, там у вас у бальніцы мая Суля.

— Што вы кажаце? — зляюнулася Хрысця, хоць думкі вірылі, як цёмны снег, пра Імполя з Літаварам.

— Кажу — яна ў бальніцы,— Сулін мужык схіліў галаў у чорнай аксамітнай ярмолцы, вочы ў яго заслязіліся.

— Я не чула. Калі яе паклалі?

— Сёння ўночы ледзьве жыву давёз. Ты зірні ўжо...

— Дзіва што.

— Яна ў крайняй палаце. У тым калідорчыку, дзе паміраюць.

— Не выдумляйце,— Хрысця азірнулася, убачыўшы каля загнутай каленам вадасцёкавай трубы чырвонае з белай, адкрытай на вуліцу форткай высокае акно. Глыбокую зеленаватую слепату таілі запацелыя шыбы.

Тут, у кутняй палаце на другім паверсе, ляжаў Імполь. Хай і ляжаў бы. Хай. Нашто было браць? Але ж хацела паспрыяць і яму, і сабе. Думала, так будзе лепш. На́ табе...

— Не-не,— адагнаў яе неадчэпныя, як сляпучая цьма каля агню, думкі Сулін мужык.— Не там. Яна вунь дзе,— і паказаў жоўтай бамбукавай кацубою на другі канец шарага дома.

— Ці не знайду,— яе трохі разабраў дурны смех, калі яна ўбачыла, як у яго, нізенькага і зняможанага, ад холаду сінеюць шырокія адтапыраныя вушы і пад гарбаватаю тонкім носам дрыжыць празрыстая кропля.— Пабягу гляну,— сказала яна, каб абарваць смех.

— Ага, глянь, даражэнькая, глянь,— ён зашаркаў мутнымі старымі галёшамі на шурпатым ходніку, адступаючыся і даючы ёй дарогу.

Хрысця, задыхнуўшыся ад густога, настоенага паху лякарства, ускочыла ў бальніцу. Успудзіла за дзвярыма лупаватую ў зліняпым з абшытымі вялікімі гузікамі плюшавым паліто цётку Юзю, што драмала на крэсле, склаўшы пад прыпалом ружавата-пухлыя, ажно пашалушаныя рукі.

— Ой, дзяўча, німа на цябе спакою.

І ўзмахнула гэтаю пухлаю рукою:

— Але якое ж ужо дзяўча, мужыка чужога адбіўшы.

— Вой, папярок горла стаў вам гэты мужык.

— Грашно перад богам... Але цяпер што? Цяпер — рэспуст. Цяпер нічога брыдкага німашука.

Хрысця скоранька распранулася, скінуўшы свой капцанік і несучы яго за бар'ер з нізкай форткай, дзе ў радок стаялі тры драўляныя вешалкі.

— Чаго ж гэта тут раздзяваешся? — пад грузнай Юзяй зарыпела крэсла.

— Цётку Сулю гляну.

— Пры смерці яна,— зноў вяла махнулася пухлая пашалушаная рука.— Не дадуць і глянуць чужому. Вунь муж нядаўна быў.

Хрысця па шырокай лесвіцы з меднымі кручкамі для

прэнцікаў, што трымалі даўнейшыя дывановыя дарожкі, адным дыхам узбегла на другі паверх. Завярнула ў той калідорчык, дзе была ардынатарская. Прыпынілася, трохі сумеўшыся, што каля белых шафак не было Чэсі. Пры століку сядзела, прыгожа склаўшы з непрыхаванымі каленцамі, спрытныя і гладка абцягнутыя тонкімі шоўкавымі панчошкамі ногі, чужая пані. Пагойдвала бліштчастым лакіраваным туфлем [illegible] растапыраным банцікам.

Пафарбованыя чырвоныя губкі злосна скрывіліся:

— Гражданочка, вы куда?

— Да пані Сулі, пагаварыць хачу.

— Нельзя тревожить.

— На хвілінку. [illegible] ведаю, што яна не акрыяла.

— Какие разговоры?

З ардынатарскай выйшаў, бліснуўшы калючымі вачмі з-пад чорных густых броў спярша на Хрысцю, [illegible] потым на гэтыя спрытныя ў лакіраваных туфельках ногі, малады рослы хірург, што лячыў яшчэ Імполя.

— Гэта наша тэхнічка. Хай зойдзе,— сказаў ён, не адрываючы вачэй ад ганарыста выстаўленых з-пад расхрыстанага халаціка спрытных ног.

— Вы же знаете, что нельзя, пан профессор?

— Сестжычка,— папрасіў па-польску ўжо доктар,— хоць на крутко, нех зобачыць [1].

Медсястра горка ўсміхнулася і пакруціла галавою з высокім накрухмаленым каўпачком, але Хрысця ўжо адчыніла белыя дзверы ў задушлівы ад лякарства, поту і мачы вузкі пакойчык з чатырма нізкімі, спаянымі з паласовага жалеза ложкамі. На крайнім, ад акна, ляжала Суля: рыжыя густа-калматыя валасы з сівымі пасмамі хавалі пуставатую, падпаленую пры гарачай кафельнай печцы падушачку.

З астатніх ложкаў на Хрысцю зіркалі і гарэлі ад цікавасці чужыя вочы.

Маладжавая адутлаватая кабета, спусціўшы на падлогу ногі ў сівых, зацыраваных на пятках цёмнымі ніткамі, суконных панчохах, прысела на невысокім ложку, растапыранымі пальцамі падграбла доўгія распушчаныя валасы. Перахапіўшы Хрысцін зірк, спытала:

— Вы да яе? Падала яна з ложка, як сама не свая была.

---

[1] Сястрычка, хоць ненадоўга, але няхай зірне *(польск.)*.

— Мусі, ад памяці адыходзіла,— сказала другая, павярнуўшы свой востры нос.

— Ага, мы ўжо тут да ўсяго гатовыя былі.

Але раптам рыжая калматая галава паварушылася, і нядужым, ледзьве жывым голасам аказалася Суля:

— Ай, нічога не было... Ну, упала... Ці раз я падаю.

Усе зляknуліся, збянтэжана перакрывіўшы твар.

Хрысця нагнулася над ложкам. Суля, не паварочваючыся, але чуючы над сабою Хрысцю, спытала:

— Гэта ты, Крыстынка?

— Я, цётка Суля,— і Хрысця паправіла ёй сукню на голым рабацінністым плячы.

— Дзякуй, што прыйшла. Ты — як родная дачка...

— А што гэта з вамі?

Хрысця стаяла над ёю, не ведаючы, як ужо суцешыць, што сказаць гэтай старой кабеце, якая не раз паспачувала самой прыветным словам і набыткам.

— Не чапай яе, дзеўка,— зарыпела сваім жалезным ложкам востраносая кабета.— Яна і так дзіцянее, не ведае, што гаворыць.

— І праўда,— падтакнула ўжо маладжавая з распушчанымі валасамі.

— Жыдовачка трохі акрыяла, то дай ёй спокуй.

Хрысця адышлася ад ложка, пастаяла ў парозе, зноў азіраючы гэтую задушлівую палату, хацела спытаць, што прынесці Сулі, але ціхенька выйшла.

За столікам пры жалезнай з шклянымі дзверцамі шафе, дзе нядаўна сядзела медсястра, звесіўшы галаў, драмаў, чакаючы, мусіць, яе, лысы з падбрытымі і, пэўна, пафарбаванымі чорнымі вусікамі мужчына ў карычняватай байкавай куртцы і гэтакіх самых байкавых, караткаватых і згамтаных портках.

— Вы не ведаеце, дзе ж гэтая паненачка дзелася? — ён падняў лысую з глыбокім раўком галаў.— Мне ж лякарства для вушэй трэба.

— Можа, дзе ў ардынатарскай,— сказала, чуючы не раз гэтае слова, Хрысця і тут жа з гонарам дадала, расталкаваўшы: — Дзе дахтарэ збіраюцца.

— Каб гэта я ведаў,— мужчына падняўся і пайшоў невядома чаго за Хрысцяю.

— Вунь, у канцы калідора,— махнула рукою Хрысця, кіруючыся ў бок да лесвіцы.

Каля гардэроба, абапёршыся растапыранымі пальцамі аб бар'ер, стаяла пані Богна, косячы вачмі на маладога смуглявага мужчыну ў цёмна-шарым шынялі і фуражцы з малінавым аколышам.

Насцярожана-чуткая Богна, злавіўшы Хрысцін востры позірк, павярнулася і заступіла гэтага вайсковага, віднага сабою мужчыну.

«Яна мяняе мужыкоў, як цыган коней. Кажуць, чацвёрты ўжо». Хрысця знарок паволі выйшла каля іх, азіраючы з ног да галавы рослага татарына,— ажно не вытрываў, уцяў голаў у плечы і адвярнуўся.

І ўжо ўчула, як зачмыхала ад злосці ашалелая пані Богна.

«Чмыхай, дзьміся, як сыч, хіба я баюся». На хаду надзяваючы свой каптанік, Хрысця завярнула ў бакавыя дзверы, каб там ужо па гранітных сходах падняцца яшчэ да адных і выйсці ў двор, да чубатага гуральскага доміка, дзе было радзільнае аддзяленне.

«Як бог не дае людзям роўнасці. Няўжо я горшая за гэтую разбэшчаную Богну? Ці мо таму, што гэтак, не маючы ні сораму, ні брыдкасці, не выкручваюся перад мужчынамі, не загольваю сваіх каленяў. Чаму ж мяне напаткала горкая доля? Ёсць адзін Імполь і з тым хочуць разлучыць. Чаму не ўдалося ні жыццё, ні каханне?..

А можа, і ў Богны не склалася ўсё так, як хацела. Не пашэнціла кабеце. Прыгожая была. Ліплі хлопцы. Абманулася раз, а потым... і шанавацца перастала».

Хрысця пакаўзнулася на хрумсткім лядку крывой сцежкі, што абмінала шчотку падстрыжаных кусцікаў і зеленавата-чорныя камлі гонкіх маладых ліпаў. Белымі адбіткамі слядоў на прышэрхлай тугой сцежцы стракацеў нацярушаны надоечы сняжок.

Бразгаючы пустымі вёдрамі, з цяжкіх на тугой спружыне дзвярэй вышчамілася нізенькая з бялявым тварком і гэткімі ж бялявымі, аж зеленкаватымі валасамі, што тугою хваляй крута і ганарыста ўздыбіліся з-пад хусткі, гаваркая і лісявая тэхнічка Лёлька, што рабіла на змену з Хрысцяй.

— Вой, навасць раскажу. Чуеш, Крыстына?

— Ну, кажы,— са злосцю аказалася Хрысця, не адышоўшы ды не акрыяўшы ад сваіх думак.

— Юзэфа акацілася.

— Каб табе ўжо язык аблез, як ты гаворыш?

— Гавару. Вунь уночы двэйгу прывяла. Дзве дзяўчынкі.

— Ой, вымучылася... Месяц перанасіла,— Хрысця ўспомніла, як Юзэфу то вялі ў аперацыйную, то варочалі назад у палату.

— Вымучылася, ды яшчэ як. А вунь яе сугнет прыйшоў і дахаты не хоча браць,— моршчачы свой пукаты лоб, Лёлька з дзівам падняла бялявыя бровы.

— Як? — Хрысця паўзіралася на сонны, падпухлы Лёльчын твар, на расхрыстаную шыю: на ёй цямнеў касаваты засос ад пацалунка.

— Хай іх ліха пабярэ, гэтых мужчын,— Лёлька змеціла залішне цікаўны Хрысцін зірк і, узяўшы ў адну руку вёдры, другою туга сцягнула каўнерык зялёнага байкавага капталіка, што выдавалі ў шпіталі тэхнічкам.

Хрысці ўспомніўся сённяшні Імполь — зніякавелы і адчужаны. Гэтакі ён зрабіўся пасля Алесінага прыезду: дзьмуўся, як сыч, і маўчаў.

Нічога не сказаўшы Лёльцы, пацягнула за ручку тугіх дзвярэй, прайшла каля мужчын ды баб, што сядзелі ў калідорчыку, з нецярплівасцю і трывогай чакаючы парадзіх, і паднялася ў сваю камору. Прысела на белыя вагі са ржавелай і без гірак ужо штангай, што каторая пара заміналі тут у вузенькім закутку, а пазаўчора нехта ўвапхнуў яшчэ тое страшнае крэсла ■ нахіленай і прадаўгаватай, як дзіцячая палатняная калыска, спінкай, якое стаяла ў кабінеце доктара Ясінскага і ў якое садзілі цяжарных спакутаваных маладзіц. Хрысця бачыла раз. Няхай крые бог! Не! — забі, рашы на месцы, а яна не села б у тое крэсла.

Хрысця нават зморшчылася, успамінаючы, як яно называецца. Здаецца, і ўспомніла, але вымавіць усё роўна не змагла, як вымаўляла пані Богна — гінекалагічнае. У Хрысці ажно мароз па скуры пайшоў.

Але няма чаго заракацца. Можа, нават прыйдзецца прасіцца, каб пан Ясінскі пасадзіў у такое крэсла самую, бо ці не зацяжарала, не паспраўнела ад Імполя. Шапталіся ў палаце парадзіхі, што доктар Ясінскі тайком прымае маладзіц — робіць аборты. А надоечы, кажуць, выратаваў адну ад немінучай смерці: яна задушыла, запарола плод, і гніў з месяц ці больш. Але хіба не грэх душыць ды скідаць дзіця? Пэўна ж — грэх. Ды так ужо рассудзіў бог: мужчына пацешыўся, пазабаўляўся, а ты, неразважная,

зняслаўленая паненачка, гадуй, мучся, век жыві з ганьбай і ціхенька плач, праклінаючы сваю горкую долю.

Хрысця ўчула, як ліпучы пот спярша холадам, а потым гарачынёю абліў спіну, выступіў на лобе, замакрэўся нейкай гідкасцю на далонях рук. Выціраючы іх аб прыпол, паднялася з рыпучай платформы няспраўных вагаў, скінула стары, выцерты ў локцях коцікавы каптанік, што падарыла ёй Чэсіна маці, і вызірнула за дзверы. Па калідоры, высока несучы бялявую галаў в пышнай прычоскай, на якой ганарыста сядзеў накрухмалены каптурык з чырвоным вышытым крыжыкам, уладна і шпарка ішла пані Богна. «Дзіва што на яе мужчыны глядзяць, калі тут сама вачэй не адарвеш»,— Хрысцю разабрала, узяла злая, хцівая зайздрасць.

Змеціўшы пільны зірк лупаватых Хрысціных вачэй, пані Богна нібы спатыкнулася і, беручыся тонкаю рукою за ружаватую напудраную шчаку, хмура павярнулася назад. Не адрываючы ад напудранай шчакі гэтай тонкай з доўгімі налакіраванымі пазногцямі рукі, скупа ўсміхнулася і нечакана папрасіла:

— Бондзь ласкава, зайдзі ў шаснаццатую палату.

— Вой, што там? — насцярожылася Хрысця.

— Ніц важнэго... Пані Юзэфа да цебе маён просьбэн [1].

Хрысця, сумеўшыся ад гэтай навіны, завярнула ў папярочны калідор, у тую вузкую палату, дзе ляжала шасцёра парадзіх і дзе пасля аперацыі ледзьве не памерла маладзенькая, дзевятнаццаты гадок пайшоў, кучаравенькая, надта ж харошая з твару Кася.

Можа, і з Юзэфай што, азірнулася на пані Богну Хрысця.

— Не бойся, ідзі, ідзі,— махнула рукою, бліскаючы вянчальным пярсцёнкам, пані Богна.

У палаце, дзе ўжо ляжалі дзве новыя парадзіхі, на тым жа нізенькім папярочным ложку на рып дзвярэй павяла вялікімі спакутаванымі вачмі накрытая да падбародка коўдрам, мярцвяна-белая ў твары Юзэфа.

— Сёння нарадзіла ажні дзвюх, ці ведаеш хоць? — спытала яна, ловячы там спадыспаду і нацягваючы на сябе зліняла коўдра.

— Ведаю,— Хрысця паправіла на ёй коўдра.— А на каго ж падобныя?

---

[1] Нічога важнага... Пані Юзэфа мае да цябе просьбу *(польск.)*.

— На злыдня, на нехрысця майго.

— Чаго ж та вы так? — здзівілася і азірнулася на астатніх парадзіх Хрысця.

— Дзіцятка маё, ты чула ці не?

— Не,— адступілася Хрысця, пазіраючы на сіняватыя прыпухлыя Юзэфіны губы.

— Ён жа ж да Бяляткавай пайшоў.

— Якой Бяляткавай?

— А вунь, што за касцёлам хата.

— Як жа ж ён?..

— А во так. Бачыш, хлопца хацеў, а я яму знарок дзевак прывяла.

— Ды за гэта?

— Вер яму,— азвалася ўжо з кутняга ложка маладая з тонкім худаватым тварком і карымі бліішчастымі вачмі парадзіха.— Знайшоў адчэпку...

Юзэфа маўчала, прыплюшчыўшы вочы, але з-пад дрыготкіх павек высачыліся і свяціліся смуткам слёзы.

— Трудна, але не згінеш. Дзе дзенешся, будзеш жыць,— сказала парадзіха з кутняга ложка.

— Ды буду, праўда, дзе дзенуся,— не расплюшчыла вачэй Юзэфа.

— Свет такі цяпер, разбэсціліся людзі,— аказалася жанчына з жаўтлявым і пабітым ад воспы тварам, што дагэтуль маўчала і, як Хрысці здавалася, падазрона цікавала на яе.— У нас вунь старая дзеўка на ангельку перахварэла. Нага кароткая ў яе. І тая мужчын займае.

— І бягуць, пэўня? — засмяялася парадзіха з карымі бліішчастымі вачмі.

— Як сабакі на рэзні.

Хрысця стаяла, як абязвечаная. Даўняя, што ачахла, брыдкасць атрутным джалам зноў балюча ўпілася ў сэрца. Так недзе абгавораць і так праклінаць будуць яе за Імполя.

— А ці чулі, што ў Рабках родныя сынэ бацьку з нейкага адрэза праз акно застрэлілі?

— За што? — нібы ачнулася ды перапытала, ледзьве варушачы сіняватымі засмяглымі губамі, Юзэфа.

— Што да каханкі хадзіў. У яе на хутары і забілі... Тамака, праўда, маці падвучыла.

— Што ўжо вучыць, хай жыве, трасца з ім,— Юзэфа маргнула гэтымі спакутаванымі вачмі, падазвала да сябе Хрысцю, сказала ціха, каб чула толькі яна: — Любка, то

ласку зробіш, калі падыдзеш ды глянеш, як там дзеці маюцца.

— Падыду,— махнула галавою Хрысця.

— Жыву я тут блізенька. Але як табе расказаць... На Папярочнай мая бітка, але не пры вуліцы, а ў глыб двароў стаіць. Не ўсякі знойдзе.

— Язык давядзе, цётка Юзэфа,— Хрысця сваёю рукою накрыла бяскроўна-белую, халодную, як лёд, Юзэфіну руку.

— Дзяўчаткі яшчэ неразважныя. Адныя асталіся. Большай дванаццаты пайшоў,— падбародак у Юзэфы задрыжаў, губы скрывіліся, і яна адвярнулася, захлынуўшыся ў бязгучным плачы.

У Хрысці ад спагады гарачынёю аблілося сэрца, і яна, каб не заплакаць сама, скоранька выйшла з палаты. Выйшла ўжо як сама не свая і ад гэтай навасці, што Юзэфу пакінуў мужык, і ад свае пакуты — як быць з Імполем: ці жыць, ці выпраўляць назад дадому.

Перагарэўшы сэрцам, там яго чакае Алеся. Раз яна, непадступная ды ганарыстая, рашылася прыехаць па яго, то, знаць, даравала ўсё, як даравала б і Юзэфа...

Адыходзячы ад памяці, прыбітая ды растрывожаная, Хрысця перамыла палаты, брыдзячыся яшчэ і чужой крыві, і чужой, харканутай на падлогу зеленаватай плямы, і чужой неакуратнасці ў адхожым месцы, і потым збегала ў дрывотню — дашчаны, закладзены бярозавымі кругляка-мі навес, дзе шоргаў пілою лянівы і няспешны вартаўнік, нанасіла сыраватых, што пахлі халоднай гаркавасцю, бярозавых дроў (па бярэмю пад кожную карычняватую печку) і сказала пані Богне, што недабрыцца ёй,— змахлявала, каб ісці на Папярочную ды шукаць, покуль не захапіў вечар, Юзэфіну бітку.

Вузкая, але выбрукаваная, абсаджаная абапал чорнымі згалелымі садкамі Папярочная была, праўда, не так і далёка ад бальніцы; Хрысця толькі і не ведала, што яна гэтак называецца.

Прайшоўшы каля шара-зялёных, што падгнілі за восень, платоў, за нізкай з саламянай страхою і расхрыстанымі аканіцамі хаткай Хрысця ўбачыла белы атынкованы дамок. З высокага бруку стрымгалоў у лагчыну да ганка з круглымі драўлянымі слупамі і пафарбованымі балясамі бегла вузкая, двум вазам не размінуцца, затравелая вулачка, засыпаная дрыготкім, як тапалёвы пух, сняжком.

Ён і цяпер вяла і нехаця церусіў з хмурага неба, блытаючыся ў чорным, натапыраным галлі невысокіх сліў, што чэзлі радком пры плоце.

За чорнай, збэрсанай сеткай іхняга галля ў чужым глухаватым акне адшмаргнуўся краёк занавескі: ведаючы, што ў бітцы няма гаспадароў, нехта падазрона цікаваў за Хрысцяй.

Пасівелай ад замаразку нешырокай вулачкай, абапал якой да болю ў вачах мільгаў частакол, Хрысця падышла да белага з чорным дранічным дахам зухаватага дамка.

Па вывернутым карытцы і непрыбраным са сцежкі чыгуне можна было здагадацца, што ў хаце няма пільнай гаспадыньскай рукі.

На ганку і ў адчыненых сенях, запаскудзіўшы ўсё, тапталіся галодныя куры.

Задыхнуўшыся ад іхняга свежага памёту, Хрысця пацягнула да сябе непрычыненыя дзверы і жахнулася: каля печы ў разлітай капусце, пляскаючы рукамі, забаўляліся дзве дзяўчынкі, адна гадоў трох, другая — пяці. Абедзве бялявыя, з падстрыжанымі валасамі і абедзве сваімі паўнаватымі тваркамі і надзьмутымі губкамі падобныя да Юзэфы.

Каля ножкі вузенькага, накрытага зеленаватай цыратай століка валялася некалькі жоўтых з белымі рыскамі чарапкоў — незнарок скінутая і разбітая міска.

Як чуючы віну, меншая [redacted] дзяўчатак пасунулася ракачком пад стол. Большая, убачыўшы незнаёмую цётку і разявіўшы раток, застыла ад дзіва і страху. Вочка ў яе нібы трохі касіла.

— Вы адныя ў хаце? — спытала Хрысця, чуючы, як дрыжыць ад раптоўнага жалю і шкадавання да дзяцей растрывожанае сэрца.

— Ага.

— А большая дзе?

— Маляко,— асмялеўшы, ужо азвалася з-пад століка меншая.

— Ага,— трасянула абвіслымі бялявымі валасамі большая,— па малако пайшла.

— Казі маляко.

— Ага, ад казы малако,— сказала большая, падымаючыся з падлогі і вінавата пазіраючы на мокры падол сукенкі.

Хрысця спешна, хоць на скорую руку, знайшоўшы анучу, выцерла падлогу, а потым ужо, перабраўшы ў жоўтай шафе на палічках бялізну і выбраўшы тое-сёе са зліНялых сукеначак, пераапранула дзяўчатак.

Спярша зазірнула асцярожным вокам у акно і нарэшце ўвайшла ў хату суседка, што сцішком цікавала за Хрысцяю. З недаверам распытала, чаго яна тут, і падабрэла ўжо сама, нечакана ўсплясНуўшы рукамі:

— Рэспуст! Цяперашнім светам нічагутка не саромеюцца, ні да чаго ўжо не прымаюцца.

Хрысця, падумаўшы пра сябе з Імполем, нават зачырванелася.

— Во пяцёра дзяцей кінуў, і не знайся,— кабета скоса зіркнула на дзяўчатак, што сцішана слухалі гутарку.

— І не прыходзіць дахаты? — здзівілася ўражлівая Хрысця.

— Чаму? Для адводу вока нават з ёю.

— А хто ж яна? — з патайной цікавасцю спытала Хрысця.

— Можа, чула? Летась у нас мужчыну заходвалі. Ён пахыркаў, пахыркаў да памёр,— і голас у кабеты сцішэў.— Падазронасць ёсць, ці не яна яго...

— Няўжо? — Хрысця глядзела на смуглявы з задзірыстым носам кабецін твар. Яго скупаватай чырванню аблівала і падхарошвала хустка.

— Мая дарагая, калі злюбяцца, то якой ужо бяды не наробяць. Вуньдзека каля Зецялы жонка з каханцам у возера свайго мужыка ўкінула. Забіла, а потым у мяшок... Рыбакі праз год вылавілі.

Чуючы непрыязнь, нават злосць да кабеты за тое страшнае, што расказвала яна, Хрысця скоранька павярнулася да дзвярэй.

— Пабягу я.

— Ты ж паклон там Юзэфе перадай. Хай не ўбіваецца вельмі. Выгадуюцца дзяўчаты, а дзе дзенуцца,— кабета растапыранаю ў набухлых, пераплеценых жылках рукою злавіла бялявую галаву большай дзяўчынкі.— Але хібя ж лёгка гадавацца без бацькі? Я з трох год асталася сіратою. Ведаю...

Хрысця, памагаючы каленам, адчыніла цяжкія філянговыя дзверы. Выскачыла на двор.

Гусцеў, завесіўшы сівай каламутнасцю свет, лёгкі сухі снег. Па мяккай, яшчэ не хрумсткай парошы Хрысця вы-

бегла на вуліцу. Цяжкім, нязносным дакорам у галаве вірылі злыя, трохі з гугнявай шапялявасцю словы: «Але хіба ж лёгка гадавацца без бацькі? Ведаю...»

На разагрэтыя шчокі шчымлівым, пякучым болем садзіўся снег. Са скразняку вуліцы ён паплыў густа, як вада, і шчодра нават зашапацеў і зашоргаў па натапыраным галлі прысаддзя.

Прымружыўшы вочы і тулячыся бліжай да плота, Хрысця прабегла шырокую з нечаканым дзіцячым крыкам насупроці школы вуліцу і завярнула на сваю, вузенькую і глухаватую, з адзінокай падводай, што прыткнулася да шырокай брамы з дашчаным надстрэшкам.

Сэрца страпянулася, заныла ад гарачага раптоўнага ўспаміну: перад вачыма ўстаў пазаўчарашні дзень, калі тут на вуліцы, да шульца брамы, прывязала свайго каня і ўвайшла з дзіцем на руках у іхнюю з Імполем кватэру, адчаяўшыся і рашыўшыся на ўсё, помслівая Алеся.

На ручцы настылай клямкі Хрысця ўчула, здаецца, яшчэ той нядаўні холад Алесінай рукі, як учула і яе той, ужо ласкавы да Імполя, голас: «Ідзі глянь, які сын вырас». І асалавелая, бязвольная і абамлелая ўся ўвайшла ў доўгі, што кіславата пах квашанаю капустаю, калідор.

Счуўшы тупат яе ног, з пакойчыка, папіхаючы рыпучыя дзверы, на калідор вызірнуў Імполь. Твар у яго палымнеў разгарачанай радасцю, вочы свяціліся, адбіваючы святло тыльнага акна.

— Ты? Скора так...

— Я,— яна ўгнула галаў, каб не глядзець яму ў вочы, каб не скарыцца перад ім.

— А мне тут дзень годам здаўся.

— Па Верасаве гаруеш,— сказала знарок, каб пачаць сварбу, каб не было ласкі.

— Няведама што выдумала,— ён адарваўся ад дзвярэй і прыкульгнуў на нездароўчую нагу.

— А тое і гавару — пара табе дахаты!

— Я ўжо быў наконт работы ўмовіўся.

— Работа знойдзецца... удома.

— Хрысця, я во яшчэ не ачуняў,— ён стаяў, бездапаможна распасцёршы рукі.

— Грэх сядзець тут, пакінуўшы ўдома жонку і дзіця.

— Што з табою, Хрысця?..

— Са мною нічога, а ніц. Ідзі дадому! — І ўчула, як цяжкаю, гарачаю млявасцю гэтыя словы аблілі сэрца.

— Не, да Алесі не пайду,— насупіўся і паліўся неадступнаю злосцю ён.

— Пойдзеш, а дзе дзенешся? Яна цябе ўсюды знойдзе. З пекла дастане.

— Хрысця...

— Адзявайся, кажу!

На гэтую сціпную, але зацята злосную сварбу на калідор высунула чорную, коратка падстрыжаную галаў немаладая кватарантка, што прыехала з Расіі і рабіла ў дварчанскай бальніцы санітаркай.

— Чевой-то вы? — падазрона спытала яна, высунуўшыся далей на калідор і трымаючы на выпуклым жываце складзеныя рукі.

— Адзявайся, кажу! — расцяжна і цвёрда паўтарыла сваё, ужо неадчэпнае, Хрысця, нібы не бачачы яе, цёткі Фрузы.

Імполь, чуючы цвёрдую, рашучую непакорнасць у Хрысціным голасе, як абязвечаны, як адрошаны ад усяго, накульгваючы на балячую нагу, пайшоў у пакойчык апранацца.

А Хрысця, павярнуўшыся да цёткі Фрузы, уткнулася тварам у мякенькую, сінюю з белым гарошкам яе саціна-вую блузку.

Гарачыя, едкія слёзы агнём выпякалі вочы, і даўкі, тупы камяк падступаў і здушваў горла: яна ўжо ведала, што робіць не тое, што раскаецца за гэта не раз, але адступіцца не магла.

## XXV

Няма вечнага на зямлі, аднак усё памірае, каб адрадзіцца зноў у зерні сваім. Круцячыся лееч-кай, на чысты белы снег з высокага гузаватага клёна апускаліся карычневыя лапаткі насення.

Дыхаў востры сіверны вецер, і з мяккіх апоўзлых стрэх вірыў лянівы рэдкі пылок. Не набраўшы моцы, лёгенька праманьвала завея. З разгайданых рыпучых прысад сыпаліся камякі шорсткага снегу.

Праглынуўшы ўчарашні чорны дзень, нечакана ўночы выпаў глыбокі снег. На сухую, умерзлую да звону зямлю, каб ляжаць ужо да прэснай вясны, покуль яго не з'есць

волкі туман. І тады каля мурзатых курганоў на адталай зямлі, набрыняўшы, раскрыецца крывая шабелька клёнавага насення і з яе ружовым чарвячком вытачыцца расток. Яшчэ будзе шыпець і аплываць брудны курган, а каля яго ўжо на ружаватай ножцы растка, скінуўшы шалупынне, зялёныя зморшчаныя далонькі разгорне клёнік.

Міця ішоў вузенькай, толькі яшчэ пачатай, у два-тры сляды, сцежкай, чуючы, як пад нагамі нязвыкла, ажно да шчымліва-казытлівага холаду ў душы, парыпвае снег, а перад вачыма ўбачылася не такая ўжо й далёкая сёлетняя вясна, калі ён шукаў тут на глухаватай Падлеснай вуліцы Царыкаву хату. І, здаецца, першы раз прымеціў, як каля плота, між растапыраных пэндзлікаў нэндзнай націнісцтай травіцы, падняўся на крывавата-кульгавай ножцы растка нядужы клёнік, каб скінуць са зморшчаных і яшчэ не расклееных долек свой шэры каптурок.

Міцю нават узяла цікавасць, і ён прыгледзеўся, бо ніколі не бачыў, ці нават не прымячаў, як узыходзіць дрэва. Брала дзіва, што родзіцца яно так звыкла і проста, як родзіцца, вытачыўшыся з прабітай пальцамі ямачкі на градах і раскрываючы сашчэмленыя, ужо зялёныя долькі і скідае кажурынку, насенне гуркоў ці фасолі.

Цікава, ці растуць яны цяпер — гэтыя цыбатыя, на ружовых ножках кволыя клёнікі? Іх каля плота была процьма. І чаму прыгаманулася вясна? Як нядаўна і як даўно яна была. А колькі перажыта ўсяго: і ў светлай радасці, і ў адзінокай пакуце, і ў смутку. Як на вачах перайначыўся і змяніўся свет, людзі і ён — Міця.

Вузкая, пратоптаная ў пухкім снезе сцежка, выгінаючыся, як вуж, выпаўзла каля новага, што пах смалінаю, плота на шырокую вуліцу і спляласся з іншымі — тут іх, спяшаючыся ў школу, тарылі ўжо дзеці. Па тонкіх, павешаных цераз плячо палатняных ды зрэбных торбах, па кажушках і суконных каптаніках ды па тым, што беглі яны, збіўшыся ў купу, можна было прызнаць і прыкмеціць іх вясковую сарамяжнасць. Мястэчковыя ж ішлі паасобку, размахваючы партфелямі, і ў іхняй павадзе і выхілцы было нешта ганарыста-непадступнае. Белыя валёначкі, пашытыя хоць са старога, але добрага сукна польты, вушатыя з брылькамі шапкі, звязаныя з ангоры хусткі рабілі іх нейкімі прыгажэйшымі і выпешчана-далікатнымі.

Загледзеўшыся на ружовашчокае з далікатным драбнявым тварком дзяўчаня ў карычневым, што сядзеў, па-

сталаму спадаючы на левае вуха, падчапураным берэціку, у клятчатай ужо ледкай на сённяшні ветраны, марозлівы дзень ясёнцы, Міця ўбачыў у ім нешта даўняе, знаёмае, Чэсіна. І шчымлівая радасць лагодным цяплом абліла душу. Захлынаючыся ад трапяткога смутку, падумаў нечакана пра сябе, што ўсё хоць трохі па-іншаму, але паўтараецца зноў. Бо ізноў гэтаксама, як калісьці Міця, радасна знямеўшы ад першага балючага, няжданага адчування, што ён ужо мужчына, загледзеўся на Чэсю, сёння нехта з вясковых падлеткаў загледзіцца на гэтае чыстае, непадступнае хараство і колькі перадумае сам-насам таемнага, да хваравітасці шчымлівага, як перадумаў ён.

Міця не ўгледзеў, як падышоў да камітэта. Разбуджаны ад сваіх думак вастравата-звонкім шоргатам жалезнага шуфля, спыніўся перад заснежанай брамкай.

Вартаўнік, што расчышчаў, выграбаючы ажно да чорнай зямлі, шырокую і не вельмі доўгую ад ганка да брамы сцежку, падняў рыжыя калматыя бровы і, варушачы такімі ж рыжымі, натапыранымі вусамі, сказаў:

— Вас маладзіца чакае.

— Даўно? — спытаў Міця, падумаўшы, ці не Алеся.

— Яшчэ цёмненька было, як прыйшла.

— А не казала, наконт чаго? — прадчуваючы штосьці зноў нечаканае, Міця з затоеным здзіўленнем і страхам адчыніў брамку.

— Ці ж я маю пытацца,— вартаўнік саступіў, схіліўся з расчышчанай сцежкі.— З баранавіцкага поезда прыйшла. Начальніца, відаць...

— Якая начальніца? — дзеркачом, што стаяў збоку дзвярэй, Міця шаргануў па чаравіках.

— Ці я маю пытацца, скажа сама... Яна тудака з паперою...— вартаўнік не дагаварыў, са скрыгатам загроб і адкінуў на кветнік снег.

Гэты скрыгат мурашкамі прабег па Міцевай спіне. Няўжо зноў і ўжо трэці раз на гэтым тыдні будуць правяраць работу камітэта. Учора нават прыязджаў інспектар райаддзела НКВД — невысокі, ліслiва-далікатны і маладжавы з чорнаю клінком бародкаю мужчына ў чорнай, трохі ўжо зашморганай, пацёртай скуранцы і кепачцы з шырокім задзірыстым брылём. У камітэт ён нават не прыходзіў, паклікаўшы Міцю па тэлефоне ў мураванку, дзе цяпер была міліцыя. І дзіва — сам чамусьці перастрэў Міцю на вуліцы. У малым, сцішным пакоі з закратаваным акном давер-

ліва паказаў паперу, скрэмзаную вялікімі і нязграбнымі літарамі, нават вясёла, падрыгваючы чорнаю бародкаю, усміхнуўся:

— Ну, мы это письмецо проверили. Знаем, что сидел в концлагере, [redacted] тебе претензий нет.

Міця, абапёршыся бокам да плота, прабег вачмі доўгі, вырваны недзе яшчэ з польскай канторскай кніжкі ліст. Косыя радкі спадалі з чорных лінеек, рука, што рэдка трымала пяро, няроўна вывела, раз-пораз макаючы яго ў вадзяністае ліловае чарніла:

«Данашу чыстасардэчна і са знаннем усяго дзела, што Змітры Корсак, сын багатыра Уласа, служыў у Картуз-Бярозе стражнікам і цяпер, прашыўшыся ў начальнікі, асадніцкую зямлю раздаў кулакам, пакінуўшы на праізвол лёсу малазямельных і батракоў. І яшчэ пацвярджаю: ён знаецца [redacted] асадніцкай сваячкаю».

Подпісу не было, а Міцю чамусьці падумалася, што напаскудзіў ён, гэты лісявы, неадчэпны ў гутарцы і гідкаслізкі, як бадзяга, Удод, што хадзіў заўсёды з якой-небудзь брыдкай чуткаю і засохлым на калючай, доўга не голеной шчаціне калівам картаплянай кашы.

Інспектар крыва ўсміхнуўся, злавіў леваю рукою сябе за бародку, спытаў:

— Скажите, как точно понимать «богатырь»?

— Багаты, кулак — па-цяперашняму.

— Понятно-о. А кто такая «сваячка»?

— Напэўна,— Міцеў твар заліла нечакана-гарачая чырвань,— маюць на ўвазе маю дзяўчыну, медсястру з бальніцы... Ды я вам скажу...— і Міця рэзка махнуў рукою над лістком з канторскай кніжкі: — Махлярства ўсё гэта! Я нават ведаю, хто напісаў.

— Я им тоже не шибко верю, бумагам этим,— інспектар пальцамі перабіраў на сацінавай кашулі гузікі, расшпіліў верхні. Памаўчаў таямніча і раптам перавёў гутарку на Царыка. Распытваў доўга і пра ўсё: якія кніжкі чытае, што гаворыць, з кім знаецца. Нарэшце ўжо на адыход назваў тое невядомае для Міці прозвішча Сцяпуры. Падаючы руку, зноў ветліва ўсміхнуўся, зноў леваю рукою абгладзіў чорную бародку і, нахмурыўшыся, намякнуў, што наконт гэтай гутаркі нікому заікацца не трэба. І Міця ўчора цэлы дзень тут, у камітэце, там, дома, хаваў ад Царыка свае вочы. Улучаў, выбіраў момант, каб не быць разам. Уцёк з хаты і сёння. І на табе...

Пераступаючы парог кабінета і ўбачыўшы пры жоўтым, стракатым ад густа-залацістых чарнільных плям століку маладжавую з прыгожым, але звялым тварам кабету, трохі зноў ачах душою. Прыкмячаючы Міцеву разгубленасць і нялоўкасць, з якою ён сарамліва замарудзіў у парозе, жанчына рухава паднялася [redacted] рассохлага рыпучага крэсла, прызналася мяккім, але трохі як прастуджаным голасам:

— А я жду вас. Вы Царик, да?

— Не, Корсак я,— задыхнуўся ад гарачыні Міця — у кутку аж сапла напаленая ружавата-белая кафельная грубка і пахла пакостам падлога.

— Но вы — работник комитета? — зноў па-руску спытала маладзіца [redacted] нездароўчым, сцягнутым хваробаю тварам і сіняватымі мяккімі губамі.

— Справавод я,— насцярожыўся Міця, здымаючы свой паўшубак і вешаючы яго на карычневы, прыгожа вытачаны, нават [redacted] двума ражкамі для парасона, слупок вешалкі.

— Так будем знакомы. Зоя Васильевна,— і кабета працягнула вузенькую, шчыльна складзеную руку і нібы з гонарам пацвердзіла: — Никандрова — ваш председатель.

Міця ўчуў, як гэтая цёплая рука мякка сціснула яго руку.

— Да, с сегодняшнего дня. Из облисполкома, из Баранович меня прислали,— нібы пахвалілася Зоя Васільеўна.

Скарэй насцярожана-чуткім адчуваннем, чым вачмі, Міця ўбачыў на двары Лаўрына Царыка. Ён ішоў да брамкі, перасякаючы наўскос вуліцу, па якой ужо вілася, курэла сіняватым снегам не злая, не раз'юшаная яшчэ завея.

След у след за ім дробненькім подбегам прыспешваў, адною рукою трымаючы, нацягваючы глыбей на лоб, каб не знясло ветрам, картовую кепачку, сакратар камітэта Петрык Дудар. Хада ў Царыка была размашыстай, але нейкай цяжкай і старэчай, трымаючы рукі ў кішэнях, ён згорбіўся і ўціснаў голаў у плечы, нібы ведаў, што ў камітэце яго чакала, каб кальнуць у сэрца, трохі жданая і няжданая крыўдная балючая навасць.

Злавіўшы насцярожаны Міцеў пагляд, маладзіца азірнулася на зашэрхлае ценькай, пераплеценай саломкай шорсткага марозу падвойнае акно і ўбачыла Царыка. Ён спыніўся каля вартаўніка, дастаючы з кішэні руку, чапіў ёю за доўгі, напушчаны на вочы брыль суконнай бежавай

кепкі і трохі выцягнуўся, скрывіў набок голаў, крута падымаючы чорнае брыво — вартаўнік, мусіць, сказаў, што ў камітэце знябыўся, чакаючы яго, асаблівы госць.

Царык з калідора і завярнуў сюды ў Міцеў пакой, нават не выціраючы снег з сваіх чорна-блішчастых наваксаваных ботаў, а толькі перад дзвярамі прытупнуўшы імі.

— Гэ, столькі снегу прывалок,— нібы апраўдаўся ён, стоячы ў парозе і зняўшы суконную кепку.

— Ничего, снег не беда. Большой снег, говорят, к урожаю,— Нікандрава падалася насустрач яму, і, бліскаючы разгарачанымі вачмі, спытала: — Председатель, значит, волоскомитета будете?

— Значыць, буду,— махнуў сыпкімі сіваватымі валасамі Царык і тут жа скурчанаю жменяю злавіў іх, каб адкінуць назад.

— А знаете, что к вам уж назначен новый?..

— Ды нібыта...— Царык прыгнуўся перад маладзіцаю і трасянуў сваёю ўпартаю грываю: — Дык заходзьце ж у ... свой ужо кабінет.

Маладзіца, нячутна ступаючы высокімі без галёш валёнкамі падалася ў адчыненыя перад ёю дзверы. У калідоры сказала сваім мякка-хрыплаватым голасам:

— Нам надо подготовить инвентарный список имущества и документов... Для передачи.

— Ды зробім,— азваўся Царык, але зычны яго голас нечакана змяніўся, пацішэў.

Міця глядзеў на зашэрхлае калючае намараззю акно, за якім курэла, метучы са страхі і падкручваючы з шоргатам снежны пылок, ранняя кудаса, і ў душы казытаўся холад і ад нечаканай зімы, і ад нечаканай навіны.

А што будзе з Царыкам? Ды што будзе, зрэшты, з ім, з Міцем? Няўжо прыйдзецца таксама шукаць новую работу? Ці кідаць усё — школу, Чэсю, камітэт і варочацца ў Верасава. Толькі не туды, не ў глухату, не ў вёску!

Перапуджаны, разнерваваны, збіты з панталыку і задумлівы, Міця адчыніў у стале шуфлядку: там ляжаў не перапісаны на чыстае пратакол пазаўчарашняга пасяджэння валаснога камітэта, на якім зацвярджаўся спіс мнагадзетных маціярок, але не дастаў гэтыя доўгія і расшытага сшытка лісткі, а выцягнуў заяву, напісаную зялёным чарнілам на адваротным баку нейкага польскага бланка. Яе прыняслa ўчора Гурава жонка, немаладая, нечым нібы падобная да мужа, адутлаватая невысокая кабета ў чорным

з вуалькаю капялюшыку і жоўтым драпавым паліто з рыжавата-агністым лісіным каўняром і такою ж самаю муфтаю.

Шмаргнуўшы замочкам і дастаўшы з муфты хрусткаласковы бланк, спісаны зялёным чарнілам, яна з пачырванелымі ад слёз вачмі пачала гаварыць, што асталася ■ чатырма дзецьмі на руках, ■ муж арыштаваны — і за якія сродкі ды кошты ёй, адзінокай, цяпер жыць?

— А ён жа ж нікому і вока не запарушыў,— дастаўшы з муфты крэмавую хустачку з зялёным абвязаным беражком, яна выцерла апухлы ад плачу нос і пакруціла чорным, абвешаным дымнаю сетачкай капялюшыкам.— Ці ён вінаваты, што ў яго такая служба? Але ратаваў людзей як мог.

Міцю нават прыпомнілася Гурава злосна-крывавататая губа, прыскаленае вока і сіплы, нібы са смяшком, голас: «Да нас больш не пападайся, бо — заб'юць. Прападзеш, і не знайся». І Міця ўбачыў, як зграблася ў кулак тоўстая Гурава рука, і ён учуў той даўні і моцны, як перуном, удар...

І Міця не стрываў ужо, ■ нечаканай для сябе злосцю перапыніў Гураву жонку:

— Я ведаю яго... Знаю!..

Але сказаў, мусіць, так, што яна змярцвела і, сагнуўшыся, як пад цяжарам, ціха высунулася за дзверы.

Цяпер было нават не па сабе за ўчарашнюю злосць і раздражнёнасць. Цяпер ужо думалася, што даўняя помслівая крыўда на Гуру прайшла, у душы асталася адно, як пасля мурзатага снегу на згоне зімы, мокрая павучына цвілі. Гідкая і халодная.

Міця ўзяў у рукі пераломаны крыжыкам хрумсткаваскова лісток, вачмі прабег зноў прыгожа-роўненькія, мусіць, пісаныя дзяўчынкай год дванаццаці радкі: «Муж мой, как бывший полицейский, находится под арестом, а я осталась с четырьмя детьми без никаких средств».

Унурыўшыся, Міця глядзеў на тры роўненькія радкі з прыгожымі, крышку ломанымі, як звыкла пішуць дзяўчаткі, літарамі, і ў галаве да вострага болю кружылася, нібы паднятай з гнязда пташачкай, трапяткая, палахлівая думка: як жа ж быць з гэтай сям'ёю? Што сказаць? Заступіцца... А ці заступіўся б ён, Гура? Вядома, не. Але хіба раўняцца з ім, помсціць дзецям? І не бегчы ж шкадаваць?.. Як зблыталася ўсё. Чаму жыццё так перакрыжавала лёсы

людзей? Звязала ў адзін неразвязны вузёл. Ці мо людзі звязалі самі сябе?

Тугую зашмаргу Міцевых думак, ад якіх балюча нямела галава, перарвала нямоцнае, ледзьве жывое, як мыш пад падлогай, шкрэбанне ў дзверы.

— Заходзьце! Хто там? — Міця згарнуў хруметка-шаткі, накрыж пераломаны лісток і запхнуў яго ў непрычыненую шуфляду.

Але за парогам пачуўся мармытлівы неразборлівы голас.

Міця падышоў да дзвярэй, і, націскаючы на медную точаную ручку, асцярожна папхнуў іх — у калідорчыку, вырачыўшы вочы і перакрыўляючы худы твар, дзікавата пасмехвалася высокая маладзіца з дзіцем на руках. Коўдра разбэрсалася, і з яго была відаць ружаватая дзіцячая ручка і блішчала вытрашчанае сінявата-чыстае вочка.

— Тут начальнік? — нечакана высокім, зычным голасам спытала маладзіца.

— Не, вунь там! — Міця паказаў на абабітыя цыратай дзверы.

— Гэ, ты не шуткуй, хлопец, там баба за сталом сядзіць.

— Яна начальнік і ёсць.

— Гэ, выдумаў. З бабы ўжо начальнік, як з таго малаток.

— А што вы хацелі? — прыглядаючыся да маладзіцы, Міця пазнаваў дачку школьнага вартаўніка, што займала мужчын, будучы трохі хвораю на галаў.

— Кажуць, што даваць муць помач на дзяцей? — несучы перад сабою дзіця, яна спрабавала ўпхаміцца ў адчыненыя дзверы.

Учуўшы гаману, у калідор нецярпліва і злосна вызірнула Нікандрава, гукнула сваім мяккім, але ўладным голасам:

— Девушка, вам же объяснили: мы составляем списки на многодетных матерей.

— Гы-ы, знайшла дзевушку. У мяне пяцёра дзяцей.

— Не грубите, пожалуйста. Здесь вам...

— Як нам, так і вам, а да цябе не гавораць,— раз'юшаная маладзіца зверавата пакасілася на Нікандраву.

І тая, не вытрываўшы гэтага злога зірку, схавала за чорныя, абабітыя цыратай дзверы сваю круглявую галаў

з коратка падстрыжанымі і прыколатымі з аднаго боку на шпільку хвалістымі валасамі.

Укручваючы ў коўдра расхрыстанае дзіця і ўжо трохі паспакайнеўшы, маладзіца хрыплавата хмыкнула:

— Няўжо праўду кажаш — начальніца?

— Прыслалі з Баранавіч. Заміж Царыка будзе.

— Во свет перавярнуўся. Няхай бог адносіць, каб запанавалі бабы.

— Цяпер жанчына роўная з мужчынам,— засмяяўся Міця і ўжо спакойна, каб не спатажыць, сказаў маладзіцы: — Дапамогі на дзяцей яшчэ не давалі, але калі будзе, то вам яна вызначана.

— Каб паркалю якога. Гэта ж сённячы за мануфактурай з шасці раніцы стаю. Начыста змерзла. Бабы выправілі сюды...

— Выправілі? — Міця прысеў за свой стол, уздыхнуў ад злосці.— А чаму ж вас з малым дзіцем без калейкі не прапусцілі?

— Даражэнькі, каму ж баліць чужая балячка? Але пабягу, бо й не ўвапхнуся. Прыліплі адзін да аднаго, як селядцы,— яна перамяніла з рукі на руку прыцішэлае, што стрыгла вачмі, бязбровае лабаценькае дзіця і шмаргнулася да дзвярэй.

У парозе стрэлася з Царыкам, з дзівам вырачыўшы насцярожана-сінія вочы, паўзіралася на яго і, спачуваючы, паківала вялікаю, укручанаю ў жаўтлява-зялёную хустку галавою.

— Во страшная кара чалавеку,— Царык звысоку глядзеў у акно, праводзячы смутным, шкадаўлівым позіркам маладзіцу, нарэшце ўздыхнуў: — Бог усё пакінуў, а розум забраў... Але чаго ж та я прыйшоў? — зморшчыў ён лоб, варухнуўшы касматымі чорнымі бровамі.

— Відаць, па спіс «имущества»,— падказаў Міця, шоргаючы шуфлядаю і дастаючы разлінаваны чырвоным алоўкам двайны ліст.

— Ага, праўда ж,— засмяяўся ён, задзіраючы голаў і пагладжваючы валасы.— Маёмасць трэба здаць. А то яна ўсё пытае, што гэта за кракаўскія хамуты і што гэта за вазок, плецены з ракітніку?

— А што такое «паўкаркі», ведае? — засмяяўся ўжо і Міця.

— Пачакай, павыскаляешся,— зашархацеў разлінаваным лістом Царык, адступаючы спіною да дзвярэй.

Але, праўда, было ўжо не да смеху, калі Царык, ідучы на абед у сталоўку, куды прывезлі бачкавога піва і куды ён запрасіў Міцю і Нікандраву, але яна, дзякуй ёй, далікатна адмовілася,— слізгаючыся ў топкім, глыбокім снежку, раптам адвярнуўся ад стрэчнага ветру, спытаў у Міці:

— Ты ж ведаеш, куды мяне?

— Не-е,— Міця ўтуліў галаў у плечы, чуючы, як са страхі, з вуглавой мураванкі, за карак сыплецца калючахалодны і пякучы, як іскры, снег.

— У заготзярно пайду. Там ужо і месца гатова.

— Тады, можа, й нічога.

— Калі на гэтым усё спыніцца, калі не далей...

У сталоўцы, дзе іх ужо як сваіх пасадзілі за цяжкія занавескі, у баковачку на два сталы, і дзе ўжо гаманіла трохі падвыпітая кампанія, бясконца круцячы патэфон, што стаяў на акне, Царык да піва заказаў нат па кілішку. Азіраючыся на абрыдлых мужчын з таўстатварай маладзіцай, трохі ўжо асмялелы, расчырванелы ад гарэлкі, сапучы глыбока ў свой доўгі нос, выцягнуў з нагруднай кішэнькі фрэнча запісаную на лісток тэлефанаграму.

Міця, халадзеючы ад невядомасці, разгублены, яшчэ не верачы ўсяму, вачмі прабег тры косыя фіялетавыя радкі:

«О с о б о  в а ж н о.

Тов. Царику Лаврентию Ивановичу, прожив. Дворчаны, ул. Подлесная, предлагается не позднее, как через два часа, явиться ■ райисполком по особо важным делам».

— Бачыш, справы асоба важныя,— Царык азірнуўся на гаманкую кампанію, зладзіў Міцю за руку, накрыў сваёю, грудзьмі налёг на стол.— Ты ж ведаеш, учора тут быў асабіст.

Міцю абліў кіпень сораму, што таіўся, не сказаў пра гутарку ў міліцыі, нават не намякнуў Царыку.

— А што маюць да вас?

— Ды нехта падкусіў.

— Злыбеда знойдзецца.

— Напісалі, быдта я ўдаў дэфензіве [1] Сцяпуру, а сам кручу шуры-муры з яго жонкаю,— шмаргануўшы леваю рукою над вухам, Царык запусціў у валасы растапыраныя пальцы, прыгроб з аднаго боку навіслыя застрэшкам сі-

---

[1] Дэфензіва — тайная паліцыя.

ваватыя пасмы, з другога яны смешна растапырыліся, падняліся нібы ад страху.

Міцю з жалем падумалася, як за гэтыя дні асунуўся Царык, як глыбока запалі яго карыя, трохі сонныя вочы і пад імі хваравітай жаўцізною зацямнелі кругі.

— Нават у мяне напытвалі пра Сцяпуру,— Міця, здаецца, скінуў з сябе ненавісны цяжар сораму.

— Ці толькі ў цябе,— Царык падняў набрынялыя павекі і азірнуўся на дзябёлую з гарыстымі, тугімі грудзьмі і белым чэпчыкам, што хаваў на галаве залацістыя, выкладзеныя карзіначкай косы, афіцыянтку — яна разлічвала п'янавата-балбатлівых мужчын — і паклікаў яе.

Пасля затхлай духаты, хрыплаватага патэфона, п'янай гаманы на двары было марозліва і лёгка. Пахла ветрам, што дыхаў з-за вуглоў прастудным скразняком, здзіраў з дахаў сухі, як жарства, снег і няшчадна сыпаў ім у вочы.

Наставіўшы каўнер у старым, зношаным да рубцоў суконным карычняватым паўшубку (астатнія дні ён ужо не насіў дарагое паліто на футравай падкладцы), Царык спыніўся каля завулачка з роўным, глыбакаватым шнурком пратоптанай сцежкі. Пазіраючы на чорную ад пакосту, з белаю мяккаю страхою і размалёванымі аканіцамі хату, на дробнае, закурэлае ў зацішку лёгкім пухам снегу галлё старых яблынь, ціха сказаў:

— Дарэчы, яна тут і жыве.

— Хто? — павярнуўся Міця да шчытнага, пабеленага перамешаным з дамешкам сінькі мелам дашчанага плота, за якім сціпна прытаіліся садок і хата.

— Сцяпурава Анця,— і на жаўтлява-смуглым з сінявымі шчокамі ад густое шчаціны Царыкавым твары таргануўся кіслы, нібы вінаваты смех.

Міця маўчучы глядзеў, як вузкім, сівым ад завеі завулкам, што ад станцыйных пуцей, ад вакзала ціснуўся між тыльных сцен хлевушкоў і прыбіральняў, беглі і курчыліся ад холаду людзі. І памяць раптам уваскрэсіла лета, апошнюю перад турмою сустрэчу з Царыкам, тут у гэтым завулку.

«Няўжо ўсё паўтараецца?» — ён бачыў, як Царык туліўся ў невысокі, пасечаны моллю, каўнер, з плешынамі павучыны.

— Ну, пайду,— Царык абедзвюма рукамі ўзяўся за кароткі каўнер, уцягнуў у яго галаў.— Можа, заспею кукупку на Навагрудак... А ты ідзі ўжо ў камітэт, памажы

там разабрацца ў кракаўскіх хамутах,— і, крывячы верхнюю губу, горка, натужна ўсміхнуўся.

Жмурачыся ад калючага снегу, што круціў і гнаў вецер, танютка падвываючы ў нізкіх правадах і прадвяшчаючы нанач перадкалядную завею, Міця ўзіраўся, як цяжка, унурыўшыся, ішоў і слізгаўся ў глыбокім сыпкім снезе Лаўрын Царык, і Міцю нечакана ўспомнілася: ён разы са два бачыў сам, што за блізенькую фортку з прарэзанай шчылінай для пісьмаў ужо на шарай гадзіне, звыкла пасля камітэта, забягаў Царык, варочаючыся дадому шумна-вясёлы і гаваркі ад прыгубленага кілішка.

«Няўжо праўда тое, што напісана ў пісьме наконт Сцяпуры?» — Міця жахнуўся і прыгадаў данясенне на сябе, якое лёгенька, нібы няўзнак, падсунуў пад нос далікатны з чорнай бародкай асабіст. Міцю зрабілася не па сабе: «Няўжо мы так лёгка подлае, нягоднае махлярства прымаем за праўду? Няўжо гэта ідзе ад нашага самаедства? Чаго мы так дратуем, прадаём і нішчым самі сябе?»

Слізгаючыся ў шорсткім і рыпучым, з падшэрхлай скарынкай, снезе, Міця пабрыў з вузкага цеснага завулка на вуліцу, захлынуўшыся ад адчайных і балючых думак пра Чэсю: зманлівы, спакуслівы страх казытаўся пад сэрцам, каб усе гэтыя патайныя пісьмы не разлучылі іх, каб калючая і сівая завея не закружыла, не схавала Чэсю...

Вярнуўшыся ў камітэт, адчужаны і сцішны, сеў за лёгкі на цыбатых ножках і заляпаны густа-залацістым чарнілам стол з драўляным точаным кубачкам для алоўкаў і драўлянай падстаўкай для чарніліцы і штэмпельнай падушкі і нецярпліва-ўстрывожаны сядзеў, знябыўшыся па Чэсі і чакаючы блізкага вечара, каб сустрэцца з ёю.

Для адводу вока і прыліку, што чымсьці заняты, перад сабою паклаў некалькі папяровых лісткоў з разабранага сшытка — пазаўчарашні пратакол пасяджэння камітэта, а сам, адчыніўшы шуфлядку, разглядаў пазычаную Камашылам блакітную, у палатняным пераплёце, кніжку. Не чыталася — Міця яшчэ не мог апомніцца, адысці ад гутаркі з Царыкам — і зазірнуў у кутні, вузенькі, як камора, кабінецік, дзе, адсунуўшы ад акна стол, спіною да кафельнай печкі сядзеў, пагрызваючы пластмасавую ручку, ціхенькі, з прытоеным смяшком на дробным курносым твары ружовашчокі Петрык Дудар.

Падняўшы чырванаваты твар, ён насцярожліва схаваў сваю ўсмешку і паляпаў рукою па печцы:

— Гоніць з акна, так во сюды перабраўся. Бліжай да цяпла.

— І да начальства,— усміхаючыся, Міця кіўнуў у бок сцяны, за якою бубніў тоўсты мужчынскі голас. Нікандравай не было чуваць: яна, мусіць, затоена слухала першага, нязвыклага наведвальніка.

Дудар пільна зіркнуў на Міцю, вёртка, як уджалены, крутнуўся на сваім крэсле, тыцнуў угору пластмасаваю ручкаю — яна адсвечвала ружовасцю:

— А што, ніц сабе кабета.

— Ды я пра другое. Што з Царыкам?

Дудар угнуўся, як перапуджанае пташаня, падазрона зацiх. Па шкле акна сухім калючым снегам нечакана зашоргала завея. Нібы ўспудзіла яго. Пад Дударом нехаця і злосна зарыпела крэсла:

— Ат, што казаць. Не дай свінні рогі.

— Якія тут рогі?

— Другім стараўся настаўляць, гэта праўда,— пакруціў сваёю цёмна-русяваю з адтапыранымі вушамі галавою, мусіць, давольны са свайго жарту і павесялелы Дудар.

— Ну, ён жа ж уважыў, узяў цябе на работу, а то грэўся б ты на лесавывазках. Дарэчы, з Дварчан у Язавец, у Ліпічанскую пушчу, час пасылаць ужо мужчын.

— Нічога, пашлецца, раз трэба,— Дудар прыгнуўся, падзюбаўшы ручкаю ў чатырохкантовую зеленкаватую шкляную чарніліцу, што накрывалася жалезным каптурком, чыркануў пяром па паперы. злавіўшы стрэмку, пальцамі сашмаргнуў яе.— А ты пытаеш, што з Царыкам? Скажу табе, без нас разбяруцца... Ды што мы маем на яго глядзець. Цяпер нам трэба пільнавацца во — яе,— і ён паказаў сабе за плячо, дробненька торкаючы туды ручкаю.

Цяжкай глыбай злосць прыдушыла Міцю, ён з дзівам глядзеў на лісявага і гаваркога Дудара, што яшчэ надоечы забягаў наперад Царыка, каб патрапіць у гутарцы і падхваліць таго, а цяпер не хоча знацца з ім.

Ледзьве скінуўшы з сябе цяжкую глыбу злосці, каб ужо не схапіць загрудкі Дудара, Міця павярнуўся да дзвярэй, злавіў скобку нікеляванай халоднай ручкі:

— О, які ты мэт на паскудства.

Петрык Дудар палахліва падняў свой задзірысты чырвона-аблуплены носік, паківаў крывым пальцам, падзываючы Міцю да сябе, здушана, выцягваючы шыю і заплюшчыўшы вочы, зашаптаў:

— Ты чуў ці не? Кажуць, ён служыў і нашым і вашым.

— А ты скарэй і паверыў,— Міця ўтрапёна глядзеў на Дудара: як людзі радыя, што ў некага няшчасце ці бяда.

— Вер ці не вер, а стараніся.

Грукнуўшы за сабою дзвярмі, Міця задушыў гэты натужна-сіпаваты, падкалодны, як у вужакі, голас.

Але ў вушах ён стаяў цэлы вечар: і тады, калі Міця ў сівай шархатлівай кудасе, што нудна і расцяжна падвывала ў правадах, зацягнуўшы невідушчай каламутнасцю непшырокія, у дашчанай глухаце платоў дварчанскія вуліцы, брыў дадому, і тады, калі, наспех перакусіўшы пад гараванне і трывогу, і ўсхліпы Царычыхі, збіраўся ў школу.

Царычыха плакала, нібы знаючы, нібы дагадваючыся, што можа быць і горшае, і выпытвала, прыгаворваючы:

— Мой ты божа высокі! Ты кажаш, у Наваградак паехаў. На ноч гледзячы.

— Павестка прыйшла.

— Божа высокі, людзі зайздросныя і пажыць не далі.

— Напісалі, намахлявалі там размаітага.

— Век гэдак было... А аднаго ведаю.

— Каго ж? — утрапеў ад нечаканасці Міця.

— Шпунт гэты, недарослы Дудар падкусіў, бо надта ж лістом слаўся... Няправедны ён чалавек.

— Можа, і не ён складаў тыя паперы, але, праўда, дабром не аддзячыцца.

— Якога ж тут дабра чакаць — свет дагары перавярнуўся.

## XXVI

Пра жалосны плач і трывожнае гараванне перапалоханай Царычыхі ўражлівы Міця забыўся толькі ў школе, убачыўшы ў іхнім класе пад рэдкім, мігатлівым святлом лямпачкі расчырванелую, з зіхатлівай ад расталага снегу расою ў кучаравых валасах Чэсю. На ёй быў жоўта-ясны ваўняны, звязаны ў ажурныя паскі, пушысты світэр. Ад яго, як ад жніўнага лета, густога ў пахучым цвеце лубіну, аранжавых кветак кракосу, падымалася дрыготкае мроіва і пахла гэтым мядовым, трохі смутным летам. Так пахлі Чэсіны духі — мякка і густа, і трохі журботна. І ў яго душы, пераліваючыся цераз

край, віравала нейкая патайная, невымоўная радасць — сарамліва-ценькая, як чуеш гэтакую радасць ад першай востра натапыранай травы, ад нізкай, яшчэ прытоенай, але ўжо раскрытай кветкі падбелу, што знянацку на згоне зімы гляне табе ў вочы.

Трымаючы Чэсю за руку і лёгенька сціскаючы цёплыя і чуткія пальцы, Міця адчуваў яе ўсю, нібы абняўшы, нібы прытуліўшы яе да сябе. А ў душы расло, соладка шчымела гэтае трапяткое, нават балюча-нястрымнае жаданне блізкасці.

І ён ужо не чуў таго, што глухавата бубніў, раз-пораз скрыпуча, хворымі лёгкімі адкашліваючыся, дырэктар школы — нізенькі мужчына ў пацёртым пінжаку з кароткімі, зморшчанымі рукавамі і ў сацінавай кашулі, вышытай на грудзіне зялёнымі ніткамі і зашпіленай збоку на белы гузік. Чуў толькі яе, смутна-маўклівую поруч Чэсю, і нясцерпна, і пакутна чакаў мілагучнага глэгання званка ў далёкім калідоры, дзе звыкла стаяў і званіў пануры, насуплены Антак, каб удзвюх з Чэсяй у гэты сівы, шалёны, перамешаны завеяй свет, у гэты цёмны вечар на белую вуліцу, якую з шорхатам перамятае снег і абапал якой гайдаюць чорным пруццем і трашчаць адубянелыя дрэвы.

У класе пад жоўтай шпугаванай вузкімі дошкамі столлю павольі меркла, ужо ледзьве свяцілася чырвонымі валаскамі малочная лямпачка. Пэўна, зноў перамярзала рэчачка, мялела дварчанскае возера, і для электрадынамы, якую круціла млыннае кола, не хватала вады. На калідоры падымалася вясёлая гамана, быў чуваць тупат — з канцылярыі, як ужо не раз, насілі карасінавыя лямпы з бляшаным магазынам і бляшанай, збоку каля шкла, талерачкай. Дырэктар выцягнуў з кішэні шырокага дыяганалевага галіфэ гадзіннік, пстрыкнуў накрывачкай, але, мусіць, нічога не разабраў на мутным цыферблаце і махнуў рукою, даючы знак, што ўрок скончаны.

— Пойдзем,— Міця зноў злавіў Чэсіну руку.

Яна зіркнула даверліва-радаснымі вачмі:

— Куды?

— Дадому.

— І праўда, не сядзець жа нам пры лучыне,— Чэся борздым, пругкім подбегам падышла да вешалкі, схапіла свой вышываны кажушок і ціхенька вышмыгнула з класа. Міця няспешна, ледзьве стрымліваючы сябе ад шалу радасці і нервовасці, выйшаў услед за ёю на ганак, задых-

нуўшыся і ад шчасця, што яны двое ў гэтай снежнай, здзічалай ад кудасы ночы, і ад гарачага марозу з ветрам, які перла, круціла і гнала з шырокага двара з-за лабатай дрывотні. І вецер, здаецца, пах гаркатою настылых асовых дроў, падмерзлых пілавінаў і сырых трэсак.

Міця, апалелы, злавіў Чэсю і на гэтай сівай, каламутнай завеі з калючым снегам, з рыпам не прымкнутых у калодзесі дашчаных дзверцаў абняў яе, прытуліў да сябе, пацалаваў у міла-казытлівае брыво і трапяткое павека. І яна, нечакана аддана-пацішэлая, павярнула свой твар, падступілася і цёплымі мяккімі губкамі даверліва датыкнулася да яго шчакі. Пацалунак гэты быў кароценькі, але Міця стаяў заплюшчыўшы вочы, хмялеючы ад балючай трапяткой радасці і баючыся скінуць, сцерці са сваёй шчакі цяпло гэтых чуйных губ.

Рыпнулі дзверы, вецер раптам панёс іх, з адчайным, звінючым бразгатам клямкі ўдарыў аб дашчаны ганак. Ачуціў Чэсю. Яна адхіснулася ад Міці і пайшла, слізгаючыся і губляючы замеценую снегам сцежку. Міця, забегшы з ветранага боку, узяў яе пад ручку. Лёгенька павёў, чуючы, што нехта, захлынаючыся ад хрыпатай задухі, украдкам насцігае іх, захлынаецца ад задушлівага кашлю.

— Гэй, Корсак! — адкашляўся і натужліва-сіпатым голасам крыкнуў Камашыла.— Мала, што сам уцёк з урокаў, дак яшчэ і дзеўчыну зманіў.

Моўчкі, наліваючыся помслівай злосцю, Міця засланіў Чэсю. Але Камашыла, сагнуўшыся, як свіны татка, і схаваўшы, быдта ў муфту, у рукавы чорнага гімназісцкага шыняля голыя рукі, стаяў ужо за брамкаю. Нарэшце разгледзеўшы Чэсю, узняўся мядзведзем і распасцёр рукі.

— Во, гляджу і не пазнаю, а гэта ж пані Доўнар!

— Я, Костак, я,— Чэся ўхілялася ад Камашылавых распасцёртых рук.

— Уга, як паспраўнела. Далібог, адаб'ю ад Змітрыка.

— Не хваліся,— каптурок яе вязанай падкасанай шапачкі высунуўся з-за Міцевага пляча.

— Вы куды? — ужо сур'ёзна спытаў Камашыла, павярнуўшыся бокам да калючага ветру, што з шамаценнем, як па тугой шчотцы ржышча, дзьмуў наўскасяк вуліцы.

— Мы ў бальніцу,— беручы пад ручку, Міця не даў аказацца Чэсі.

— Гэ-э, уцякаеце ад мяне,— Камашыла зарагатаў, ло-

вячы полы паднятага ветрам шыняля, і закашляўся падазрона сухім, удушлівым кашлем. Страшную навасць ён крыкнуў Міцю ўжо наўздагон, калі яны з Чэсяй завярнулі пад разгойданыя ветрам мякка-шапаткія хвойкі з вострым лускатам тонкага сушняку.— Ты ж ведаеш... Царыка...

— Ага.

Міця і не чуў, што болей крычаў Камашыла. Ішоў зняверыны і ўтрапёны, распазнаў толькі Чэсін смех:

— Міцек, ну куды ты мяне вядзеш?

— У бальніцу.

— У якую бальніцу? Ты бачыш, куды мы ідзём?

Ён спыніўся, разабраўшы нарэшце, што выйшлі яны пад адзінокія старыя хвоі, якія ўбераглііся і высіліся з краю мястэчка — далей за імі крута абрываўся пясчаны сыпкі касагор і пачыналася балотца ў сінявата-шарай смузе маладога алешніку, кустоў вербалозу і дуплявых, крывых з шырокімі дзяркатымі кронамі вербаў, пад якімі, перакаціўшыся тугім, слізкім вадаспадам праз застаўкі млына, мармытліва тачылася, булькала ў зялёным каменні і кіпела параю крынічная рэчачка.

Далёка на другі бок рачной даліны, у каламутнай завеі, цьмяна выморгвалі і хаваліся, гінулі жоўтыя агні вёсачкі і душыўся ад ветру сабачы брэх.

А тут стаяў нечаканы і мякка-закалыханы, як крыламі, разгайданым шырокім галлём прысадзістых крывавfamiliarтых хвоек звонкі зацішак. Ружаватыя ўдзень іхнія шурпатыя камлі цяпер магутна чарнелі. Міцю помнілася гэтая ружаватасць і цягучае, густое, перамешанае і пахам смалы, іхняе цяпло. І іхняя гордая веліч, калі яны стаялі аблітыя і аблашчаныя шчодра-залацістым вечаровым сонцам. Як успаміналася і яна, Чэся, з далёкага маладога лета, калі ішла светлым празрыстым плёсам возера, шчасліва апырсканая тлустымі скалкамі вады, і разбівала ружаватымі гладка-точанымі спрытнымі нагамі тугую ваду.

Цяпер крышку смутная, адкінуўшыся спіною і схіліўшы на плячо галаў, яна стаяла каля сасны, нібы грэючыся рукамі аб тое даўняе цяпло.

Міця падышоў сарамяжліва, але і бяспамятнай радасцю, распасцёршы рукі, абняў іх абедзвюх — і сасну, шурпата-спакойную, і мяккім густа-ласкавым шумам разгойданых галін над галавою, і яе, Чэсю, задуменна-прыгожую, з немігаючым, утопленым недзе ў сябе, бліскучым ў шарасці зімовай ночы позіркам.

I стаў [redacted] гарачынёю і паспешнасцю цалаваць яе. Яна спачатку, стоена непадступная, маўчучы, закрыла вочы, а потым пачала цягнуцца да яго сваімі вуснамі. І ён ужо, ашалелы ад яе блізкасці, гарачыні дыхання, бліжай і бліжай, вар'яцеючы, гарнуў яе да сябе.

— Міця, што робіш са мною?!

— Я люблю цябе...

— Ты як дзіця. Гэта ж зіма.

— Чэся, любая.

— Божа, мілы... Гэта ж відаць нас...

І ён учуў, як яна сама, нібы падказваючы, памагаючы яму, цясней гарнулася да яго.

— Ой, божа... божа...

І яе рукі самі лавілі і гарнулі яго.

— Ой,— і ён учуў яе пакутны, глыбока здушаны енк.

Ён не знаў, што гэта быў енк радасці і шчасця. Як і яго даўняй, выпакутаванай, салодкай радасці.

## XXVII

Як гора пераменіць чалавека, так пераменіць і радасць. Цяпер Міця жыў, пакутуючы салодка-балючым шчасцем таго, што было, і спакуслівым, нясцерпна-тамлівым жаданнем, каб усё паўтарылася зноў.

Першая, так даўно выпакутаваная, высненая блізкасць з Чэсяй зыркай, нечаканай дабратою асвяціла гэтыя лютыя [redacted] дужым і пякуча-крохкім марозам дні, з ружаватай зімовай вясёлкай, ублытанай у белае вецце аб'інелых бярэзін, з калючым, што не дыхнуць, і залацістым, як слюда, пылам.

Сівыя, апчаціненыя шэранем Дварчаны з вузкімі сцежкамі ў глыбокім, не прайсці, снезе, з уквечанымі зеленаватай намараззю шыбамі, тоўстымі, як абхапіць рукою, і цяжка абвіслымі правадамі, [redacted] калматым, густа перапплеценым пруццем дрэў, [redacted] сухім, іржавым лусканнем платоў — усё, здавалася, жыло ў нетутэйшым, у нябескім хараstве, у шчодрай і затоенай прыгажосці.

Німбам харастva і прывабнасці для Міці былі акружаны цяпер усе дзяўчаты. І гэты німб асвечваў Міцю. Ён, здаецца, ніколі не дагадваўся, што ад блізкасці з дзяўчынай так падабрэе і перайначыцца свет, не спадзяваўся,

што зменіцца і паласкавее сам. А шапаткім і звінючым вечарам, калі помслівы мароз спадцішка з глухім буханнем калоў вуглы, Міця сцішана ляжаў, чуючы на заплюшчаных вачах белаватую яснасць нізкага маладзіка, што глядзеў праз край незашэрхлай шыбы, і да гарачага шаленства, да страшнага бяспамяцтва ўспамінаў той сцюдзёны зацішак на крутым касагоры, дзе высока і велічна шумелі аб'інелымі і заснежанымі кронамі ружаватыя цёплыя хвойкі, успамінаў Чэсю, што так жадана і саладканецярпліва, да радаснага вар'яцтва, аддавалася яму. І потым, сцішэлая, прыгалубілася, знорана і шчасліва прылашчылася да яго і зашаптала, цалуючы ўжо ласкава-мякка і ледзь чутна, толькі гарачынёю дыхання:

— Міцек, што з намі?

— А што, Чэся?

— Такі страшны, такі неспакойны свет, а мы як дзеці, а мы як вар'яты... Божа, Міцек, што з намі?

— Чэся, [redacted] люблю цябе.

Яна доўга маўчала, перамагаючы, мусіць, шчымлівы, пякучы боль у сабе, потым уздыхнула:

— Міцек, няўжо мы разлучымся?

— Чэся, што ты?..— Міця, здумелы, збянтэжаны, прытуліўся губамі да яе шорсткага брыва.

— А мне страшна робіцца, калі падумаю, што мы можам расстацца.

— Не, Чэся!.. Не веру я!..

Але ўжо дома, у Царыкавай аглухлай хаце, у мышынай шапаткой цішыні, чуючы на вачах святло маладзіка, успамінаючы гэтую гутарку, балючую Чэсіну трывогу, Міця пачынаў і сам баяцца разлукі.

За перагародкай крохка і едка парыпвала перасохлая падлога, з ложка ўставала і клалася зноў згараваная, учарнелая ад бяды Царычыха. Адтуль чуўся працяжны, з глухім падвываннем, плач. Зняверыўшыся, што Лаўрын прыйдзе дадому, горка і жалосна Царычыха румзала штовечар. Міця, чуючы гэты змардаваны, здзічэлы плач, трывожыўся і астываў душою сам.

Міцеву адзіноту і смутак разрывалі думкі пра Чэсю. Сцішвалася і шчымела балюча-затоенай радасцю душа, як шчыміць яна ад сіняй, што адбірае вочы, яснасці неба, што так жадана адкрыецца ў прагале цяжкіх хмар, ад першай рэдкай травы, што востра выпырсне на вільготнапрэлай лагчынцы пад старымі чорна-шурпатымі алешы-

намі, што дрыжаць дажджом расцягнутых таўкачыкаў і цярушаць жоўценькую парахню.

І Міця, забыўшыся ўжо пра Царыка, пра ўвесь гэты разварушаны, як стары вулей зімою, з жывымі яшчэ пчоламі, непрытульны свет, чуў толькі адно сваё ненатоленае шчасце і яе, Чэсю.

Стаялі пагодныя пасля завейнай каламутнай кудасы, калі не было відаць свету, сляпучыя ад нізкага, але зыркага сонца дні ■ сіняватымі ценямі на вугравятым, яшчэ не рушаным, не падзёўбаным воспаю кропель, ■ крохкім, звінючым рыпам саней, фырканнем абсівераных коней, лязгатам ланцугоў на колах нядужых, паўтаратонных грузавікоў у марозліва-чуйнай цішыні ночы, калі месяц лье рэдзенька-неадчэпнае, ліпкае, як павучына, святло.

Жмурачыся ад яго сіняватай малочнай яснасці, Міця зноў бачыў Чэсю, так міла і так сцішэла прыхіленую да камля шурпатай, ружовай, з тоўстай, патрэсканай карою цёплай хвойкі, і зноў балюча перажываў спакуслівую слодыч нядаўняга шчасця.

І ў нейкім дрыготка-сіняватым, як маладзіковая яснасць, далёкім сне яму снілася гэтая велічная сасна з абсіверанаю кучараваю кронай, што здавалася дзеўчынай, і яна, Чэся, што здавалася сівавата-зялёнай ад інею і абсыпанаю снегам гонкаю хвояй.

Усхваляваны гэтым сном, Міця ўжо не ўтрываў і раненька, яшчэ да работы, не помнячыся, пабег на край лесу да ружаватай сасны, што ведала таямніцу яго шчасця.

Пад нагамі пухка пыліў неглыбокі, што толькі прыхаваў зямлю і крохка парыпваў пад чаравікамі, снег — сінявата-белы, яшчэ не зацярушаны чорным, наломаным ветрам сушняком.

Над галавою палусквала дробнае перамерзлае галлё, шалпаталася руплівая вавёрка і, быдта перачэкваючы, покуль адыдзецца Міця, то длубаў па амярцвелым вяршку дрэва, то сціхаў чуткі порсткі дзяцел.

Сонца яшчэ не было. Але недзе за спіною на небе балюча, велічна і шчодра гарэла нізкая чырвань. І пахла прэсным снегам, холадам, першым дужым маразам, ад якога крэплі без рукавіц Міцевы рукі і пяклі вушы, і стылі шчокі, і на губах калоліся голачкі марозу.

Змакрэўшы спіною, разгарачаны ад скорай хады, Міця нарэшце выбег на бераг лесу і ўчуў, як салодка заныла

сэрца: з белага заснежага долу строма і горда ўвысь падымалася шара-ружаватая, у два абхваты сасна з сівай аб'інелай кронай. Ад яе ішла, цягнулася да вачэй калючымі праменьчыкамі сляпучая жывая яснасць. Нізкае, вялікае чырвона-залацістае сонца, што выкацілася недзе ў далёкай імгле, падсвечвала сівую мудрую крону.

Міця, не помнячыся і подбегам, ішоў да яе, радасначаканай, велічнай сасны і, распасцёршы рукі, абняў шурпаты камель і замёр ад гаркаватага, даўкага, што нахлынуў на яго, успаміну. І яму здавалася, што ён абдымае і яе, Чэсю, як абдымаў у той абвеяны каламутнай сівай кудасай вечар. Ад хвойкі пахла свежым вільготным дрэвам і цягучаю цёплаю смалою.

Нечакана сумеўшыся свае бяспамятнай радасці, Міця адскочыўся ад хвойкі, сарамяжны і ўжо трохі схаладзелы, азірнуўся, ці не бачыць хто: на лабатым грудку, што зарос рэдкімі кустамі абсіверанага ялаўцу, трохі звесіўшы распушчанае крылле, тапталіся ў пухкім снезе два чорнаружаватыя вялікія крумкачы. Міця спярша і не разабраў, што робяць яны, сашчапіўшыся сваімі разяўленымі крывавата-цяжкімі дзюбамі. Потым дагадаўся — цалуюцца і галубяцца, як звыклыя галубы на згоне зімы, разамрэлыя ад першага вясновага цяпла.

Смеючыся ўжо і ■ сябе, і з гэтых разгалубленых крумкачоў, што знарок ці незнарок не прымячалі яго, Міця ціха, украдкам завярнуў назад, цярэбячы новую разбэрсаную сцежку між нізкіх, засыпаных па вушы елачак і не расякаючы радкі дробненька прастрочаных мышыных слядоў.

Залацістыя, у шалушыста-тоненькай кары верхавіны хвоек спадыспаду падсвечвала ружаватая яснасць позняга перадкаляднага сонца. За спіною цяжка грукатаў і рытмічна перастукваў і падляскваў коламі далёкі таварняк і, заглушаючы сваё доўгае, бесперастанку тахканне, працяжна перад семафорам загукаў, ачуціўшы настылую раніцу.

Міцю ўспомніўся даўні грымотны дзень лета, абмытыя дажджом Баранавічы, парнае цяпло, цяжкі грукат поезда за сцяною. Нецярпліва зажадалася ўбачыць зноў Чэсю. І, коўзаючыся ў сыпкім снезе, Міця, ужо разгарачаны, думаў пра вечар, калі стрэне яе і раскажа пра гэтых чорнаружовых крумкачоў і пра сябе, як ён, вар'яцеючы, абдымаў прапахлую свежасцю, марозам і смалою ружаватую

выносную хвойку, прымаючы яе за Чэсю. І перад вачыма паўстаў зноў яе соладка і балюча зажмураны твар, і ён зноў учуў яе гарача-тамлівае, парывістае дыханне...

...Сённяшні дзень здаўся Міцю годам.

А ў камітэце, як знарок, было залішне і валтузні, і непатрэбнага, ужо бабскага, крыку. Як змянілі Царыка, так для Міці нечакана змянілася і пачужэла ўсё тут.

...Міця і не лішне грукаў намерзлымі чаравікамі на дашчаных сходцах ганка, але цяжкія з накарэлай наледдзю дзверы нечакана едка, як шчапаецца дрэва, расцяжна зарыпелі. І Міця не ўскораў распрануцца, як у яго вузенькі кутні кабінет увайшла зухавата-надзьмутая з падцятай да сіняватасці ніжняй губою, ґуста надушаная Нікандрава. Падкасваючы рукаво карычневага, што, шчытна і рэдзенька разыходзячыся, аблягаў яе грудзі, суконнага світэра, зіркнула на гадзіннік і, не павітаўшыся, сказала:

— Уже четверть десятого.

— Ды я ўжо хвілін пяць як прыйшоў.

— А вы должны приходить без четверти девять. Поняли, Корсак?

Міця стаіўся, чуючы, як гарыць апечаны марозам ды ўжо і гэтым упіканнем твар.

Яна павярнулася і, узіраючыся ў зашэрхлае намараззю акно, нібы не яму, не Міцю, цвёрда сказала:

— Сегодня надо подготовить к вечеру подводы. Развезете повестки.

— Як?

— Пусть деревенские комитеты или депутаты выделят несколько подвод. Нам надо двенадцать. Поняли, Корсак?

— Ды ўжо ж.

— И вечером сами сюда, к сельсовету.

— А са школаю як?..

— Там будет видно,— Нікандрава мякка ў сваіх высокіх з круглымі наскамі без галёш валёнках пайшла да дзвярэй.

Міця, здумелы, пачаў апранацца, каб існі запрагаць каня, што застаяўся ў хлевушку. Конюх, ён жа і вартаўнік камітэта, чуваць было, гупаў сякераю каля дрывотні.

Стоячы на ганку і жмурачыся ад сляпучага сонца, Міця ўспомніў ружаватую выносную хвойку і са смуткам падумаў, што сёння з Чэсяй ён да яе не пойдзе. Як усё няждана і зменліва ў жыцці. Няма роўнасці і спакою ў прыродзе, няма згоды і сярод людзей.

## XXVIII

Аб'ехаўшы паўсвету — усе наўкольныя дварчанскія вёскі,— Міця вярнуўся ў камітэт сінім поцемкам. З шарага слупа, што стаяў перад брамаю, з-пад бляшанай талеркі слепаватая лямпачка ўжо імжыла на шорсткі снег, на бліскуча-шкляныя сляды ад палазоў ледзьве жывое святло.

Міця распрог каня, уцягнуў у дашчаны хлевушок прыгожа выплецены з ракітніку курносы вазок і асцярожна ўвайшоў у свой кабінет, поўны шызага дыму і чужых, хрыпата-прастудных галасоў. Курылі, здаецца, усе пяць вайскоўцаў, што сядзелі не распрануўшыся, скінуўшы толькі шлемы і фуражкі і расшпіліўшы гаплікі ў шарых суконных шынялях. Каля кафельнай грубкі, паклаўшы на калена кубанку і трымаючы яе сашчэмленымі рукамі, выцягваў тонкую шыю Жэнік Рэпка.

Міця даў «добры вечар» і ніякавата прыгнуўся з праходу дзвярэй. Насустрач яму ўстаў шыракалобы лысаваты мужчына з трыма выпуклымі кубікамі, што адсвечвалі густой, як брусніцы, чырванню на малінавай пятліцы.

— Корсаков, Дмитрий Власович?

— Ага, Корсак.

— Небось, не ужинал? — на вайскоўцы зарыпела перацягнутая наўскос грудзей вузенькая партупея: ён паправіў яе пад шырокім каўняром свайго шыняля.

— Яшчэ не, можа, й так абыдзецца.

— Не обойдется. Надо поужинать.

— Тады я... борздзенька.

— Одна нога здесь, другая — там,— насупіўся вайсковец і падвысіў голас: — Ступай.

Міця толькі чуў, як пад нагамі злосна і пякуча парыпваў снег. Мімалёт завярнуў на вуліцу, дзе жылі Грабянкі. Прайшоў каля глухіх вокнаў. Сэрца шчымела ад спадзявання, што зараз стрэнецца Чэся. Пераліваючыся залацістай лускою намаразі, у бакавым пакоі свяцілася акно. Глыбокая сцежка вяла да ганка. Азіраючыся, украдкам і подбегам Міця прайшоў яе. Стукнуўся ў прымкнутыя ўжо нанач дзверы, зніякавеў і не паверыў сабе, што іх, запаліўшы святло на верандзе, адчыніў доктар Длубак.

— Вам каго? — Длубак вырачыў лупаватае вока, не знімаючы руку і трымаючы прычыненыя дзверы.

— Чэсю,— не тоячы ўжо злосці, вымавіў Міця.

— На дзяжурстве яна.
— Ну й добра!
— Што добра? — цяжка варухнуў тлуставатай, не абцёртай пасля вячэры губою набычаны Длубак.

Міця моўчкі сышоў з дашчаных, прыстаўленых да фундамента сходцаў, зласліва, чуючы нават помслівую радасць.

За спіною цяжка, з натужлівым скрыпам грукнулі настылыя дзверы, забраўшы са снегу косую палоску святла.

«А можа, гэтага з тлуставатай губою і не возьмуць...»

Міця трохі сумеўся, што з нейкай страшнай, як п'янаватай, неўтаймаванай нянавісцю думае пра Длубака, але перамагчы сябе, суняць сваю злосць, што гэтак моцна дупшыла яго, не мог. Ведаў адно: Длубак хоча ўлучыць момант і адбіць у яго Чэсю, зманваючы і спакушаючы сваімі грашыма ды заработкамі. Лашчыцца, як памаўзлівы кот, і да Чэсінай маці, і да сястры.

Адчуваючы збоку над галлём заснежаных прысад ясны бляск лёгкага маладзіка і ўстрывожана-радасна ўспамінаючы Чэсю, Міця неўпрыкмет падышоў да аглухлага Царыкавага дома. У вокнах не было агню, на вушаку вісеў аб'інелы, настылы замок, і Міця, абмацваючы над парогам на ліштве ключ, здагадаўся, што Царычыха, не дачакаўшыся нададому Лаўрына, збедавалася і паехала ў Наваградак, напэўна, ■ падаянкай. У пустой хаце за душу брала сціпласць, і Міця, пасёрбаўшы яшчэ цёплай з паранай картопляй тлустай капусты, скаранька выйшаў на двор, замкнуў зноў аб'інелы, някруткі замок.

Трохі ўспалошаны і вусцішны ад таго невядомага, што будзе рабіцца ў гэтую зорную, з ясным маладзікам, марозлівую ноч, падыходзіў да камітэта. На шырокай белаватай вуліцы ўжо стаялі фурманкі. Каля нізкіх розвальняў, каля высокіх саняў з драбінкамі тапталіся ў доўгіх кажухах з настаўленымі каўнярамі, у шыракаплечых бурках маўклівыя ўгорбленыя фурманы. Зводдаль прыткнуўся каля плота і глядзеў лупаватымі вочкамі фар, што адсвечвалі скупое святло вокнаў, невялікі грузавічок.

Абыходзячы яго, сюды бегла Чэся, і Міця радасна аняме ў, распазнаўшы яе па пругкай борздай хадзе, па прыталеным гуцульскім кажушку, па белай шапачцы з доўгімі, як шалікі, вушамі.

— Ты? — ён злавіў яе руку ў цёплай шорстка-суконнай вязанай рукавіцы.

— Што я?.. Вой смешны ты, Міця,— яна гэтай шорсткай рукавіцай нямоцна штурханула яго ў грудзі.— Чаму не ў школе?

— Ды во па рабоце...

— Чаго столькі падвод?

— І я паеду з імі.

— Куды?

Ён азірнуўся на блізкага фурмана, што шамацеў сенам і ўтоптваў у санях радзюжку, і здушаным шэптам папрасіў:

— Ты не начуй дома. Пабудзь на дзяжурстве.

Яна апусціла галаў, мусіць, здагадаўшыся пра ўсё. Ціха пайшла, нават не аказалася. Ён колькі крокаў ступіў за ёю па слізкім следзе ад санных палазоў, але ўжо не даганяў. З расхрыстанага, незачыненага калідорчыка нехта клікаў яго:

— Корсак!

— Тут я!

Ён падняўся на мерзлыя рыпучыя сходцы, зазіраючы ў калідор.

— Цябе чакаюць,— паказаў на дзверы мужчына ў жоўтым, яшчэ новым, што пах кіслай рошчынай, кажушку.

— Верасаўскі будзеш? — спытаў шчытны мужчына ў карычневай, ужо добра падношанай тужурцы, калі Міця зайшоў у добра пракураны гродзенскай махоркай кабінет.

— Ага, верасаўскі.

— Тады, браце, рушым,— Міцю злёгку за плечы падштурхнуў шчытны мужчына, што назваўся Цярэшкам, і, апусціўшы вушы ў пышнай вушанцы, зашоргаў тужуркаю да першых саней з высокімі драбінкамі.

Міця ўмасціўся каля яго на шапаткую, засланую радзюжкай канюшыну. Уперадзе саней укленчыў вусаты ў каўпаку і ў гарбатым, прыпаленым, мусіць, пры гарачай печы кажушку насцярожана-маўклівы фурман.

— Кіруй, дзядзька, на Верасава,— нязлосна загадаў Цярэшка.— Ведаеш такую вёску?

— Ды ўжо ж.

— Ты што, чалавек, і слоў больш не маеш? — бокам да ветру павярнуўся Цярэшка.

Фурман угнуўся яшчэ больш, але не аказаўся. Дужы конь востра пацюкваў шыпамі новых падкоў, прабіваючы аж да бруку спрасаваны, убіты снег, і з-пад капытоў на сані пякуча пырскала і шапацела цвёрдая наледзь.

Белаватая ноч асцярожліва і прытоена ціснулася да платоў і цёмных будынкаў. Прымерклы акрайчык месяца чапляўся за чорнае натапыранае прунне дрэў. Над галавою ў цёмна-сінім небе плыла, кружылася зорная дарога. Холадам слязіліся зоркі.

І Міцю ўспомнілася жніўнае, ядранае на зоры неба, росны шчымлівы вечар, калі на балотца, дзе ён прыпасваў каня, прыбегла Вайтовічава Яніна, каб наказаць, што ў вёсцы паліцыянты. Як ён сёння гляне ёй у вочы, як?

Пад'язджалі да пераезда. Вялікі пусты састаў таварных вагонаў з камінкамі цяплушак перагарадзіў шашу.

— Нашы ужо гатовы,— сказаў Цярэшка.

— Тыр-р-р,— злосна і панура азіраючыся назад, фурман стрымаў каня, што чуйна натапырваў вушы і ўздрыгваў ад вострага і раптоўнага гудка паравоза.

Каля чорных складоў з шырокім дахам пасвістваў у ражок і памахваў чырвоным ліхтаром, пераводзячы стрэлку, счэпшчык.

— Канца ж яму няма,— не тоячы ўжо злосці, забурчаў у свае падкручаныя вусы фурман і саскочыў з саней, каб узяць за цуглі пудкага, што хроп і падымаўся на дыбы, разгарачанага каня.

— Гэй, не марудзь, Саўка! — закрычалі з задніх фурманак, калі падняўся шлагбаум.

Зазвінеўшы медзянымі званкамі, іх апярэджвалі дзве фурманкі, на якіх сядзелі байцы з вастраверхімі шлемамі. Высокае святло пераезных ліхтароў адбліскала на дулах вінтовак з прымкнутымі штыкамі.

Фурман, не спяшаючыся, укленчыў у перадку саней на тугі мех і ўзмахнуў гнуткай стусінай.

Дужы спрытны конь з галопу рвануў, панёс з пявучатонкім віскам палазоў лёгкія сані. Цярэшка хіснуўся на Міцю, крыкнуў у сутулую фурманаву спіну:

— Ган-ігані, не паддавайся.

Цягучы віск палазоў, скрып на павароце саней і цяжкаваты тупат коней будзілі нудную з расталым месяцам ноч. Цярэшку абрыдла, мусіць, цішыня, і, штурхануўшы Міцю дужым плячом, ён хрыплавата, але нават хораша, хоць нямоцна, зацягнуў:

Когда я на почте служил ямщиком...

Міця, заслухаўшыся, маўчаў. Шугаючы доўгім цёмным венцем, абапал шашы пабеглі бярэзіны.

— Ну, як? — адкашляўся і павярнуўся да Міці Цярэшка.

— Харошая песня... і тутэйшая,— засмяяўся Міця, ведаючы, што гэтай неспадзяванасцю саб'е панталыку Цярэшку.

— Няўжо? — прыўзняўся і дыхнуў густою параю Цярэшка.— І хто ж яе напісаў?

— Сыракомля. У Радзівілаў некалі за пісара служыў.

— Сыракомля, кажаш...— Цярэшка пацёр адубянелыя калені, папытаў ізноў: — А ты сам не пішаш часам?

— Ды трохі...

— Па-беларуску?

— Ага.

— Слухай, я тут аж з ног збіўся,— і Міця ўбачыў, як у Цярэшкавых вачах бліснуў хітрава-патаемны бляск.— Шукаю літработніка... Так, можа, ты даў бы згоду?

— ???

— Яшчэ думае... Колькі тут у камітэце маеш?

— Сто пяцьдзесят.

— У мяне, лічы, у тры разы больш.

Фурманкі, аднастайна і цягуча пазвоньваючы медзянымі на дугах званкамі, выбраліся на круты грудок. У шэрай далёкай лагчыне, завешанай рэдзенькім сіняватым пылам смугі, чарнелі Прылуцкія хутары. За імі падымаўся чубок шчарбатага цёмнага лесу.

Бліжай да шашы, куды карычневым шнурком, сплёўшы сваё вецце, пабеглі бярэзіны, белымі каўпакамі стрэх высунулася і блізілася Верасава. У нейчым акне хліпка і нядужа моргаў агоньчык.

— Чуеш, хлапчак, нам пра ўсё сам-насам пагаварыць трэба,— згорбіўся, працяты да касцей холадам, і здрыгануўся Цярэшка.

— Можа, і трэба,— няпэўна згадзіўся Міця ў крыўдзе і рэўнасці думаючы, з кім астанецца яна, Чэся. З доктарам Длубакам? І востры страх балюча апёк сэрца — няўжо яна прыйшла дадому? У спісе на вываз ці не значыцца сям'я Грабянкаў?

— Пераязджай у Навагрудак,— накрыж б'ючы сябе рукамі па плячах, грэўся змерзлы Цярэшка.

— У мяне тут вячэрняя школа.

— Хіба там няма? У людзі выведу, чуеш? Вучыцца накірую.

Міця паныла маўчаў, збіты з тропу і гэтым нечаканым

запрашэннем на работу, і ўжо тым, што блізіцца вёска, стары пахілены крыж перад Літаваравай хатай, Алесіны будынкі ■ чарнатою прысаддзя, сваё гумно на другі бок вуліцы, і за чарадою белых стрэх, за сумнай навіссею бярэзін — Вайтовічава хата. Як зойдзе ў яе Міця, як гляне Яніне ў вочы, што будзе рабіць, калі падымецца немы енк?

— Верасава, ці што? — падняўся на колінках фурман, гледзячы на чорны смутны крыж і Літавараву сцішную хату.

— Верасава,— ахрыплым, перасмяглым ужо голасам гледзячы на чорны крыж і Літавараву сцішную хату.

Міця павёў абоз на папярочку; адтуль ■ шашы было наўпрасты і бліжай да Вайтовічавай хаты. Спадзяваўся, што менш будзе вокнаў, у якія зараз жа пачнуць падцікоўваць, і сабачага брэху. Але пільнай і нюхкай на чужы дух Алесінай сучачкі ўсё ж такі не абхітрыў.

Як толькі дзве падводы з шашы адлучыліся ў Верасава, а трэцяя рушыла далей, у Лабачы, па лесніка Закрэўскага, у вёсцы пачуўся заядлы, заюхлены брэх.

Чамусьці маўчаў толькі Вайтовічаў сабака. Нібы чуў бяду. Гаўкнуў і нечакана падвыў, калі падводы скіравалі з папярочкі на надрэчную верасаўскую вуліцу.

Азіраючыся на Ваўчкову хату, што, ганарыста падняўшы вушаты канёк, высунулася на абрывісты, падмацаваны звялікім каменнем і аплецены бэзам край вуліцы, Міця змеціў, як каля пабеленага жаўтлявага вугла над раз'еханым яловым частаколам высунулася і схавалася зноў нейчая галава — ці сам Ваўчок, ці ўжо яго ўсюды дападная Вольга цікавалі за чужымі падводамі, што ў гадзіну ночы скіроўвалі на Вайтовічаў двор.

— Ты ж глядзі, не памыліся,— зашаптаў Цярэшка, хілячыся на Міцю, бо сані на пад'ёме перад касавата раз'еханымі жардзянымі варотамі заносіла ўбок.

— Тут Вайтовічы, чаго там,— пыхнуў злосцю Міця.— Во яшчэ і не спяць,— і паказаў на зашчэпленыя аканіцы, у шчылінах якіх тлела жоўтае, ледзьве знаць, святло ад газоўкі.— Але як мне ў хату ісці?

— Гэта праўда,— Цярэшка перакінуў нагу цераз драбінку, скочыў у снег і ўзяўся за сярэдзіну — мусіць, зрушыў радыкуліт. Скрывіўся ад болю, асцярожна выпростаўся: — Можа, мне адчыняць?

Ён махнуў рукою, даючы знак і падклікаючы чырвонаармейцаў з другой падводы, што стаяла на вуліцы. І двое

рослых хлопцаў у даўгаполых шынялях, у шлемах з апушчанымі вушамі, папраўляючы на плячах вінтоўкі і парыпваючы намерзлымі чаравікамі, борзда рушылі ў двор.

— Тыр-р-р, чаго ты, здыхата! — раззлаваўся на ўпрэлага, што дыміў парай, каня, нечакана закрычаў тоўстым, хрыплаватым голасам фурман. І гэты крык сярод ночы ўспудзіў і растрывожыў усіх.

— Ну, дзед, ядры тваю качана! Пужаеш людзей,— патрос кулаком Цярэшка.

Фурман, апусціўшы натапыраныя вусы, натужліва высмаркаў свой кароткі тоўсты нос і не аказаўся.

Але гэтую валтузню і гоман пачулі ў хаце: у шчылінах аканіц змерк жоўты дрыготкі агонь.

— Ну во,— падыходзячы да другога, што было бліжай да ганка, акна, злосна азірнуўся на фурмана Цярэшка.

Яго блізкага голасу ўжо незалюбіў ад страху прытоены сабака. Ён люта гыркнуў і, зазвінеўшы ланцугом, раптам ірвануўся з будкі. Саржавелы і перацёрты ланцуг скрыгатліва лускнуў.

Сабака перавярнуўся ў пухкім снезе, заскавытаў і, угінаючы галаў, загэльцаў на вуліцу.

— Хай ляціць. Бо хто тут яго карміцьме?

Міця, збянтэжана затуліўшыся за калодзесь, слухаў, як недзе патаемна з намерзлага лёду ў звінючую глыбіню пляскалі рэдкія кроплі. Нехта не так даўно тут, мусіць, чэрпаў ваду. Можа, яна, Яніна? Гарачыня сораму, брыдкасці абліла, апаліла Міцю. Успомнілася тое злое, раз'юшанае бацькава ўпіканне: «Так, можа, і ты пойдзеш людзей калаціць?..» І трывожна-неадчэпны смутак зашчымеў у душы, што нават не зойдзе, не праведае адзінокага і непадступнага ад крыўды і злосці састарэлага бацьку...

— Гаспадынька-а,— працяжна гукнуў у затоеную, прыціхлую хату і забарабаніў пучкамі сцятых кулакоў па аканіцах прыгорблены Цярэшка.

Але ў хаце не аказваліся.

Міця чуў, як крэпнуць ад холаду рукі і стыне ад нейкай невядомасці душа.

— Не спалі ж яшчэ,— сказаў фурман і нагнуўся над саньмі, утоптваючы шапаткую канюшыну і папраўляючы радзюжку.

— Так, можа, на ваш голас?..— павярнуўся ад акна Цярэшка.

— Голас у голас, волас у волас,— перадражніў Ця-

рэшку фурман і, не адгінаючыся, у сані глухавата сказаў: — Я ж тут старонні. Чаго я маю...

— Хозяйка,— крыкнуў у другое акно ўжо салдат.— Открой!

— Не адчыню! — нарэшце нямоцным за падвойнымі вокнамі жаночым голасам азваліся ў хаце.

— Прыйдзецца табе, браце,— Цярэшка сцягнуў з калматай галавы шапку і, падняўшы, стаў завязваць апушчаныя вушы.— Дзе ты, Корсак?

— Тут я,— Міця не хочучы выйшаў з-за калодзеся, паслізнуўся на накарэлым лёдзе.

— Выручай, бо праваждаемся да раніцы,— Цярэшка прытаптаў на галаве вушанку, падбегшы, узяў Міцю за локаць.— Акажыся, каб ведала, што ёсць свае.

Чутка ступіўшы на хрумсткі сняжок і скарынкаю лёду пад капяжом, Міця прыхіліўся да акна, склаў трубою папад капяжом, Міця прыхіліўся да акна, склаў трубою пакрэплыя рукі і, прыставіўшы да рыпучых аканіц, гукнуў у шчыліну:

— Гэта я — Корсак! Цётка Марыля!

— Знайшоў цётку. Што вам поначы трэба?

— Мы з камітэта,— Міця не ведаў, пазнае з перапуду яго Вайтовічыха ці не.— Справа ёсць.

— Божа, якія поначы справы?

Міця ўчуў, як там у хаце заплакалі ў некалькі галасоў. А неўзабаве ўсхліпнулі і ў сенях, дзе балюча і цяжка заскрыгатала жалезная засаўка.

Туды ў чорную прорву з чырвонаармейцам скоранька ўсунуўся Цярэшка. Затуліўшыся за яловы частакол, Міця астаўся на вуліцы. Глядзеў на шарае, завешанае белаватым начным змрокам балотца, на цёмны алешнік каля рэчкі, на чарныя крывыя яблыні ў Ваўчковым садку, чуў, як патаемным насцярожліва-разбуджаным жыццём жыло Верасава, як недзе далёка адзывалася Алесіна сучачка і як, туляючыся за вуглы блізкіх хат, сцішана перагаворваліся людзі.

— Гэй, таварыш, гэй,— здушаным шэптам з надворка крыкнуў салдат.

— Вас, мусіць? — сказаў малады фурман, ляпаючы аб бакі рукавамі і скачучы каля саней.

— Што там?

— Завуць! — шырока ступаючы, шаркаў і разбіваў снег салдат.

На едка-рыпучы ганак выйшаў сам Цярэшка.

— Чуеш? — у яго кулаку тлела папяроса.

— Што, ніяк не ўспакояцца? — Міця глядзеў на яснае ад запаленай лямпы святло ў шчылінах аканіц.

— Ды ўжо сціхлі. Дурная баба адно пытае: браць ёй балею ці не? А я кажу: «Сала, хлеб бяры».

— Так чым я памагу?

— Слухай, дачкі ж няма. У цёткі яна. У нейкіх Лезнявічах. У Сцяпана Ганчара, чуеш?

— Да Лезнявіч вярсты са тры,— Міця глядзеў на зеленавата-бледны ў змроку шарай ночы Цярэшкаў твар.

— Прыйдзецца табе. Байца дам,— Цярэшка зноў з прыцмокам смактануў папяросу, апаліўшы ружаватасцю скураныя пальцы, савіны свой нос і твар ■ глыбокаю дужкаю каля рота.

— Што мне баец,— Міця нервова пацёр пакрэплыя рукі.— Як людзям у вочы глядзець?

— Што? Замуж не ўзяў? — зарагатаў Цярэшка.

Міця злосна павярнуўся, пайшоў да саней.

— Чакаем вас тут,— на ганку цяжкавата загрукалі па рыпучых, настылых дошках Цярэшкавы боты.— Каб праз дзве гадзіны вярнуліся.

— Ды ўжо ж,— за Міцю аказаўся фурман.

Пад палазамі крохка ссеўся і завішчаў снег. Застоены конь нехаця разварушыўся і на ветраным полі пайшоў ужо лёгкаю ступою. Балазе снег быў яшчэ неглыбокі. Зліваючыся з шарым далёкім небам, кружыліся гарбатыя грудкі. Высока над імі калючым холадам кароткіх промняў пырскалі сіняватыя зоркі.

На палявых сцішных дарогах і глухіх сценках адзінока цямнела вялікае каменне, прысадзістыя, ужо забытыя кусты ялаўцу. Распасцёршы ўпарта-калючае голле, белымі і смутнымі хмаркамі падымаліся абсівераныя дзікія грушы. Уночы поле здавалася чужое і незнаёмае.

З-пад снапка згубленага кім ці знарок падкінутага для зайцаў лубіну раптам з тугім фуркатлівым лопатам успырхнула і натужліва, невысока паляцела ў лагчыну чародка курапатак. Растала ў невідочным белым змроку, дзе-небудзь пры мяжы ў чорнай грыве быльніку.

— Цьфу ты,— страпянуўся фурман, мусіць, спатажаны гэтым нечаканым фуркатам курапатак.

Міця маўчаў, пазіраючы на адзінокую, абсівераную грушу з велічна распасцёртым голлем, на смутны грудок Вайтовічава поля.

— Бадай цябе, а я быў задрамаў. Но-о! — фурман зноў прыцмокнуў на каня, зноў свіснула і мільганула яго сусінавая пуга. Пад крохкі віск палазоў і пагойдванне сацей, што знянацку правальваліся ў снег, Міцю ўспомнілася позняе лета, жніво. Даўняе ўжо. Ён ішоў полем, а тут пры мяжы жала белаваты ад распушанага асоту, пераспелы авёс Вайтовічава Яніна, загарэлая, нечакана вылюднелая ў дзеўку, у караткаватай, ■ якой, пэўна, таксама нечакана вырасла, паркалёвай суkенцы. І Міця спыніўся, горача-ашалелы ад яе спакуслівага дзявочага хараства. Ён нават не помніць, пра што з ёю гаварыў, помніць толькі зірк з-пад хусткі вясёлых вачэй, загарэлыя круглыя круглыя ножкі, што пераступалі ў шапаткім іржышчы.

Цяпер брала дзіва, што ўспомніўся гэты даўні шоргат іржышча і зірк шэрых вялікіх вачэй з густымі палахлівымі вейкамі. Як успамінаўся ўжо каторы раз сёння той росны вечар, калі яна прыбегла за рэчку на балотца, дзе ён пасвіў каня, наказаць, што ў вёсцы паліцыянты. Спярша перапуджаная сама, а потым радасная і бесклапотна-вясёлая, як дзіця, кінула на другі бераг рэчкі, дзе стаяў ён, гэразломленую шапку пахуча-шорсткага сланечніку... Гэтая шапка пахучага сланечніку ўспаміналася Міцю і ў Картуз-Бярозе, у задушлівай камеры, горкай ад чорнай, шалушыстай, як патрэсканая гразь, цвілі на высокай столі і смярдзюча-потнай, затхлай ад мноства вязняў.

Міця турзануўся на санях, нібы хочучы выкуліцца з іх, і чапіў за фурманавы рукі, што трымалі лейцы.

— Дзядзька, можа, назад вернемся?..

— Ты што? — зверавата азірнуўся фурман.

— Ды так, падумалася...

— Што табе наўме, хлопец? Як гэта вернемся?.. Но-о! — і фурман злосна падагнаў каня.

Паблукаўшы трохі па вёсцы, пастукаўшы ажно ў тры хаты, Сцяпана Ганчара, дакладней, яго доўгі ў адзін шар будынак, яны напыталі ўжо наводшыбе вёскі.

Дужы, воўчай пароды сабака, не прывязаны нанач, раз' юшыўшыся ад брэху, не пусціў за нізкую жардзяную загарадзь, покуль не выйшаў, свецячы сподняй бялізнай і накінуўшы на плечы кажушок, гаспадар — дробны, дзюбаносы мужчына з натапыранымі валасамі.

Ён доўга і ўпарта распытваў у Міці з фурманам, што яны за людзі, па якой справе прыехалі і што маюць да яго,

і, калі ўчуў, што з камітэта, што прыехалі па Яніну, раптам стаў заікацца і скоранька навязаў сабаку.

Праз цёмныя, з няроўнай глінянай падлогай сені ён завёў іх на кухню, запаліў, калоцячыся, лямпу і прынёс нават са стопкі паўбутэлек гарэлкі, нечакана ліслівa спытаўся:

— Замерзлі ж, пэўна?

— Ды ўжо ж, чалавеча,— каўтнуў слінку фурман.

— Цяпер лютуюць гэтыя марозы. Што робіцца на свеце? Але ж пайду пабуджу. Ды ніхто і не спіць. Гэтакую перадрогу падняў сабака.

У вузенькую, застаўленую чыгунамі кухню з кіславатым пахам свіногa цеста з не выстаўленай у сені ражкі, і прысадзістай пабеленай печчу, на мурку якой жоўтым курадымным каснікам гарэла пяцілінейная лямпа, увайшла, накінуўшы на плечы суконную хустку, гаспадыня, выцерла сонныя падпухлыя вочы, хрыпата спытала:

— А што гэта за людзі?

— Людзі як людзі... Верасаўскія вэнь,— павёў сваім востра-склюдаватым носам гаспадар.

— Заблудзіліся, пэўня?

— Ды ўжо ж,— сказаў фурман, прыстукнуўшы гранёным кілішкам і тоўстымі пальцамі беручы брусок настылага сала.

Адкінуўшы ружаватую ў балонкі радзюжку, якою быў завешаны дзвярны праём, у кухню ўсунулася і стала на нізкім парозе босымі нагамі трохі, здаецца, перапалоханая, але чутка-непадступная Яніна. Яна падабрала з круглага, асветленага збоку тварка русявыя валасы і, трымаючы іх абедзвюма рукамі за патыліцай, трохі прыжмурылася і кінула вачмі на Міцю:

— Што з татам?

Міця чакаў, што адзавецца гаспадар, але той маўчучы туліўся за фурманаву спіну. Чвякаючы скваркай, не гаварыў нічога і фурман.

— З татам усё добра, Яніна,— Міця ўчуў, як у роце расце сухата і ліпне язык.

— А чаго ж тады? — пад белай бацістaвай блузкай востра падымаліся і натапырваліся маладыя грудзі. Поўныя губкі чырванелі спакуслівай паўнатою. І Міцю маланкаю жыгануў і апёк нечаканы ўспамін: ён убачыў нядаўнюю завею, сасну, учуў яе мяккі і цёплы шум і Чэсіна задыханае, вільготнае цяпло ў сябе каля шыі.

Страсаючы з сябе пчаліны рой гэтага ўспаміну, Міця азірнуўся на гаспадара:

— Вы не сказалі?..

Маўчаў і фурман, сапучы ў свой нос і паляцваючы стусінай па калашыне. Нарэшце страпянуўся і павесялеў, калі пасля грукату стопкі, енку, падвывання гаспадыні, нервовай валтузні са святліцы ў кухню ўвайшла Яніна. Задуменна-спакойная, можа, нават сцішна-спакойная, у прыталеным каптаніку з калматым казіным каўняром, у суконнай зялёнай спадніцы, у суконных сівых панчохах і чорных чаравіках з высокімі абцасамі.

У руцэ яна трымала пакоўную, як падушка, завязаную на чатыры ражкі хустку.

— Вядзі ж,— сказала нібы з дакорам, каб пранящь Міцю.

Смутна-жалосны плач выплыў з хаты на двор, растрывожыў вёску. Падазрона парыпвалі дзверы, разрываючы марозлівую насцярожаную цішыню.

Міця, горбячыся ад ніякаватасці, ускочыў у сані, затуліўся ў каўнер, каб не чуць надрыўнага, адчайнага крыку гаспадыні. Яна чаплялася за Яніну, абдымала, не давала дайсці да саней, покуль яе не адарваў фурман. Пасадзіў поруч з Міцем і борзда шлёгнуў па кані.

Міця ўчуў, як у Яніны вырваўся глухаваты, здушаны стогн. Яна павярнулася, махнула назад рукою. Там, стоячы каля брамы, зноў крычма закрычала гаспадыня. І сцішаны, паспакайнелы сабака раптам захроп ад злосці і заліўся ўедлівым брэхам.

Паварот дарогі схаваў і гаспадара, і гаспадыню, абарваў і сабачы брэх. Прыпаднімаючыся з калень, падмахваючы рукамі, фурман занокаў на каня. І дужы конь ірвануў наўскапыты, заёкаўшы касой.

Яніна адвярнула голаў. Тулячыся Міцю за плячо, спытала паспакайнелым ужо голасам:

— Ты, Змітрык, кінуў школу?

— Не, хажду, калі выпадае дзень.

— А мяне, нябось, не паклікаў — санкі незнарок пахіснулі яе на Міцю, але яна ўжо адрывалася ад яго пляча.

— Ды не з рукі было, каб клікаць цябе, у Верасаве ж жыла ты.

— Хіба наўме табе ўжо Верасава, калі Дварчаны свет засланілі,— яна падняла голаў, спадлоб'я зіркнула на яго.

— Не разбяру, што да чаго кажаш?

— Паненку тамака знайшоў.

— Скуль знаеш?

— Ды што знаць...

Яна, цяжка ўздыхнуўшы, нібы сама ў сябе спытала:

— Ці ўбачымся ўжо калі, каб спомніць, ці напраўду ўсё выйшла?

— Як жа ж гэта так, каб чалавек з чалавекам не ўбачыўся,— выпрастаўся і зноў махнуў стусінаю фурман.— Гэта, кажуць, гара [redacted] гарою не сыдзецца, а чалавек з чалавекам...

— Няўжо ўбачымся? — спытала яна яшчэ ціжэй, пазіраючы ў белаватую імглу.

Міця маўчаў — балюча шчымела і заходзілася сэрца. Мароз краўся за карак, браў за вушы.

Конь памалу ішоў на грудок. Засыпанае снегам поле з чорнымі ядлаўцовымі кустамі абапал дарогі паволі паўзло пад тонка звінючыя палазы саней. Маўкліва-велічнае і сіняе, як нерухомая вада, неба з трывожным калючым пералівам зорак хілілася набок і выплывала з-за белага грудка. Крывая з пляската-кучаравай кронай старавечная хвойка адзінока стыла каля дарогі. За грудком — града пры градзе — цямнеў хмуры лес.

— Няўжо ўбачымся?

Санкі з крохкім віскам, крышку западаючы ў снег, плылі міма старой, адзінока-знявечанай хвойкі. І Міця, учуўшы як мяккі, густы шум, успомніў ужо тую, ружаватую, выпеставаную ветрам і сонцам, што расла [redacted] краю Дварчан — выносная і гордая, як царыца, сярод ніжэйшага і маладзейшага падлеску.

# XXIX

Пагнаўшы на змярканні рэдкі косы сняжок, нанач завіла, закружыла сляпучая кудаса. І тры дні, засцячы сівай каламутнай імглою свет, шалеў раз'юшаны вецер. Высокімі белымі косамі змятаў з нізкага насупленага неба жарсткаваты, дробны снег, [redacted] на крутых грудах, на лютых скразняках дзёр, выветрываў сухі пясок.

За хатамі, каля яловых частаколаў востраю слаістаю градою падымаліся, раслі сыпкія курганы. Снегам заносіла зацішныя вуліцы, перамятала ў глухіх раўках дарогі, раўняла глыбокія канавы ды крывыя латачыны яраў.

Баралом, заняўшы паласою, няшчадна валіў у маладых лясах калматы ельнік,— спрытном — радок у радок — ламаў і шчапаў гонкія намерзлыя хвойкі.

Толькі нязрушна і ўпарта-велічна стаялі каля крыжавых дарог старавечныя дубы, выставіўшы сваё крывое, нібы знявечанае раматусам, тоўстае ў суставах галлё. Ды на палявых межах непрыступна махалі калючым пруццем карчыстыя дзікія грушы, нібы наўмысна абдзіраючы пругкі вецер, што сослепу налятаў на іх.

Браўся ў сілу і бязлітасным холадам сек мароз. Абмарожваліся падарожныя людзі, заблудзіўшы ў непраглядпай завеі і шукаючы да хаты дарогу.

І ўсіх ужо брала дзіва, і пра гэта было столькі гутаркі ў Верасаве, што ў суседніх Рабках пайшла да ветру, і, не знайшоўшы хаты, зайшлася ад холаду, скалела старая Радзевічыха. Як нечакана завірыла, выкруціўшы ў снезе круга тоўстых дрэў і шчарбатых каміноў глыбокія лейкі, так нечакана і аціхла раз'юшаная кудаса.

Заняўшы паўнеба, густа, як на крамяным, падаспелым яблыку, позняю зажуранаю раніцаю выступіла ружовасць. Агніста-чырвоным крайком з-за нізкай смугі вызірнула і пачало яснець вялікае і заўсёды радасна-чаканае сонца. А над сінявата-мяккімі стрэхамі завіс яшчэ не змерклы, трохі падталы знізу месяц.

І хрыпата-даўкім крыкам вароны, звонам пустых вёдраў пачаўся новы дзень.

Адкапаўшы занесеныя, падпёртыя гарбатымі курганамі брамы ды веснікі, пратарыўшы глыбокія сцежкі, да калодзеся беглі радасна-расхрыстаныя верасаўцы. Стаяў галас і вясёлы бабскі смех.

Да парога падалі шчабятліва-галодныя вераб'і. Выхукаўшы ў пераплеценым лісці іскрыстага лёду, што замураваў шыбу, падталую дзірачку, адным вокам на вуліцу, на белы, роўны з плотам снег, цікавалі, знябыўшыся па забаўцы ды гулях на дварэ, малыя дзеці.

Большыя сёння нарэшце выбраліся ў школу, перачакаўшы з радасцю і гультайствам гэтую каламутную, страхатлівую завею. Дзеразуючыся і папіхаючы адзін аднаго ў снег, маруднай купай паўзлі наўпрасты да шашы, каб папрасіцца ў спагадлівага фурмана на сані або сціпіком, стаўшы на вузкія палазы, падчапіцца ззаду ганарыста-курносага вазка, што стрымгалоў, аж кружылася ў вачах, імчаў па спрасаваным, гладка выезджаным ужо следзе.

Той, хто не ўскораў ухапіцца за шырокую, трохі адкідзістую сцінку, ад хцівай зайздрасці ўжо крычаў фурману:

— Дзядзька, а во падчапіўся!

— Эх ты, брыда,— іншы ўрэдны, заядлівы мужчына, не азіраючыся, шлёгаў назад пугай ці бізуном.

Ашпараны нечаканым вострым ды вузлаватым кончыкам хлёсткага раменьчыка, няпрошаны яздок падаў і пярэкідам каціўся ажно ў замеценую канаву.

Стаяў цвяллівы рогат. Але пра злога фурмана скора забываліся, і самыя ўжо зухаватыя рэспусты меркавалі і злоўчваліся, каб учапіцца на рэдкі «самаход», што, бразгаючы ланцугамі і падымаючы за сабою сівы скразняк, коўзаўся на няроўнай, выбітай шашы.

Дзеці не ведалі, як папрасіцца ў машыну, і толькі крычалі, махаючы рукамі. Але чорная, з пукатымі, як у рачка, фарамі палутарка спынілася сама, і спагадлівы, з чырвоным абветраным тварам салдат у белым кажусе з вялікім настаўленым каўняром падаваў руку, падымаючы ўсіх, хто быў тут, у пусты кузаў.

— Вот ты скажы — дзеці, паехалі,— слізгаючыся на абледзянелай пад калодзесем сцежцы і трымаючы на васілку два поўныя вядры, смяялася сытая з запухлымі вачмі маладзіца.

— Гэ-э, дзеці... Яны да каго хочаш падмаскуюцца,— прыпыніўся і махнуў пустым вядром Ваўчок, але спадцішка і скрыва глянуў не на шашу, а на спакуслівы абадок поўных лытак, што бялелі між старымі валёнкамі і спадніцай.

— Ты глядзі, і мой малы перакінуўся ў скрыню,— павярнулася маладзіца, вядром ганяючы Ваўчка ад сябе.

— А мая дома. Хворая. Гарыць, як у агні.

— Што ты кажаш? А мой такі ўпарты да навукі,— пахвалілася маладзіца.— І вучыце́лька не зганіла. Кажа, сядзіць і так уважліва слухае, і вокам не міргне.— І павяла вёдрамі.— Да школы ж толькі далёка. Блізкі свет тыя Дварчаны.

— Кажуць, што во ў Вайтовічавай хаце маюцца школу адкрыць,— далей у снег адступіўся Ваўчок.

— Будзе тое на святыя нігды.

— Чаму? — падняў свой задзірысты нос і прыплюшчыў шарыя вочы Ваўчок.

— Пад калхоз хата адыходзіць.

— Ат, гаворыш ты ні ў пяць, ні ў дзесяць.

— А тое й гавару, што Лезнявічы вунь, як адзін, у калхоз пайшлі і Грабянкаў фальварак туды перавозяць,— пакаўзнулася і расплюхала ваду маладзіца.

Ваўчок, трохі разявіўшыся і прыжмурыўшыся, нібыта кот на мазку, глядзеў, як, паводзячы гладкімі пад прыталеным каптанікам плячмі і паварушваючы фалдамі паркалёвай спадніцы, ішла гэтая спакуслівая ды спраўная кабета, і ў душы калючым клубком перавярнулася яшчэ даўняя зайздрасць да Ладака Чабоцькі, што ў яго такая відная жонка.

Ён чмыхнуў у свой прысадзісты з чорнымі злымі ноздрамі задзірасты нос, успамінаючы сваю Вольгу, сённяшнюю яе сварбу і ўпіканне, што людзі, маючы добры розум, завербаваліся і паехалі на заработкі, адзін толькі ён пільнуецца хаты ды гэтага надзела ў Грабянкавым двары, з якога невядома што яшчэ будзе.

«На яе і выйшла»,— раптам страпянуўся Ваўчок, падумаўшы пра той няпоўны гектар, што ў глыбокую восень адмераў яму, як усім малазямельным верасаўцам, Корсакаў Змітрык, і заслізгаўся на глыбокім раўчаку сцежкі, прачышчанай шырокаю драўлянаю лапатаю, каб ужо бегчы ўпоган за Ладакавай жонкай і спытаць наконт раздачай асадніцкай зямлі. Але шмаргануўся ў снег, апёк яго гарачым, як кіпень, холадам свае голыя, без рукавіц рукі і, ужо тручы іх адна аб адну, кісла ўсміхнуўся: «Ды воўк яго рэж, з тым гектарам. Што ў руках не было, то не наша. Пражывём». І з пустым вядром, забыўшыся нават зачэрпаць вады, подбегам прыспешыў дадому, каб расказаць чутае жонцы. Але ззаду яго нагнаў трохі цвёрды голас:

— Эй, слышите, гражданин!

Ачуціў Ваўчка не столькі голас, колькі гэтае нечаканае і нязвыклае «гражданин». Ён азірнуўся, убачыўшы высокага, хударлявага мужчыну ў чорным шынялі, каракулевай вушанцы і ў белых, з жоўтымі скуранымі перадамі бурках. Побач з ім, саступаючы ў снег і подбегам, ішоў каржакаваты мужчына ў суконнай, з апушчанымі на шыю вушкамі, рубцаватай кепцы і жоўтым кажушку.

— Пачакайце, спытаць хочам у вас,— ён ужо загаварыў па-тутэйшаму.— Тут у вёсцы хлопцаў ды дзевак шмат?

— Лічыць не лічыў, а знойдуцца,— Ваўчок падмахнуў пустым вядром і скрывіўся ад дзіва.— Вот галава — вады ж не набраў.

— Памажыце людзей арганізаваць на расчыстку снегу,— хударлявы мужчына ўважліва агледзеў нізенькага Ваўчка, адзетага ў сівую суконную куртку і гэткае ж сівае, няўдала пашытае вясковым краўцом, з доўгімі торбамі галіфэ.

— Калею загнала, што нават снегаачысціцель ніяк не праб'е,— сказаў каржакаваты мужчына, падымаючы абсіверавы каўнер.

— Дзіва што, гэткая бура была. У нас вунь кабету занясло.

— Да пяці рублёў будзем плаціць.

— Ці аб заработку толк. Але як во мабілізаваць, як вы кажаце? — паціснуў адным плячом Ваўчок.— Хібя ўсім наказаць?

— Ды нам чалавек дваццаць... Вунь у выімцы ніяк не праб'ёмся,— махнуў назад суконнаю кепкаю з паўкруглымі, што даставаліся з сярэдзіны, вушкамі прысадзісты мужчына, і Ваўчок убачыў у прагале будынкаў даўгалычы паравозік з адным наперадзе сябе вастраносым, як жалязка, вагончыкам, на якім вялікімі жабрамі раздзьмуліся чорныя лемяхі.

— Я — мігам,— зноў забыўшыся набраць вады, Ваўчок вопрамеццю прыпусціўся па сцежцы.

...Верасаўцы і праўда, асабліва хлопцы з дзяўчатамі, не столькі пагнаўшыся на заработак, сколькі знябыўшыся па вясёлай кампаніі, гульбе ды жартах, пабраўшы шуфлі ды дубовыя лапаты, на якіх саджалі ў печ хлеб, як прыходзілася, то чысцілі снег, навыперадкі, адзін перад адным беглі за шашу, за вёску, дзе на вузкай калеі курыў сінім дымком паравозік з вастраносым вагонам-снегаачышчальнікам.

А напярэймы ім, успуджваючы з быльніку грумадкі карычневых, з жаўтлявым воллем, даўгахвостых пташак, ляцелі і грузлі ў снезе недарослыя верасаўскія падшыванцы — хлопцы гадоў па трынаццаць.

І ўжо майстру, гэтаму хударляваму, з абветраным тварам мужчыну ў чорным шынялі і белых бурках, прыйшлося таго-сяго і недарослых падлеткаў, не спадзеючыся на іхні спрыт і сілу, адпраўляць дадому. А тут ужо кожнаму хацелася ўскочыць у чырвоны вагончык з закратаванымі двума аконцамі, з чорнымі жалезнымі крыллямі вялікага плуга, дзе чадзіла ад вугалю жалезная печка і дзе рагаталі, ловячы за рукі дзяўчат, давольныя рамонтнікі...

Вярнуліся з работы ўжо шарым поцемкам, змораныя, напрацаваныя да поту, але радыя і вясёлыя ўсе, зноў са смехам, падкуслівымі здзекамі ды жартамі.

— Гэй, паненачкі, дальбог разбагацелі,— наўмысле дзеля смеху крычаў, займаючы рукамі абапал сябе дзвюх танклявых дзяўчат у суконных хустках, зухаваты кавалер з яснаю і высока задзёртаю на лоб кепкаю.

— Тады, можа, на музыканціка скінемся?

— Гэ-э, праўда, каму няўдача, хай той плача, а мы прытупнем.

— Каб ты ўжо ўмеў.

— Нічога, як намучыцца, то навучыцца.

— Заманулася вам...— шырока сігануў і ўтапіўся ў гурыстым кургане нізенькіВаўчок.— Сённячы сход у Вайтовічавай хаце меўся быць.

— Такой бяды, мы й пасля сходу прытупнем...

Счуўшы галас ды смех, на вуліцу выкацілася і зайшлася ад брэху, невідушчая ў глыбокай, пракопанай у снезе сцежцы, Алесіна аблавухая сучачка. Гэты брэх напомніў і прыгадаў дзяўчатам надоечы чутае.

— Гэта ж, кажуць, Імполь да Алесі вярнуўся.

— А табе ў галаве.

— Чаму ж не? Гэдакі мужчына. Хоць будзе на каго глянуць.

— Але ці дасце веры — і Хрысця за ім, як нітка за іголкаю.

— А куды ж яе вецер нясе?

— Да Літавара ў наймічкі ідзе. Не была б яна...

— Ой, людцэ, свет яшчэ пераверпецца.

— Дзіва што. Алесі яна адплоціць.

— Яно ж век так: за добрае злым плоцяць.

І малады ды галосны смех паплыў і сцішэў за прыгорбленымі стрэхамі вёскі, над якой, завесіўшыся мярэжаю рэдкіх хмар, роўным і велічным спакоем свяціла палавінка круглага месяца.

Не паспела, разбудзіўшы ды растрывожыўшы вёску, рассыпацца вясёлая дзявочая гамана, як на вузкай, сціснутай чорнымі частаколавымі платамі вуліцы глухавата забубнілі тоўстыя мужчынскія галасы. Верасаўцы, хто ўскораў управіцца дома — укінуць нанач скаціне, нанасіць у хату вады ды сырых на падсушку дроў,— паволі, не прыспешваючыся, цягнуліся ў Вайтовічаву хату. Ішлі, па-суседску адзін аднаго клікнуўшы, найбольш удваіх. Ад

скручаных з газетнай паперы няспрытных і раз'еханых папярос за плечы віўся ды раставаў едкі махорачны дым.

Упарадкаваўшыся пры печы і радыя, што балазе не трэба брацца за абрыдлае прадзіва, прыгнуўшыся ды ўсё подбегам спяшалі і абшморгвалі суконнымі спадніцамі шорсткі на сцежках снег цікаўныя ды ўжо ўстрывожаныя за свайго чалавека, каб лішне не падсунуў дурную мазгаўню, верасаўскія бабы. Бо кожная лічыла, што не намякні, не ўталкуй, не скажы свайму, дак і зробіць не тое, і ўсунецца абы-куды. Ведама ж, шлупацень, труцень, таўкач, ды рахманы, як вол — свет не бачыў. Век зжыла, а такога, як свой, несмыкалістага, яшчэ не спатыкала.

Прыглядаючыся, як іскрыста пераліваецца, гарыць залатою лускою нашэрхлы на падвойных вокнах лядок, і чуючы трохі нямую сцішнасць, нібы там у труне застыў спруцянелы нябожчык, мужчыны заходзілі ў хату, не здымаючы кепак, барашкавых каўпакоў, садзіліся на лаве, няўзнак зіркалі на невысокага з густымі, што лезлі вострым ражком на лоб, цёмна-русымі валасамі мужчыну.

Ён, папраўляючы за шырокім рэменем гімнасцёрку і парыпваючы хромавымі ботамі, расходжваў па няроўнай, стоптанай да гарбатых сукоў падлозе ад стала да грубкі, дзе вясёла шугаў агонь і патрэсквалі палкія, нарыхтаваныя яшчэ, мусіць, гаспадаром, яловыя дровы. У настылай хаце стаяла парнасць.

За печкаю растрэсеным, незасланым гарохавіннем палохаў пусты без падушак драўляны ложак, на другім ляжаў шараваты ў даўніх рудаватых падцёках сяннік. І гэтая патаемная, нічым не прыкрытая галізна чужых ложкаў, перакошаны, але не зняты ў покуці абраз, рамка з карткамі і завешаная старым, зліняльм фартухом печ, і белыя з гафтаванымі кветкамі фіранкі на вокнах, і пухкая вата за дубэльтамі, прыбраная зялёнай дзеразою,— усё гэта шчымлівым холадам абдымала душу.

І нехта аказаўся ўпапад сваіх мысляў, азіраючы хату:

— І праўда ж. Вуглы цёмныя, а сцены немыя.

— Ды што казаць, калі цяжка язык павярнуць.

Услед за сталымі верасаўцамі борзда і неўпрыкмет, як мышы, у хату ўшчэмліваліся дзеці, каб потым ужо таўчыся і дзеразавацца ў кутках. Усім карцела ведаць, што будуць гаварыць наконт калгаса, які ўжо быў і адкуль разышлася, як кругі на вадзе, шчымлівая чутка, што на вялікдзень Лезнявічы збіраюцца выйсці сеяць авёс.

Пад столлю вісеў збэрсанаю хмараю, абвіваючы падвешаную на дроце лямпу ■ перакошанай талеркай, і закручваўся пасмамі сіні дым: мужчыны, не пытаючыся ні ў кога, дружна і ўсмак закурылі. І, не зносячы гэтага атрутнага дыму, у кутках удушлівым сухім кашлем, як авечкі ўлетку, заперхалі старыя бабы.

— Ах, каб на вас ужо шэрсць курэла! — кляла мужчын зморшчаная ў твары, як леташняя картопля, і абкручаная, як дзіця, пад пахі вязанай хусткаю старая Такарада.

— І праўда, цётка, не вытрываць, дым у грудзях есць,— падняла выцвілыя, невідушчыя бровы лупатаватая Ваўчкова Вольга і, азірнуўшыся зяркатымі вачмі, сказала ўжо старой Такарадзе і блізкай ад сябе, што стаяла склаўшы пад грудзьмі рукі, Жытковай Алене:

— Ці чулі? Няхай крые бог!

— А што? — зяхнула ад духаты і падняла свой худы, сцягнуты ад хваробы і жаўтлявы твар Жыткова Алена.

— Алесін прымак прыйшоў дадому.

— Няўжо?

— Надоечы во. Пакруціўся, як сабака каля рэзні, у Дварчанах і прыйшоў.

— Ой, то будзе ж зноў бяды ды перадрагі,— узялася за голаў Жыткова Алена.— Бо ўчорачы Бронік Літавар у сваты ездзіў да Корсакавай наймічкі.

— Што ты кажаш? Дальбог, не чула,— у Вольгі разявіўся і не закрыўся рот: як жа гэтакая нязвыклая навасць абмінула яе. Вольга, задыхаючыся, паварушыла перасохлым языком: — Людзі ўжо ад памяці паадыходзілі.

— Ці гэта першыня, век было,— махнула назад галавою Жыткова Алена.— Хрысця ж замуж збіраецца за яго.

— Вой, бабы, гэтае вяселле на нешта новае ўкажа,— успляснула рукамі Ваўчкова Вольга.— І праўда цяперашнім людзям чэрці душу будуць рваць перад смерцю.

— Мае дзеткі, яны зноў злюбяцца. Вот напомніце,— старая Такарада, каб не ўпасці, злавіла рукою Алену і ссунулася з лавы.— Але пайду. Галава схапіла — не вытрываць. Я ж ужо больш ляжу, як хаджу.

— Цётка, ноч жа ж велькая — належыцеся,— маргнула бялёсымі выцвілымі вейкамі Вольга.

— І праўда, чаго толькі не перадумала за ноч,— Такарада настаяла сагнуўшыся каля высокай лавы, перачакала боль у крыжы і сказала: — А сённячы ўспомніла, як памерла мая першая дачушка. Колькі ж ёй тады было?

Два гадке, здэцца. На водру хварэла. Я ў яе пытаю: «Памрэш, Ганначка?» — «Памру»,— кажа. Гэтак во і сказала... А я во жыву і ўсё мучуся, і ўсё ўспамінаю яе смерць... Як закукуе зязюлька, так і яе ўспомню. У маі памерла.

У Такарады зачырванеліся і замакрэлі ад слёз вочы, звялы, пасечаны густымі змаршчакамі твар перакрывіўся ў брыдкай міне. Яна шмаргнула рудым рукавом па вачах і, не адымаючы ад іх рукі і хаваючы жальбу і слёзы, локцем пачала церабіць дарогу — шылася праз шчытны гурт людзей да парога.

— Пачакайце, цётка Такарада, сход пачынаем! — за сталом прыўзняўся і закрычаў Ладак Чабоцька.

— І праўда, пара,— хрыпла адкашляўся Язапат Змысла, што сядзеў аблакаціўшыся на стол і, збіраючыся слухаць, трымаў пры вуху настаўленую трубкай, растапыраную руку.

Зіркнуўшы на яго, мужчына ў цёмна-сіняй гімнасцёрцы бліснуў начышчанай спражкай на шырокім рамяні і падняў руку, крыкнуў грубавата-зычным і нечакана моцным для свайго росту голасам:

— Людзі! Народ дарагі!

Верасаўцы, зварухнуўшыся, утрапёна прыціхлі, мусіць, здзівіліся ■ гэтага моцнага голасу і паднятай кароткаватай рукі, толькі нехта з падшыванцаў-дзяцей у кутку пры дзвярах заліўся дробненькім смехам. Але нечакана-востры ляскат па шчацэ раптоўна абарваў гэты залівісты смех. І нехта лядачы, сціснуўшы зубы, зашыпеў:

— Ці-і-і-і! Тут табе не жартачкі.

— І праўда, па мухаедах.

— А ты не біся! Бо зараз...

Усе пачалі азірацца ў куток.

Устрапянуўшыся, павярнуў назад голаў і мужчына ў гімнасцёрцы, счакаў, покуль аціхне хата:

— Товарищи, я хочу вам прочесть лекцию о международном положении.

— А пра калхоз нічога не скажаце? — пачуўся голас недзе ад дзвярэй і, распіхваючы баб, на сярэдзіну хаты выйшаў нябголены, рыжы, з плямамі сівізны абапал рота, худы, высокі мужчына.— Вунь да панскага двара далучаюць вёскі і робяць калхоз.

— Насчет колхозов вот что скажу. Они организовываются там, где есть экономическая база, а именно: ■ панских фольварках, имениях и осадницких дворах.

— А ў нас што? Я нават паданне напісаў.

— Людцы мае,— нібы з перапалоху, ускрыкнула некатарая з баб, што сціснуліся каля грубкі,— ён думае, што нехта ў том калхозі на яго рабіцьме.

— Пэўня ж, спадзяецца.

— Кусок гультая.

Высокі з паўпаданымі няголенымі шчокамі і прыпляскаиым носам мужчына махнуў рукою на гэты крык:

— Вот і падам. Першы... Нашы ж надзелы пад калгасы адышлі.

— Вот не дурыся! — крыкнула некатарая з купкі маладзіц, што ціснуліся каля грубкі.

— Ліха на яго няма,— аказалася і пачала клясці нізкая і дробная, што не была відаць з-за чужых плячэй, яго жонка.— Каб яго пярун спаліў. Дражніцца ўсё, падла гэты. Не слухайце яго.

— А можа, і праўда надумаўся чалавек.

— Знаешся ты, Агата, што ён надумаў.

— А чаму ж не знаецца, па суседству жыўшы. Гы-гы-гы! — зарагаталі ўжо дужым мужчынскім голасам.

— Во ўчвэрылі камедыю, ажно гадка слухаць,— плюнула чарнявая маладзіца, зіркнуўшы на чужога мужчыну ў цёмна-сіняй гімнасцёрцы, падпяразанай шырокім рэменем з зіхатлівай меднай спражкай.

Лектар натапырыўся, задраў голаў і нават адскочыў ад сутулаватага Дабрука, што ў расшпіленым доўгім кажусе сагнуўся над ім, трымаючы рукі ў бокі, і змераў яго злым, косым вокам.

— Тут ён мэнткі,— здзекліва засмяяліся [redacted] кутка.— А во на план, на лесавывазкі, там, дзе [redacted] сякераю ды пілою трэба, там яго, нябось, німа.

— Нічога, пойдзе аэрадром будаваць. Кажуць, у спісах стаяць тыя, хто не паехаў у Яварскую пушчу. Паедзе пад Беласток... Там грамацеі патрэбныя,— забубніў нейчы асіплы, прастуджаны голас.

— А то мудры знайшоўся.

Дабрук раптам асунуўся, перакрывіўшы рот, паглядзеў туды ў кут, пакруціў шыяй, нібы яму за карак насыпалася калючая сухой кастрыцы, і пасунуўся за пліту, дзе збілася купаю і дурэла неразважная яшчэ дзетвара.

— Расказвайце. Не зважайце,— падрапаў па цемені Ладак Чабоцька, што сядзеў за сталом, з гонарам скінуўшы і паклаўшы перад сабою шапку.

Пасля таго як у Дварчаны пайшоў Міця Корсак, вясковым камітэтам стаў правіць Ладак Чабоцька. Ён ужо адзін і нават з радасцю разносіў павесткі, наказваў верасаўцам прыйсці на сход, збіраў грошы на газеты і самапростам, нібы так і належыць, зухавата падцінаючы губу, лез на покуць і далікатна з-за вушэй абгладжваў на патыліцу рэдзенькія валасы і распростваў плечы.

Цяпер яго прыжмураныя вочы, адбіваючы слепаваты агонь павешанай на цвік у бэльцы карасінавай лямпы, гнеўна ўжо блiснулі на рассмешаных Дабруком, падкіх да жартаў верасаўцаў, і ён пучкамі сцятага кулака тройчы прыстукнуў па тоўстых дошках ясеневага стала:

— Ціха-а! Будзе гаварыць таварыш Перуноў — прадсядацель планавай камісіі.

Усе пераззірнуліся, хітра штурхаючы адзін аднаго локцямі, і нарэшце сціхлі. Толькі ўдушлівым кашлем зайшоўся і ніяк не мог адкашляцца стары Міканор. Перуноў счакаў, покуль аддыхаецца стары, і тады зноў падняў руку.

Усе прытоена слухалі. Толькі ў Жытковай Алены, што сядзела на лаве, прыхіліўшыся спіною да сцяны, чырванелі і налiваліся слязьмі вочы: яна ўспамінала свайго старэйшага сына, які летась на згоне зімы быў забраны ў польскае войска, служыў у кавалерыі, трапіў на фронт, ачуціўся ў Нямеччыне, у палоне, і днямі прыслаў пісьмо, просячы, каб яго выпатрабавалі дадому. Куды ўжо ні хадзіла, да каго ні зварочвалася збедаваная кабета, ніхто не ведаў, як і чым ёй памагчы. Цяпер яна глядзела на невысокага чалавека ў сіняй гімнасцёрцы, а ў душы ўчэпістым растком прабівалася і расло нечаканае спадзяванне, што, калі ён загаварыў пра вайну, то, пэўна, мае якое-небудзь дачыненне і да таго, каб вярнуць дадому яе Васіля. Нясцерпна здоўжылася кабеце, а яна ўсё не магла ўлучыць падходны момант, каб перабіць і спытаць у яго.

Маладжавы мужчына, мусіць, па звычцы, абгладжваючы кругом сябе гімнасцёрку, бесперастанку пералічваў, колькі выбрукавалі і падсыпалі дарог, адбудавалі цагельняў, колькі адкрылі бальніц і амбулаторый, колькі арганізавалі калгасаў і колькі ўжо асадніцкіх дамоў перарабілі на клубы і дамы сацыялістычнай культуры. Пад яго занадта доўгую гутарку Алене пачало ўжо думацца, што будзе рабіць, вярнуўшыся з палону, рахманы, занадта ўступлівы Васіль: ці нанова жаніцца, ці клікаць (бо цераз слова распытвае ў пісьмах) дадому сваю жонку, што

надоечы сышла з Верасава ў далёкую Рудню да мацеры і, кажуць, спазналася там са сталым удаўцом, пагналася на трое чужых дзяцей, не маючы сваіх.

Затлумленая думкамі Алена не заўважыла, калі скончыў сваё доўгае казанне чужы, нібы вайсковы мужчына, ачнулася яна тады ўжо, калі гаваркі, неадчэпны Дабрук, не даўшы нікому вымавіць слова, пачаў распытваць то пра ангельскія самалёты, то пра невядомую для Алены — ці ж у галаве ўсё? — Японію, то пра нейкую Італію, і калі Алена памкнулася да гэтага знакамітага чалавека, што пэўна ж ведаў і даў бы якую раду, як дайсці, як выпатрабаваць дадому Васіля, як нечакана нават лёгенька папхнуўшы, перапыніў Ладак Чабоцька:

— Досіць! Дайце чалавеку спокуй!

— Ладачак, падпусці, дай распытаць,— успляснула рукамі Алена, але яе голас заглушыў пусты, глыбокі стук барабана і расцяжны рып гармоні. Нехта ў расчыненых сенях глуха прытупнуў па гліняным току і няўмела зацягнуў песню, якую ад малога да старога ведалі ўжо ўсе:

Расцві-та-лі-і яблыні і грушы-ы-ы,
Па-плы-лі-і туманы-ы над рако-й-й!

— А бадай на вас, калі ж та ўспелі музыку прывязці? — вясёла гукнула маладзіца, зайздросцячы хлопцам і дзеўкам і з дзівам пазіраючы на знябожаную Алену з заплаканымі, чырвонымі вачмі, што асталася стаяць сярод хаты ў шырокім крузе людзей: яны расступіліся ды ціснуліся ў куткі, даючы волю танцорам ды месца музыканту.

Дабрук, распусціўшы свой кажух і цяжка б'ючы грукатлівым ботам у старую, стоптаную да стрыжняватых сукоў падлогу, закружыўся вакол збедненай Алены:

— Не гаруй, не ўбівайся, жысць новая настала, чуеш?

Хлопцы з куткоў, з грумадкі па адной, узяўшы за руку, выводзілі дзяўчат, задам ідучы на прастор, на сярэдзіну хаты і, трасучы локцямі і скрывіўшы набок галаў, з развароту пускаліся ў танец. Толькі малы Зэст доўга жмурыўся, абняўшы ў поясе дзябёлую дзеўку, і нарэшце з усяе моцы наперабой затупаў абедзвюма нагамі ў сухую доску, аж дробна затрымцела ў вокнах шкло, і з гонарам, ледзьве дастаючы носам да высокіх дзявочых грудзей, пусціўся ў круг.

Гарманіст — чырванашчокі, з белымі распушанымі вусамі немалады мужчына, трохі падвяселены шчыраю чаркаю, расцягваў зялёную з чорнымі квяцістымі мяхамі

і бліскучымі кантамі новую гармонію. А малады хлопец, задраўшы на патыліцу кепку і ад старання выставіўшы ружовы кончык языка, шчодра біў у бубен, трымаючы вясёлы і бойкі лад полькі.

На дружную мяцеліцу, не ўтрываўшы ды асмялеўшы, пайшлі старэйшыя бабы, мялі зялёнымі ды бурачковымі шырокімі спадніцамі закурэлую падлогу.

Высокі, хударлявы Дабрук, падхапіўшы маладую дзеўку, шаркаў ботамі па падлозе, вёў яе па шырокім крузе, што плыў парамі і парамі кружыўся, і падспёўваў сабе:

Ай, на вуліцы мяцеліца мяце...

Міця Корсак увайшоў у хату якраз тады, калі, прыгінаючы трохі голаў, каб не зачапіцца за бэльку, Дабрук, мусіць, заказаўшы ў сем кален кадрылю, распасцёршы рукі, вёў за сабою доўгі круг.

— Колка, стоп! Паненкі, змяніць кавалераў! — крычаў Дабрук, запыніўшы пары.

Расчырванелыя дзяўчаты ад аднаго хлопца борзда перакружваліся ў распасцёртыя рукі другога.

— Музыканцік, весялей! Утні «Нядзельку»! — патрос дзюбатаю кепкаю Дабрук, ведучы круг налева, а потым раптам зноў — направа.

І ў такт гармоні, што захліпвалася і сапла, спяшаючыся ў дробных пераборах, падспёваў зноў, крывячы рот і жмурачы адно вока:

А ў нядзельку рана-а-а

Міця ўзіраўся ў незнаёмых, маладзенькіх дзяўчат, з суседніх хутароў і вёсак, якіх, мусіць, запрасілі на вечарынку і адзін перад адным, наперабой пабралі ў танец верасоўскія хлопцы, даючы ўжо ганьбу сваім, і сярод іх убачыў танклявую з далікатным бялявым тварком. Учуўшы на сабе Міцеў погляд, яна таксама зірнула быстрымі цёмна-сінімі вачмі з-пад новай, з жоўтым турэцкім узорам хусткі. І пякучая вострая памяць раптам вярнула Міцю ў нядаўнюю ноч: убачылася Вайтовічава Яніна, ужо ў Дварчанах, калі пад'язджалі да чыгуначнай станцыі, да доўгага саставу з цяплушкамі, што расцягнуўся ў тупіку каля зацішных пакгаузаў і складоў:

— Змітрык, а што будзе з нашай хатаю? — спытала нібы наўмысна, упікаючы ці помсцячы.

— Гэ што? — адказаў за Міцю пануры, вусаты фурман.— Клуб будзя. Вечарынкі спраўляць будуць.

— І ты, Змітрык, польку-ківуху ў нашай хаце танцаваць будзеш?

І ён ужо не вытрываў ні яе смяшку, ні вострага з папрокам і помстаю зірку, саскочыў з саней, так ужо на ганьбу і брыдкасць не развітаўшыся з Янінай. Смеху варт яго злосць — загневаўся, як маленькі. А сёння за тую неразважнасць цяжка даравадь сабе. У душы штось шчыміць і не дае спакою...

— Г-э-э, што задумаўся? — Міцю ўзяў за локаць і страсянуў, пырскаючы дробным смяшком, Марцін Ваўчок. Падбіўшы сваю ганарыстую з падкладзенаю, каб штыўна сядзела, суконную кепку, кіўнуў на круг разгарачаных, молада расчырванелых хлопцаў і дзяўчат, што, пабраўшыся ўжо ў пары, дружна і ўзапар абцасамі выбівалі такт.

Ад старой, рассохлай падлогі падымаўся сухі, пяршавы пыл. Грымеў, закладаючы вушы, і пазвоньваў меднымі талеркамі барабан.

— Зірні, дзеўкі якія! — падступіўся і крыкнуў Ваўчок, каб перакрычаць звінючы і тоненькі ляскат талерак.— Для мяне, старога, што ні дзяўчына, то ўжо хараство. Але ж там у Дварчанах — ого! — мястэчковыя.

— Ды я ўжо не ў Дварчанах,— усміхнуўся Міця.

— Як? — заморгаў і насупіўся Ваўчок.

— У Наваградак перабраўся.

— Дзе? Кім жа ж робіш там?

— У рэдакцыі.

— Во-о, высока сягнуў.

— Хіба ўжо так?..

Ваўчок падрапаў натапыранае брыво з чорным завітком, што лез на маршчыністы лоб, і, выпнуўшы падпухлую, як уджаленую губу, сказаў зноў, задзіраючы галаў:

— На новы круг жыццё пайшло...

І не дагаварыў, толькі сіплавата хіхікнуў, азіраючыся на чорную пройму расчыненых дзвярэй — там стаяў і пахістваўся п'янаваты Імполь і, паклаўшы руку яму на плячо, кісла ўсміхаўся асалавелы, у збітай набакір кубанцы і чорным, расхрыстаным шынялі Жэнік Рэпка.

З незачыненых знадворку сяней цягнула холадам, у хату клубкамі віўся густы сівер. Верасаўцы, з затоеным дзівам жахнуўшыся, адступіліся і пацiснуліся назад.